# Маладосць

**Штомесячны**
**літаратурна-мастацкі**
**і грамадска-палітычны**
**ілюстраваны часопіс**

**(741) ЖНІВЕНЬ, 2015**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна**
**ДЗЯНІСАВА**

**8**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**Наталля АЎДЗЕЕВА**
**Алесь БАДАК**
**Віталь БРЭЛЬ**
**Ігар БУЗОЎСКІ**
**Аляксандр ГАРДЗЕЙЧЫК**
**Уладзімір ГАЎРЫЛОВІЧ**
**Сяргей ДУБОВІК**
**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**
**Анатоль КРЭЙДЗІЧ**
**Лідзія МАКАРЭВІЧ**
**Уладзімір МАТУСЕВІЧ**
**Наталля ПШАНІЧНАЯ**
**Барыс СВЯТЛОЎ**
**Таццяна СІВЕЦ**

**СКЛАД РЭДАКЦЫІ**

**Тамара МІНЮТКА**
намеснік галоўнага рэдактара

**Анастасія САЛДАЦЕНКА**
рэдактар аддзела прозы

**Ірына ЧАРНЯЎСКАЯ**
рэдактар аддзела паэзіі

**Арцём КАВАЛЕЎСКІ**
рэдактар аддзела крытыкі

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**
рэдактар аддзела крытыкі

**Паліна ЛІСОЎСКАЯ**
рэдактар аддзела крытыкі

**Ганна КІРЭЕНКА**
рэдактар інтэрнэт-версіі

**www.maladost.lim.by**

**В ы д а в е ц — рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Дырэктар — галоўны рэдактар КАРЛЮКЕВІЧ Аляксандр Мікалаевіч**

## У НУМАРЫ:



*Каб убачыць, як выглядае палац Друцкіх-Любецкіх у Шчучыне сёння, варта трапіць у гэты горад на Свята беларускага пісьменства. А вось як ён выглядаў раней, да 1917 года.*

*Палац гэты, паводле небезвядомага Анатоля Федарука, быў узведзены на мяжы двух апошніх мінулых стагоддзяў на месцы, дзе раней стаяў палац Сцыпіёнаў, або, як іх яшчэ называюць, сямейства Сцыпіё дэль Кампа. У пачатку XIX стагоддзя 29-гадовы Францішак Ксаверый Друцкі-Любецкі ажаніўся з 14-гадовай графіняй Марыяй Сцыпіён. Кажуць, што палац гэты нагадвае Малы Трыянон у Версалі: быццам бы Францішак Ксаверый, які служыў паслом у Парыжы, вырашыў, што пабудуе ў сябе нешта падобнае да французскіх сядзібных ансамбляў. Але ці той гэта Друцкі-Любецкі, ці так ужо падобны Шчучынскі палац на Версальскі, сцвярджаць дакладна зможа хіба той, хто паедзе ў Шчучын не толькі па ўражанні ад свята, але і затым, каб, як кажуць, удыхнуць у сябе крыху сапраўднай гісторыі. Магчыма, гэта будзеш ты, паважаны чытач.*

# ШЧУЧЫН — ГОРАД, ДЗЕ МОЖНА ГУСТОЎНА «ПАТУСІЦЬ» З СЯБРАМІ



*Што вы, шаноўныя чытачы, ведаеце пра Шчучын? Бадай, няшмат. Але гэта ў хуткім часе выправіцца, бо невялікі гарадок на Гродзеншчыне сёлета — сталіца беларускага пісьменства. Пра падрыхтоўку свята паразмаўляем з намеснікам начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Шчучынскага райвыканкама Аляксандрам АМШЭЕМ.*

**— Чаму, на вашую думку, Шчучын варты, каб правесці там Дзень пісьменства? Распавядзіце пра адметнасці горада, цікавыя гістарычныя факты, звязаныя з ім.**

— Калі вядзём гаворку пра Шчучын і Шчучынскі раён, то ў першую чаргу прыгадваецца імя нашай знакамітай землячкі Алаізы Сцяпанаўны Пашкевіч, больш вядомай пад сваім творчым псеўданімам — Цётка. Славутая паэтка і актыўная ўдзельніца беларускага нацыянальнага руху нарадзілася на тэрыторыі сучаснага Шчучынскага раёна ў фальварку Пешчын. Дарэчы, і свой вечны спакой яна знайшла на радзіме: магіла размешчана ў вёсцы Стары Двор. Наяўнасць такой адметнай асобы, якая на пачатку XX стагоддзя ўваходзіла ў лік самых актыўных рупліўцаў на ніве беларускай культуры, на нашу думку, ужо дастатковая прычына для вызначэння Шчучына ў якасці сталіцы Дня пісьменства. Тым больш, што ў Год моладзі варта ўшанаваць памяць аўтаркі першых падручнікаў для дзяцей — «Лемантара», «Гасцінца для малых дзяцей», «Першага чытання для дзетак беларусаў», літаратурнага рэдактара часопіса для беларускай моладзі «Лучынка».

Увогуле з нашым прынёманскім краем звязаны лёсы цэлага шэрагу творцаў і грамадскіх дзеячаў. Дастаткова адзначыць, што на Шчучыншчыне нарадзіліся Валерый Антонавіч Урублеўскі — паплечнік Кастуся Каліноўскага, які актыўна дапамагаў выдаваць і распаўсюджваць газету «Мужыцкая праўда»; Вацлаў Леанардавіч Іваноўскі — заснавальнік Беларускай рэвалюцыйнай партыі і старшыня выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца»; Фелікс Іванавіч Стацкевіч — старшыня Галоўнай управы Таварыства беларускай школы, адзін з заснавальнікаў і рэдактар часопіса «Беларускі летапіс», аўтар «Эсперанта-беларускага слоўніка».

У другой палове XX стагоддзя на літаратурным небасхіле новымі зоркамі заззялі таленты шчучынскіх пісьменнікаў і паэтаў: Валянціна Болтача (Блакіта), Уладзіміра Васько, Вольгі Русілкі, Славаміра Антановіча, Алены Руцкай і многіх іншых. Са Шчучыншчыны паходзяць і навукоўцы: доктар філалагічных навук Мікалай Віктаравіч Нікалаеў — аўтар фундамен-




тальных даследаванняў «Палата кнігапісная» і «Кніжная культура Вялікага Княства Літоўскага»; літаратуразнавец і перакладчык Віктар Іванавіч Дарашкевіч — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі за цыкл работ «Францыск Скарына і беларуская культура». Можна сцвярджаць, што наш горад і раён здаўна знаходзіліся і зараз знаходзяцца ў эпіцэнтры культурнага жыцця Беларусі, таму цалкам слушна было вызначыць Шчучын у якасці сталіцы Дня беларускага пісьменства.

**— Ці створаны ў Шчучыне новыя культурныя аб'екты ў сувязі з Днём пісьменства: мемарыяльныя дошкі, помнікі?**

— Безумоўна, Дзень беларускага пісьменства пакіне не толькі эмацыянальны, але і матэрыяльны след у нашым горадзе. Запланавана стварэнне дзвюх мемарыяльных дошак: на будынках бібліятэкі імя Цёткі і адноўленага палаца князёў Друцкіх-Любецкіх, урачыстае адкрыццё якіх будзе прымеркавана да Дня пісьменства. Плануецца таксама ажыццявіць перанос двух помнікаў-самалётаў — сімвалаў авіяцыйнага мінулага горада. «МіГ-25ПУ» будзе «сустракаць» гасцей на ўездзе ў горад з боку транспартнай развязкі на аўтамабільнай трасе М6, а «МіГ-19» зменіць цяперашні «пункт дыслакацыі» і перамесціцца на другі бок возера.

**— Які план мерапрыемстваў?**

— Плануецца, што напярэдадні — 5 верасня — адбудзецца адкрыццё пасля капітальнага рамонту будынка Шчучынскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Цёткі, дзе будзе зладжаны міжнародны «круглы стол» пад назвай «Сугучча: літаратурны працэс і інфармацыйнае грамадства» з удзелам беларускіх і замежных пісьменнікаў, а таксама прапанаваны два выставачныя праекты, прысвечаныя 70-годдзю Вялікай Перамогі. У гімназіі адбудзецца навукова-практычная канферэнцыя «Шчучынскія чытанні-2015». У раённым Доме культуры будуць падведзены вынікі конкурсу юных чытальнікаў «Жывая класіка» і рэспубліканскай акцыі

«Лета з добрай кнігай». У фае пачнуць працаваць фотавыстава «Спатканне з горадам, які люблю...», выстава твораў мастакоў «З любоўю да роднай зямлі» і кніжная выстава «Памяць аб вайне нам кніга пакідае». На сцэне раённага Дома культуры можна будзе ўбачыць спектакль Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі «Ціхі шэпт сыходзячых крокаў».

У асноўны дзень — 6 верасня — пачнуць працу больш за 10 сцэнічных і тэматычных пляцовак. Будуць прапанаваны мерапрыемствы на любы густ і ўзрост: канцэртныя нумары, выставы, кірмашы, прэзентацыі, тэатральныя пастаноўкі, гульнёвыя праграмы і конкурсы, нават спартыўныя спаборніцтвы. Так што сумаваць дакладна не давядзецца.

На галоўнай сцэнічнай пляцоўцы ля возера адбудзецца ўрачыстае адкрыццё свята пісьменства, цырымонія ўзнагароджання лаўрэатаў прэмій у галіне літаратуры. На працягу ўсяго дня будуць працаваць фестываль кнігі і прэсы на плошчы Свабоды, пляцоўкі «Гартаючы гісторыі старонкі…» ля сцен палаца, «Вясёлка дзяцінства», «Гродзеншчына фестывальная», «Чароўнае слова тэатра», моладзевая пляцоўка ля кінатэатра «Беларусь», спартыўная пляцоўка на стадыёне «Алімп», горад майстроў «Народная творчасць — крыніца натхнення». Гэта няпоўны спіс.

**— Ці будзе нечым адрозніваца шчучынскі Дзень пісьменства ад папярэдніх?**

— Шчыра кажучы, не хацелася б раскрываць заўчасна ўсе свае планы. Нам здаецца, што кожны Дзень пісьменства мае свае адметнасці, нават калі праводзіцца ў адным і тым жа месцы ў другі раз. Шчучын прымае свята ўпершыню, і таму цалкам зразумелае наша жаданне зрабіць яго непаўторным і эксклюзіўным. Наколькі гэта атрымаецца — меркаваць гасцям і ўдзельнікам, якіх мы сардэчна запрашаем і з нецярпеннем чакаем у як мага большай колькасці. Паверце, мы імкнёмся зладзіць мерапрыемства, якое мела б гучны пазітыўны рэзананс.

**— Штобудзе ладзіцца для мо-ладзі?**

— Перад намі стаіць задача зрабіць Дзень беларускага пісьменства не проста шараговым мерапрыемствам у чарадзе фестывальных прэктаў. Канешне, свята мае своеасаблівую спецыфіку. У час інфармацыйных тэхналогій кніга ў некаторым сэнсе пачала губляць сваё традыцыйнае значэнне, набываючы ўсё больш архаічныя рысы. Сёння сустрэць на вуліцы маладога чалавека з кнігай — гэта амаль такая ж рэдкая з’ява, як убачыць карэту на аўтамагістралі. Ноўтбукі, смартфоны, ай-пады — словы, якіх 10—20 гадоў таму і не чулі, — замацаваліся ў лексіконе. Назіраецца крызіс традыцыйнай культуры, дэвальвацыя каштоўнасцей, распаўсюджваецца меркаванне, што друкаванае слова хутка наогул можа знікнуць як з’ява.

Для нас важна засведчыць, што размовы пра гібель кнігі заўчасныя. І ў першую чаргу гэта павінна ўсвядоміць маладое пакаленне. А пераканаць моладзь можна толькі размаўляючы з ёй на сучаснай мове: выкарыстоўваючы інтэрактыўны, дзейсны падыход, даючы магчымасць маладым людзям самастойна рэалізаваць свае ідэі. Мы плануем зладзіць адкрыты паэтычны марафон, конкурсныя спаборніцтвы маладых пісьменнікаў і паэтаў, прэзентацыі эксперыментальных фарматаў творчасці. Хто ведае, можа, фестывальная пляцоўка стане старт-апам для новых прарыўных праектаў.

Не забываемся мы і пра забаўляльную праграму. Шчучын — не толькі файнае месца для здзяйснення творчых задумаў, але і горад, дзе можна густоўна «патусіць» з сябрамі. Не верыце? Сумняваецеся? Дык прыязджайце і пераканайцеся!

Дзень беларускага пісьменства — імпрэза рэспубліканскага ўзроўню. З мэтай якаснай падрыхтоўкі да свята створаны Нацыянальны арганізацыйны камітэт, у які ўвайшлі прадстаўнікі розных ведамстваў. Значную метадычную дапамогу аказвае Гродзенскі абласны выканаўчы камітэт. Створаны арганізацыйны камітэт і на раённым узроўні. Напэўна, кожны жыхар нашага горада і раёна робіць свой унёсак у падрыхтоўку да свята. Моладзь, як самая актыўная і крэатыўная частка насельніцтва, проста не магла застацца ўбаку. А як жа па-іншаму, калі нават старшыня нашага райвыканкама, Сяргей Васільевіч Ложэчнік, — адзін з самых маладых кіраўнікоў раёна ў рэспубліцы!

Фактычна з верасня мінулага года, калі стала вядома, што Дзень беларускага пісьменства сёлета пryме Шчучын, пачалася праца па падрыхтоўцы. Мноства цікавых ідэй і ініцыятыў у скарбонку арганізатараў прынеслі маладыя шчучынцы. Мы адчулі, наколькі яны любяць свой куточак, хочуць, каб пра яго ведала як мага больш людзей у краіне і за яе межамі.

Канешне, рэалізаваць усе прапанаваныя ідэі не атрымаецца, бо матэрыяльныя рэсурсы абмежаваныя. Але сёння мы бачым кірунак, у якім варта рухацца, бачым мэту, да якой трэба ісці. І поспех на гэтым шляху залежыць у першую чаргу ад нашага настрою і жадання. А настрой у нас баявы!

**— Хто будзе ўдзельнічаць? Распавядзіце пра гасцей.**

— Склад удзельнікаў свята досыць традыцыйны. Па-першае, гэта, канешне, пісьменнікі, літаратары, журналісты, выдаўцы, навукоўцы, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі — тыя, хто вызначае кірунак развіцця жывога беларускага слова, хто захоўвае і ўзбагачае родную мову. Па-другое, прадстаўнікі афіцыйных дэлегацый, у тым ліку і замежных. Па-трэцяе, шматлікія артысты і творчыя калектывы, якія будуць выступаць на сцэнічных пляцоўках. Канкрэтныя імёны называць яшчэ рана, але можаце быць упэўнены — гэта будуць сапраўдныя «зоркі» першай велічыні.

Таксама мы запрасілі народных майстроў і рамеснікаў, якія прапануюць на продаж свае вырабы. Нам хацелася б, каб на імпрэзу завітала як мага большая колькасць удзячных гледачоў, гатовых актыўна паўдзельнічаць у мерапрыемствах і ацаніць нашу гасціннасць.

**— Што, на вашую думку, прынясе Дзень пісьменства Шчучыну і яго жыхарам?**

— Без сумневу, свята стане найлепшай рэкламай для нашага раёна і яго жыхароў. Нячаста выпадае нагода такому невялікаму гораду трапіць на інфармацыйныя стужкі краіны. Мы зацікаўлены ў тым, каб пра нас ведалі, каб да нас прыязджалі. Нам ёсць чым ганарыцца і што паказаць.



*Сімвал авіяцыйнага мінулага Шчучына будзе сустракаць гасцей на ўездзе ў горад.*

Да Дня пісьменства горад пахарашэе і памаладзее: будзе адрамантаваны шэраг вуліц, жылых дамоў і адміністрацыйных будынкаў, крамы, рэстаран і кафэ, з'явіцца некалькі новых будынкаў у цэнтральнай частцы горада, адчыніцца кнігарня, будзе добраўпарадкавана тэрыторыя ля возера, зменіцца аблічча гарадскога стадыёна. Скончыцца шматгадовая рэстаўрацыя самага знакамітага шчучынскага помніка архітэктуры — палаца князёў Друцкіх-Любецкіх, распачне працу пасля рэканструкцыі гарадская бібліятэка імя Цёткі. Шчучын мае намер стаць яшчэ больш утульным і зручным для жыцця.

Мяркуем, што свята паспрыяе раскрыццю турыстычнага патэнцыялу рэгіёна. Госці Шчучына будуць мець магчымасць наведаць іншыя цікавыя мясціны: знакамітую царкву-крэпасць XVI стагоддзя ў вёсцы Мураванка, палацава-паркавы комплекс у гарадскім пасёлку Жалудок, неагатычны касцёл у аграгарадку Ражанка, геадэзічны пункт Лапаты Дугі Струвэ, музей Алаізы Пашкевіч у Астрынскай школе, клуб-музей Чэслава Немэна ў Старых Васілішках. Таму варта прыехаць на Шчучыншчыну на некалькі дзён, каб больш змястоўна азнаёміцца з гісторыяй і культурай краю.

*Гутарыла Тамара* ***МІНЮТКА***

**maladost@zviazda.by**




*«Авангардны літаратурна-мастацкі рух Бум-Бам-Літ быў створаны ў 1995 годзе групай маладых паэтаў, прыхільнікаў так званай постмадэрнісцкай плыні ў літаратуры. Удзельнікі руху абвясцілі паняцце самадастатковасці мастацтва, якое тоеснае прынцыпу творчасці дзеля працэсу творчасці. Кожны творца ў ББЛ унікальны, кожны выяўляе сябе, як хоча, і няма ніякіх абмежаванняў у выбары сродкаў самавыяўлення». Такімі словамі пачыналася выступленне Арцёма Кавалеўскага ў кракаўскай літаратурнай кавярні «Massolit», зладжанае пры падтрымцы студэнцкага аб'яднання Ягелонскага ўніверсітэта «Koło wschodnie» і прысвечанае дзесяцігадоваму юбілею літаратурна-мастацкага руху Бум-Бам-Літ. Сёння, калі ББЛ адзначае сваё дваццаціголдзе, мы маем магчымасць больш аб'ектыўна зірнуць на яго ролю, спецыфіку існавання і развіцця ў сучасным літаратурным працэсе Беларусі.*

*На наступных старонках — артыкул пра Аз, Букі, Ведзі... Бум-Бам-Літ.*

Арцём КАВАЛЕЎСКІ
maladost@zviazda.by

# АЗ, БУКІ, ВЕДЗІ... БУМ-БАМ-ЛІТ

## *Дваццаць год гульні без правілаў*

**Прысвячаю Сяргею Клюцкаму**

***This is my alphabet,***
***Because time goes on***
***And things are changing in my world.***
***Here is a new alphabet***
***For the children of my generation.***

Amanda Lear. «My Alphabet»

Ад самага пачатку свайго стварэння Бум-Бам-Літу была ўласціва атмасфера творчай разняволенасці, канцэптуальнай хаатычнасці ды эпатажнага флёру з яго напаўмаргінальным ваганнем паміж літаратурнай прысутнасцю і сталым жаданнем уцёкаў ад усяго таго, што прынята лічыць прыгожым пісьменствам. Эклектычнасць мастацкіх пазіцый руху была відавочная: кожны ўдзельнік меў за абавязак тэарэтычна абгрунтаваць тыя творчыя прынцыпы, якім аддаваў перавагу і якімі кіраваўся ў працэсе стварэння сваіх тэкстаў (ды іншых мастацкіх прадуктаў). Так, з «прыходам» у ББЛ новых удзельнікаў метадалагічная скарбонка руху, у якой ужо і без таго было шмат разнастайных «-ІЗМаў», узбагачалася шматлікімі спробамі канцэптуалізацыі ўласнай творчасці, увасобленымі ў форме зыходных маніфестаў. Менавіта гэтая падзея для некаторых бумбамлітаўцаў рабілася адпраўным пунктам суіснавання ў руху. Іншая справа — непасрэдны ўдзел у жыцці ББЛ.

Цяжка не пагадзіцца з меркаваннем, што прыналежнасць творцы да пэўнай суполкі, згуртавання альбо руху — з’ява часовая і ў некаторай ступені непазбежная. Калі больш пільна ўгледзецца ў мастацкі вопыт ББЛ, немагчыма пазбегнуць рэфлексіі над тым творчым матэрыялам, які ўдзельнікі руху намагаліся ўвасобіць у досыць правакацыйных, але часам вельмі наіўных формах. Асабліва гэта датычылася тэарэтычнага боку творчасці, які ББЛ ніколі не пакідаў па-за ўвагаю. Цытацыя і некрытычнае пераймане чаго і каго заўгодна з набытку сучаснага агульнагуманітарнага мыслення ў творах некаторых аўтараў руху, прыпраўленыя інсітным адчуваннем сучаснай эстэтыкі, выключна інтуітыўным (а таму і ўяўна пераканаўчым) поглядам на сучаснае мастацтва, імкненне ўвасобіць свае пазалітаратурныя прыхільнасці ў слоўнай творчасці часам падаюцца вельмі штучнымі і сумніўнымі (лебедзь, рак і шчупак). Але разам з тым менавіта гэта і падкупляе! Прынцып гульні, памножаны на жаданне ўсеагульнай канцэптуалізацыі і максімальнай свабоды, надта прыцягальны і прывабны для маладога творцы, не прыгнечанага заштампаванымі, кандовымі вызначэннямі мастацтва. ББЛ па вялікім рахунку заўсёды ўяўляўся тым вольным прасцягам (менавіта прасцягам, а не суполкай, групоўкай, нарэшце, рухам), дзе можна раз і назаўсёды пазбавіцца эстэтычнай закамплексаванасці ў самым шырокім яе разуменні. Часам аўтары «скандальных» паэтычных выступленняў пакідалі ўражанне малых дзяцей у карнавальных строях зайчыкаў, якія ўзбраліся на табурэт перад калядпай ёлкай, каб прачытаць вершык пра тую ж ёлку... Тут табе і дэкламацыя, і перформанс, і непасрэдная аўтакрэацыя! Бум-Бам-Літу заўсёды быў уласцівы здаровы інфантылізм. З іншага боку, трэба ўсё ж пазбавіцца наіўнага меркавання пра заўсёднасць і ўсюд-

насць руху. Так, з яго цяжка выйсці (бо прасцяг гэты не мае строга вызначаных межаў), але і канстатацыя міфічнай прысутнасці (як пэўнай універсаліі) ў міфічнай прасторы можа спарадзіць комплекс творчай непаўнавартасці. На жаль (а можа, і на шчасце), perpetuum mobile яшчэ ніхто не вынайшаў. Вандроўка на прасцягу, хай сабе і вельмі прывабным, не можа быць бясконцай... Вяртанне наканавана амаль кожнаму. Але, каб вярнуцца, трэба, безумоўна, мець сілы. Іншае пытанне — куды вяртацца?..

Руху споўнілася дзесяць гадоў... Чарговы свой юбілей неўтаймаваныя авангардысты адзначылі тыпова па-бумбамлітаўску, абвясціўшы канчатковую смерць суполкі, што ўвасобілася ў тэматычнай акцыі «Хаўтуры па ББЛ». Што гэта: чарговы эпатажны жэст альбо сведчанне іранічнага стаўлення да ўласнай экзістэнцыі? Шчыра кажучы, наўрад ці можна лічыць нядаўнія «хаўтуры» прызнаннем смерці альбо знікнення руху з нацыянальнага літаратурнага-мастацкага працэсу. «Хаўтуры» — гэта толькі чарговая ўдалая акцыя ББЛ, якая, як ні парадаксальна, засведчыла досыць вялікую папулярнасць руху сярод публікі, што цікавіцца сучасным мастацтвам (хоць, вядома, у нашай краіне абрад хаўтураў заўсёды збіраў грамаду выпадковых разявак). Зразумела, што, паклаўшы руку на сэрца, нікому з сённяшніх, а таксама былых «зрухароў», не хочацца назаўсёды расстацца з такім раскручаным брэндам, як ББЛ. Нават суполка Schmerzwerk, якая фактычна з'явілася спадкаемцам ББЛ, не дасягнула ўзроўню папулярнасці руху, які вось ужо некалькі год перманентна канае (як бачым, не заўсёды першы блін камяком). ББЛ як праект, удалы і вядомы, яшчэ доўга будзе актуальным, нават калі актуальнасць гэтая паспрыяе паступовай «рэінкарнацыі». Але не трэба забывацца на асобасную творчую стомленасць аўтараў, якія дагэтуль нясуць на сабе цяжар колішняй заангажаванасці руху. Ці будуць яны здольныя заставацца тымі няўрымслівымі, гарэзлівымі хлопчыкамі і дзяўчаткамі, для якіх гульня ў ББЛ і надалей застанецца цікавай творчай актуаліяй? Наўрад ці... У рэшце рэшт, кожны з нас сталее. Супольнасць мае саступіць месца прыватнай рэалізацыі. Гэта цалкам натуральны працэс.

Калі казаць пра найвялікшае дасягненне ББЛ, то тут шмат чаго можна прыгадаць. Выступаючы ў Кракаве па запрашэнні студэнцкай арганізацыі Ягелонскага ўніверсітэта «Koło wschodnie» з лекцыяй «Бум-Бам-Літ: 10 год гульні без правілаў», я даводзіў польскай аўдыторыі, што ББЛ — гэта фактычна першая літаратурна-мастацкая арганізацыя на Беларусі, якая ў сваёй дзейнасці замяніла традыцыйнае паняцце стэрэатыпу на плюралістычнае паняцце стэрэагусту[1] (што не ўласціва беларускаму менталітэту) за кошт свядомай эклектычнасці і наўмыснай разгалінаванасці творчых канцэпцый. Па-другое, гэта свядомае далучэнне руху да агульнаеўрапейскага літаратурна-мастацкага працэсу. Дагэтуль амаль ніхто з беларускіх літаратараў (за рэдкім выключэннем) так актыўна не ўдзельнічаў у міжнародных фестывалях, акцыях, не выдаваў супольных літаратурных зборнікаў, не дэманстраваў айчынную творчасць за мяжою. Безумоўна, ББЛ тут па-за канкурэнцыяй. І, нарэшце, як ні пафасна гэта гучыць, актыўная папулярызацыя рухам айчыннай літаратуры (роднай мовы) сярод беларускай моладзі. Дзякуючы бумбамлітаўцам маладая грамада зразумела, што сучасная беларуская літаратура — гэта *cool,* а пісаць і размаўляць па-беларуску — модна. Што тычыцца паразаў, а дакладней, пралікаў руху, якія, безумоўна, былі, то тут, у першую чаргу, трэба звярнуць увагу на перанасычанасць ідэямі, якія вялі фактычна да пазаканцэптуальнасці творчых падыходаў і пэўнай блытаніны ў філасофскай метадалогіі руху. Не спраўдзілася таксама спроба постмадэрнісцкага пазіцыянавання руху, бо фармальныя пошукі ў большасці творчых праектаў удзельнікаў ББЛ мелі пад сабою выключна мадэрнісцкую глебу, што зусім натуральна, калі ўлічыць, што «новую» літаратуру некаторыя ідэёлагі руху бачылі па-за ўласна літаратурным дыскурсам.

---

[1] Тэрмін уведзены Сержам Мінскевічам, адным з удзельнікаў і стваральнікаў літаратурна-мастацкага руху Бум-Бам-Літ.

# ІДЭЯ ПРЫЙШЛА ВЫПАДКОВА

*«Цэнтр славянскіх моў і культур» быў створаны ў 2014 годзе нядаўнімі выпускнікамі філфака БДУ Ірынай і Аляксеем Зімневымі і Сяргеем Самахвалам. Гэта адзіная ў Беларусі прыватная моўная школа, дзе можна вучыць усе славянскія мовы, у тым ліку беларускую. Аказваецца, вывучэнне беларускай мовы за горшы можа быць запатрабаваным! Пагутарым пра гэта з шэфам «Цэнтра...» Ірынай Зімневай і выкладчыцай беларускай мовы Кацярынай Дошчачкай.*

**— Як прыйшла ідэя стварыць «Цэнтр…»?**

**Ірына:** — Ідэя прыйшла выпадкова. Спачатку мы з Лёшам (*Аляксей Зімнеў — муж Ірыны*) хацелі займацца толькі польскай і беларускай мовамі — тым, у чым больш-менш разбіраемся, а пасля аказалася, што ў Сяргея Самахвала таксама была ідэя стварыць нейкі славянскі навучальны асяродак. Успомнілі знаёмых, сяброў з філфака, прафесіяналаў у розных славянскіх мовах. У выніку, падумаўшы і параіўшыся, вырашылі рэалізаваць ідэю. Цяпер у нас можна вывучыць дзевяць славянскіх моў.

**Кацярына:** — Мяне запрасілі кіраўнікі «Цэнтра...» і яго творчыя натхняльнікі, мае добрыя знаёмыя па ўніверсітэце, адзін з якіх — аднагрупнік Аляксей Зімнеў. Усе экзамены і залікі, якія прыходзілася здаваць з гэтым чалавекам, успамінаю з усмешкай. На мой погляд, яго жыццёвае крэда — ні дня без жарту!

**— Якое месца ў «Цэнтры...» адводзіцца вывучэнню беларускай мовы?**

**Ірына:** — Па сутнасці, ідэя ўтварылася ад імкнення выкладаць беларускую мову і стварыць свой падручнік, бо, калі казаць аб’ектыўна, у нас няма цікавых, прадуманых падручнікаў для вывучэння беларускай мовы як замежнай (а зараз яе, на жаль, трэба падаваць нашым дзецям менавіта такім чынам). Падручнікі, якімі карыстаюцца ў школах, не вельмі заахвочваюць да навучання мове. Кожны памятае шэрыя, амаль без малюнкаў кнігі, дзе падаюцца правіла і дзве тысячы практыкаванняў, каб гэта правіла засвоіць. Мы вырашылі цалкам змяніць сістэму падручніка і вучыць дзяцей у першую чаргу не граматыцы, а лексіцы, бо першае без другога не мае сэнсу.

**— Хто прыходзіць вывучаць беларускую мову да вас?**

**Кацярына:** — Беларусы. Яшчэ маленькія, але ўжо са шчырымі і адданымі радзіме сэрцамі. На жаль, у нашай краіне так сталася, што для большасці яе жыхароў натуральным шляхам вывучыць родную мову вельмі складана, таму неабходна ствараць спецыяльныя ўмовы для тых, хто ўсё ж хоча добра ёю валодаць.

**— Чаму вы навучаеце дзяцей?**

**Ірына:** — Па-першае, размаўляць па-беларуску і пры гэтым не саромецца! Па-другое, знаёмім дзяцей з традыцыямі беларусаў, праводзім майстар-класы па вырабе пэўных рэчаў, звязаных з беларускай культурай. Мы спяваем, гуляем, размаўляем і што толькі ні робім, але выключна па-беларуску. Спадарыня Кацярына чаго толькі не прыдумляла за гэты год, каб у дзяцей не згасала жаданне вучыцца, штосьці запамінаць і не губляць цікавасці да мовы.

Напрыканцы мая ў дзетак адбыўся своеасаблівы выпускны. Мы з імі падрыхтавалі канцэрт з песнямі, сцэнкамі і танцамі, прычым усе тэксты пісалі самі. Беларусікі прадэманстравалі свае шматлікія здольнасці



*Сцэнка «Хобі Міркі» ў выкананні беларусікаў.*



*Кацярына Дошчачка, беларусачка Ганулька і Ірына Зімнева.*




*Святочнае ўручэнне сертыфікатаў.*

бацькам і гасцям. Дзеці атрымалі сертыфікаты аб заканчэнні 1-га курса вывучэння беларускай мовы. Амаль усе бацькі папрасілі запісаць іх дзетак і на наступны год, што нас не можа не цешыць. Акрамя таго, прыемна было слухаць словы падзякі ад бацькоў, якія казалі, што дзеці ходзяць на курсы заўсёды з ахвотай і жаданнем. А галоўнае, што дзеці сапраўды размаўляюць па-беларуску, прынамсі ў нашым «Цэнтры...», да каго б яны ні звярталіся. Значыць, справа наша не марная, і мы рухаемся ў правільным накірунку.

**— Як распрацоўвалася праграма заняткаў? На чым яна грунтуецца?**

**Ірына:** — Праграму распрацоўвалі выпускнікі філфака — Сяргей Самахвал, Алеся Чарнавокая, Кацярына Дошчачка і я. Спецыяльны падручнічак, які мы стварылі за гэты год, яшчэ не выдадзены, але мы плануем зрабіць гэта летам-восенню. Падручнік складаецца з урокаў-крокаў. Кожны ўрок-крок пачынаецца з дыялогу на нейкую лексічную тэму (Вопратка, Часткі цела, Надвор’е, Горад, інш.), далей ідзе слоўнічак з неабходнай лексікай, пытанні і заданні размоўнага плана, а пасля трошкі граматыкі, але максімальна спрошчана. Атрымліваецца, што мы ў першую чаргу вучым дзяцей размаўляць, а не правільна вызначаць суфіксы ці дзейнік з выказнікам, хоць і не адмаўляем, канешне, граматыкі.

**Кацярына:** — Я працую з дзеткамі-беларусікамі ад 5 да 12 гадоў. Адметнасць заняткаў у тым, што беларуская мова выкладаецца як замежная. Спалучаю розныя формы, прыёмы і метады, якімі карыстаюцца, напрыклад,

настаўнікі англійскай мовы. Шмат увагі мы надаём развіццю маўленчых навыкаў нашых вучняў. Хочам набраць групу дзяцей, якія яшчэ не ўмеюць чытаць і пісаць, бо з імі неабходна працаваць асобна, улічваючы іх асаблівасці і магчымасці. Планы, увогуле, грандыёзныя!

Адзін занятак доўжыцца 2 гадзіны 15 хвілін. Гэты час дзеліцца на 3 часткі: 35 хвілін справы, затым 10 хвілін перапынку, яшчэ 35 хвілін справы і зноў перапынак, і зноў справа.

У пачатку заняткаў мы прыгадваем тое, што праходзілі, праігрываем сітуацыі на замацаванне матэрыялу, высвятляем незразумелыя моманты. Другая частка звычайна самая напружаная, бо на яе прыпадае вывучэнне новай тэмы, новых правіл па граматыцы, арфаграфіі, пунктуацыі. Але стараюся і гэты тэарэтычны матэрыял разбавіць цікавымі метадамі і формамі арганізацыі працы. Напрыклад, падзяліць дзяцей на групы і выконваць заданне разам: скласці казку з прапанаваных слоў, скласці пазл і апісаць тое, што атрымалася і г.д. Трэцяя частка заняткаў праходзіць з песнямі, танцамі, інсцэніроўкамі, гульнямі па тэме. Часта практыкую прагляд невялікіх мультфільмаў на беларускай мове з далейшым абмеркаваннем і адказамі на пытанні па змесце. За сваю старанную працу дзеці атрымліваюць талеры, за якія ў канцы кожнага месяца могуць набываць сабе самыя сапраўдныя тавары: алоўкі, асадкі, сшыткі, шакаладкі…

**— Як вы ацэньваеце вынікі курсаў для беларусікаў? Ці змяніліся дзеці пасля іх?**

**Кацярына:** — На самай справе, вельмі заўважныя зрухі ў лепшы бок. Беларусікі, у якіх быў хоць нейкі запас беларускіх слоў, без цяжкасцей выказваюць свае думкі пабеларуску. Ёсць у нас адна вучаніца, якая спачатку не магла звязаць двух слоў пабеларуску. Бацькі не маглі ёй дапамагчы ў авалодванні мовай, бо самі не беларусы, прыехалі з-за мяжы. У канцы года наша маленькая беларусачка хоць і з памылкамі, але загаварыла.

**— Чым адрозніваецца праца ў «Цэнтры...» ад працы ў звычайнай школе?**

**Кацярына:** — У школе настаўнік вымушаны паспяваць за праграмай *(Кацярына працуе настаўнікам у СШ № 38 г. Мінска)*. Часта гэта перашкаджае якаснаму засваенню ведаў, бо на многія тэмы, над якімі трэба працаваць мінімум тры-чатыры ўрокі, адводзіцца ўсяго адна гадзіна. У «Цэнтры...» ж у першую чаргу звяртаецца ўвага на тое, як дзеці засвоілі матэрыял. І калі неабходна яшчэ папрацаваць над тэмай, то для гэтага, безумоўна, адводзіцца час.

**— Якія ёсць шляхі абуджэння цікавасці да вывучэння роднай мовы?**

**Кацярына:** — У першую чаргу важны ўласны прыклад выкладчыкаў.

«Цэнтр...» арганізуе заняткі і з іншымі маладымі крэатыўнымі людзьмі, якія вельмі добра валодаюць мовай. Дзякуючы гэтаму дзеці бачаць выкарыстанне беларускай мовы шырокім колам людзей, адчуваюць яе важнасць. Да нас аднойчы прыходзіла самая маладая «настаўніца» беларускай мовы, якая толькі скончыла 4-ы клас. Яна праводзіла майстар-клас па вырабе паштовак да 8 Сакавіка, каментуючы свае дзеянні шыкоўнай, чысцюткай беларускай мовай.

**— Ці плануеце стварыць курс для дарослых?**

**Ірына:** — Так, плануем, і з самага пачатку збіраліся гэта зрабіць, але, на жаль, вельмі мала жадаючых вучыць беларускую мову сярод дарослых. З верасня ўсё ж плануем абвясціць набор. Прычым, кошты ў нас на беларускую як для дзетак, так і для дарослых вельмі дэмакратычныя.

**Кацярына:** — Хочацца вельмі, прызнаюся шчыра, арганізаваць заняткі для аматараў беларускасці. Але для гэтага неабходна правесці вялікую падрыхтоўчую працу. Будзем спадзявацца, што ў недалёкай будучыні гэтыя мары стануць рэальнасцю.

**Ірына:** — Мы займаемся падрыхтоўкай да ЦТ і «падцягваннем» школьнай праграмы. У планах яшчэ стварыць другую і трэцюю часткі «Урокаў-крокаў» і які-небудзь творчы праект. Магчыма, гэта будзе тэатрык беларусікаў…

***Гутарыла Тамара МІНЮТКА***

**maladost@zviazda.by**

*Марыя ЧАРНЯЎСКАЯ*

# У ЗЗЯННІ ЎСМЕШКІ



***Марыя Чарняўская нарадзілася 10 мая 1989 года ў Рызе. Працуе на біялагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Натхненне для працы і творчасці чэрпае з Божай ласкі. Улюбёныя тэмы ў вершах — Божая любоў і чалавечае каханне — тое, што ніколі не праміне.***

## ПРОСТЫ ЦУД

Ты вочы расплюшчы — і ўбачыш, як цуд
Ізноў нараджаецца зранку.
Ён побач з табой пасяліўся, ён тут,
Стаіць і чакае на ганку.

Ён возьме цябе за руку, павядзе
Да нейкіх нязнаных вышыняў.
Ў яго непасрэднай і лёгкай хадзе
Пазнаеш ты шчасця глыбіні.

Расплюшчыўшы вочы, ты цуд не спужай:
Лагодны ён і далікатны.
З усмешкай у люстра сваё зазірай,
Павер — ты прыгожы і здатны.

Расплюшчыўшы вочы, падумай аб тым,
Што сённяшні дзень непаўторны,
Што ранак растане, развеецца дым,
Мука перамелецца ў жорнах.

Расплюшчыўшы вочы, устань пакрысе
І выйдзі на стрэчанне цуда
Па восеньскім лісці у зорнай расе,
Яшчэ не заплямленай брудам.

Расплюшчыўшы вочы, сустрэнь гэты дзень,
Як самага лепшага сябра.
Адчуй ў яго лёгкай, няспыннай хадзе
Імкненне да лепшага заўтра!

## МОЙ ШЛЯХ

Дзе ж ты, дзе, мой шлях цярністы?
Ўвечар светлы, ўдзень цяністы.
Ты ідзеш заўсёды ўгору,
Поўны шчасця, поўны гора.

Ты хаваешся ў балотах,
Прабіраешся употай.

Любіш цьмяныя задворкі
І зялёныя пагоркі.
Любіш цёмны лес яловы,
Любіш макаў пах барвовы.
Падыходзіш да азёраў,
Каб паслухаць хваляў хоры.

Дзе ж ты, дзе, мой шлях да шчасця?
Ты знікаеш вельмі часта.
Не хавай сваіх каменняў,
Шляхам будзь маім нязменным.
Проста будзь заўжды відочны,
Мой вясёлы шлях, мой змрочны.

Будзь нястомным, будзь цярплівым,
Будзь заўсёды справядлівым.
І тады з табою, можа,
Пасябруем ў падарожжы.
Ведаю, што ты свавольнік,
Толькі на падман — не здольны!

* * *

Ён нястомна шукае цябе
Сярод вуліц вялізнага горада.
Яго воблік — як сонечны дзень.
Яго словы — як чыстае золата.

Ён гукае, Ён кліча цябе,
Зазірае ў разбітыя вокны.
Яго сэрца ў тузе, у журбе,
Яго твар невясёлы, самотны.

Ты не чуеш, не хочаш пачуць
Яго голас лагодны і сумны,
Тваё сэрца, як клеймы, пякуць
Абыякавасць, злосць, перасуды…

Яго голас знаёмы табе,
Ён знаёмы табе ад улоння.
Ён узносіўся ў ціхай мальбе.
Ён трымае цябе на далонях.

Ён так блізка, Ён побач, глядзі:
Ён сядзіць з табой побач і плача.
Яго твар, Яго рукі ў крыві,
Ён любові трывае нястачу.

Толькі ты уратуеш Яго
І суцішыш Ягоныя мукі…
Ды ад дзіды на сэрцы кляймо
Не залечаць нічыйныя рукі.

* * *

Прырода заўжды памірае прыгожа,
У ззянні і бляску шчаслівай усмешкі,
Што зноўку ўрадзіла багатае збожжа,
Што ў лесе грыбныя пракладзены
сцежкі…

Я думаю, так паміраюць святыя —
У ззянні і бляску усмешкі шчаслівай,
Што скончаны дні на выгнанні зямныя,
Што ніва жыцця іх была урадлівай.

Прырода заўжды памірае ўрачыста,
Без плачу, без стогнаў і без нараканняў,
Бо кожнае дрэўца паверыла чыста,
Што прыйдзе гадзіна для
*змёртвыхпаўстання.*

**ПЕРШЫ СНЕГ**

Першы снег — як першае каханне:
Чысты, не крануты брудам жарсцяў.
Ды, аднак, яго наканаванне —
На наступны дзень, як сон, прапасці.

Першы снег — як першы дзень на
працы:
Ты яго чакаеш, ну а потым...
Паглядзіш, як ён ляціць над пляцам,
І знікае да яго ахвота.

Першы снег — як першы пацалунак:
Столькі радасці, нястрымнай весялосці.
І здаецца, што яго дарунак
Пакідае ў самым сэрцы штосьці.

*Анастасія МІХЛЮК*

# ЗАМАЛЁЎКІ



***Анастасія Міхлюк нарадзілася 21 лютага 1993 года ў Бабруйску. Скончыла Інстытут журналістыкі БДУ. Працуе ў Кніжнай палаце. Марыць пабываць у Японіі і вывучыць японскую мову, каб чытаць Муракамі ў арыгінале і перакладаць на японскую беларускія творы. Любіць фатаграфаваць, бо менавіта фотаздымкі адлюстроўваюць яе бачанне свету.***

## РОДНАЕ-РОДНАЕ

З палінялага паркету саскрабаўся пыл. Праз расчыненыя вокны пазяхала сонца. Яркі поўдзень калыхаў фіранкі. Пацягнулася. Глянула ў акно. У гародзе ўжо корпалася бабуля. Дзед, як звычайна, нешта пілаваў.

Не хацелася нікуды ісці. Толькі б залегчы ў гамак з кніжкай. Каб свежасалатавае лісце «лянівага» дуба хавала ад сонца.

Пекла зганяла нават мошак. І збірала людзей ля ракі. Бы жарам ад печы ўдарыла на вуліцы. Бабуля з дзядулем прывалакліся ў хату. Жыццё не ішло і не цягнулася. Здвалася, спякота заглынула сусвет. І ўсе плавіліся ў ляноце.

Думкі лёталі марамі ў паднябессі. Ды ніякіх думак амаль што і не было. «Слон, марозіва, дракоша», — прамаўляла, пазіраючы на аблокі. Дубы слухалі мары і думкі. Шакаладнага колеру каняка ў яблыках бегла па полі. Нехта зрываў кветкі. Духмяны букет.

Прачнулася. Агледзелася, бы тое дзіцятка. Пазяхнула, смешна прыкрываючы рот рукой. У доме запалілі святло. Аднекуль кагалам вярнуліся мошкі. Пэўна туды, адкуль яны з’явіліся, знікла духацень.

У хаце цёпла і ўтульна. Родныя ўжо за сталом. Глядзяць з добрай усмешкай у вачах.

Сонца схавалася. Дзьмуў вецер праз адчыненыя вокны. Зоркі ганялі мышэй у запеччы. Любіла. На ўсю моц. І з дзіцячай пяшчотай. Роднае. Роднае-роднае. Лета.

## КАВАЛАЧАК ШЧАСЦЯ

— Падыходзьце! Каму яшчэ кавалачак шчасця? Першы гатунак!

— Мабыць, тое…

— Не сумнявайцеся ў ім! Шчасце ж — жывое, новае. Калі ласка. Рада паспрыяць, каб вы набылі.

— Дзякуй, канешне. І ўсё ж…

— Ну што вам! Шчасце, яно ж вось — кавалачкаў няшмат засталося.

— Ведаеце… А падарыце яго вууунь таму чалавеку. Бачыце, тамака сядзіць.

— Дзіўна. Упершыню мяне просяць падарыць шчасце. І нават не дзеля сябе…

— Вось і падарыце.
— А як жа іншыя набудуць, калі я падару аднойчы, га? Тое ваш сябра?
— Я шчаслiва ўсміхнуся, калі вы падорыце таму чалавеку кавалачак шчасця.
— І ўсё ж вы просіце незвычайнае. Што ж. Можа, прыйшла і мая пара зрабіць маленькі цуд?
— Вось толькі той чалавек збяжыць ад вашага кавалачка.
— Праўда?
— Праўда-праўда. На тое ён і чалавек. Такі чалавек.
— Дзівак ды і толькі!
— Той чалавек ці я?
— Абодва.
— Абодва…

**ПОСТАПАКАЛІПТЫЧНАЯ ЗАМАЛЁЎКА**

Ёй здавалася, што адбываецца нешта недарэчнае. Колеры былі яркімі, бы неба перад грымотамі. Зрок — завостраны, што японскі клінок.

Дзяўчына агледзелася па баках. Вакол яе была незразумелая пустэча. «На якой я апынулася планеце? — думалася ёй. — Ці, можа, мне гэта сніцца. Калі я ў сне бачу, што гэта сон, то прачнуся». Але не прачыналася нешта. Падзьмула ветрам. У ім лунаў нейкі невядомы пах. Напаўпрыемны і напаўзнаёмы. Яна амаль разгадала галаваломку. Але было ў ёй нешта невызначальнае, схаванае недзе ў глыбіні яе розуму. «Так, калі ж гэта мой розум… Я прыдумала ўсё?» Але не. Пясок, вецер былі занадта рэальнымі. Яна вырашыла ісці. Вось толькі куды? Усюды — пустэча, пустэча ва ўсе бакі. Тут яна бы ніколі не вызначыла нават, дзе захад, дзе ўсход. Быў дзень, але неба заставалася пустым, як і зямля вакол.

Дзяўчына аглядалася па баках. Што ж рабіць? У галаве прабеглі самыя розныя ідэі. Што ж адбылося?

Усё знікла. А яна не прачыналася. Бо тое быў не сон.

**БУТЭЛЬКА МАЛАКА І СІНЯЕ НЕБА**

Сіняе-сіняе неба. Мякішак хлеба на падаконніку. Бутэлька малака. Жадаў бы скінуць яе з акна, каб тое шкло за долю імгнення разляцелася на аскепкі. І чаму? Ну чаму так часта пластыкавыя бутэлькі замест шкляных!

Параскіданыя па падлозе кнігі, рэшткі кавы і цукру. А ў галаве — пуста-пуста. Свісцеў вецер, разганяючы шматкі думак па кутах кватэры. Пустая сцяна жадала ступіць за акно, да сіняга неба. Дрэва заглынала кватэру, а птушкі, імклівыя, крыклівыя, завіхаліся ўсюды. Ды вобраз вёскі ўсё адно не мог замінаць гораду. Горад сцярогся схавацца ў вёсцы, аднак заўсёды фанабэрліва смяяўся з яе. Ён усё напаўзаў на кватэру, бы тая ноч, паступова і мякка, у самы разгар дня. Здавалася, пакой страціць сябе… Без аніякага сумлення горад поўз прэч з цеснаты. Да святла сіняга-сіняга неба. Перанасычанага больш уяўленнем, чым сапраўдным колерам.

Абсалютам шуму жадала праглынуць вуліца. Прагная. Хоць і ніколі не прагная цішыні. Здавалася, падчас свята яна разарвецца натоўпам голасу, гоману. Вуліца магла праглынуць любы шум, каб ужо ў іншы момант пазбавіцца яго.

Сінім небам, бы морам, наплываў дзень. Малако было дапіта. І не разбіта шклянка.

І неба не з’ела гэты падаконнік з мякішам састарэлага хлеба. І вярнуліся ў галаву думкі. Вось толькі зніклі з кватэры сцены. Ды крычалі залішне гаманлівыя птушкі. Ды замест столі пералівалася ў вачах ад яркасці…

Сінела неба…

*Валеры ПАЗНЯКЕВІЧ*

# ПРАСТОРА ДУМАК



***Валеры Пазнякевіч нарадзіўся 10 красавіка 1968 года ў вёсцы Сінкевічы Лунінецкага раёна. Яго вершы ўвайшлі ў хрэстаматыю для сярэдніх школ «Сэрцам роднага слова краніся», анталогію аднаго верша «Агледзіны», анталогію беларускай хрысціянскай паэзіі «Насустрач духу», іншыя выданні.***

**НЕБА АЙЧЫНЫ**

Вы калі-небудзь бачылі
Неба маёй Айчыны?
Неба, якое кідае ў вір,
І сустракае шчыра.
Гэта яно пазірае на нас
І прыхіляецца блізка.
Гэта яно грае вечны свой вальс
І паланэз Агінскага.

Неба, якое бачыў не раз
Гусоўскі, Францішак Скарына...
Пад ім Багдановіч склаў першы сказ,
Што прачытаў Ярыла.
Жорнамі часу малола яно
Купалы і Коласа думкі.
Неба праменнем у мову лягло,
Люляла на хмарах гукі.

Гэта яму абавязаны я
Першай сваёй сустрэчай
З вершамі Цёткі і Салаўя,
З песняй Янішчыц вечнай.
Нашае неба нясе дабрыню
Ўсім, хто яго пабачыць.
Нашае неба ўсміхаецца дню —
Радасцю боскай плача.

**ВОЗЕРА МАРАЎ**

Думкі свае я на возеры кратаю:
Рыбу лаўлю, моўчкі вершы пішу.
Возера з востравам, возера з хатаю
Думак маіх калыхае душу.

Ранкам туман над вадою развесісты
Штосьці прашэпча знаёмае мне:
І на душы раптам стане так весела,
Нібы ўсё гэта прыснілася ў сне.

Дзесьці ля чоўна кругамі жыццёвымі
Язь ці шчупак закалыша ваду.
Возера мараў — нібы неба сёмае:
Неба, куду я калісьці прыйду.

## СТУДЭНТЫ НА БУЛЬБЕ

З сівога попелу кастра,
Што дагарэў уночы,
Я бульбы печанай дастаў
Чарней, чым мае вочы.

Нібы жанглёр, кручу яе,
Як круцяць мячык дзеці.
Хто бульбы печанай не еў —
Лічы, не жыў на свеце.

Мае студэнцкія сябры
За ўсім працэсам сочаць,
А бульба пахне на двары
Вуголлем зорнай ночы.

Макаю я вячэру ў соль,
Нясу яе да рота...
І тут прайшоў у хлопцаў сон —
Пайшла кіпець работа.

Знайшліся хуценька гуркі,
Цыбуля, кроп і сала...
Павесялелі сябрукі
Пасля вячэры ўдалай.

## ВЯСНА І ПЧОЛЫ

Затравеў каля рэчкі мурог,
Дзьмухаўцамі ўсміхнуліся хвалі:
Каля весніх сцяжынак — дарог,
Свае песні чмялі заспявалі.

Абудзілі палескі мой край
Працавітыя, дбайныя пчолы —
Гэта дзядзька Святы Мікалай
Іх паклікаў на сход той вучоны.

Колькі трэба нектару таго
Перанесці ў гуллівыя соты,
Каб задобрыць людзей і багоў,
Каб пасеяць у душах усходы?

Вось чаму так спяшаюць яны
Дзень за днём на лугі і пагосты:
Бо зрабіць трэба мёд да зімы —
Шлях пчалінай навукі няпросты.

## СІМВАЛ ЖЫЦЦЯ

Мы жывём ад вайны да вайны,
Паміж войнамі хаты будуем.
І як толькі змаўкаюць званы,
Мы дзяцей нараджаем, гадуем.

Мы жывём, каб пакінуць сляды,
Для нашчадкаў, што пойдуць за намі,
Каб цягнуўся іх след малады,
Каб гучаў, нібы храмы, званамі.

Мы жывём, каб змагацца са злом,
Каб дабро панавала ў падзеях,
Каб заходзіла сонца ў той дом,
Дзе ёсць вера, любоў і надзея.

## ПРАСТОРА ДУМАК

Не зёлкамі нас лячыла,
Не малаком гарачым,
А ўсмешкай яскравай, шчырай,
Што сее дабро, удачу.

Ты йшла праз вайну і голад.
Ты мудрасці нас вучыла.
Я сёння схіляю галаў
Перад табой, Айчына!

Бо ты для мяне — святая.
Другой мне не трэба песні.
Хай мова твая ўзлятае,
І вера твая ўваскрэсне!

Ты — думак адвечны подых —
Надзея, любоў і мара.
Нябёсаў яскравых зводы
Ты дзецям ля ног паслала.

З табой мы ляцім да зорак,
У вечнасці Зніч шукаем,
Дзе думак тваіх прастора
Нашчадкаў сваіх гукае.

**ДОБРЫМ ЛЮДЗЯМ**

Кажуць, свет прыгажосць уратуе.
Я іначай лічу — дабрыня...
Той, хто сэрца дабром загартуе,
Дачакаецца светлага дня.

Добрых спраў мой народ не забудзе
Покуль вера жыве ў дабрыню,
Покуль ёсць на зямлі тыя людзі,
Якіх я і цаню, і люблю.

То яны нам расплюшчвалі вочы
І казалі, куды нам ісці,
Калі ў восеньскім прыцемку ночы
Мы гублялі надзею ў жыцці.

Яны шлях дабрынёй асвятлялі
Вырываючы сэрцы з грудзей,
Каб вясёлкай зіхцелі каралі
Пуцявін, да якіх мы ідзем.



Антон ЯНКОЎСКІ

# ГАРБАТА І ЯБЛЫК

*Апавяданне*



***Антон Янкоўскі нарадзіўся 29 сакавіка 1986 года ў вёсцы Нача Воранаўскага раёна. Рэжысёр па адукацыі, любіць настольныя гульні і распрацоўвае ўласныя, прымае ўдзел у стварэнні праектаў па развіцці мовы і культуры. Штодня шукае сваё месца ў грамадстве, ды заўсёды спыняецца на беразе Нёмана ля Каложы, каб сярод мітусні наладзіць сустрэчу з асадкай і нататнікам.***

На стале ляжаў надгрызены яблык. Стаяў кубак з недапітай гарбатай. У пакоі пахла жарсным паяднаннем целаў. Але гэта было месяц таму. Сёння нацюрморт выглядаў прыкладна так: высахлы яблык, зацвілая гарбата і затхлае паветра. У пакоі даўно не было людзей. Ужо больш за месяц ён паміраў ад адзіноты…

**1**

Пакой добра памятае той знакавы дзень, які стаў кропкай адліку. Адчыніліся дзверы, і шумны натоўп парушыў звыклы рытм тутэйшага жыцця. Вясёлыя, гучныя, бадзёрыя — моладзь ледзь змясцілася ў сценах маленькай мансарды. Мансарды, з акна якой адкрываўся прыгожы далягляд: магутная рака няспынна несла свае хвалі, а ў яе вадзе адлюстроўваліся агеньчыкі вокнаў старых драўляных хат, што на супрацьлеглым беразе туліліся адна да адной. Падавалася, што яны ўзяліся за рукі і калышуцца ў карагодзе. Рака, нібы мастак, малявала іх постаці на вадзяной палітры…

Здавалася, што маладую мастачку ў той вечар заваражылі менавіта гэтыя пейзажы. Яна глядзела ўдалячынь, калі гаспадар утульнай мансарды запрыкмеціў яе. Дзяўчына адчула нечую прысутнасць і, нягледзячы на тое, што бачыла гэтага сімпатычнага хлопца ўпершыню, сказала шчыра і адкрыта: «У цябе тут адпачывае душа…» Яна здзівілася: нават з лепшымі сябрамі не была такой паэтычнай, а тут словы быццам самі нарадзіліся. Яны глядзелі на заход сонца. Гэта адбылося ў самым разгары невялікай імправізаванай вечарыны, калі ўсе пачалі звыкла разыходзіцца па кампаніях. Ёй тады захацелася зірнуць за акно.

А патрапіла сюды дзяўчына выпадкова. Пасля гарадскога мерапрыемства нарадзілася авантурная ідэя працягнуць свята з куфлем чагосьці гарачэйшага за гарбату. Ад лютаўскіх маразоў кампанія маладых людзей схавалася ў хаце малавядомага ўсім чалавека. Зрэшты, і сама кампанія сабралася выпадкова. Для бліжэйшага знаёмства прыдумалі гульню: па чарзе кожны прысутны

расказваў пра сябе, усе выпівалі за яго здароўе і выбіралі наступнага выступоўцу. Пазней хлопец узгадаў, што ўпершыню звярнуў на яе ўвагу, калі, распавёўшы пра сябе, яна запытала:

— А хто ж гаспадар гэтай кватэры? Цікава, адкуль ён з'явіўся і як згадзіўся прыняць нас у сябе?

Уся гісторыя хлопца складалася з таго, што з-пад цёплай коўдры яго выцягнулі выпадкова, але ён ні кроплі не шкадуе — наадварот, вельмі рады сённяшнім знаёмствам. Большасцю галасоў было прынята лічыць гаспадара надзейным сябрам — і ўсе выпілі за яго здароўе і ўтульную мансарду. Застольная частка працягнулася, але ў памяці двух маладых людзей застаўся іншы ўспамін.

Час набліжаўся да ночы. Адных гаспадар выпраўляў дадому, іншым знаходзіў месца ўладкавацца і крыху падрамаць. І тады ён зноў заўважыў прыгожую незнаёмку ля акна. Толькі на гэты раз яна захаплялася зорным небам.

— У горадзе ўвогуле вельмі цяжка пабачыць зоры, — завёў размову хлопец. — А мне з домам пашчасціла. Гэты раён можна лічыць прыватным сектарам. Цывілізацыя засталася ўбаку. Месцамі толькі цьмяныя ліхтары нагадваюць, што жывеш у горадзе. Затое зоркі ззяюць, нібы на вольнай прасторы. Яны натхняюць, акрыляюць, чаруюць. Бачу, і цябе зачаравалі?

— Зачаравалі… — усміхнулася дзяўчына, і, адарваўшыся ад акна, запытала: — Так пранікліва і паэтычна гаворыш, пэўна, нейкай творчасцю займаешся?

— Вершы пішу, — адказаў хлопец і ўдакладніў: — І гэта не проста хобі, а стан душы.

Не чакаючы новых пытанняў, хлопец прачытаў некалькі радкоў пра зоркі. Яны зачаравалі дзяўчыну яшчэ больш, ёй нават захацелася прыхінуцца да хлопца. Толькі яна гэтага не зрабіла. Проста злавіла сябе на думцы, што даўно не бачыла і не чула нічога глыбокага, шчырага, пяшчотнага і праніклівага…

Маючы вышэйшую адукацыю мастака, дзяўчына вось ужо гады тры нічога сама не малявала. Толькі дызайнерская праца. Як тады саму сябе пераконвала: вялікая колькасць заказаў, доўгі працоўны дзень, стома. Але, напэўна, галоўнай прычынай была адсутнасць натхнення. Жыццё цягнулася проста і аднастайна. Нават кароткачасовыя спатканні і раманы зусім не натхнялі, а наадварот, вымотвалі, адбіралі яшчэ больш вольнага часу.

А тут зоркі люструюцца ў рэчцы, гучаць прыгожыя і меладычныя вершы, а сімпатычны хлопец на пытанне, ці засталося яшчэ што перакусіць, адказвае:

— Гарбата і яблык…

**2**

Гарбата ў яго была, шчыра кажучы, кепская. Піць без лімона — амаль не магчыма. За такую заўвагу хлопцу зрабілася сорамна.

Дзяўчына была гурманам. Заўсёды набывала цікавыя травяныя гарбаты. У яе дома сабрана вялікая калекцыя чорных, зялёных, чырвоных... «Вось гэтую мне прывезлі з Бразіліі! Гэтую я набыла ў Польшчы, а гэтую…» — любіла яна распавядаць перад тым, як пачаставаць госця. Ва ўсіх заўсёды разбягаліся вочы, і складана было адказаць на яе далейшае пытанне: «Дык якую?»

А ў мансардзе ўсё было нашмат прасцей: звычайная танная гарбата, адзінае што зялёная; вялізны, але пусты халадзільнік, дзе звыкла можна было знайсці толькі яблыкі. На здзіўленае пытанне частых гасцей хлопец жартаваў: «Я іх скрынямі набываю!» Сябры далі яму мянушку — «Яблычны імператар».

Затое з гарбатай была праблема… Але пра гэта размова зайшла крыху пазней. Яны некалькі разоў перасякаліся ў адной кампаніі. І, нарэшце, у яго атрымалася запрасіць яе ў другі раз на сваю мансарду. Дакладней, склалася ўсё выпадкова. Кампаніяй яны рыхтавалі невялікую сакавіцкую вылазку на прыроду. Нарадзілася ідэя зварыць глінтвейн. Дзяўчына пагадзілася прыгатаваць напой, але ў яе бракавала тэрмаса. Затое хлопец не ўмеў гатаваць нічога падобнага, але хацеў навучыцца — і прапанаваў свой тэрмас. Так нарадзілася ідэя сустрэцца ўдвух на яго мансардзе.

Вось тут яна і сказала праўду пра яго гарбату. Яшчэ пажартавала: «Тэрмас мае, а вось добрую гарбату набыць лянуецца». Хлопец спачатку крыху пакрыўдзіўся, але ў апраўданне паабяцаў яе здзівіць. «Зараз майстар возьмецца за працу!» — жартам ён запрасіў госцю прысесці на канапу, дастаў з халадзільніка яблыкі, парэзаў на долькі, паставіў на агонь ваду, яшчэ некаторы час завіхаўся — і хутка ўжо трымаў два кубкі, з якіх клубіўся дымок.

— Запрашаю на дах сваёй мансарды папіць смачнага яблычнага кампоту па спецыяльным вельмі сакрэтным і старадаўнім рэцэпце.

Сакавіцкае сонца свяціла зусім слаба, але смачны яблычны кампот сагрэў. Седзячы на даху, ёй зноў захацелася прыхінуцца да хлопца. Нейкае чароўнае пачуццё, як і мінулы раз, напоўніла ўсё яе нутро — з’явіўся стан вельмі падобны да таго, калі цябе наведвае натхненне.

Пасля шчырай размовы пачуццё толькі ўзмацнілася.

— Ведаеш, — пачала дзяўчына, маленькімі глыткамі папіваючы гарачы кампот. — Я, напэўна, за гэтае тваё жытло аддала б палову свайго жыцця, — і, сустрэўшы пытанне ў вачах хлопца, дадала: — Я мастак, а ў цябе такія прыгожыя краявіды. Вялізная рэчка, масты ўдалечыні, а на супрацьлеглым беразе — трухлявыя дамы. Гэта скарб для мастака. А зорная ноч! Даўно не бачыла ў адным месцы столькі прыгажосці!

— Я, асабліва ўлетку, люблю вось тут, на даху, пісаць вершы, — у адказ дзяліўся сваімі ўражаннямі хлопец. — Мая першая кніжка, напэўна, будзе называцца «На даху вечнасці». Тут спыняецца жыццё, ці, дакладней, набывае новы выгляд, мяняе свае мерыдыяны, прастору, збівае ўвесь час у адну хвіліну. Тут жыццё нараджаецца. А там, на шэрых вуліцах, яно знаходзіць сваю смерць…

— Ты сапраўды паэт, — захапілася дзяўчына.

— А гэта нескладана — быць паэтам. Дастаткова толькі адчуваць бег наваколля, рух, бачыць яго прыгажосць і непаўторнасць. Дастаткова толькі з павагай ставіцца да наваколля, і яно раскрые табе ўсе свае сакрэты. Само навучыць цябе, што і як пісаць…

Дзяўчына задумалася: вось яно — яе натхненне, нібы згустак пазітыўнай энергіі, нараджаецца тут, на даху…

Энергія ішла ад краявідаў, ад зор… і ад хлопца. А, можа, гэта проста гарачы яблычны кампот разліваўся па целе і саграваў дзявочае нутро. Яна не ведала. Таму проста атрымлівала асалоду ад свайго ўнутранага стану...

**3**

Дзяўчына вырашыла падараваць яму смачную гарбату. Проста так, без нагоды. Ці, дакладней, размова пра гарбату стала нагодай наведацца да яго ў госці. Хлопец падзякаваў за смачны прэзент, але доўга прасіў прабачэння, што ў хаце скончыліся яблыкі і ён не можа аддзячыць за падарунак смачным яблычным кампотам. Яна, памятаецца, тады пажартавала: «Дзіўна ў мансардзе не бачыць яблыкаў!»

Ён выправіўся ў краму. Дзяўчына спрабавала адгаварыць ад паходу ў дождж, прапанавала папіць новай гарбаты. Але хлопец настаяў на сваім і сышоў. Ён увогуле сёння быў нейкім разгубленым, няўпэўненым, заклапочаным. Зрэшты, не толькі сёння, а апошнія тыдні два.

Яна гэта заўважыла яшчэ раней. З вясёлага і гаваркога ён ператварыўся ў нейкага ціхага, нязграбнага, часта з-за розных дробязей прасіў прабачэнне. З кожным днём няўпэўненыя рухі рабіліся больш заўважнымі. Але ўсё стала зразумела, калі ён вярнуўся з крамы ўвесь змоклы і без яблыкаў. Дзяўчына здзівілася і пажартавала, што ён нібы не паспеў на распродаж. А хлопец паглядзеў на яе і выдыхнуў:

— Ты мне падабаешся.

Яна маўчала.

— Мне не патрэбны яблыкі… — голас ледзь заўважна дрыжаў. — Я хачу піць смачную гарбату з табой. Хачу прысвяціць новыя вершы табе. Хачу, каб мая мансарда ажыла ад тваёй усмешкі. Я хачу быць побач з табой, бо ты ператварыла маю штодзённасць у незвычайныя, не падобныя адзін да аднаго дні!

Яна па-ранейшаму маўчала.

— Давай зменім наша сяброўства на больш блізкія адносіны…

Ён працягнуў ёй руку, а з кішэні пасыпаліся яблыкі.

Дзяўчына засмяялася. Хлопец схамянуўся ад яе смеху, разгублена паглядзеў на яблыкі, што распаўзліся па ўсёй падлозе, потым — ёй у вочы. Яна падышла бліжэй, узяла за руку і вымавіла:

— Ты таксама мне падабаешся…

**4**

Вось ужо месяц, як дзяўчына прызвычаілася па дарозе ў госці набываць яблыкі. А хлопец пачаў разбірацца ў гарбатах. Кожны вечар яны бавілі ў вандроўках: блукалі па старым горадзе ці берагам рэчкі і пілі таматны сок з печывам на лаве ля пляжа, кожны дзень выбіралі новыя маршруты, марылі абысці ўсе вуліцы. З кожным новым днём, кожным новым крокам, чарговай размовай яны знаходзілі ўсё больш падабенства ў сваіх паводзінах, марах, ідэалах. Шмат гісторый з дзяцінства рэхам адгукалася ва ўспамінах другога.

Больш за два месяцы яны і аднаго дня не правялі, каб не пабачыцца. Звязаўшы ў адзін вечар свае жыцці, цяпер яны дзівіліся як хораша ім удвух!

Але са шматлікіх вечароў у памяці застаўся толькі адзін. Апошні…

Ён звыкла сустрэў яе пасля працы, і яны паехалі ў мансарду.

— Мне прапанавалі зарабіць грошай, таму сёння на тыдзень трэба з’ехаць з горада, — па дарозе ў тралейбусе распавядаў хлопец.

Яна прыхінулася да яго пляча:

— Мы ўпершыню правядзём вечар не разам.

— Ведаю. Сам не хачу ехаць, проста…

Сапраўды, апошнім часам грашовае пытанне для хлопца стала вострым. Яшчэ нядаўна невялікай зарплаты хапала на яблыкі, дрэнную гарбату, пельмені ды хлеб. З цяжкасцю, але знаходзіліся грошы на вандроўкі, наведванні кінатэатраў і выстаў, кафэ і рэстарацый. Гэтыя выдаткі яго не напружвалі, увогуле ён не быў залежным ад іх, нават жартаваў: грошы — не праблема, а іх адсутнасць — усяго паўпраблемы.

Ды цяпер грошы вострым пытаннем сталі на дарозе да яго мар. Хлопец збіраў іх на выданне свайго першага зборніка вершаў. Ужо колькі год пісаў і рэдагаваў вершы, складаў іх у тэчку, прыдумаў назву кнігі, падзелаў, прысвячэнне. Але выданне кніг часам адбываецца паводле простага сцэнарыя: маеш грошы — выдавай!

Яшчэ адной, больш важкай прычынай імкнення да грашовага дастатку было жаданне пабудаваць хату, пасадзіць сад, выкапаць сажалку, паставіць альтанку, стварыць сям'ю, нарадзіць дзяцей, якія б бегалі па падворку і запускалі паветранага змея. Хлопец сустрэў сваё каханне — і яго жаданні ўзмацніліся, бо знайшоўся чалавек, які падзяляў мары і мэты, з якім можна было смела заліваць падмурак будучага дома. Грашовыя высілкі на гэту мару патрэбны былі вялікія, і з кожным днём звонку нябачнае хваляванне расло ў падсвядомасці.

І вось — выпадковая халтура, вялікія грошы, і пасля доўгіх роздумаў — згодзе на працу…

Ён збіраў сваю сумку хутка. Кідаў кашулі, майкі, порткі, мыльныя прыналежнасці. Яна піла гарбату, сачыла за яго мітуснёй. Мансарду напоўніла маўчанне, якое зрэдку парушалася сёрбаннем гарбаты і шолахам пакетаў.

Нарэшце ён прысеў на канапу.

— Твая гарбата астыла, — сказала дзяўчына.

— Прабач, я ведаю, што ты яе для мяне заварыла. Проста…

Яна не дала дагаварыць, а пацалавала ў скроні:

— Я цябе добра разумею. Не хвалюйся, ты ўсё правільна робіш. Ведай, я заўсёды падтрымаю твае пачынанні. Я ганаруся, што ты думаеш пра будучыню. Мне часам гэтага бракуе. Я зайздрошчу і хачу, каб ты навучыў мяне, як разам ісці наперад. Едзь і не хвалюйся.

— Проста нейкі ўнутры цяжар.

— Гані яго, бо я побач…

Яе вусны пяшчотна блукалі па шчацэ юнака, спускаліся па шыі, зноў падымаліся і знаходзілі яго вусны. Кашуля падала на зямлю, побач клалася сукенка. Стаіўшы дыханне, апошнія слухалі, пра што ў жарсным дуэце гаварылі два маладыя целы…

Будзільнік нагадаў, што час выходзіць. А яны не хацелі падымацца, ляжалі, абняўшыся. Маўчалі і адчувалі стук сэрца адно аднаго. Цішыня ў мансардзе стала пяшчотнай, напоўненай каханнем, якое мяшалася з пахам гарбаты.

Хутка яны ўжо ехалі ў маршрутцы, спяшаючыся на вакзал. Дзяўчына казала, што не любіць выпраўляць у дарогу, не любіць махаць аўтобусу, які ад'язджае. Хлопец не крыўдаваў і не настойваў на тым, каб яна ішла з ім да самага перона. Іх сённяшні дзень быў вельмі цёплым, не варта яго псаваць сумным вакзальным развітаннем. Нібы ён нікуды і не едзе.

Хлопец выйшаў на аўтавакзале, а дзяўчына паехала далей.

Пайшоў дождж. Ён схаваўся пад дахам і чакаў свайго аўтобуса. Успомніў, што пакінуў на стале надгрызе яблык і халодную гарбату. Нейкі калаўрот падзей, спешкі, пошукаў, хваляванняў. І нейкае незразумелае пачуццё.

Сум у гэты вечар агарнуў і дзяўчыну. Першы вечар за амаль што двухмесячны тэрмін яны правялі не разам. Было нязвыкла. За гэты час яны моцна прывязаліся адзін да аднаго, даверылі свае мары, думкі, пачуцці, целы — зрабіліся вельмі блізкімі.

Тэлефонны званок перапыніў дзявочыя думкі. Тэлефанаваў ён. Хвілін дзесяць гаварылі пра тое, што сумуюць, што нязвыкла паасобку сустракаць заход сонца. Сувязь была не вельмі добрая з-за дажджу, які моцна барабаніў па шыбах аўтобуса, але яна, здаецца, добра разумела, пра што ён кажа.

Толькі раптам у трубцы пачуўся незразумелы віск, крыкі, шум — і пайшлі кароткія гудкі…

Дзяўчына спалохалася. Набрала яго нумар. Абанент быў недаступны. Яна набрала яшчэ раз. Недаступны. Сэрца пачало біцца хутчэй. Зноў недаступны. Дзесяць хвілін, пятнаццаць, дваццаць, гадзіна — недаступны.

Позна вечарам яна прачытала ў інтэрнэце пра страшэнную аварыю, у якую трапілі фура і аўтобус, на якім ехаў ён…

**5**

У дзвярах мансарды рыпнуў замок. Дзверы адчыніліся ўпершыню за месяц. У пакой зайшла дзяўчына. Спынілася. Агледзелася. На стале ляжаў высахлы надгрызены яблык, у кубку на недапітай гарбаце з'явілася цвіль, навокал — пыл, затхлае паветра…

Яна адчыніла фортку: любімыя пейзажы, якія зараз не цешылі.

Апошні месяц выдаўся цяжкім. Невыносна цяжкім. Цэлы месяц яна не магла зайсці ў гэты пакой. Не хапала часу, не хацелася, не магла набрацца мужнасці. Тут жылі ўспаміны, якія абцяжарвалі яе свядомасць. Тут яшчэ застаўся пах апошняга яднання іх целаў. Тут за зачыненымі дзвярыма і акном засталося жыць каханне.

Успаміны лёталі пад столлю…

Вось іх першыя спатканні. Першы яго нерашучы пацалунак. Яго нязграбныя, баязлівыя поціскі далоні. «Не кіпяці», — кажа яна, абдымае. Ён супакойваецца, а праз пяць хвілін жартуе: «Прабач, што я такі імбрык, але проста ты такая прыгожая, сакавітая, рознабаковая, як твая гарбата. Я хачу быць тваім імбрыкам. Усё жыццё ствараць кіпень для цябе». Яна смяецца, абдымае…

А вось яна вырашыла запытаць: чаму яблыкі, чаму так шмат? «Проста, калі я ствараю вершы, думаю, пішу нешта, арганізм хутка стамляецца, мозг пачынае кіпець, а яблык дае патрэбныя вітаміны для далейшай працы». Тут яна зноў смяецца і дадае: «Думала, у яблыках хаваецца нейкі магічны сэнс, сімвалізм, а ўсё, аказваецца, так празаічна…»

А вось ён піша па скайпе: «Дзякуй, што ты ў мяне ёсць — ты натхняеш! А гэта цудоўны стан!!!» Яна адказвае: «Рада пабыць музай — гэта, дарэчы, вельмі прыемны абавязак». «Мне такога ніхто яшчэ не пісаў...» «Ну, ведаеш, мне таксама…»

Успаміны нахлынаюць спакойнымі марскімі хвалямі і з часам ператвараюцца ў цунамі, якое бязлітасна разбівае свядомасць, — і з вачэй коцяцца слёзы.

З даху мансарды бачны па-ранейшаму прыгожы далягляд, які з кожным днём дзякуючы зеляніне робіцца ўсё больш прывабным. Але аглядаць яго адной — сумна. Няма каго ўзяць за руку…

«А намалюй мне гэту прыгажосць, — неяк папрасіў ён. — Занатуй гэту хвіліну. Заўтра яе можа не быць. Заўтра нас можа не быць, а твае карціны і мае вершы будуць жыць вечна. Занатуй на карціне нас на даху мансарды. Тады і мы станем бессмяротнымі… — ён вельмі любіў марыць. — Уяві: нашы прапраўнукі сядзяць тут і захапляюцца гэтай прыгажосцю, а ў мансардзе вісяць партрэты нашы, нашых дзяцей, унукаў — і яны ганарацца, што памяць бессмяротная! Занатуй сёння, бо заўтра можа атрымацца зусім іншая карціна».

Занатуй…

Яна ўзяла фарбу, палатно і пачала маляваць. Дзень за днём, адну карціну за другой: вось яны глядзяць на зоры; вось пойма ракі і старыя хісткія дамы; вось заходзіць сонца пад мастом, і яны на пляжы, абняўшыся, дзівяцца з таго, як цудоўна промні яго люструюцца ў вадзе; вось нацюрморт з яблыкаў і гарбаты; а вось ён ляжыць у бальніцы ў коме…

Другі месяц не прыходзіць у прытомнасць. Ён ледзь выжыў пасля аварыі, і ўжо другі месяц жыццё яго працягваюць апараты. Яна кожны дзень яго наведвае, чытае вершы, расказвае пра тое, што пішуць яго любімыя інтэрнэт-сайты, як пажываюць

агульныя знаёмыя. А ён маўчыць. І з кожным днём яна ўсё больш баіцца, што ён ужо ніколі нічога не скажа, ніколі не пачастуе сваім смачным яблычным кампотам і не заварыць недзе прыхаванай, той першай, невыносна дрэннай гарбаты…

**6**

Сёння ўпершыню за апошні час яна вырашыла прыбрацца на мансардзе. Вось ужо месяц як яна з раніцы наведвае яго ў бальніцы, а потым ідзе на мансарду — і малюе. Малюе і не заўважае, што яблык ужо цалкам згніў, а ад гарбаты зыходзіць не вельмі прыемны пах. Галоўнае — занатаваць жыццё.

А сёння захацелася прыбрацца. Ці то яркае сонейка пабудзіла, ці то, дзякуючы маляванню, спаў унутраны цяжар. Яна выцерла пыл, памыла падлогу, расклала на месцы ўсе рэчы і развесіла новыя карціны па пакоі. Прысела на канапу і заснула…

Ёй сніўся яблыневы сад. Лета. Яны ідуць на сцяжыне. Ён расказвае пра гатункі яблыкаў, чытае вершы. Яна звыкла трымае яго за руку. Яны спяваюць нейкую песню. А ён не трапляе ў ніводную ноту. Яна смяецца, а ён паварочваецца і моцна яе цалуе. Яны выходзяць да невялікай хаткі, на ганку якой мітусяцца дзеткі, а над дахам лунае паветраны змей.

А вось яны, старэнькія, сядзяць на беразе рэчкі. Трымаюць адно аднаго за руку, як кожны дзень іх першага месяца разам. Яна прыхінаецца да яго пляча і пытаецца: «Што сёння на вячэру?» А ён, нібы ў першы дзень іх знаёмства, адказвае: «Гарбата і яблык».

Яна нібы глядзіць кінастужку. На акне з'яўляюцца радкі яго вершаў, бы цітры. І ўсё гэта быццам намалявана акварэллю. Яна дакранаецца, а фарбы яшчэ не высахлі. Пальцы робяцца рознакаляровымі, а на палатне ад іх застаецца адбітак. З вачэй павольна коцяцца слёзы:

— Так шкада, што гэтага не будзе…

— Чаму не будзе? Яно ўжо ёсць, — рэхам знаёмы голас парушае цішыню…

…Тэлефонны званок пабудзіў дзяўчыну, яна адказала:

— Слухаю.

— Ён толькі што прыйшоў у прытомнасць…

...Яна нервуецца. Зараз адчыняцца дзверы і зойдзе ён. Тры месяцы мансарда сумавала па ім, таксама, як і яна. Два месяцы перад сном мансарда слухала яе малітвы і малілася разам з ёй — і хутка наступіць момант, калі іх малітвы здзейсняцца. Ён жывы зойдзе ў гэты пакой…

Дзверы адчыніліся. На інваліднай калясцы заехаў хлопец. Усміхнуўся таму, што на стале стаяць свежыя яблыкі і прыемны пах гарбаты напаўняе пакой. Але яшчэ больш уразіла выстава карцін, якая была размешчана па сценах пакоя, карцін, якія адлюстроўвалі іх кароткае сумеснае жыццё…

Неўзабаве яны сядзелі на даху мансарды, трымаліся за рукі, глядзелі ўдалячынь. Яна абдымала яго, а ў паветры віселі словы, якія яна сказала яму хвіліну таму:

— Ведаеш, нас наперадзе чакае шмат выпрабаванняў, добрых і дрэнных, цяжкіх і складаных, але гэта нішто ў параўнанні з тымі пачуццямі, якія я адчуваю да цябе, гэта нішто ў параўнанні з тым натхненнем, якое мы адно аднаму дорым, гэта нішто ў параўнанні з тым жыццём, якое мы пражывём разам адно для аднаго…

Адам ШОСТАК

# БУКЕТ ПАХАЎ



***Адам Шостак нарадзіўся 14 чэрвеня 1982 года ў Баранавічах. Паэт, перакладчык, празаік. Аўтар кніг «Спатканне Не» (2006) і «4.33» (2012). Працуе аналітыкам-маркетолагам на прыватным прадпрыемстве.***

* * *

*Арцёму Кавалеўскаму*

у горад дзе сяброўка твая котка
сніць салодкія сны
на лаўцы ля алеі Лайсвэс
ты вяртаешся такі дзівосны

ты з лёгкасцю стаў бы мясцовым
у горадзе з назваю Коўна

## I'M WAITING FOR U

дробна-
дысперсны
пыл
казыча
алергійны
нос
вецер звініць у вушах
на занадта высокіх частотах

самотна зусім
самотна навокал
i'm waiting for
your arrival arrival departure
вакзалы яднаюць
вакзалы аэрапорты

## ВУСНЫ ДА ВУСНАЎ

мама так дзіўна
гутарыць з вамі па скайпе
вуснамі да вуснаў

бачыць усіх
перад маніторам
з невялікай дыяганаллю
на агульнай вячэры

такое дзіўнае свята
калі мы разам мама

* * *

дзесьці далёка-далёка
збіраюць сыравіну
з якой робяць лекі
якія пякуць маё хворае горла
хочацца крычаць ім
крычаць
уголас
я крычу
але не пачуюць
яны — мяне

**БУКЕТ**

сарваныя травы
размінаю пальцамі
ствараю букет пахаў

рукі заўжды
цёмна-зялёныя
водар гаркавы

у букеце маім
заўжды палын

**КНІЖКА ДЛЯ СТРЫЖКІ**

калі тата стрыг
не мог утрымацца на месцы
давалі гартаць кніжку з малюнкамі
улюбёную кніжку пра драпежных
звяроў
у кніжцы мае валасы і пагэтуль
кніжку не бачыў мой сын
бо цярпліва сядзеў слухаў гукі нажніцаў
сыне намалюю тыгра табе
майго ўлюбёнага тыгра з кніжкі
для стрыжкі

**КАРАБЕЛЬЧЫК**

мой карабельчык даплыў
да месца дзе зліваюцца рэкі
Вілія і Нёман
якія тут завуцца
Нярыс і Нямунас

шпацырую па парку Са́нтакос
і выходжу на мыс
слухаць як хвалі б’юцца аб жвір
разбіваюць мой цень
на вадзе

бачу свой карабельчык
змайстраваны татам
выпушчаны ў вузенькую рэчку
прыток вялікага Нёмана

**АЛОЎКІ**

Алоўкі варта заточваць
толькі з аднаго канца;
калі точыш з абодвух,
даўжыня іх скарачаецца,
яны хутчэй спісваюцца.

Знайшоў
шуфляду пагрызеных алоўкаў.

Узгадаў
парады маладога бацькі.

**ПІРАЖКІ**

сын лепіць піражкі —
смайлікі ў мабільніку.

піражкі смяюцца і плачуць.
што рабіць? — пытаюся ў бацькоў. —
смяяцца, смяяцца, смяяцца…

* * *

раз на два тыдні.
калі нейкае свята, то можна часцей.
а так —
раз на два тыдні
тэлефаную ёй.

раз на два тыдні.
па голасе дазнаюся, ці хварэе.
калі так —
праз два тыдні
прасіць набраць.

раз на два тыдні.
хвілін дваццаць актыўнага слухання.
раз на два тыдні.
не ведаю што адказаць.

раз на два тыдні.
чую, тое значыць, што жывая
яна.

* * *

зрабі мне некамерцыйную
прапанову
забыцца
на правілы завязвання гальштукаў
забіць
на інтэлігентную помпу

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

амаль пяць хвілін да пачатку абеду
амаль паўгадзіны да пачатку вясны



*Паліна ЛУК'ЯНОВІЧ*

# ДРАПІНКІ

Мякка пагойдваючыся ў аўтобусным крэсле, я драмала. А можа, трызніла. Цягнула спаць і крыху — ванітаваць, млявасць задурманіла галаву. Нязручна скурчыўшыся, я, напэўна, завязалася ў вузел, бо не адчувала ні рук, ні ног. Галава схілілася набок, шчака прымяла слаба надзьмутую дарожную падушку, лоб прыемна халадзіла шыба. Раз-пораз у цемры за акном успыхвалі ліхтары, рэзкае святло раздражняла заспаныя вочы. Тады я прыўздымала павекі і бачыла пісягі дажджу на мутным шкле. А пасля зноў — чарната. Варочацца не хацелася, і я працягвала драмаць, прытуліўшыся тварам да акна. Міжволі моршчылася, калі сустрэчны аўтамабіль сёк у вочы вострымі промнямі фар. У памяці высвечваліся думкі, карцінкі, фразы — кароткія і глыбокія, нібы драпінкі. Я так і напішу пра Піцер. Штрыхамі-драпінкамі.

* * *

Раніца надарылася халодная, сеяў дробны, дакучлівы дождж. Здавалася, быццам вялізны кот гулліва перабірае кіпцікамі па маім парасоне. Усе чакалі: вось-вось пусцяць фантаны. Заціснутая ў натоўпе незнаёмых людзей, я аглядала стракаты акіян парасонаў. Турысты былі паўсюль: на тэрасе перад палацам, на сходах, на любой прагаліне, дзе не тырчала таблічка «Просьба не ходить по газонам». Размыты імжой краявід нагадваў зярністую карцінку на экране старэнькага тэлевізара. Людзі стаялі шчыльна і непарушна, так што пры ўсім сваім спрыце я не схітрылася згледзець ані Самсона, ані львінае пашчы.

Скажаце, будзённа, празаічна? Так, але я і не рыфмую. Вось што мне запомнілася: цесна, людна, імжыць, а над галавою — растапыраныя спіцы парасона. Знутры прыемна казыча лёгкае, быццам пёрка, хваляванне. Напэўна, такое адчуванне ўзнікае, калі таемна падглядаеш у замочную шчыліну.

Не залаціліся на сонцы раскошныя скульптуры, не звінелі птушыныя галасы, ад старога парка пацягвала цвіллю. Але пад дажджом было ціха і радасна ў прадчуванні фантанаў.



***Паліна Лук'яновіч нарадзілася 24 чэрвеня 1996 года ў Мінску. Тут жыве і вучыцца, патроху асвойвае прафесію журналіста, якой збіраецца сябе прысвяціць. На жаль ці на шчасце, тыповы гуманітарый: змалку цікавіцца літаратурай, мовамі, з цягам часу пачала захапляцца гісторыяй.***

Колькі хвілін — і палілася ледзь чутная музыка. Пакрысе фантаны пачалі абуджацца. Публіку ўскалыхнула хваля замілавання, турысты зашавяліліся, схапіліся за камеры, фотаапараты, мабільнікі. Спачатку вада цурчэла павольна і капрызна, але мелодыя нібыта чаравала яе. Нябачны аркестр граў мацней і мацней, а фантаны паслухмяна ўзнімаліся ўвышыню. Паветра напоўнілася дажджом, музыкай і гуллівымі пырскамі.

Вада біла з-пад ног, вада бубацела па лісці і каляровых купалочках парасонаў. Дзівоснае відовішча. Не, *вадовішча*.

* * *

Мы з сяброўкай паволі ішлі ліпавай алеяй ад фантана «Адам» да фантана «Ева». Раптам захацелася спытаць:

— Юль, кім ты адчуваеш сябе тут, у Пецяргофе?

— Турыстам, які трапіў у неверагодна прыгожае месца і любуецца наваколлем.

— А я… Адчуваю сябе маленькім Пятром.

— Ну, гэта я даўно за табой заўважыла.

— Сур'ёзна. Разумееш, здаецца, усё тут маё: і парк, і фантаны, і палацы. А людзі тут толькі таму, што я запрасіла іх у госці. Пасля яны паедуць, а я застануся адна і буду рабіць, што захачу. Магу і цябе пакінуць, калі пажадаеш.

— Гучыць прывабна, але, баюся, для мяне будзе залішне гонару. Прайдзі крыху наперад, я цябе шчоўкну.

Я адбегла колькі крокаў і, крутнуўшыся на абцасах, стала спінаю да «Евы». Юля прыцэлілася, але хутка апусціла камеру і расчаравана пахітала галавой:

— Не атрымаецца, вашамосць, выбачайце. Вунь тая кампанія наводдаль псуе кадр.

Я азірнулася: трое маіх «гасцей» павольна соўгаліся па алеі, штосьці нягучна абмяркоўваючы. Захацелася філасофстваваць, блазнаваць і велікадушнічаць адначасова. Таму, паціснуўшы плячыма, я міласціва прамовіла:

— Нам сапсавалі кадр, мы некаму сапсавалі кадр. Дазваляю, няхай усе псуюць адно аднаму кадры. Фоткай маленькага Пятра з невядомымі гасцямі. На памяць. Праз гадзіну ў мяне ўжо не застанецца ні фантанаў, ні палацаў, ні гасцей.

* * *

Мы імкліва шыбавалі ў бок аўтобуса, баючыся спазніцца. Каб не працяглы ранішні дождж, сцежка б, напэўна, курэла пад нагамі бясконцай чарады турыстаў. Марудзіць не выпадала, ды адна маляўнічая сцэна прымусіла мяне сцішыць хаду. Побач з фантанам, у атачэнні акуратна пастрыжаных кусточкаў бавілася купка святочна апранутай моладзі. Прысеўшы на кукішкі, жанчына з фотакамерай здымала маладзёнаў: жаніх абдымаў нявесту ў пышным вясельным строі. Хлопцы гучна адпускалі досціпы, чуўся залівісты дзявочы смех. Фатограф пачала тлумачыць нешта, дапамагаючы сабе жэстамі.

А потым малады чалавек падхапіў паненку і пачаў асцярожна кружыць яе. Весела рассыпаліся ўгары пырскі фантана, белая сукенка здавалася пухкай, быццам воблака. Мне падумалася: яны кружацца, як у кіно «Мой ласковый и нежный зверь».

Так развітаўся з намі Пецяргоф. Пабачыць бы тыя вясельныя фотаздымкі.

* * *

Мы выйшлі з гатэля на вузкую Каломенскую вулачку. Юля разгарнула турыстычны план горада і на хвіліну згубілася за гэтай шырачэзнай картай. Я не стрымала ўсмешку: побач стаяла «геаграфія Піцера» на дзявочых джынсавых ножках. Нарэшце мая кампаньёнка паказалася з-за непамернага палотнішча і абвясціла маршрут: спачатку — на Лігаўскі праспект, а адтуль — на Неўскі.

Праз шэрую павалоку хмар нарэшце прарвалася сонца. Змрочныя старыя будынкі адразу павесялелі, і Лігаўка сустрэла нас прыветліва. З першага погляду праспект падаўся мне нейкім запыленым і нязграбным. Шумна насіліся машыны, стомлена бразгаталі рэдкія аўтобусы і маршруткі, пешаходы спешна крочылі па вузкіх тратуарах, і я не заўсёды паспявала з імі размінуцца. Па праўдзе, я мала глядзела па баках, хоць ішла, вырачыўшы вочы. Адчуванне было, нібы мяне аглушылі і закінулі ў вялізны муравейнік. Прыгаломшаная, з дурнавата-шчаслівым тварам, я аглядала шалёны праспект, замурзаны дажджамі, графіці і аблеплены шыльдамі. Пад нагамі чыталіся прыпячатаныя да асфальту аб'явы: «Отдых (девушки)», «Маша», «Лена»... Ніжэй — нумар тэлефона.

На праспект адчыняліся дзверы танных і не вельмі кафэшак, шматлікіх круглasутачных крам. Нам сустракаліся назвы «Белорусские товары» і «Белорусский лён», аднойчы нават і такое сумбурнае найменне — «Белорусский ласунак». Выглядала дзіўнавата, нават недарэчна, але прыемна было адчуць сябе замежнікамі ў горадзе, дзе размаўляюць па-руску.

* * *

А потым знікла сонца. Спёку сагнала ветрам, і неяк неўпрыкмет падкраліся хмары. У спіну накаціў холад, хвіліна — і ўзняўся сапраўдны шквал. З неба пасыпаліся рэзкія і злыя, як кулі, кроплі дажджу. Навальніца заспела нечакана, калі мы з сяброўкай засяроджана адсочвалі свой шлях па карце. Юля скамечыла падмоклае прасцірадла-карту, а я схапілася за парасон.

Тым часам вуліцу залівала. Рэдка хто з мінакоў хаваўся пад парасонам, бо той выварочвала моцнымі парывамі ветру. Многія, асабліва жанчыны, беглі, прыкрываючыся хоць чым, а большасць уцякала ад непагадзі сагнуўшыся, падставіўшы плечы пад хвосткі лівень. Я заўважыла арку, дзе купка бедакоў ратавалася ад залевы, і рынулася туды па лужынах. Пругкія струмені сцябалі па нагах, чаравікі прамоклі ўшчэнт. Скочыўшы пад арку, я перавяла дух. Юля са шкадаваннем агледзела набрынялую дажджом шматпакутную карту. Гаваркі пецярбуржац спачувальна пацікавіўся:

— Вам куда?

— На Невский.

— Это в ту сторону, совсем недалеко.

Калі дождж аціх, мы высунуліся са сховішча і, мокрыя ды зніякавелыя, рушылі ў падказаным напрамку. Вуліца зноў напаўнялася народам. Вопратка ў некаторых была — хоць выкручвай; іншыя кудлацілі рукой мокрыя валасы, сустракаліся і тыя, хто бойка, нават адчайна, шлёпаў па лужынах — што ўжо губляць! Дзіўна, але я не бачыла, бадай, ніводнага сярдзітага ці заклапочанага твару. Пранеслася навальніца, і людзі ўсміхаліся.

Заззяла сонца. У небе над Неўскім выгнуліся дзве вясёлкі.

* * *

Тлумна, шумна, мнагалюдна — так выглядае варушэнне ў дзікіх і глухіх бетонных джунглях. Неўскі праспект не такі. Ён нагадвае багаты дом, звыклы да заўсёдных вечарын, паважных манер і бясклапотных забаў.

Першы крок па Неўскім — і на мяне навалілася неўтаймаванае, яркае жыццё, якое бурапеніла тут безупынна. На прывольнай праезнай частцы — процьма машын, бясконцы кіпучы рух, але пешаходы звыклыя і не надта пужлівыя. У любы зручны момант яны нахабна ломяцца на «чырвоны», аўтамабілі люта сапуць і сігналяць у бяссільным абурэнні. На тратуарах таўкуцца неадчэпы з флаерамі і рэкламнымі ўлёткамі. Аднаго абмінеш, другі ўсуне «рэкламку», а потым у кішэні намацваеш тузін пакамечаных паперак.

Паабапал дарогі цягнуцца нізкі рэстаранчыкаў, бістро і буцікоў на любы густ. Усё, каб задаволіць стракатую неўскую публіку. Я ішла, нібы захмялелая. Ад бясконцага сузірання вітрын замыліліся вока, але на Неўскім мяне ахапіла турысцкая ліхаманка — глядзець, яшчэ, яшчэ і яшчэ. Глядзець прагна, як у апошні раз.

* * *

Сноўдаючыся па горадзе, я здалёк бачыла Казанскі сабор. Аднойчы крадком згледзела яго з акна экскурсійнага аўтобуса. Але тыя ўражанні былі нішто.

Ззяла сонца, я стаяла перад храмам блізка-блізка. І ён ляцеў на мяне, раскінуўшы ўбакі каланады, нібы крылы.

Тады я ўвайшла ў сабор і заплюшчыла вочы, таму мне лягчэй узгадаць тое, што я адчувала, чым тое, што пабачыла. Над галавой, недасягальны і ясны, лунаў купал. Думалася: «На сёмым небе… Так кажуць. Калі ў неба ёсць паверхі, то, напэўна, першы з іх — купал Казанскага».

* * *

На бруку ля Александрыйскага сталпа нязмушана ўладкоўваліся стомленыя хадою турысты. Рассыпаныя па плошчы людзі ляжалі ўпокат, сядзелі, выцягнуўшы альбо падагнуўшы па-турэцку ногі. Некаторыя вырашылі скарыстацца момантам і падсілкавацца, іншыя адпачывалі альбо пазіравалі для здымка. Асабліва апантаныя, а такіх было досыць, кружлялі па плошчы і бесперапынна здымалі адно аднаго на камеру. Але большасць тапталася вакол ваеннай тэхнікі, без дай прычыны выстаўленай перад Зімовым палацам.

Перш чым увайсці ў Эрмітаж, давялося чакаць чаргі ва ўнутраным двары палаца. Народу было багата. Паўсюль чулася гамана, розныя мовы змяшаліся ў няўрымслівае пчалінае гудзенне. Праз шумны рой турыстаў мы нарэшце прасачыліся ў Зімні. Колькі хвілін суцэльнага гармідару: натоўп, штурханіна, лесвіцы, пераходы — і раптам я вырвалася ў даволі прасторны пакой. Пасля ўдушлівай мітусні мяне ахаланула стрыманай пачцівай цішынёй. Адсюль пачыналіся царскія інтэр'еры.

Перад вачыма праплывалі высокія бальныя залы з вычварнымі жырандолямі, аксамітна-змрочныя калідоры, упрыгожаныя габеленамі, вытанчаныя і шыкоўна аздобленыя будуары. Паўставаў далёкі, незразумелы побыт у мармуры і золаце, з чароўнымі фарфоравымі забаўкамі і крышталёвымі бразготкамі.

А са сцен галерэі Раманавых глядзелі тыя, хто некалі звыкла і па-свойску карыстаўся гэтай нечуванай раскошай.

Між тым туфлік імператрыцы Марыі Фёдараўны быў на дзіва невялічкім — як паставіць на мужчынскую далонь. Тысяча з гакам пакояў, больш як паўтары сотні лесвіц — даволі прасторы для гаспадыні з мініяцюрнай ножкай.

* * *

Я зачаравана блукала па Эрмітажы. Губляючыся між лесвіц, галерэй і калідораў, вандравала ад егіпецкіх саркафагаў да антычных скульптур, а пасля праз італьянскі рэнесанс трапляла ў жывапіс Нідэрландаў. Блытана, бязладна, сумбурна я тулялася па розных эпохах, ап'янеўшы ад хараства і захаплення.

Іншаземная публіка таўклася вакол да Вінчы і Рэмбранта, і ў гушчы такіх скопішчаў, бы ў навальнічных хмарах, безупынна паблісквалі фотаўспышкі. На колькі хвілін я далучылася да мастацкага паломніцтва, вядома, з цікавасці, і каб у памяці адзначыць «птушачкай»: *«Бачыла славутыя арыгіналы»*. На жаль і на вялікі сорам, я адчула сябе невукам ва ўсім, што датычыцца жывапісных тэхнік, стылю, манеры і гэтак далей. Але гэта не перашкодзіла мне атрымліваць асалоду ад прыгажосці, якая панавала паўсюль.

У Эрмітажы мне кружыла галаву казачная раскоша мастацтва.

* * *

Прысадзістыя драўляныя сцены пад цагляным панцырам — дамок Пятра. Побач — дружына гонкіх дубоў, падпяразаная доўгім пасам агароджы. Вецер з Нявы калыша зялёныя курчавыя грывы бяскрыўдных вартавых.

А даўней? Тутэйшую дзікую зямлю ўтоптвалі рашучыя крокі гаспадара — вялікага і лютага імператара. Вакол пенілася неспакойная чорная вада. Дзікія берагі ўздыбіліся колкай шчэцю лясоў. Суровы край, сталёвы характар, драўляны будан — так усё пачыналася. Можна паверыць — уявіць цяжка.

…Сяліба напалову схавалася ў засені, падставіўшы другі бок здрадліваму паўночнаму сонцу. Вокны зацягнуты бельмамі фіранак. Хата насупілася, адвярнуўшыся ад шуму і бляску параднага Піцера: бліскучы малады франт даўно вырас са сваёй старой рыпучай калыскі.

* * *

Спусціўшыся пад экстравагантную шыльду «Бродячая собака», я апынулася ў даволі ўтульнай багемнай норцы. Скляпенне, нібы белы ветразь, вырасла над вясёлымі вітражамі, над артыстычнымі пальцамі падсвечнікаў. На афішах побач з сучаснымі паэтамі — Ясенін, Цвятаева, Маякоўскі.

У светлым калідорчыку стаялі на варце фантастычныя псы з пап'е-машэ, каляровых абрэзкаў матэрыі і іншых матэрыялаў. Ад падлогі да столі — росчыркі, жартаўлівыя пажаданні, вершыкі, нават малюнкі наведвальнікаў. Можна доўга аглядаць гэту насценную галерэю забавак і імправізацый, сустракаючы, на ўласнае здзіўленне і радасць, нямала знаёмых прозвішчаў: ад арыстакратычнага подпісу «А. Ахматова» да ўпэўненага «С. Безруков».

Па зялёнай зале святло рассейвалася млявым дымком. Карціны крычалі ў вочы дзёрзкімі фарбамі. На драўляных лавах ляжалі быццам незнарок раскіданыя падушкі. Пуставалі столікі ў роспісах яркіх узораў.

Хацелася выпіць гарбаты, але падсунутае меню я сарамяжліва і паспешна загарнула. Кінуўшы ўсмешлівай афіцыянтцы вінаватае «дзякуй», падалася на выхад. Мае апетыты былі задаволены і адным глыточкам непаўторнай падвальнай культуры.

* * *

Мы хутка занялі месцы на палубе рачнога трамвайчыка. Унізе слаба хвалявалася Мойка, лянотна люляючы наш абшарпаны цеплаход. Халодны золкі вецер слізгаў па скуры, калмаціў валасы жанчын. Ля самага борта, дзе сядзелі мы з сяброўкай, прадзімала наскрозь. Экскурсавод злітаваўся, выцягнуў з салона колькі чорных паліто, ці, хутчэй, шынялёў, і скінуў іх на рукі азяблым пасажырам. Крыху патузаўшы імправізаванае покрыва, даволі шорсткае і цяжкае, мы сяк-так уладкаваліся. А трамвайчык тым часам асцярожна крануўся і паплыў, рассякаючы ваду з пеністым шапаценнем. Гід пачаў звыкла гугніць у траскучы мікрафон.

Ад ветру рака пакрылася рабізной, быццам па ёй пабеглі лёгкія дрыжыкі. Здавалася, Мойку сціскалі дзве вялізныя шэрыя далоні — паўсюль быў камень. Строгі, халодны, часам грубаваты, іншы раз — тонка аздоблены і класічна прыгожы.

Масты маляўніча выгіналі спіны, шпарка праходзіў пад імі цеплаход. Тады густы цень наплываў на палубу, патыхала сырасцю, глухое рэха даносіла плёскат вады. Паўзмрок. А праз імгненне — зноў светлы, ахінуты шызай смугой піцерскі дзень.

Памятаю, як мы мякка кацілі па Фантанцы, адчайна ўзіраючыся, вышукваючы поглядам дробненькую фігурку Чыжыка-Пыжыка. Гэты зухаваты птах — мясцовы талісман і знакамітасць.

Мы мінулі дом, дзе сканаў Пушкін. Аднойчы за павуціннем правадоў і танклявымі ліхтарамі паказаўся прыветны, зусім лялечны, сабор — Спас на крыві. Воблакам сакавітай зеляніны праплыў міма Летні сад. А збольшага — камень, камень, камень…

І раптам перад вачыма разлілася Нява. Прывабная, пышная, як руская барыня. На палубе заварушыліся, пачалі азірацца, ахаць.

Сцюдзёны вецер, зусім ашалелы, калабродзіў над ракой. Ад холаду пальцы сталі белымі і сухімі. Каб сагрэцца, я сціскала кулакі, туліла іх да трубы шырокага калянага рукава. Дыхалася шчодра, смачна.

Заўзята балбатаў экскурсавод. Паўсюль бадзёра бухцелі і пенілі ваду рачныя трамвайчыкі і кацеры. Пранізліва-востра залаціўся шпіль Петрапаўлаўкі. Наперадзе выцягнуўся доўгі і тонкі, што струна, мост. Воддаль, як гіганцкая рыбіна, ляжала на хвалях «Аўрора».

Я не магла налюбавацца Нявой. Шырокая, адкрытая рака патурала людзям з іх цікаўнасцю і пыхай, цеплаходамі і экскурсіямі. А сама таіла цёмную безуважную глыбіню…

* * *

Мы перабраліся на іншы востраў, у раён, забудаваны савецкімі «карабкамі». Пуставатыя прыпынкі, стаптаныя тратуарчыкі… Давялося пятляць дварамі, цеснымі завулкамі, уткнуўшыся ў патрапаную карту. Мы ўпарта прадзіраліся

праз пушчу незнаёмых дамоў у пошуках будынка, пазначанага на карце на скорую руку.

Мы шукалі музей Віктара Цоя. І знайшлі. Надпіс на цаглянай сцяне пераконваў: «Жизнь не подвластна памяти людской, мы не забудем тебя, Виктор Цой…» Мяне здзівіла шчырая, але троху няўклюдная патэтыка. Яна была паўсюль у той ціхай мурзатай падваротні. Высока выпрасталіся сцены, размаляваныя кідка і адмыслова. Позірк міжволі спыніўся на графіці-партрэтах тутэйшага куміра і рок-героя. Побач з заўсёдным «Цой жив» — подпісы розных людзей, што бывалі тут. Штосьці радасна варухнулася ўсярэдзіне ад размашыстых радкоў: «Привет от стенки Виктора Цоя в Минске».

У музеі-падполлі — цьмяныя, чырванаватыя поцемкі. Падвал аклеены афішамі, фотаздымкамі, карыкатурнымі накідамі на неахайных паперках — калісьці іх крэсліў сам паэт. Рабочыя графікі, аб'явы, спісы, набраныя дапатопнай машынкай, — імя Цоя было ў любым дакуменце, налепленым на стракатую сцяну.

Няшумна гучала «Кіно». На падмостках у глыбіні падвала неяк п'янавата грувасціліся барабаны, гітара, падстаўка пад мікрафон. Флегматычная стрыжаная дзяўчына за імправізаванай стойкай выдатна пасавала да ўсяго рокерскага антуражу. На запляваным драўляным стале — колькі куфляў піва, здаровыя дзецюкі перамаўляліся гучна і груба. Крамяны рускі мат. Часам выбухне рогат.

Гэта быў іншы Піцер, які я дагэтуль не бачыла.

* * *

Познім вечарам ля крамы Елісеевых не-не ды затрымаецца гуляка, ахвочы да розных штукарстваў. Праўда, і ўдзень тут няма адбою ад публікі: хто з усмешкай запаволіць крок, хто зачаравана аслупянее, схапіўшыся за камеру, іншы весела гігікне і кіўне сябрам. Але з надыходам цемры падключаецца немудрагелістая ілюмінацыя. Расквечаная сінім, зялёным, ружовым святлом вітрына прыцягвае старадаўняй, бадай, антыкварнай прыгажосцю. За шклом — да наіўнасці простая механіка: няспешна рухаюцца пацешныя фігуркі. Тут і круглатвары салдацік з блазнаватай ухмылкай, і карыкатурная мамзель у парыку, і таўстамясы пекар, што прытупвае на кексе. Круцяцца, насмешліва выкідаюць ногі хітрыя даўганосыя карузлікі. Яны па-гофманаўску нязграбныя, брыдкія, нават вусцішныя і… прывабныя адначасова.

Над гэтай вялізнай табакеркай, поўнай троляў, чарцянят, штучных піrожных ды іншых забаў і прынад, лунаюць гарэзлівыя і сумныя купідоны.

Відаць, браты Елісеевы былі сапраўды кемлівымі дзялкамі. Яны здагадваліся, што людзі — нават тыя, каго не здзівіць ужо ні касмічнымі палётамі, ні галівудскімі спецэфектамі, — ва ўсе часы будуць назіраць з дзіцячым захапленнем, як рухаюцца ў вітрыне цацачныя карузлікі.

* * *

Міхайлаўскі замак акрыў бераг Мойкі, быццам змрочны злавесны прывід… Застылы Лятучы галандзец…

Высозны шпіль пагрозліва настаўлены ў начное неба. Уздоўж сцен — чорныя абрысы дрэў. Пустыя вокны глядзяць халоднай цемнатой. Акружаны вадой, зацяты і маўклівы замак незычліва сустракае позніх гасцей. Здаецца, яму не дае спакою крыўда за свайго нешчаслівага гаспадара — рыцара, забытага ў чужым стагоддзі.

Боязь, прымхі, недавер, падазронасць… Баронячыся ад варожага свету, уяўных і сапраўдных страхаў, імператар Павел з адчайнай паспешнасцю ўзводзіў крэпасць, абведзеную ровам. У сырым халодным замку магістру Мальтыйскага ордэна было спакойна. Але таўшчэзны мур аказаўся не больш надзейным за шкарлупіну…

Неўзабаве пасля трагедыі Раманавы пакінулі гэта месца: асцерагаліся праклёну. А замак, што не здолеў уратаваць гаспадара, ахоўвае ворах прыдуманых легенд і далёкі самотны ўспамін.

Развітваючыся з Міхайлаўскім замкам, я азірнулася.

«Бедны маленькі чалавек», — падумалася мне.

* * *

Беспрытульна і халадна жнівеньскай ноччу над Нявой. На аблiччах сфінксаў — глыбокія ледзяныя цені. Чорная вада вольна гуляе ў берагах, хвалі перакульваюцца адна праз адну і б'юцца ў гранітную набярэжную. Ліхтары абводзяць жоўтымі вачыма пляц і сходы да ракі, пільна сочаць, як Нява кошкай падкрадваецца з цемры, ціха ліжа нізкі каменны прыступак.

Пацепваючыся, я нацягваю капюшон на самыя бровы. Юля побач стукаціць зубамі, хутаючыся ў дарожны плед.

На процілеглым беразе ў змроку часам міргаюць фотаўспышкі: там мерзнуць гэткія ж начныя блукальнікі — нецярплівая публіка. Над ракой, дзе сабраліся катары і лодкі з турыстамі, таксама зрэдку пабліскває.

Безліччу агнёў гарыць Дварцовы мост. За ім раскінуўся цэлы архіпелаг ззяння і святла — Зімні. Па вадзе расплываюцца мяккія блікі: чырвоныя, белыя, залатыя…

Уваччу ўсё мутнее, размываецца так, што бачыцца суцэльны асляпляльны міраж. Зажмурылася — гэта рэзкі вецер нагнаў павалоку слёз.

Раптам мост ажывае, крылы яго памалу пачынаюць разыходзіцца — так паволі ўзнімаюцца бровы на твары здзіўленага, ашаломленага чалавека. А яшчэ так распускаюцца кветкі.

Стаіўшыся, я глядзела, як разрываецца гірлянда агнёў і разлучаюцца берагі Нявы. Няспешна, урачыста, прыгожа, быццам у сне. Такога больш нідзе не ўбачыць. І пачынаеш цаніць рэдкасці жыцця…



*Кацярына ШЧАСНАЯ*

# ЗАСТАЕЦЦА НА ПАМЯЦЬ ЛЕТА

* * *

Чарнагрывы мустанг,
У тваіх крадзеных
З усходу вачах
Дрыжэла прага да волі.

Чаму такі смачны
Салёных прастораў пах
Нам, дзікам з паўночы,
Не зразумець ніколі.

Залаціла сонца высі,
Залаціста было на зямлі,
І толькі мора хацела
Быць незалежна сінім.

Стэп by стэп
коні шлі,
Беручы ад спёкі
свае сілы.

* * *

Застаецца на памяць лета
У кішэні еўраманетай,
*«Добрым рано»* ў крамах,
Марожанага засохлай плямай.

Тут таксама далёка ад мора
Хаты ўверх паўзуць на пагорак,
І салодка на сонца заходзе
Хтось песню пра «очэ» заводзіць.

* * *

У імені тваім абавязковае «*sz*»,
У маім — ні аднаго «ў кароткага»…
У памяці тры мегабайты заняў
Выпадковаю фоткаю.



***Кацярына Шчасная нарадзілася 18 кастрычніка 1984 года ў Баранавічах. Займаецца даследаваннямі сучаснай беларускай мовы ў НАН Беларусі, кандыдат філалагічных навук. Курыруе конкурсы па беларускай філалогіі ў Мінскім дзяржаўным палацы дзяцей і моладзі. Піша вершы і прозу. Любіць сучасную беларускую культуру і ўсё незвычайнае.***

Іскрыліся погляды, цікаў *zegar*,
Сыпаў снег — аўсяныя пялёсткі,
Яны скупалі спрэс антыквар,
Мне хапала толькі на «блёсткі».

Новы прыпынак *metra*
Абмыралі сляды на світанні.
Колькі «девушкой» я была,
А тут адчула, што Pani.

* * *

На ўзбярэжжы Клайпеды
Самыя зялёныя вочы —
Твае.
І каб не каменныя межы,
Павер,
Я б падміргнула табе.
Але я дзяўчынка-скульптура
І з таго боку
Быццам чакае хлапец.
У гэта вераць турысты
І посцяць
Свае наіўныя сэлфі.
Была б я русалкай —
З радасцю
Заблыталася б у сетках.
Пазелянелі б рыбакі
Ад зайздрасці,
Які ў цябе фігурны
Трафей.
Ці ў снах
Пад поўню дзікую,
Стаўшы распуснай кікімарай,
«Цмокамі» гучнымі і
Каленкамі голымі
Задражніла б цябе.
Лепей мужчынам мне быць,
Тады б
У бары «Gražina»
За баскетбол
Ох як хварэлі б
І пілі кактэйль салёны…
Як мора ў ліпені,
зялёныя твае…

Зpraві ўжо
Рыбку чароўную,
Хай хвастом доўгім
Разаб'е яна
Ненавісны камень.

* * *

Душ
Плешча-палошча
Мае ўспаміны,
Пясчынкамі скрабу
Сыплецца час.
Не хапае вады,
Дзе столькі
дажджоў,
Змываю загар
З водарам
мамбы.
Усе воды
Упадаюць у рэкі,
Усе рэкі
Упадаюць у моры,
Адпраўляючы бурбалку,
Веру:
Мой ліст дойдзе.
Абавязкова.

* * *

Ах, той пацалунак
у соснах!
Зліпаліся смалою
Рукі,
І ты быў лясным царом.
Ранняе сонца пякучае
Чараў тваіх
Не ссушыла,
І толькі помню:
Арэшак
з дрэва ўпаў —
Раскалоўся надвое.
Хаваючы летнія рэчы,
Адчула
Тых сосен пах
І сэрца,
разбітае вобзем.

Югася КАЛЯДА

# АПОВЕСЦІ

## ШТО ТАКОЕ ШЧАСЦЕ

Бялізна, якую далі ў цягніку, пахла не брыдка, але па-новаму. Эмільен ужо зусім асвоіўся і без боязі варочаўся на верхняй паліцы, падцягваў прасціну бліжэй да падбароддзя, і ў неразбаўленай цемры купэ, дзе ў зроку не было патрэбы, ён мацней адчуваў рэзкавата-свежы пах цягніковай бялізны. Гэты пах не нагадваў Эмільену нічога з мінулага: проста новы, пакуль што ні добры, ні дрэнны.

Усе памежнікі з мытнікамі прайшлі, цягнік ляцеў па дрымучых лясах, і можна было спаць спакойна, але Эмільен не мог заснуць як след. У вязкай дрымоце ён згінаў і выпроствваў ногі, клаў рукі пад галаву, да таго ж яго адольвалі сны. Эмільен сніў дзяўчыну: яна смяялася, але бязгучна, і праз яе прасвечваў пейзаж.

Цягнік таргануўся, пад вагонам загрукатала, і Эмільен, раптоўна абуджаны, зразумеў, што насамрэч глыбока спаў, бо бачыў паўнафарматныя сны, і, зноўку засынаючы, паспеў падумаць, што, магчыма, якасць сноў абумоўлена тэрыторыяй, бо ён яшчэ ніколі не заязджаў так далёка.

* * *

Рыта нечакана расплюшчыла вочы, села на ложку, ткнулася ілбом у калені і пацерла вушы, у якіх звінела. Гэта, хутчэй за ўсё, убачаны сон так узрушыў мозг, што апошні вырашыў прывесці цела ў стан баявой гатоўнасці. Рыта, гвалтоўна абуджаная нейронавымі сполахамі ва ўласнай галаве, намагалася па гарачых слядах узнавіць хаця б частку сну, але той няўхільна і хутка траціў сэнс і логіку падзей. Адзінае, што паспела ўхапіць Рыта — гэта адчуванне, быццам нехта спаў і сніў яе.

— Дурноцце, — наўмысна ўголас прамовіла Рыта, каб запэўніць сябе ў належнасці да звыклага вымярэння, а не трывожнай бязглуздзіцы сноў.

Камары ўвушшу сціхлі. Рыта выпрасталася пад коўдрай і адчула, што імгненна засынае. На яе імклівa рушыла новая партыя сненняў: падабенства школьных



***Югася Каляда нарадзілася 10 лютага 1981 года ў Гомелі. Жыве ў Мінску. Па адукацыі гісторык і юрыст. Працуе ў галіне рэкламнага бізнесу. Яе кнігу «Галоўная памылка Афанасія» (2005) філосаф Ігар Бабкоў назваў «самым скандальным і контраверсійным літдэбютам дзесяцігоддзя». Творы Югасі друкаваліся на польскай, літоўскай, украінскай, рускай мовах.***

вестыбюляў і аднакласнікаў. Раптам пад локаць Рыце трапіла цаглінка мабільніка, і яна нядбайна запхнула тэлефон пад ложак, экранчык мільгануў, паказаўшы час: 00:52.

* * *

Каторую гадзіну Яўген безвынікова спрабаваў дазваніцца да свайго шэфа. Машына прадзіралася па дварах, круцілася, і Яўген шкадаваў, што параіў кіроўцу «кароткую дарогу». Сутонне па-восеньску хутка пералілося ў ноч, і хаця верасьнёўскія ночы былі яшчэ цёплымі, усё ж лётаць па горадзе на таксоўках з цьмянай перспектывай вяртання дадому — задавальненне ніжэй сярэдняга. Але не паездкі ў пошуках шэфа найперш турбавалі Яўгена, а Юля, якая выбрала не самы прыдатны вечар, каб згубіць ключы.

Яўген у незлічоны раз зірнуў на гадзіннік — была палова на першую. А беднае дзяўчо стаяла ў гэты час у пад’ездзе ля кватэры. Яўген загадаў сястры не выпускаць мабільнік з рук і званіць адразу, як толькі што, — і сам названьваў ледзь не штохвіліны. Юля паведамляла: «Сяджу на падаконні ў пад’ездзе», адмаўлялася ісці да суседзяў. Яўген стомлена глядзеў у лабавое шкло, машынальна спрабуючы звесці разам калені: салон «Жыгулёў» быў замалы для ягоных даўгіх ног.

— Спыніце, калі ласка, тут! — спахапіўся Яўген, разлічыўся з кіроўцам і рушыў да дзвярэй «Трума». Заставалася апошняя надзея, што Жан Мішэль з П’ерам далі нырца ў начное клубнае віраванне ды адрываюцца цяпер там, танцуючы, як зазвычай, пад любую мелодыю павольны танец, абвешаныя дзяўчатамі, нібы рабіны ў лістападзе гронкамі. Тады тлумачылася ігнараванне мабільніка: гучная музыка, дзеўкі, танцы, алкаголь…

Пагатоў, Яўген вылоўліваў Жана Мішэля такім чынам далёка не першы раз: ні шэф, ні ягоныя сябручкі-французы па-руску не маглі і слова сказаць, а мясцовае насельніцтва не цяміла ў мовах замежных. Вось Яўген і ратаваў шэфа, але сёння ён быў гатовы прыдушыць Жана Мішэля.

Начны клуб «Трум» імітаваў карабель са значнай доляй эклектычнасці, у яго насамрэч трэба было спускацца. Клуб месціўся пад зямлёй, сходы, пэўна, былі знятыя з прагулачнага кацера. Яўген, сягаючы па стромых сходах уніз, міжволі задумаўся пра дзяцінства: якая была экзотыка для малога хлопца пакатацца на цеплаходзе, аблазіць яго з носа да кармы, з каюты да верхняй палубы, караскацца па такіх самых лесвіцах з круглымі парэнчамі. Раптам, нібы Яўгена хто сурочыў або ўзгадаў недарэчы, — правая нага сягнула міма, рука слізганула па парэнчах — і ён, азадкам пералічыўшы рэшту прыступак, прызямліўся ля ног ахоўнікаў.

Купка дзявуляў у холе весела засмяялася. Адзін з ахоўнікаў, вялікі хлопец у чорнай майцы, моўчкі працягнуў Яўгену загарэлую руку.

Апечаны сорамам не столькі праз свой палёт па прыступках, як праз хамскую, такую саманадзейную дзявочую весялосць, Яўген падняўся на ногі і адразу намацаў мабільнік у задняй кішэні: не хапала яшчэ застацца без сувязі ў такі вечар. Але тэлефон, на шчасце, не пашкодзіўся.

Яўген зноў на аўтамаце набраў шэфа, аднак без асаблівых спадзеваў. Жан Мішэль не адгукнуўся.

— А ці маглі б вы мяне прапусціць без квітка? — звярнуўся Яўген да ахovы, перакрыкваючы музыку. — Я шукаю свайго сябра, ён француз, і…

— Вашыя французы ўжо сышлі, — перапыніў яго ахоўнік, той самы, які дапамог падняцца, — з гадзіну таму на таксоўцы з'ехалі. Мы іх ведаем, яны часта ў нас бываюць.

Аднак жа! Яўген спыніўся ў задуменні, вырашаючы, што рабіць. У начным клубе грымела музыка, паўсюль былі дзяўчаты на высокіх абцасах. Яўген мала паважаў начную публіку, лічыў, што мае падставы.

Адна з дзяўчат, якая дагэтуль сядзела за барнай стойкай, павярнулася тварам да выхада, і Яўген пазнаў яе: гэта была Вера, суседка па працы, яе офіс месціўся на шостым, а Яўгена — на пятым паверсе. Вера таксама заўважыла суседа, яны кіўнулі адно аднаму.

«О-о-о, і цябе, Вярунчык, не мінуў гэткі ж лёс — на начную рыбалку хадзіць!» — нечакана злосна адцеміў Яўген і адчуў, наколькі ж ён знерваваўся за вечар. І ў той жа момант мабільнік у руцэ затросся, а праз секунду пафасна грымнула Марсельеза: да Жана Мішэля нарэшце вярнулася сумленне.

— Эжэн? — шэф, замест выбачэнняў, здзівіўся, і Яўген зразумеў, што з сумленнем тут ніхто не сябруе. — Эжэн, у мяне да цябе ёсць справа пільная…

«Ясна-ясна, пільная справа… Калі б не пільная справа, ты б пра мяне і не ўзгадаў…» — па інерцыі падумаў Яўген, але далей слухаў начальніка, спрактыкавана збіваючы пал эмоцый да нуля, зрэшты, ён быў «пры выкананні».

«Пільная справа» аказалася шараговай працоўнай сітуацыяй.

— Эжэн, слухай, у мяне тут дзяўчына… Мы крыху не можам паразумецца. Ты папытай яе, калі ласка, як клічуць, што робіць… Ну, ты ведаеш…

— Хі-хі-хі, алё! — слухаўку ўзяла нібыта сарамлівая абранніца. — Мяне завуць Лена, мне дзевятнаццаць гадоў… Я вучуся на гістфаку, другі курс, а бацькі жывуць у Салігорску… А можа, гэта яму не трэба? — раптам затурбавалася Лена. — Можа, не перакладайце пра бацькоў? Ён усё роўна не ведае…

— Дзякуй, Лена, — падкрэслена ветліва перапыніў яе Яўген, — пра бацькоў сапраўды не трэба. Перадайце тэлефон, калі ласка!

І, апавядаючы начальніку лаканічны жыццяпіс ягонай абранніцы, Яўген заўважыў, як ажывіліся-заварушыліся клубныя дзявулі: чакаючы, пэўна, калі Яўген клюне на кручкі абцасаў і голых жыватоў, гатовыя дзёрнуць вуду ў любы момант.

А ўсяго толькі пяць хвілін таму яны заліваліся смехам, калі Яўген нязграбна падымаўся з падлогі. Проста цяпер ён размаўляў па мабільніку на французскай мове.

— Пачакай! — Яўген, адчуваючы скурай абвостраную жаночую ўвагу, ледзь не забыўся на галоўнае. — Дык мне сустракаць заўтра праграміста?

— Ах, божа, так! Безумоўна! З варшаўскага цягніка, ты даведайся, а якой гадзіне ён у Мінску, і ў восьмым вагоне будзе Эмільен. Засяляй яго ў кватэру, знаёмцеся… Сам усё ведаеш!

— Восьмы вагон, Варшава-Мінск, — удакладніў Яўген і па стромых прыступках пачаў караскацца да выхада, ловячы спінай стрэлы жаночых позіркаў, — добра табе адпачыць, Жан-Мішэль… Да сустрэчы…

Яўген выйшаў з-пад зямлі на тратуар і бразнуў дзвярыма «Трума», абабітымі ліставым жалезам з заклёпкамі. Прастора начнога горада, не залітая дашчэнту гукавымі хвалямі, вадаспадамі і вірамі, здавалася нязвыкла пустою.

Ён паскорана рушыў да таксовак, прыціскаючы да вуха тэлефон.

— Юля? Ну ты як?

Яўген пачуў у слухаўцы голас малодшай сястры і супакоіўся. Усе місіі мінулага дня былі паспяхова пройдзены, заставалася даехаць да дому і заснуць, бо вар-

шаўскі цягнік, у якім цяпер спаў праграміст Эмільен, аматар экстрыму і экзотыкі, прыбываў заўтра раніцою.

* * *

Сярод месяцаў восені лістапад для Яўгена заўжды стаяў паасобку. Напярэдадні зімы вуліцы горада быццам расступаліся ўбакі, рабілі крок назад, у двары, і вызваленую прастору запаўняла паветра. Яўген, канешне, ведаў, што пранізлівае адчуванне празрыстасці і высокага неба ствараецца проста: з дрэў ападае ўсё лісце, якое захінала святло. Мужчына за апошнія гады выпрацаваў у сабе цвёрдую звычку прэпараваць эмоцыі, пераводзячы іх з ідэальнага ў сферу натуральнага.

Навакольны свет ад прэпаравання не траціў прыгажосці. Вуліца, якой ішоў Яўген, была заплецена, як гарышча павуціннем, сонечнымі промнямі, шматкроць адлюстраванымі вітрынамі крам. Ён спыніўся ля кіёска набыць газету і нечакана ўбачыў праз танаванае шкло знаёмы твар па той бок вітрыны. Яўген вырашыў не чакаць чаргі ў два чалавекі і, з нястрымнай усмешкай, рушыў у краму.

Там, ля вітрыны, стаяла ягоная аднакласніца, Рыта Ахрэмчык, і ў задуменні сузірала каляровыя гаршкі для кветак.

Восем класаў з адзінаццаці яны праседзелі за адной партай, але пасля школы бачыліся толькі разы тры за дзесяць гадоў.

— Рыта! — Яўген спыніўся за два крокі да аднакласніцы, але тая была вельмі ўражана гаршкамі, бо не варухнулася.

— Эй, Маргоша! — Яўген крыкнуў, мабыць, занадта гучна, бо нешматлікія пакупнікі азірнуліся на яго, Рыта таксама азірнулася.

— Жэнік! — і яны абняліся.

— Ты бачыш, Жэнік, якія робяць гаршкі? Я захацела сабе купіць тры. А што я буду ў іх саджаць? Я не люблю кветкі!

Яўген закаціў вочы.

— Маргоша, я заб'ю цябе. Мы не бачыліся пяць гадоў, а ты пачынаеш мне апавядаць пра гаршкі. А ты замуж не выйшла выпадкова? — і Яўген тарганууў Рыту за правую руку, на якой носяць пярсцёнак.

— Э, цішэй! — Рыта абурана вырвала сваю руку і засунула ў кішэню паліто. — Ледзь не адарваў, псіх. А ты што, прапануеш?

— Адзін-нуль, ты вядзеш! — Яўген засмяяўся. — Маргоша, ты ў сваім рэпертуары.

— Мяне Маргошай ужо сто гадоў ніхто не называў… Мы занадта гучна крычым, — Рыта кіўнула галавою ў бок дзвярэй, і яны выйшлі на вуліцу.

— Не, не замужам і не збіраюся! — Рыта патрэсла пальцамі перад носам Яўгена. — Слухай, можа, сядзем дзе-небудзь, папляткарым?.. А ты бяжыш куды? Я да вечара вольная.

Вырашылі пайсці ў «Маю каханую» выпіць кавы.

Маргоша змянілася, моцна, у лепшы бок. У школе яна была хоць і прыгожай дзяўчынай, але падлеткам, а цяпер навучылася прэзентаваць сябе. Пякельна-чорныя валасы, у вушах нешта блішчыць, заўважна не таннае, і пярсцёнкі на пальцах такія, што заручальнаму няма дзе прыткнуцца. Яркая дзяўчына, нават галавой Рыта цяпер варочала іначай, не так імкліва, як у школе, калі яе дражнілі «папугайчыкам». І безумоўныя плюсы для Маргошы: па-першае, не патлусцела, толькі мякка акругліўся твар, па-другое, не зіхацела забойнай недасяжнасцю, Яўген ніякавата пачуваўся з дасканала-дарагімі дзяўчынамі.

Яўген прыдзірліва вывучаў Рыту. Калі так змянілася аднакласніца, наколькі ж ён стаў іншым?

— Маргоша, слухай, — ён перапыніў яе расповед пра агульных знаёмых, — а я моцна змяніўся?

Рыта абагнала Яўгена на крок і, смешна ідучы спінаю наперад, скептычна агледзела яго з крывой усмешкай:

— Шыя ў цябе цяпер, як у мужыка. І выраз твару такі… Круты. А так… Як быў батанікам, так і застаўся!

Рыта засмяялася, пайшла поруч, а Яўген уздыхнуў з палёгкаю: круты выраз твару і шыя, гэта вам не абы-што!

У кавярні яны селі ў куце. Маленькія анёлкі з празрыстага пластыку, прычэпленыя да столі, павольна закручваліся вакол сваёй восі пад дзеяннем нябачных плыняў цёплага паветра.

Рыта каторы раз спытала:

— Ты скажаш нарэшце, дзе працуеш?

Яўген замест адказу выцягнуў для яе візітоўку.

— Bonheur, — прачытала Рыта па-французску назву ягонай канторы, — бонёр — гэта шчасце. Што такое шчасце?

— Маргоша, ты не паверыш… Пакінь, пакінь сабе! — Яўген не ўзяў назад візітоўку, якую хацела вярнуць Рыта, — гэта афшор, які распрацоўвае софт!

— З французамі працуеш? — удакладніла Рыта. — Якія яны ў цябе… рамантыкі, аднак!

— Яны ў мяне такія рамантыкі, што ты нават не ўяўляеш!

Яўген быў вельмі рады сустрэчы. Бо дзяцінства, юнацтва, школа, усе гэтыя калідоры, класы, парты, дошкі, дзяжурныя па сталоўцы, фізкультура на стадыёне — памяць пачынала патроху заціраць успаміны, але дастаткова было паглядзець на аднакласніцу, якую ўпершыню ўбачыў сямнаццаць гадоў таму ў гольфах ды з бантамі — і выцвілыя карцінкі ўспамінаў набывалі колер, пачыналі рухацца, брынялі гукамі і пахамі.

А па-другое, прыемна было глядзець на Рыту: яна неператварылася ў змучаную жанчыну, якая збольшага ные і скардзіцца на жыццё (а шмат хто ператварыўся на вачах, Яўген быў сведкам), зусім наадварот: цвёрда стаяла на шляху ўшанавання капіталістычных вартасцей, іншымі словамі, спавядала рэлігію: «Дапамажы сабе сам».

Такое меркаванне склалася ў Яўгена за гадзіну гутаркі.

Раптам Рыта страціла ўвагу да размовы і ўтаропілася кудысьці за спіну Яўгена, а выраз твару ў яе зрабіўся такі задаволена-камічны, як у дашкалёнка, які нарэшце ўбачыў штосьці непрыстойнае.

— Ой, Жэнік… За намі такая цікавая парачка… Не азірайся, цішэй! Азірнешся, калі я скажу… Мужык італьянец, маленькага росту, зусім маленькага, метр пяцьдзясят… А з ім дзяўчына нашая, пад два метры! І яна яму тлумачыць на пальцах: ю лайк мі, ай лайк ю… — і Рыта перадражніла дзявочую пантаміму.

Яўген азірнуўся ў той жа момант, нават не спрабуючы зрабіць выгляд, што зацікаўлены нечым іншым, акрамя парачкі. Але ім было не да Яўгена: маладая, гадоў дзевятнаццаці, дзяўчына няспынна адкідвала даўжэзныя пасмы валасоў за спіну і, засяроджана ссунуўшы бровы, навісаючы над столікам, упарта паўтарала гномікуітальянцу: «Ю лайк мі…»

Яўген грэбліва скрывіўся:

— Не разумею, Маргоша, што ты бачыш у гэтым смешнага!

Рыта, здзіўленая ягонай рэакцыяй, не данесла каву да рота, паставіла кубачак на стол:

— А хіба гэта не смешна? Такія адчайныя спробы дзяўчыны як мага выгадней прадацца ў сексуальнае рабства — гэта не проста смешна, тут можна схаванай камерай камеды здымаць!

— Ну, можа, табе і смешна, як дзяўчыне, — Яўген ужо не крывіўся, засяроджана ганяў саломінкай лёд у стакане з сокам, — як дзяўчыне, па якую такія збіральнікі фальклору стаяць у чэргах… А як хлопцу мне не смешна ані трохі. Мне крыўдна за нацыю!

— Ах-ах-ах! — Рыта так пляснула рукамі, што празрыстыя анёлкі над сталом заторгаліся на нітачках. — Божа, якія словы! Пры чым тут нацыя?

— Рыта, ты проста не ўяўляеш, у якіх прамысловых маштабах гэта адбываецца! Я ж працую з французамі…

Рыта засмяялася:

— Ты так сказаў, нібыта з маньякамі насамрэч справу маеш! Быццам французы такія адрозныя ад астатніх…

— А розніцы няма, — Яўген адкінуўся на спінку крэсла і наўмысна гучна сербануў сок праз саломінку, — французы, немцы, бельгійцы… І заслугі іхняй тут таксама няма. Ты не ўяўляеш, Маргоша, я табе кажу! Гэта жах! Варта толькі любому замежніку дзе з'явіцца — у рэстаране, начным клубе, на канферэнцыі, неістотна дзе, — і што тут робіцца з дзеўкамі! Хвіліну таму была такая прыстойная, незалежная, мастацтва, філасофія, кар'ера, але як даведаецца, што: «Ах, твайго сябра клічуць Жан Мішэль…» Рыта, ты б гэта бачыла! Як падмянілі яе! Чапляецца на шыю ў адкрытую, не хаваецца! І, даруй, кладзецца ў ложак у той жа вечар!

— Смачна есці, Жэнік, — Рыта паказала пальцам на сваю шчаку, дзе месціўся недажаваны кавалак торта. — Які ты красамоўны… І перастань сёрбаць, калі ласка, бо афіцыянт нас зараз выкіне адсюль, і больш ніколі нас не пусцяць у прыстойнае месца…

— Нічога, — Яўген перастаў сёрбаць, як прасілі, але не менш гучна забулькаў. — Не пусцяць — мы прыкінемся французамі, — і, ледзь не праліўшы сок, падскочыў разам з крэслам, бо аднакласніца пнула яго пад сталом па назе.

— Значыцца так, — Рыта даела торт, выцерла рот сурвэткай і адкінулася на спінку крэсла, аўтарытэтна склаўшы рукі на грудзях, — усё працей і не так трагічна, як ты тут малюеш. У прамысловых маштабах адбываецца не распуста, а эканамічная эміграцыя. Гэтыя замежнікі — транспартны сродак, каб адсюль з'ехаць.

— Ах, Маргоша, — Яўген паблажліва ўсміхнуўся, — гэта два разы не распуста, ну тры. Добра, пяць разоў не распуста. Я, зрэшты, іншае слова ўжываў бы, трапнейшае. А калі штодня па сотні прэтэндэнтак на адзін транспартны сродак… Ты паслухай, у якія гульні тут французы гуляюць. Жан Мішэль з П'ерам, яны ж, як прыехалі, адразу завялі сабе анкеты на сайтах знаёмстваў. І я ж завёў… Кантрольны экзэмпляр, Маргоша, алё! — Яўген прыкрыкнуў на аднакласніцу, якая ткнулася ілбом у стол ад смеху. — І я завёў… Дык ты слухай, хопіць рагатаць! У нашай краіне, ведаеш, бессэнсоўна пісаць на сайце знаёмстваў, што ты беларус. Хіба што парачка італьянскіх аматараў адгукнецца… А гэтыя ж нічога не зрабілі! Яны проста напісалі: «Француз». І ты б бачыла…

Рыта зноў пачала валіцца набок у прыпадку смеху, бо Яўген, захоплены аповедам, жэстыкуляваў не раўнуючы агрэсіўная дзявуля з італьянцам.

— Па дваццаць дзевак пісалі на дзень мінімум! І ў кожнай па тры рэплікі: як клічуць, колькі гадоў і згодная на сустрэчу! Слухай, што французы прыдумалі.

Пачалі прызначаць спатканні на Нямізе за столікамі на другім паверсе. За адным і тым жа столікам. Жан Мішэль сядаў, нага за нагу, у правай руцэ бутэлька з півам, левай абдымае чарговую дзяўчыну. А П'ер фатаграфуе. І наадварот. І ведаеш што… Праз месяц яны на офісе стэнд зрабілі з фоткамі. Відовішча жахлівае, але павучальнае. Сорак дзевак, адзін я называецца. Вось як у нас адбываецца эканамічная эміграцыя.

Рыце нават расхацелася смяяцца, настолькі пасур'ёзнеў Яўген. Яны крыху пасядзелі моўчкі, Рыта барабаніла пазногцямі па стале, засяроджана вывучаючы анёлкаў над галавой.

— Слухай, — раптам спыталі яны адначасова, і Яўген паматляў рукой, — ты першая!

— Слухай, Жэнік, а як там Юля? Ёй ужо гадоў дваццаць, пэўна?

— Дваццаць тры, — удакладніў Яўген пра сястру, — працуе перакладчыцай у мяне.

— І не баішся ты за яе? — пацікавілася Рыта. — У вашым «Шчасці», я так разумею, ад французаў падзецца няма куды!

— Хм, — Яўген у роздуме пакратаў нос, — не сказаць, што баюся… Я проста ў ёй упэўнены. Юля не будзе ніколі шукаць сабе такі… транспартны сродак, як ты кажаш. Да таго ж яна не з людзьмі працуе, а праграмы перакладае… Хіба што праграміста раз на тыдзень бачыць. Слухай, пра яго табе яшчэ не распавёў.

— Гэта П'ер праграміст? — удакладніла Рыта.

— Не-е-е, там зусім іншая гісторыя! Смешная, — Яўген зноў ажывіўся, — Эмільенам клічуць праграміста. Я з яго чалавека зрабіў за тры месяцы!

— А што, цікава, французскі праграміст згубіў у нашай нябліскай краіне? — Рыта таксама наноў пачынала весяліцца.

— Проста сябар Жана Мішэля, там іншая гісторыя, — Яўген махнуў рукой, — ты слухай. Потым будзеш абвяргаць міт, маўляў, французы — самыя элегантныя і вытанчаныя мужчыны… Нікога не слухай. Прыехаў да мяне гэты цуд. Тыповы праграміст, як у анекдотах. Лясны чалавек. Чорны, нязголены, на вонкавы свет не рэагуе, ажыўляецца ля манітора. Ай, Маргоша, як я яго вучыў мыцца штодзень! А чаго мне каштавала зацягнуць яго ў касметычны салон… Не, ты ўявi: едзе ў дзікую краіну, а тут яму распавядаюць, што мужчынам трэба карыстацца крэмам для твару… Збольшага яго прывёў у чалавечы выгляд. Нядрэнны хлопец, я тут перабольшыў крыху. Добры чалавек ён, чулы… Рытка, супакойся! — і Яўген прыкрыкнуў на аднакласніцу, якой зноў авалодаў прыпадак смеху. — Ты лепей, Маргоша, распавядзі, як там у цябе прыватнае жыццё. Муж, дзеці, усё такое.

— Ай, — Рыта з энтузіязмам дзяўбла лыжачкай шарыкі марожанага, ператвараючы іх у кашу, — і муж, і дзеці ў мяне на даляглядзе, а далягляд, Жэнік, як мы ведаем са школы, гэта ўяўная рыса, якой дасягнуць немагчыма, бо яна заўсёды аддаляецца.

— Што, так дрэнна? — шчыра спачуваючы, заківаў галавой Яўген. — А праблема ў чым? Ты ж, здаецца, нішто сабе дзяўчына, прыгожая, разумная… У школе такой цікавай была, папулярнай…

— Чаму дрэнна, Жэнік, зусім нядрэнна, калі прывыкнуць. А прывыкнуць, — Рыта ўрачыста ўзняла дагары лыжачку ад марожанага. — А прывыкнуць за дваццаць сем гадоў можна так, што лянота адвыкаць. Так што праблема, Жэнік, у тым, што я патрабую нерэальнага. Брэда Піта, напрыклад, — Рыта сувора зірнула на Яўгена, але не вытрымала і рассмяялася.

— Ну-ну, Маргоша… Брэда Піта… Эканамічная эміграцыя?

— А, глядзі, дарэчы, — Рыта тыцнула пальцам за спіну Яўгена, у бок дзвярэй, — яшчэ адна парачка!

Яўген азірнуўся — і пад лыжачкай чамусьці непрыемна засмактала. Ля ўвахода мужык не нашага выгляду дапамагаў зняць сваёй спадарожніцы паліто, і гэтай спадарожніцай была Вера, дзяўчына з офіса на шостым паверсе.

— Маргоша, ціха! Гэта знаёмая мая, — прашаптаў Яўген, хутка разважаючы, як найлепей павітацца і ці вітацца ўвогуле.

Але праблема імгненна вырашылася: Вера заўважыла яго і падышла да століка з радаснай усмешкай. Яўген ажно зніякавеў: яны не былі настолькі блізкімі сябрамі, каб кідацца ў кафэ насустрач адно аднаму.

— Добры вечар, Вера! — Яўген падняўся, павітаўся за руку з Верчыным спадарожнікам. Ягоныя круглыя акулярчыкі ў залаценькай апраўе, каляровы шалік, накручаны на шыі, шэрае паліто і ўскудлачаныя патлы ўвялі Яўгена ў зман: мужык аказаўся не немцам, а суайчыннікам, з багемы ці каля таго. Сярод мастакоў водзяцца такія тыпы ў шаліках.

— А гэта Лёня, мой сябар, а гэта Яўген, мы разам працуем, — патлумачыла Вера.

— Гэта Вера, мы працуем… А гэта Маргарыта, мая аднакласніца! Мы сядзелі раней за адной партай, ды вось даўно не бачыліся, — перахапіў эстафету знаёмства Яўген.

Усе чацвёра пачалі адначасова казаць: «Дзякуй, вельмі прыемна, вельмі прыемна!», прыязна ўсміхацца і ківаць галовамі, але раптам замаўчалі. Надышоў няёмкі момант, калі хтосьці мусіў сказаць: «А сядайце, калі ласка, да нашага століка!» ці наадварот: «Ну добра, не будзем вам перашкаджаць!» Але ніхто не браў на сябе ініцыятыву, і Яўген, нібыта ў запаволеным кіно, раптам убачыў сябе звонку: як ён азіраецца, ківае афіцыянту, паварочваецца да Веры з ейным мастаком і, разводзячы рукамі, прамаўляе:

— Але, на жаль, мы ўжо сыходзім!

І Яўген прыбіў позіркам Маргошу да спінкі крэсла.

Вера з Лёнем рушылі ў глыб залы.

Рахунак чакалі ў поўнай цішыні.

Яўген ледзь дачакаўся, калі за імі зачыняцца дзверы кавярні. Вечаровыя вуліцы былі дашчэнту заліты кактэйлем з вільготнай цямрэчы і ільдзянога ветру. Рыта падняла каўнер паліто і засунула рукі глыбей у кішэні.

— Слухай, ты вар'ят, — нязлосна, але са здзіўленнем канстатавала яна, — чаго ты ўцёк? Твая Вера, ясны дзень, хацела да нас далучыцца, а ты яе абламаў. Не ведаю, можа, у вас там карпаратыўныя інтрыгі, офісныя войны якія… Можа, забараніў табе Жан Мішэль з выбранымі дзяўчатамі камунікаваць па-за працай?

Вецер трапляў Рыце ў твар, яна адварочвалася: яе чорныя пасмы вырваліся на свабоду і смешна матляліся пад носам, лезлі ў вочы, але Рыта не прыбірала іх: холадна было выцягваць рукі з кішэняў.

Яўген не адказваў, а Рыта пільна высочвала ягоныя рэакцыі, як следчы на допыце, і раптам урыўкі яе назіранняў склаліся ў версію.

— Слухай, — радасна паведаміла Рыта, — а ты, аказваецца, закахаўся ў гэтую Веру! Так трымціш перад ёю, ажно сябе не кантралюеш!

— Не кажы лухты! — Яўген паскорыў крок, і аднакласніца рушыла за ім ледзь не подбегам.

— А навошта ты так спешна ёй тлумачыў, што мы з табой разам вучыліся? Мог проста сказаць, што я сяброўка, — не спынялася Рыта, — яна ж з табой не дзялілася падрабязнасцямі сяброўства з Лёнчыкам! Дарэчы, ты яе прыраўнаваў адразу, про-

стым вокам заўважна было… А гэтай Верай варта захапіцца, чаго ты саромеешся? Яна такая прыстойная, выхаваная, сукенкі носіць з каўнерыкам… Заўважна, што з добрай сям'і дзяўчына…

— Маргоша, калі ты зараз не спыніш гэтыя брудныя інсінуацыі, я не ведаю, што зраблю табе! — Яўген, перабольшана раззлаваны, рэзка спыніўся, і Рыта па інерцыі прабегла наперад добрыя два метры.

— Ну ладна, супакойся! — яна стаяла, заклаўшы рукі ў кішэні, і ўсміхалася. Вецер на гэтым адцінку вуліцы закручваўся ў вір, і Рыта трапіла ў чортава вока: яе валасы напоўніліся ветрам, падняліся ўгору і трымцелі над галавой, як калматае чорнае полымя, кавалькада скамечаных паперак пакруцілася вакол яе ног і панеслася вышэй па вуліцы на шалёным лістападаўскім віхуры.

Яўген, уражаны, забыўся на абяцаную помсту, колькі секунд агаломшана сузіраў метамарфозу аднакласніцы, чакаючы наступных дзівосаў, але зачараванасць няўхільна і хутка знікла. Яўген рассмяяўся, узяў Маргошу пад локаць і выцягнуў з зоны турбулентнасці.

Рэшту шляху да таксовак яны бавілі неістотнай балбатнёй, показкамі і ўспамінамі, пры развітанні дамовіліся сазвоньвацца як мага часцей.

* * *

У першую нядзелю снежня Рыта пастанавіла як след выспацца, але не давялося: а палове на дзясятую настойліва зазваніў тэлефон. Званіў ён не адну хвіліну, пакуль яна бегала босымі нагамі па халоднай падлозе, шукаючы слухаўку.

— Алё, — хрыпла выгукнула яна і, незадаволеная вынікам, паўтарыла паўнавартасна: — Алё!

Званіў Яўген.

— Алё, Маргоша? Ты спіш?

Рыта вярнулася ў ложак, замоталася ў коўдру і заплюшчыла вочы.

— Добрай раніцы, Жэнік. Распавядзі мне нешта, але вельмі цікавае, бо інакш ты застанешся мне вінен рэшту жыцця. Я рэдка ў якую нядзелю магу паспаць, а ты мяне пазбавіў такой цудоўнай магчымасці… — і Рыта пазяхнула.

— Ой, Маргоша, распавяду вельмі смешнае! — Яўген весяліўся, а Рыта намагалася не праваліцца наноў у сон. — Я тут з Эмільенам такі жарт зладзіў! Ты памятаеш, праграміст наш…

— Ага, ага, — прамармытала Рыта, — распавядай, я слухаю…

— Карацей, ты дасылала мне фатаграфіі свае надоечы, і я зарэгістраваў сабе анкету на сайце знаёмстваў, толькі жаночую, павесіў туды твае фоткі і ад твайго імя Эмільена развёў на такі віртуальны раман!!!

— Ха-ха-ха, як смешна і дасціпна, — спакойна адгукнулася Рыта.

Яна ўжо канчаткова прачнулася і вывучала кавалак неба, які быў бачны праз акно, калі ляжаць на ложку: спрабавала здагадацца, якое надвор'е на вуліцы.

— Ай, ну цябе! — пакрыўдзіўся Яўген на яе абыякавасць. — Я ўчора ўвечары тры гадзіны рагатаў, ад смеху заснуць не мог, а з раніцы табе хутчэй тэлефаную, каб павесяліць! А ты…

— Жэнік, ты не зважай, мне сапраўды смешна. Проста пасля сну ў мяне рэакцыі не зусім адэкватныя. Дык што там з віртуальным раманам? — пацікавілася Рыта і зноўку пазяхнула.

— Дык вось, самае цікавае, — ажывіўся Яўген, — цэлыя тры дні ты балбатала з Эмільенам на выдатнай французскай мове! Ён сядзіць спінаю да мяне, так што ў

яго манітор я зазіраў бесперашкодна… А ўчора спаліў яго, і так жорстка, мне ажно сорамна, але як я мог такі момант згубіць? Не, Маргоша, ты разумееш, такія анекдоты здараюцца, можа, раз на дзесяць гадоў! І трэба ж неяк адбіць ім ахвоту па нашых дзеўках хадзіць… Але ты ведаеш, пра Эмільена я так сказаць не магу, ён, выходзіць, адпакутаваў за грахі кампатрыётаў сваіх…

— Эй, Жэнік, ты ад тэмы аддаляешся, — нагадала яму Рыта, ёй ужо нават было цікава, — як ты спаліў Эмільена?

— Слухай, мы з ім балбочам, а я гутарку наўмысна падводжу да музыкі. У яго на кампе музыка грала, зборкі з розных песень, і вось Рамштайн зайграў, і тут я кажу: а ў цябе ў калонках, маўляў, такая песенька добрая гучыць, яна мне вельмі падабаецца. Песня старая, праўда, не зусім актуальная, але ўсё адно!

Рыта ўсміхнулася, уявіўшы рэакцыю невінаватага праграміста.

— Рытка, ты не паверыш: я ніколі не бачыў, каб чалавек чырванеў як бурак за дзве секунды! Ён ледзь пад зямлю не праваліўся ад сораму, калі ўбачыў, як я пад сталом са смеху паміраю! Я ў яго потым доўга прабачэння прасіў, і яшчэ ў рэстаран мне яго давялося весці ўчора, вячэрай карміць… Ты схадзі паглядзі сваю анкету, я табе спасылак у пошту накідаў. Пароль ад твайго акаўнта — адзін, два, тры, чатыры, пяць. Толькі, Рытка, ты абавязкова паглядзі, там прыстойная анкета, я душу ўклаў, пакуль прыдумаў! Там розныя лузеры табе лістоў панапісвалі, ты пачытай…

— Ты вар'ят, Жэнік, — падсумавала Рыта, пераадольваючы чарговы позех, — добра, я пагляджу тваю анкету…

Яна ўжо стаяла ля акна, у прагале фіранак, а паміж ёю і бясколерным зімовым днём шырылася вільготная пляма кандэнсату ад дыхання на халодным шкле. Рыта пальцам аўтаматычна накрэсліла на пляме сардэчка, потым зацерла яго ўсёй даланёю — па шкле пабеглі ручаінкі. Рыта глядзела, як падае снег, мякка кладзецца на сумёты, пад якімі з учора і да наступнай адлігі схаваліся дзіцячая пясочніца, кусты і чатыры лавачкі ў двары.

* * *

Два офісныя пакоі, і без таго невялікія, спрэс былі завешаны гірляндамі. Штучныя ёлачкі, зробленыя з мішуры, белай і сіняй, стаялі на працоўных сталах, па дзве на кожным. Пры жаданні можна было напружыць зрок і адшукаць яшчэ колькі святочных артэфактаў, усё гэтае багацце засталося ў спадчыну ад французаў, якія ўдалечыні ад радзімы карпаратыўна адсвяткавалі свой Ноэль. Таму на звыклы Новы год Яўгену не давялося напружвацца з убіраннем офіса. Ён планаваў пакінуць гэтыя ёлкі тут да старога Новага года: каб расквечвалі офісны побыт.

Яўген сядзеў у сваім крэсле, заклаўшы рукі за галаву, і вяла змагаўся з назольным жаданнем пакласці ногі на стол. Часцяком ён так і рабіў, без рызыкі быць убачаным Жанам Мішэлем ці падначаленымі, нядзелі, напрыклад, усе былі ягонымі. Але сёння зраніцы ў офіс прыцёгся Эмільен, кіраваны матывамі, неспасцігальнымі розумам звычайнага чалавека. Спробы высветліць, навошта Эмільен падняўся так рана, калі няма ніякай тэрміновай работы, скончыліся поўнай паразай Яўгена. Цяпер ён круціўся на крэсле, сузіраў спіну Эмільена, сагнутую цяжарам працы, і чакаў Рытку: яны дамовіліся сустрэцца і пагуляць дзе-небудзь.

Нечакана дзверы адчыніліся, і з калідора ў пакой трапіла ружовая калматая субстанцыя. Яўген ад нечаканасці ледзь не зваліўся з крэсла, нават абыякавы Эмільен каротка выказаўся па-французску. Субстанцыя засмяялася чалавечым голасам і аказалася Рытай у ружовым пухнатым футры. Рытчыны валасы, закруча-

ныя на патыліцы, мацаваліся дзвюма чорнымі палачкамі, таму здавалася, што з яе галавы тырчаць дзве ахайныя антэнкі. Цёмныя акуляры, вельмі прыдатныя ўзімку, закрывалі палову твару.

— Маргоша, — Яўген выйшаў з-за стала і пайшоў ёй насустрач, ты выглядаеш фантастычна.

— Пазнаёмцеся! — сказала Рыта, і Яўген нечакана ўбачыў, што сяброўка прыйшла не адна.

З Рытай у пакой увайшоў высокі хлопец.

— Гэта Арцём! — радасна паведаміла Рыта.

Арцём таропка павітаўся з Яўгенам і Эмільенам за руку, папрасіў выбачэння: маўляў, спяшаецца, і ўцёк, на развітанне пацалаваўшы Рыту ў шчаку.

Як толькі дзверы за хлопцам зачыніліся, Яўген, перабольшана здзіўлена, спытаў:

— Маргоша, гэта хто? — хаця на сто дваццаць працэнтаў мог прадказаць адказ.

— Я табе ўсё распавяду, — запэўніла Рыта.

Яна зняла пухнатае футра і, трымаючы яго ў руках, шукала, куды павесіць.

— Дай мне, — Яўген узяў у яе ружовае дзіва і прыладзіў на суседняе крэсла, — дзесяць хвілін, Маргоша, і я буду гатовы…

І тут адбылася нечаканасць. Эмільен, які дагэтуль нібыта выяўляў поўную абыякавасць да падзей і дыялогаў, раптоўна падняўся, павярнуўся да Яўгена і, пазіраючы яму ў вочы, рашуча прапанаваў пайсці ў суседні пакой — пагаварыць.

* * *

Эмільен адразу пазнаў яе, як толькі галава з антэнкамі прасунулася ў дзвярную шчыліну. Яна магла б нават не здымаць сонечных акуляраў. Дзяўчына з інтэрнэту! Тая, што так жахліва пажартавала з яго. Але хутка Эмільен узгадаў, што дзяўчына не мае да жарту ніякага дачынення, бо жарт быў зладжаны ўласнаручна Эжэнам. А навошта тады так дзіўна, нібыта па змове, дзяўчына з'явілася ў офісе менавіта тады, калі яму спатрэбілася паразмаўляць з Эжэнам? Які дзіўны збег акалічнасцей… Калі б яшчэ ён разумеў іхнюю мову, тады прасцей было б арыентавацца, а так ён пачуваўся экзатычнай рыбай: нібыта ў вадзе, разам з усімі, але ў сваім асобным акварыуме.

Збег акалічнасцей… Дзяўчына з'явілася не адна, а са сваім каханкам, які дэманстратыўна пацалаваў яе ды ўцёк… Навошта?

А зрэшты, весела спахапіўся Эмільен, уся гэтая лухта ўжо не мае ніякага сэнсу! Усё перамянілася, і гэта цудоўна. Гэта настолькі цудоўна, што не змяшчаецца ў словах. Эмільен быў упэўнены: ягонае шчасце такое новае, што для яго азначэння словы яшчэ не паспелі сфарміравацца. Усё перамянілася, і гэта цудоўна, застаўся апошні крок — устаць, павярнуцца да Эжэна і, пазіраючы яму ў вочы, прапанаваць пагутарыць у суседнім пакоі.

* * *

Хлопцы зайшлі ў суседні пакой, і Рыта засталася адна. Наўмысна балансуючы на абцасах, яна абышла кабінет па перыметры, спынілася ля акна, пастаяла, вывучаючы від горада з незнаёмага ракурсу, зайшла за стол Яўгена і села ў ягонае крэсла на колцах. Крэсла было важкае, у такім, калі добра адштурхнуцца, можна зрабіць каля

дзесяці поўных абаротаў. Рыта ўзгадала, як яна бавілася так у працоўным татавым кабінеце, з таго часу прайшло гадоў пятнаццаць, калі не болей. Разам з крэслам яна выкацілася на сярэдзіну пакоя, села глыбей, узялася за ручкі і моцна адштурхнулася нагой ад суседняга стала.

Цэнтраімклівая сіла прыціснула яе да спінкі крэсла, а змесціва кабінета злілося ў каляровыя палосы. Мазгі пертварыліся ў більярдныя шары, застукалі ў лобныя і скроневыя косткі, а памяць прыцягнула ўспамін: дзіцячае адчуванне нахабна-ўпэўненай радасці.

Рыта круцілася, таму і не паспела ўгледзець выраз твару Эмільена, які выбег з кабінета, схапіў куртку і знік у калідоры, незнарок ці наўмысна ляпнуўшы дзвярыма. Яна пачала перабіраць нагамі па падлозе, каб спыніцца, але неўзабаве з кабінета выйшаў Яўген і моўчкі ўзяўся аберуч за скураную спінку крэсла.

Рыта асцярожна паднялася, намацала рукамі за спінаю стол, абаперлася і гэтаксама асцярожна, моўчкі паглядзела на Яўгена ў чаканні тлумачэнняў. Але той стаяў, паклаўшы падбароддзе на чорную скуру, і ўтароплена глядзеў на шпалеры. Выдавала на тое, што хвіліну таму за сценкаю адбылося штосьці непапраўнае, з ухілам у трагедыю.

— Эй, Жэнік, — насмешліва, каб аднавіць раўнавагу, паклікала сябра Рыта, — Жэнік! Ты што, атруціўся? Язык праглынуў? Што твой француз табе зрабіў?

І Рыта штучна засмяялася, але ў наступную ж секунду адчула, як ад жаху, які імкліва набіраў хуткасць, засвісцела ўвушшу: а раптам насамрэч адбылося штосьці, вартае такой рэакцыі?

Але Яўген, дзякуй богу, ачомаўся:

— Ай, Маргоша, усё выдатна, — прамовіў ён нармальным голасам, і адразу ж, блазнуючы, ткнуўся ілбом у спінку крэсла і застагнаў. — Я забіты, Рытка, забіты! Жыццё згубіла сэнс. Лёс нанёс мне цяжкі ўдар. О-о-о-й, Рытка, о-о-о-й!.. Што адбываецца, о-о-о!.. За што-о-о!..

— Ай, цьху на цябе, Жэнік, — з палёгкаю ўздыхнула Рыта, — мы гуляць ідзём? Ці ты ўжо непрацаздольны?

— Ідзём, ідзём! — Яўген адарваў лоб ад спінкі і закаціў крэсла пад стол. — Давай, апранайся!

Рыта, дзьмучы па звычцы на ружовае футра, назірала, як Жэнік пільна аглядае пакоі, правярае вокны, замыкае дзверы і ставіць офіс на сігналізацыю.

Яны няспешна пайшлі ўгару па вузкай вуліцы. Рыта на васьмісантыметровых абцасах ледзь перастаўляла ногі па коўзкім бруку. Жэнік, прыбіты таемнай навіною, сумна ішоў побач.

— Ты скажаш, што здарылася? — Рыта так і не дачакалася, пакуль Яўген пачне апавядаць.

— Эмільен і Юля, — ён пхнуў мыском чаравіка лядзяш. — Эмільен сустракаецца з маёй сястрой ужо цэлыя тры тыдні, пра што мне сёння ўрачыста паведамілі… Эмільен і Юля! Ты ўяўляеш?.. Хто б мог падумаць…

Лядзяш праляцеў па бардзюры і спікіраваў на праезную частку, Яўген з Рытай заваражана прасачылі за ім вачыма.

— Хм, — няпэўна выказалася Рыта, — а што цябе засмучае найбольш?

— Маргоша, ты што? — Яўген павярнуў твар да аднакласніцы і здзіўлена ўзняў брыво. — Ты што? Эмільен — гэта чалавек, які не ўмее бясшумна есці, а як ён п’е гарбату — гэтага лепш не чуць. Не, Рытка, ты сур’ёзна? — Яўген зноўку павярнуўся да яе. — Сястра блытаецца з французам, як тысячы дзевак па ўсёй краіне. Я чакаў ад Юлі іншага… Я думаў, што яна чалавек амбітны… А сёння аказваецца, што мая

сястра так мала патрабуе ад жыцця! Рыта! Яна ні з кім не сустракалася да таго! Рытка, ты не разумееш! Яна абрала сабе чалавека, які… Які…

Яўген сціснуў кулакі ў кішэнях.

А Рыта нечакана ўсміхнулася. Яна зноў адчула дрыготкае набліжэнне радасці, гэтаксама гудзе ў цемры апошняя электрычка, абяцаючы вызваленне ад начоўкі ў незнаёмым лесе. І Жэнік, які ў перабольшаным адчаі злаваў поруч, таксама быў сведчаннем таго, што жыццё нарэшце ўпарадкоўваецца.

— Жэнік, я табе яшчэ хацела сказаць… Арцём, я з ім пазнаёмілася дзякуючы табе. Ён быў адным з тых хлопцаў, якія напісалі мне на сайт знаёмстваў, дзе ты анкету зрабіў. І я нарэшце зразумела, вось табе хачу сказаць, — Рыта хутка прынялася апавядаць, пакуль Яўген не ўзнавіў сваіх енкаў. — Варта зразумець, іначай шчасця не будзе: каханне — гэта не рынак, разумееш? Не трэба купляць, параўноўваць, збіваць цану… Бо раптам паглядзіш на чалавека, і… — у Рыты збівалася дыханне, бо яны неўпрыкмет паскорылі хаду. — Глядзіш і бачыш яго не вачыма, а… не ведаю, сэрцам яго бачыш! Жэнік, у гэта трэба паверыць, разумееш?

Рыта прамаўляла хутка, збівалася, саромелася сваёй шчырасці, Яўген спыніўся, узяў яе за локаць:

— Маргоша, не ляці… О божа, ты проста як маці Тэрэза, — і Яўген мімаволі ўсміхнуўся, бо Рыта, захопленая прамовай, склала далоні, не раўнуючы ў малітве.

На іх азіраліся рэдкія мінакі. Рыта вызваліла локаць і працягвала нешта даводзіць, жэстыкулюючы: іншапланетная місіянерка з антэнкамі на галаве, пухнатае ружовае воблака на дне марознай шэрай вуліцы. Яўген слухаў аднакласніцу няўважліва: ён спрактыкавана загасіў пал эмоцый і ўжо паспеў прыняць некалькі лёсавызначальных рашэнняў.

* * *

А вечарам таго ж дня Рыта ўсміхнулася, стоячы за фіранкай ля акна, бо Арцём, ідучы праз двор да сваёй машыны, азірнуўся і памахаў ёй рукой, Юля паставіла на стол перад Эмільенам талерку з супам, і Эмільен адразу ж засмяяўся, бо забыў толькі што вывучанае чужамоўнае «дзякуй», а Яўген набраў нумар на мабільніку і, счакаўшы адказу, сказаў у слухаўку:

— Вера? Добры вечар…

## ТАВАРНЯК НА АБВОДНАЙ КАЛЯІНЕ

### *1. Прынцэса на гарошыне*

Святлана Лавянецкая скіравала машыну ў двары, каб аб’ехаць затор на галоўнай дарозе. Дзе быў праезд, пасадзілі дрэўцы, а яшчэ адзін зручны паварот перагарадзілі бетоннымі блокамі. Меркаваная перавага ў дзесяць хвілін ператваралася ў паўгадзінную затрымку. Малодшая сястра Маша кпіла з яе нервовасці.

Святлана сціскала вусны ды прапускала ўсе выпады. Яна дала задні ход і, пільна ўзіраючыся ў люстэрка над лабавым шклом, спрабавала з мінімальнымі стратамі манеўраваць па разбітым дваровым асфальце.

Ад трасяніны з кранштэйна на прыборнай панэлі выпаў тэлефон. Лавянецкая памкнулася яго падняць, але сястра перахапіла.

— Званочак чакаем? Ты сачы за дарогай! — яна націснула зялёную кнопку і пагартала спіс выклікаў. — О-о-о, даўно табе твой не званіў!

Лавянецкая падкрэслена абыякава фыркнула.

Яна павольна разварочвалася між прыпаркаваных машын, калі задняе правае кола кудысьці правалілася, дно скрыгатнула па асфальце.

Света выйшла паглядзець. Кола павісла над каналізацыйным калодзежам, а накрыўка — усё праз яе — тырчала ўпоперак. Дамкрат ёсць, спраў на пяць хвілін. Лавянецкая ўдарыла кулаком па даху машыны, потым мыском чаравіка па пратэктары, вылаялася і заплакала.

Хуткая ехала сорак хвілін, і ўвесь гэты час жанчына курчылася ў істэрыцы на заднім сядзенні. Маша сядзела спераду, гартала каналы радыё і цярпліва адсочвала праз люстэрка, як сястра выгінаецца і дзярэ пальцамі абіўку.

Мэдбрат зрабіў укол, і Святлана адразу супакоілася, Маша вяла перамовы.

— Вы разумееце, што калі яе забіраць, то гэта будзе не звычайны шпіталь?

— Я вам пра гэта і кажу, — Маша прыцішыла голас, бо вакол сабраўся маленькі натоўп з цікаўных бабак, — я і кажу: забірайце…

— Ну, як хочаце, — лекар пацiснуў плячыма.

* * *

Лавянецкая, якую паўгадзіны таму расштурхала медсястра, сядзела ў кабінеце лекара, церла вочы, пазірала за акно: намагалася адрозніць ранак ад вечара.

— Распавядайце, распавядайце, — настойліва паўтарыў псіхіятар.

Жанчына напружылася.

— Я крыху не стрымалася, — яна ўсміхнулася, — і, шчыра кажу, інцыдэнт вычарпаны. У мяне ўсё выдатна. Выбачайце, што займаю ваш час.

— Святлана, падыдзіце, калі ласка, да рукамыйніка. Так, туды, за шафу, — Лавянецкая паслухмяна пайшла, мяркуючы, што з валасамі непарадак, — і паглядзіце на сябе ў люстэрка.

З люстэрка над рукамыйнікам на яе глядзела панда. Пад вачыма былі такія роўныя сінія кругі, нібыта яе грыміравалі наўмысна.

— У нашае аддзяленне стаіць чарга з усёй вобласці, — працягваў доктар, — вы — пацыент, і я, як вы сказалі, не марную час, а працую. Вы добра сябе бачыце ў люстры? Калі вы і надалей хочаце разыгрываць з сябе супер-боса, — калі ласка, сілай мы не трымаем нават платных пацыентаў. Але праз месяц вы зноўку трапіце ў шпіталь, але ўжо не ў псіхіятрыю і не ў аддзяленне неўрозаў, куды настаўніцы кладуцца як у санаторый, а ў кардыялогію ці ў неўралогію. Таму спыніце гэтую барацьбу за ўладу, вярніцеся на месца, — Света агаломшана разглядала сваё аблічча, — і працягнем размову.

— Я вельмі стамілася, — Лавянецкая перабірала позіркам начынне кабінета, — ведаеце, у мяне крамы, людзі працуюць, а гэта такая адказнасць…

Псіхіятар маўчаў і пільна глядзеў на яе. Лавянецкая пракаўтнула сліну:

— Разумееце… Мяне кінуў… — у горле запяршыла, голас запнуўся і дыяфрагма падпёрла лёгкія. Жанчына, з жахам адсочваючы ўнутраныя сутаргі, паўтарыла гучна:

— Мяне кінуў каханак!

Яна пачала прамаўляць таропка, каб апярэдзіць чарговую хвалю прыбітай уколамі істэрыкі:

— А ведаеце, што самае крыўднае? Ён мне даслаў паведамленне: «Не пераймайся, я таго не варты»! А чаму ты пра гэта не сказаў, калі са мной знаёміўся? Чаму, калі дасылаў з кур'ерам букеты, не чапляў паштовачку: «Я таго не варты»? Выходзіць, што кожнае ягонае слова каштавала меней, чым літары, з якіх яно складзена! Выходзіць, ён прадаваў сябе па найвышэйшым кошце, а калі я купіла, то патлумачыў, колькі каштуе насамрэч! Так нават на рынку не падманваюць! — Лавянецкая зноў заплакала.

* * *

Святлана сапраўды доўга не стрывала ў шпіталі: змушанае нудоцце пагражала развіццём новага псіхозу.

— О, а тут што за фоткі? Новыя? — сяброўка Ірма акупавала камп'ютар, а Лавянецкая ляжала побач на канапе.

— Гэта на дачы ў Баранава. Шэф *гэтага*, — Лавянецкая пракаўтнула імя былога каханка, — я ў яго парашкамі пральнымі хачу закупіцца.

— Ого, а чаму ў яго на дачы такая мэбля? У мяне нат дома такой ніколі не будзе!

— Таму што ён бандыт.

— Ты што? Сапраўдны?

— З тых, першых.

— Ну і свалата!

— Не пераймайся, яго ўжо Бог пакараў.

— Як?

— Жонка памерла, а потым адзіны сын загінуў.

— Н-да, жах… А сыну колькі было?

— Дваццаць два.

— Божа, бедны хлапчук!

— Таксама бандыт.

Святлана дацягнулася да стала, узяла пакунак з сокам, даліла сабе ў шклянку.

— Ну і фінгалы ў цябе, Лавянецкая! — каторы раз на дзень паўтарыла Ірма. — Ну, не пераймайся, усё па справядлівасці…

— А ты толькі парады разумныя раздаеш…

— І раздаю! — пагадзілася Ірма. — Я табе адразу сказала: не набліжайся да гэтага мужчыны з вялікай літары «Му». А ты мне што? Сапраўдная любоў, сапраўдная любоў, ты мяне не хочаш разумець, а толькі парады раздаеш. Паслухала б, меней цяпер турбот было б.

Лавянецкая моўчкі чытала эсэмэскі ў тэлефоне Ірмы: тая бессаромна дэманстравала плён тыднёвага рамана ў доме адпачынку.

— Ну як? Знайшла дзесяць адрозненняў? — Ірма забрала апарат. — Поўны набор жанатага курвеля. Люблю-люблю, каханая-каханая, найлепшая ў свеце, думаю толькі пра цябе. Ну і чым адрозніваецца твая «сапраўдная любоў»?

— Слухайце, як вы ўсе жывяце? — змрочна пацікавілася Лавянецкая. — Сышліся, разышліся, здрадзілі, усе задаволеныя, усім добра! Чаму я адна пакутую?

— Ты ж прынцэса на гарошыне. Я цябе ведаю. Проста табе стае добрага выхавання не хадзіць паўз людзей з выглядам «Асцярожна, карона зваліцца». Ты ганарлівая да паталогіі. Людзі радуюцца жыццю, а ты спаць не можаш: ах, мяне падманулі! Твая пыха — гэта твая гарошына. Ну падумаеш, падманулі, — плюнула і далей

пайшла. Не-е-е, табе паўмесяца трэба было на гэтай гарошыне варочацца, ажно ў псіхушку трапіла…

Ірма нахілілася, і падушка з канапы праляцела міма.

— І рукі ў цябе, Светка, дрыжаць, — дадала яна.

* * *

На дачы панаваў зацішак: тое, чаго насамрэч неставала Святлане ў горадзе. Зрэшты, дамову з Баранавым у стане падпісаць і намесніца, бо ад Лавянецкай з кругамі пад вачыма і дрыжыкамі ў руках вялікай карысці не будзе.

Апоўначы сон абарвалі грукат і гудзенне. Святлана, раптоўна абуджаная, не адразу зразумела, што па абводнай каляіне пусцілі таварны цягнік. Грукат запоўніў усю прастору ночы, здавалася, нібыта таварняк зараз пройдзе паўз дом і ейны ложак.

Жанчына глядзела ў разбаўленую цемру: займаўся ранні летні світанак. Ірма ўсё ж не мела рацыі. Гарошына, што не давала ёй спаць, прарасла і цягнулася ўгору скручанымі тугімі вусікамі, і была яна не пыхай, а каханнем. Цягнік усё грукацеў і грукацеў, скаланаючы зямлю, а яна ляжала і думала, што цяпер усё будзе добра, усё будзе проста ў жыцці: варта толькі прычакаць, пакуль недарэчная праслінка кахання счарнее і скурчыцца без вады. Неабходна трываць і чакаць, пакуль яе пачуццё выйдзе вонкі, знікне ў цемры і саступіць месца цішыні, як зараз знікне грукат таварнага цягніка.

### *2. Снежная каралева. Ірма Гофман*

Ірма вярталася дадому ад сяброўкі. Па горадзе плыло каламутнае задушша, як бывае перад навальніцай. Ёй здавалася, што гэта яе ўнутраны морак выйшаў вонкі і цяпер накрываў вуліцы. Наўрад ці варта было і без таго змучанай Лавянецкай назаляць уласнымі турботамі, але менавіта адчай Святланы па кантрасце выявіў Ірміну гіпатэрмію. Яна павольна крочыла па горадзе, спавітым спёкай, і адчувала крытычна паніжаны градус уласных эмоцый. Засвоены яшчэ ў юнацтве спосаб унікаць любога болю нарэшце выспеліў багаты ўраджай пабочных эфектаў. Заставаўся адзіны сродак выжыць — не даваць сабе заснуць на марозе. Калісьці Ірма ўваходзіла ў раманы з непахіснай абыякавасцю, якая пераможна кружыла галаву і дазваляла лёгка скараць любыя вяршыні. Аднак ашчадна выгадаваная прыгажосць — годны паварот галавы, апушчаныя вейкі, паўусмешка — як цяпер выявілася, была прыдатнай хіба для таго, каб празрыста адбівацца ў люстраных вітрынах.

Ля кавярні Ірма прыпынілася, разважаючы пра каву, і раптам заўважыла за столікам малодшую сястру Лавянецкай, Машу, а з ёй сядзеў — Ірма не магла з пэўнасцю назваць нават ягонага імя — нядаўні каханак з дома адпачынку. Менавіта ягоныя паведамленні сталіся дыдактычным матэрыялам для рэабілітацыі Святланы.

Як цікава закручваецца лёс! Цікава і абсалютна бессэнсоўна. Сапраўды, які быў сэнс у тым, што цяпер яна мае агульнага каханка з сястрой лепшай сяброўкі? Ірма хацела пазваніць Лавянецкай, папярэдзіць, але падумала, што Светцы не да таго. Хай ідзе як ёсць.

Яна рушыла далей па вуліцы. Нечаканае адкрыццё крыху ўзрушыла яе, хвілінная туга мінулася. Ірма ішла, адсочваючы свой беззаганны адбітак у вітрынах, і думала: як добра, што ніводзін у свеце мужчына не варты ейных слёз.

### *3. Оле Лукое. Оскар Рафалоўскі*

— Оскар Маркавіч, гэта да вас!

Адразу па голасе сакратаркі ён здагадаўся, хто адчыніць дзверы кабінета. Хлопцы, значна маладзейшыя за яго, селі пры стале, не чакаючы запрашэння, на секунду раскрылі пасведчанні і неразборліва назваліся.

— Паўтарыце, калі ласка, — папрасіў Рафалоўскі.

Адзін з наведвальнікаў хмыкнуў, не раўнуючы канвойны, якога вязень папрасіў аслабаніць кайданкі:

— Слухайце ўважліва, каб я не паўтараў два разы, — ён прамаўляў і пры тым пагрукваў па стале касцяшкамі. — І тэлефончык адключыце, я сакратарцы вашай загадаў, каб нікога не пускала…

Рафалоўскі пільна глядзеў яму ў вочы і чакаў, ці здагадаецца ўрэшце хлопец, наколькі не стасуецца тон ягонай прамовы з уласным векам, статусам, месцам і прафесіяй суразмоўцы.

— Оскар Маркавіч, — другі хлопец, якога, відаць, апякло сорамам за напарніка, спешна пачаў прамаўляць: — Оскар Маркавіч, выбачайце, што патурбавалі. Мы з Упраўлення дэпартамента па фінансавых расследаваннях. Да вас цягам бліжэйшых дзён паступіць пацыентка Лавянецкая Святлана, ёй трэба даць месца. І патрымайце яе ў шпіталі колькі дзён, мы потым паведамім. У яе праблемы з прыватным жыццём, пераканайце яе палячыцца. Яшчэ я папрашу, Оскар Маркавіч, каб інфармацыя далей за вас не пайшла, гэта зразумела.

— Ну што? — напалоханая сакратарка зазірнула ў кабінет, калі наведвальнікі сышлі.

— Нармальна ўсё, нармальна! — Рафалоўскі махнуў ёй рукой, каб выйшла ды не турбавала. Сорак гадоў ён працаваў псіхіятрам, але ніколі не зводзіліся хлопчыкі, бязвусыя ці вусатыя, камічныя ды вартыя жалю ў сваёй п’янкой ілюзіі валодання ўладай.

### *4. Сіняя барада. Анатоль Грамыка*

Анатоль Грамыка датычна сваёй будучыні ілюзій не меў, пытанне было ў тым, калі і хто менавіта ператворыць яго з жывога трупа ў труп сапраўдны. Выбару ён быў пазбаўлены ўжо тады, калі палкоўнік, знішчаючы крымінальную справу на роўні пракуратуры, тлумачыў, што трэба будзе «вярнуць пазыку». З таго моманту, калі ў прыбіральні боўлінга мужчына ля суседняга рукамыйніка паведаміў пра неабходнасць сустрэцца, пачаўся зваротны адлік гадзінніка, убудаванага ў выбуховую прыладу.

Складана было даць веры, што Баран не заўважае пад уласным носам ментоўскай распрацоўкі. Аднак загады мянта з прыбіральні адзначаліся не меншым цынізмам, чым ідэі Барана.

— Для пэўнасці, — казаў маёр (Грамыка ўмоўна называў яго маёрам), — неабходна стаць ейным каханкам.

Грамыка меркаваў, што досыць і простых перамоў, каб гендырэктарка сеткі крам набыла ў іх тры вагоны рознай хіміі.

Жыццё ў абыякавым чаканні кулі ў лоб не спрыяе рамантычным развагам. Грамыка справядліва лічыў сябе абсалютна не вартым звернутай да яго нечакана шчырай любові. Святлану было шкада. Ейная любоў была, па сутнасці, плёнам апаратыўнай распрацоўкі і мусіла быць пакладзена на алтар дзяржаўнай бяспекі.

Грамыка сядзеў на падлозе ў кватэры без святла і піў «Напалеон» з рыльца: здаецца, прыспеў час, калі можна спустошыць бар з калекцыйнымі каньякамі. Светка выявілася адзіным чалавекам, з якім шкада было развітвацца. Ён доўга шукаў прыдатнай фармулёўкі: «Не перажывай. Я таго не варты». Грамыка пастараўся ўкласці ў апошняе паведамленне як мага болей шчырасці.

### *5. Маша і мядзведзі. Марыя Лавянецкая*

— Папярэдняя дамоўленасць паміж Баранавым і крамай дасягнута, аперацыя па затрыманні павінна быць праведзена адразу пасля падпісання дамовы асабіста Баранавым. Такім чынам мы атрымліваем накладныя, на падставе якіх, скаардынавана з мытняй, праводзім арышт усёй партыі. Баранаў знахабеў, страціў асцярожнасць і пачуццё рэальнасці. Увесь таварны састаў праходзіць мытню як паражняк... Мы атрымліваем буйны памер злачынства, а далей… Паводле нашых інфарматараў, наркотыкі ён перавозіць не асобным каналам, а разам з кантрафактам. Пасля падпісання дамовы мы маем фармальную нагоду затрымання Баранава. Таварыш палкоўнік, у мяне будзе просьба асабістага кшталту, — Лавянецкая запытальна паглядзела на начальніка і, атрымаўшы дазвол, працягнула: — Я б хацела, каб на затрыманні не прысутнічала мая сястра, а дамову падпісвала намесніца.

Калі Маша ішла па калідоры з нарады да сябе ў кабінет, Палякоў нагнаў яе і паклаў руку ніжэй спіны:

— Ну што, маёр Лавянецкая? Будзем з табой падпалкоўнікамі, га?

— Давай, Палякоў, ты са сваімі бабамі мяне блытаць не будзеш, га? — Маша прыбрала ягоную руку. — Нам з табой яшчэ працаваць разам.

* * *

Святлана скіравала машыну ў двары, каб аб’ехаць затор на галоўнай дарозе. Маша намагалася завесці з сястрой гутарку пра тое, як добра было б ёй колькі дзён адпачыць, але Святлана зацята маўчала. Ад трасяніны з кранштэйна на прыборнай панэлі зваліўся тэлефон. Маша перахапіла яго, каб спраўдзіць, ці не пачаў Грамыка, крый божа, якую-небудзь уласную гульню.

Тут задняе правае кола праваліласся ў дрэнна закрыты люк, у Светкі пачалася істэрыка. Маша, у чаканні хуткай, сядзела на пярэднім сядзенні, гартала каналы радыё і змрочна думала, што ідэя Палякова звесці ейную сястру з паплечнікам Барана была ідыёцкай: Светка і так пагадзілася б купляць у Барана пральныя парашкі. Але ўласная ідэя схаваць родную сястру — для бяспекі! — у псіхушку была ідыёцкай не менш. Аднак каяцца было позна.

Калі хуткая з’ехала, Маша без усялякага дамкрата выехала з люка і патэлефанавала Палякову:

— Давай пачынаць. Кажы свайму Грамыку, што заўтра-паслязаўтра з Баранам падпісваем.

* * *

Маша сядзела ў кабінеце пры стале і грызла алоўак. Яна не лічыла сябе прымхлівай, аднак была ўпэўнена, што менавіта Палякоў сваімі прароцтвамі пра падпалкоўнікаў сурочыў усю справу. Баранаў знік невядомым чынам і ў невядомым кірунку.

— Хадзем, Палякоў, кавы пап’ем, не магу тут сядзець, — яна зазірнула ў кабінет да напарніка, і яны спусціліся ў кавярню.

Па горадзе плыло каламутнае задушша, якое бывае перад навальніцай. Але навальніца не пачыналася, а пачыналася ноч, якая набліжала наступны дзень, калі трэба будзе пісаць тлумачальную на імя палкоўніка Лесунова аб прычынах правалу аператыўнай распрацоўкі.

Палякоў адказаў на званок мабільніка, і па тым, як ён мяняўся з твару, Лавянецкая разумела, што навальніца пачалася.

— Ну што, маёр Палякоў, будзем з табой лейтэнантамі?

— Знайшлі труп Барана, — Палякоў засунуў тэлефон у кішэню, — прыкладна тры дні наш кіраўнік буйной злачыннай арганізацыі правёў у каналізацыйным калодзежы ў цэнтры горада з куляй у галаве…

Яны подбегам вярталіся ў аддзяленне, Палякоў увесь час набіраў адзін нумар.

— Дзе твой Грамыка? — Маша спатыкнулася на прыступцы і схапіла Палякова за руку, каб не ўпасці.

— Недаступны! — Палякоў вылаяўся. — Ну і дзе яго шукаць?

Маша набрала нумар сястры, але тая не адказвала.

— Ведаеш што, Палякоў? Я не маю ніякага ўяўлення…

***6. Эпілог***

Святлана ляжала і думала, што цяпер усё будзе добра, усё будзе проста ў жыцці, і тут у акно пагрукалі.

Яна стаяла на ганку босая і плакала, закрыўшы твар далонямі, злаваць на Грамыку Лавянецкая была не ў стане. Той зацягваў яе ў дом і цалаваў.

— Света… Апранайся. Трэба ехаць. Нічога не бяры, толькі апраніся.

Калі Лавянецкая пабегла ў пакой, ён узяў яе тэлефон, выцягнуў сім-картку, зламаў, потым размахнуўся і закінуў мабільнік у хмызы.

На ўсю ваколіцу грукацеў таварны састаў, парожні паводле мытных накладных.

## ЗАЯЦ З ГУМОВЫМ ТВАРАМ

Наш двор уночы падобны да басейна без вады. Сцены дамоў рытмічна пашнураваны стыкамі пліт, балконамі, вокнамі, — не раўнуючы кафля. І гулка — добра чуваць, як у калодзежы каналізацыі булькоча адпрацаваная вада.

Я, нібы ў накаўце, ляжала плазам на ложку і ў прагале адчыненых дзвярэй балкона бачыла кавалак перакуленага неба — не спалася.

Невідочны самалёт крэсліў густы адбітак. Людзі ўнармавана спалі ў бетонных скрыначках, адзін пад адным, у пяць слаёў. Усе знерухомелі на ноч, як быццам сілкуюцца ад сонечных батарэй. А я не сплю. Мой энергаблок працуе ў аварыйным рэжыме ў пошуку прычыны паломкі. Накіпелі кантакты, згарэлі дыёды, замкнула і іскрыць. Я перастала прымаць сігналы ад свету, што па той бок мяне. Якую ноч я марна спрабавала вызначыць: ці то мой перадатчык зламаўся, ці то па той бок усё знікла.

Відаць, я на кароткі час заснула, бо перад вачыма паплылі відарысы Сняжынкі, маёй сястры, якую не бачыла сто гадоў. Яна сядзела на скураным дзедавым крэсле, капрызліва боўтала нагамі і рытмічна адкрывала рот, да якога ўпарта шторазу падносіла пюрэ рука кагосьці, зацёртага памяццю.

* * *

Насамрэч яна не была мне сваячкай па крыві. Матчына сястра, цёця Аліса, пабралася шлюбам з дзядзем Алегам, а той меў дачку, адсуджаную ў першай жонкі. Пра цьмяную гісторыю сям'і Перагудаў я дазналася толькі па яе распадзе: дзесяцігадоваму чалавеку ўжо не нахлусіш беспакарана, і маме давялося, уздыхаючы і пазіраючы ўбок, тлумачыць мне, чаму цёця Аліса больш не жадае кантактаваць з уласнай дачкой.

Пякельнае верашчанне таннага будзільніка адгрымела колькі хвілін таму, але я наўмысна ставіла яго наперад, каб набраць паветра перад ныркам у ледзяную ваду чарговага дня.

— З таго часу мы не бачыліся, — я, заклаўшы рукі за галаву, дзялілася ўспамінамі з Артурчыкам, у якога тады была закахана. — А гэта васямнаццаць гадоў! Думаеш, няшчыра казаць цяпер, што я Сняжынку любіла?.. Заўжды?.. Толькі не згадвала пра яе… А мы прабавілі разам ледзь не ўсё дзяцінства! Якое сямейная свята ні згадай, з тых, дзе «яўка ўсіх абавязковая», — там Сняжынка; лета, дача — Сняжынка; а прагулкі па парку, а паходы на рэчку?

Я ў спешным парадку ажыццяўляла маніторынг назапашаных дзіцячых успамінаў, сапраўды, Сняжынка там траплялася, але не так часта, каб я тут і цяпер, паклаўшы руку на сэрца, запатрабавала ад Сусвету неадменна арганізаваць сустрэчу з сястрой.

У пакой ціха ўвайшоў Фелікс, гаспадар кватэры, і спыніўся насупраць ложка. Артурчык, як зазвычай, зніякавеў пад ягоным позіркам і знік. Фелікс заўжды глядзеў на мяне з дакорам і нявыказаным пытаннем уваччу, і я пачувалася вінаватай. Вось і цяпер ён спадылба зірнуў на мяне, перавёў позірк на адчынены балкон, выразна ўздыхнуў і пайшоў прэч, празрыста намякаючы мне на патрэбу кіравацца за ім.

Я таксама ўздыхнула, спусціла ногі з ложка, апяклася аб халодную падлогу і намацала пантофлі. Сапраўды, Фелікс меў рацыю: з адчыненым балконам спаць было холадна ды валяцца ўжо досыць.

Фелікс сядзеў пасярод кухні і чакаў мяне. Без асаблівай, праўда, радасці адбывалася нашае камунікаванне: лёс змусіў жыць нас у адной кватэры, і мы моўчкі трывалі.

— Фелікс, слухай, — я выцягнула з лядоўні бляшанку кансерваў і з задавальненнем убіла ў яе нож, — калі б ты меў сястру, згубіў яе ў раннім дзяцінстве, а потым узгадаў, — ты б хацеў яе знайсці?

Мяркуючы па рэакцыі — поўнае маўчанне — майго суседа такія праблемы не хвалявалі.

— Добра, сфармулюем іначай, — я вываліла печань мінтая на сподачак і прынялася размінаць яе відэльцам, — калі б цябе раптам знайшла сястра, якую ты не бачыў сто гадоў і з якой вас раз'ядналі ў дзяцінстве? Ты быў бы рады?

Фелікс падышоў да мяне бліжэй, нецярплівы і незадаволены. Я ўявіла, як да нас прыходзяць ягоныя згубленыя ў дзяцінстве сёстры і рассмяялася.

— Ды ты мяне зусім не слухаеш! — я паставіла сподачак на падлогу. — На, жары, пыса ты прыплюснутая!

Фелікс з пагардай адштурхнуў маю руку і ўзяўся за сняданак, а я падышла да акна і зірнула на тэрмометр. Як хутка прыйшлі халады ў гэтую брыдкую восень. Трэба будзе надзець чорны швэдар пад паліто.

* * *

Раніцы былі б дабрэйшымі, а восень не такой брыдкай, калі б не гэтыя аўтобусныя катаванні Аэрадром—Навабеліца. Мы з Артурчыкам разам выходзілі з дома, стаялі на прыпынку, удзельнічалі ў штурме аўтобуса і баях за месца, але ў раёне Лугавой ён, як зазвычай, знікаў, і мне даводзілася шукаць іншыя сродкі адольваць самоту, калі можна назваць *самотнай* паездку ў забітым аўтобусе.

Я думала пра Сняжынку. Знайсці яе не праблема: Гомель — маленькі горад, але што далей? Што пераменіцца ў жыцці? Яно палепшае? Магічным чынам запоўніцца сэнсам? Вобраз магічнага запаўнення жыцця сэнсам імгненна візуалізаваўся ў выглядзе бутэлькі з-пад піва.

Мае думкі, перайшоўшы з сястры на пустыя бутэлькі, трансфармаваліся ў трагічныя развагі аб марнасці існага. І гэта з раніцы. За акном стракацелі навабеліцкія краявіды, мой прыпынак быў наступны, варта было ўвайсці ў кантакт з насельніцтвам на прадмет: «Ці выходзіце?..», але брыдка было варушыцца. Добра, я знайду Сняжынку, няхай нават мая любоў не была сонным трызненнем, што зменіцца? Нічога цудоўнага не чакае нас у жыцці, усё прадказальна, не верыш? — я размаўляла сама з сабой з-за адсутнасці Артурчыка. — Я магу прадказаць сённяшні дзень у дэталях, тыдзень — лёгка! Год — у агульных рысах. Зараз я прыйду на працу, зайду ў кабінет: Светка ўжо сядзіць за сталом у зялёнай або карычневай кофце, або ў зялёнай вадалазцы і чорным пінжаку, Лена за кампом з такім суворым выразам твару, нібыта ўсе замінаюць ёй працаваць, можна зазірнуць у манітор: яна гуляе ў Зуму. Я пайду да шафы, здыму паліто, скажу: «Добрай раніцы!», Ленка хмыкне, не падымаючы вачэй, а Светка прапішчыць: «О-ой, здаро-оў!», а я…

Непражыты яшчэ дзень раптам абрынуўся на мяне мільёнам дакладных падрабязнасцей, і я замружылася ад жаху перад нечаканым прарочым талентам. Нават спынілася за два крокі ад дзвярэй канторы, паралізаваная імпульсам не ісці на працу. Мая ўнутраная забастоўка доўжылася секунды тры, пакуль яе не перарвала думка: «А Артурчык?» Я рушыла ў браму пекла, як быццам з’яву «Артурчык» цяжка было прадказаць з дакладнасцю да слова.

Я штурхнула дзверы ў кабінет, кінуўшы дзеўкам: «Добрай раніцы!», пайшла да шафы.

— Ы-ыгы, — засяроджана працэдзіла Ленка, яе хвалявалі лёсы каляровых шарыкаў.

— О-ой, здаро-оў! — прапішчала Светка, і я не паверыла вачам: яна была ў фіялетавым швэдары!

— Ой, Свет, новы, купіла? Файна, табе пасуе! — я ўжо была ў стане радавацца новай шмотцы Светкі як падзеі ўласнага жыцця. — А дзе?

«Прудкоўскі, Цэнтральны, ля вакзала. Прудкоўскі, Цэнтральны, ля вакзала. Калі адгадаю, запрашу Артурчыка дадому. Прудкоўскі, Цэнтральны, ля вакзала».

— Кума з Чарнігава прывезла, бо ёй замалы! — падзялілася радасцю Светка, і мне давялося пераконваць сябе, што малітва мела працяг: «А калі не адгадаю, то Артурчык сам запросіць мяне!»

Я села за стол, выцягнула з шуфляды папку з паперамі, прыгожа расклала іх перад сабой, адкрыла ў кампе базу і ўключыла чайнік, куды ўчора наліла вады. Яшчэ з паўгадзінкі пап’ю каву, апрытомнею, а потым і папрацуем.

Яе праўдзівае імя Сняжана ніхто не ўжываў як занадта дарослае для Сняжынкі. Дакладна, я любіла яе, хіба што неўсвядомлена. Меншая за мяне на год, сястрычка была драбнейшая, у бялявых кудзерках, з лялечным роцікам, капрызлівая і дурная.

Яна мела толькі тры станы: капрызіла, вярзла лухту або рабіла глупствы, крыўдавала. Я Сняжынку, як старэйшая малодшую, даглядала, выхоўвала і ахоўвала: ад небяспек і непрыемнасцей, якія тая таленавіта знаходзіла на роўным месцы. На фотаздымках, дзе мы разам, я абдымаю яе — ці трымаю? — за плечы. Трэба будзе перагледзець фоткі, чорна-белыя, іх няшмат… Аднаго разу, пакуль я падымалася ў кватэру па мячык і скакалку, Сняжынка паспрачалася з дзяўчынкамі не з нашага двара: бэз — гэта куст ці дрэва? А пасярод двара ў нас буялі бэзавыя зарасці, такія старыя, што галлё было не раўнуючы ствалы. Сняжынка ўбачыла, што я выходжу з пад'езда, і закрычала: «Мая сястра ўсё ведае! Яна зараз скажа!» І я рушыла да іх няспешна, удаючы абыякавасць, а насамрэч прыдумляла адказ: «Бэз — гэта дрэвападобны куст», сказала я такім тонам, нібыта стамілася штодня тлумачыць. А Сняжынка, якую казыталі чарцяняты, ад чаго яна падскоквала на месцы, падскочыла яшчэ вышэй і паказала дзяўчатам не з нашага двара язык. Адмысловае ўяўленне пра гасціннасць, што тут скажаш.

А што з бэзам? У старым двары я не была сто гадоў. Можа, бэз так разросся, што ўсё запаланіў. Або ён здаваўся вялікім, можа, яго ссеклі. Трэба спраўдзіць. А калі я прыйду туды, то буду дзяўчынкай не з нашага двара. Лепш не пайду. Хай двор застаецца маім.

Я заўважыла, што перапічваю рогі на капыты. Трэба выпіць яшчэ кавы і апрытомнець, бо пасля абеду — ніякага працоўнага настрою. Уключыла чайнік — і адразу выбіла пробкі, павісла база. Светка з Ленкай адначасова сказалі: «У-у-у!»

— База павісла! — Светка, удаючы шкадобу, з палёгкай адкінулася на спінку крэсла.

— І каэфіцыентаў дагэтуль няма! — Ленка, пагрозліва павёўшы сківіцай, утаропілася ў манітор, гатовая ўпарта супрацьстаяць сімвалічнай смерці, якая няўхільна пажырала чародкі каляровых шарыкаў.

Паводле сцэнарыя наступная рэпліка была маёй. Я счакала, каб упэўніцца. Але паўза перавысіла драматургічныя межы прыстойнасці, дакладна, я павінна штосьці сказаць.

— Пайду да эканамістаў завітаю, — я так цяжка паднялася з-за стала, нібыта хадзіць да эканамістаў у суседні кабінет было найгоршым катаваннем у нашым пекле.

Як я трапна пацэліла са сваёй рэплікай! Светка адразу заззяла шырокай усмешкай саўдзельніцы таемнай змовы:

— Ой, схадзі, схадзі, там Артурчык цябе чакае!

— Ага, чакае, ажно зачакаўся, — я пайшла да дзвярэй цяжкой хадою, думаючы пры тым, што неўзабаве надыдзе такі час, калі мне не давядзецца ўдаваць абыякавасць.

Філёнчатыя дзверы, фарбаваныя густой аліфай, журботны спеў дашчанай падлогі ў калідоры, пусты блакітны панцыр запарожца ў дворыку пад вокнамі, набухлыя вены вонкавай праводкі, кавалак сцяны без атынкоўкі, краткі аголеных дранак. Ці мог быць мой шлях да эканамістаў шляхам любові, на якім любая форма матэрыі выпраменьвала б цяпло мне ў адказ? Я іду да Артурчыка — і мне не трэба ўдаваць абыякавасць. Час прыспеў. Абыякавасць — мой адзіны праўдзівы стан.

Дзверы да эканамістаў былі абцягнуты дэрмацінам, прыбітым залатымі цвічкамі, рыхтык, як у маёй бацькоўскай кватэры. Да іх здаўна павялося ўваходзіць без грукату, таму ў насельнікаў кабінета настолькі згаслі ўсе рэфлексы, што яны нават не падымалі галовы ад сваіх паперак. Адзін Артурчык усміхаўся мне, калі я віталася. Усім усміхаўся, не толькі мне.

— А я наконт каэфіцыентаў. А то база вісіць, і рабіць…

— А база ўжо не вісіць! — з трыумфам ваяра, які апошнім ударам сцінае галаву пераможанаму ворагу, паведаміла А. Д., не падымаючы, вядома, вачэй ад паперак.

— А каэфіцыентаў няма! — дадаў Артурчык, ягоная прывітальная ўсмешка яшчэ заставалася на твары, афарбоўваючы ўсё прамоўленае сотнямі сэнсавых адценняў.

— Каэфіцыенты заўтра будуць! — удакладніў старэйшы эканаміст Артур Пятровіч, бо я працягвала стаяць, аслепленая водблiскамі ягоных шматзначных слоў.

Можна вяртацца да сябе і працаваць. Доза спатканняў на сёння пушчана па вене, хіба не ведала, калі пачынала, што такіх ін’екцый штораз хочацца ўсё болей і болей?..

Артурчык быў маёй чарговай закаханасцю. Калі фармуляваць дакладна, дык мая чарговая закаханасць прыняла форму Артурчыка. А сам Артурчык быў старэйшым эканамістам, маім аднагодкам і бландынам з правільнымі рысамі твару. Адным цудоўным жнівеньскім днём, пару месяцаў таму, я прыйшла на працу, а ён сядзеў на маім стале, боўтаў нагамі і распавядаў Светцы з Ленкай, як вудзіў рыбу ў суботу-нядзелю. І тут мне быў раптоўны знак. Не такі раптоўны, як удар маланкі пасярод поля, а такі, як пстрыкае батарэйка, калі ўзяць яе ў рот: маральна ты падрыхтаваны, а ўсё адно нечакана. Я ўмомант ацаніла, які наш старэйшы эканаміст малады, худы і нежанаты, а таксама які ў яго бестурботны смех. Днём раней я лічыла ягоны смех прыкметай дурасці. Тыднем пазней я зноў прытрымлівалася таго ж меркавання. Але цудоўным жнівеньскім днём я замілавана расчулілася: чым не знак?

З таго часу я і пачала шнарыць ментальным нератам у нашым будзённым флірце з Артурчыкам, нібыта ў мутнай застаялай вадзе фармальнага заляцання магло зарадзіцца будзь-якое светлае пачуццё!

Я вярнулася ў свой кабінет тым самым шляхам, вузкім і накатаным.

* * *

У кастрычніку дрэнна яшчэ і тое, што дзень скарачаецца на вачах.

Я стаяла ў пад’ездзе перад кватэрай і марудзіла. На ўсіх паверхах не гарэлі лямпачкі, пакуль падымалася, вочы звыклі да цемры. Халодны блакіт, які мкнуў з вокнаў пад’езда, акрэсліў прыступкі і парэнчы. Я глядзела, не ў змозе адарвацца, як алейна пабліскваюць сцены, бязгучна торгаюцца і калоцяцца ламаныя цені заатоннага галля, што прадзьмуваецца ветрам. Была ў гэтай восеньскай каламуці свая прыгажосць. Але ад любові да восені мяне ўтрымліваў нутраны лёд, трывалы, як кара, якой неўзабаве пакрыюцца зямля і тратуары.

А ў кватэры мяне чакаў кот Фе-е-елікс. Дачка мамінай знаёмай з’ехала на Мадагаскар — часова, як яна сябе пераконвала, — і ў заложніках свайго патрыятызму пакінула на радзіме любімага каточка і двухпакаёўку на Аэрадроме. Я жыла тут на ўмовах аплаты камунальных паслуг, падтрымання кватэры ў жылым стане. А галоўным абавязкам было любіць Філю, карміць яго печанню мінтая, чысціць латок (хоць з гэтым праблем не было) і паказваць вэтэрынару пры найменшай патрэбе. Кот належаў да нейкай пароды, быў пухнаты і з абсалютна плоскай пысай.

Кот стаяў пасярод калідора і моўчкі назіраў, як я здымаю паліто і боты.

— Слухай, як ты мяркуеш, чаго гэтая жывёлка за мной сочыць? — пацікавілася я ў прывіда Артурчыка, які неадменна намаляваўся побач. — Ён, пэўна, пытаецца: «Калі ж ты знікнеш? І калі вернецца мая любая гаспадыня?»

— А твая любая гаспадыня ў Паўднёвым паўшар'і, і ў іх цяпер вясна, — я нахілілася да Фелікса ды паспрабавала пачухаць яго за вухам, але той выкруціўся з-пад рукі і патрусіў на кухню.

Феліксу я дала ягоныя кансервы — іншым мы грэбуем, а сабе вырашыла разагрэць макароны. Насамрэч я мала ем: пакунак абрыдлых макарон-ракавак месяц не канчаўся, а пачак маянэзу на дзвесце грам я тыдзень магла цадзіць.

Цяжкая накрыўка самавольна пракруцілася ў маёй руцэ і бразнулася на патэльню, мне засталася ручка, з якой тырчаў шруб, а гайку з шайбаю чарговы раз трэба лавіць у макаронах.

Я ўзяла нож, каб лязом падчапіць накрыўку, але тая, добра падагнаная, не паддавалася. Паспрабавала прытрымаць гарачую патэльню з аднаго боку рушніком і крыху нахіліць яе, каб выклікаць сілы гравітацыі на дапамогу ў барацьбе за вячэру, але раптам спынілася і кінула ўсё: есці я не хацела. Мне яшчэ сталоўская смажанка ўпоперак горла стаяла.

Спаць было зарана, але я пайшла ў маленькі пакой, патулялася там вакол канапы, не запальваючы лямпы; за фіранкамі мітусіўся паралельны свет галля ў ліхтарным святле: кірунак ягонага руху быў неспасцігальны. Я надзела куртку і выйшла на балкон. Прывід Артурчыка адразу знесла ветрам. Скрыгат і посвіст разносіліся па нашым пустым басейне, зарослым клёнамі, таполямі і каштанамі. Я ўзялася абедзвюма за край балкона, перакінула правую нагу і крыху нахілілася наперад, каб перанесці вагу. Дастаткова лёгкага штуршка — і я скокну з гэтай вышкі...

Мне хацелася высветліць: ці праўда, што чалавек перад смерцю бачыць усё пражытае жыццё, узгадвае няспраўджаныя жаданні і яскрава разумее сэнс і мэту свайго існавання?

Але я ні халеры не адчувала: не хацела скакаць, не хацела спаць, не хацела прачынацца, не хацела макаронаў і не хацела жыць. Я не мела ніводнай нагоды ні каб памерці, ні каб застацца. Вісела на борціку балкона, а ў кожным асветленым акне хрушчоўкі насупраць бязгучна перасоўваліся людзі. Я нават не абражалася за іх абыякавасць да майго лёсу.

Металічны борцік балюча рэзаў сцягно, вецер выстудзіў куртку. Трэба было прымаць рашэнне. Жыццё выявілася не падобным да казкі. У ім нічога не адбывалася. Ні цудаў, ні жахаў. Я нават не магу ўзгадаць, з якой нагоды чакала цудаў. Здаецца, штосьці са школы, у кніжках, з дзяцінства…

Сняжынка. Вось і рашэнне. Я знайду Сняжынку, а там пабачым, як сустрэчы мяняюць жыццё.

Я зняла з борціка зацёклую нагу і вярнулася ў выдзьмуты пакой. Пасярод дывана стаяў Фелікс і глядзеў на мяне, быццам хацеў штосьці сказаць з нагоды майго эквілібру. Ах, ён жа не любіць скразнякі, як я магла забыцца?

* * *

У суботу я паехала на Цэнтральны рынак і накупіла сабе бялізны. Стаяла на прыпынку, чакала тралейбус і думала: «Каторы ўжо раз пераконваюся, што на мяне не дзейнічае народная псіхатэрапія — панакупляць бялізны і адчуць сябе разумнай, шчаслівай ды сапраўднай жанчынай». Аднак я стаяла на прыпынку з поўнай торбай анучак, і ў мяне не падвышалася нічога, апрача злоснай роспачы, бо за анучкі я пераплаціла.

Урэшце, хто мяне ўбачыць у гэтых карунках і ружачках? Хіба што Фелікс, але мы з ім не любім адно аднога.

Падышла чарговая дваццатка, але таксама забітая. Дзяўчына поруч зрабіла тое ж, што і я: вырашыла не ехаць у поўным тралейбусе і адышла назад. Аднак нагоды мы мелі розныя: я не ехала, бо не хацела пхацца, а дзяўчына прапускала тралейбус, бо была глыбока цяжарнаю. Месяц восьмы ці нават дзявяты.

Людзі заходзілі, выходзілі, штурхаліся, мяне прыцёрла да цяжарнай. Я мімаволі зірнула на яе — бялявыя кудзеркі атачалі твар — і адразу паверыла ў немагчымае.

— Сняжынка?

Па ейным тонка вытачаным лялечным тварыку папаўзло здзіўленне і неўсвядомленае пазнаванне.

— Сняжынка! — я крыху павагалася, у якой форме выказаць радасць, і ўзяла яе за руку. — Я твая сястра! Пляменніца цёці Алісы…

— О-о-ой, гэта ты! — Сняжынка заўсміхалася і раптам абняла мяне.

Я таксама асцярожна, каб не моцна ціснуць, звяла рукі ў яе за плячыма. Добра, што сястрычка так узрадавалася, нечакана, праўда, але добра. Я баялася, што мы зусім не паразумеемся. Яе галава лягла мне на плячо: прапорцыя старэйшая-малодшая захавалася нязменна.

— Слухай, — мы нарэшце разляпіліся, і Сняжынка зазірала мне ў твар *гэтаксама*, як раней, — слухай, ты вольная? Паехалі да нас, субота ж! Неверагодна, я знайшла цябе!

Я згадзілася і не стала ўдакладняць, хто каго знайшоў.

* * *

Сняжынка адамкнула дзверы і пусціла мяне ўсярэдзіну.

— Ты праходзь, распранайся, я пайду малога ў суседкі забяру.

Я павесіла паліто на плечыкі ў шафу і пачала бессаромна азірацца: утульная кватэра. Безаблічная, але ўтульная. Дываны, стракатыя шпалеры, танныя рэпрадукцыі, дарагія дзверы ў пакоі. Я зазірнула ў вялікі — зала-спальня, сценка-тэлевізар-канапа; а маленькі пакой, мусіць, дзіцячы; так і ёсць, і ўжо нават падрыхтавалі калыску для другога. І гэтыя жахлівыя блакітныя фіранкі з зорачкамі, пра якія я марыла ўсё дзяцінства.

На пляцоўцы пачуліся рухі, і я хутка апынулася ў калідоры. Вярнулася Сняжынка, яна вяла за руку малога хлопчыка.

— А вось і мы! Памашы цёці ручкай, скажы: «Добры дзень!» — Сняжынка сама паматала сынавай рукою ў знак вітання.

— Ты не зважай, ён у нас вясёлы, проста спаць хоча, ён там задрамаў крыху, зараз хуценька пакладу яго, а ты пакуль чайнік пастаў.

Я пайшла на кухню. Электрычнага чайніка не знайшла, затое на пліце стаяў прыгожы металічны. Кухня мне таксама спадабалася: новыя шафкі, канапа, выцяжка, шклопакет, кафля на падлозе з падагрэвам.

Чайнік сто разоў закіпеў, я нават зрабіла сабе кавы, палазіўшы па шафах, а Сняжынка яшчэ важдалася з малым. Але я ўжо атрымала дастаткова, каб адчуваць сябе задаволенай. Я знайшла яе. Без намаганняў. Падобна да цуду. Мы жывём у адным раёне. Мы з ёй маглі штомесяц сустракацца на Цэнтральным рынку, толькі адна адну не заўважалі, бо патрэбы не мелі. А ці маем цяпер?!

Але як яна ўзрадавалася! Як узрадавалася! Мо, сапраўды, мая сястра мяне любіць? — на гэтым слове ў мяне засвярбела ў грудзях.

Нарэшце Сняжынка прыйшла ў кухню, трымаючы над жыватом стос фотаальбомаў, я дапамагла ёй згрувасціць усё на стол.

— Гэта мы з Андрэем, — мы селі поруч, я гартала, а Сняжынка тлумачыла, — гэта мы ў ягоных бацькоў у Якубоўцы… Яны ж нам гэтую кватэру аддалі яшчэ тады… Гэта перад вяселлем… Мне тады колькі было? Дваццаць два… Вось, вазьмі, вяселле ў гэтым… Глядзі, глядзі, а я Турцыю пашукаю, мы ячшэ да маёй цяжарнасці ездзілі, малога Андрэевы бацькі даглядалі, а мы на два тыдні вырваліся, проста фантастыка, супер…

Я гартала вясельны альбом і рабіла выгляд, што ўглядаюся ў аднастайныя выявы. Толькі не Турцыя, яшчэ сотня фотак! Сястрычка, я табе веру на слова, басейн, вадаспад у холе гатэля, усё супер, толькі не змушай узірацца ў незапамінальны твар твайго мужа! Ты, дарэчы, з тваім лялечным роцікам, магла б знайсці хлопца, які, прынамсі, не голіць галаву пад нуль і не ходзіць па турэцкім гатэлі ў спартыўным касцюме. Не, абрала гэтага чарапашку-ніндзя з чырвонай шыяй. Мама яшчэ наракае, што я не замужам.

— А як там дзядзя Алег? — спытала я адзіна магчымае.

— Ой, — Сняжынка заўсміхалася, — тата добра! Ты ведаеш, ён жа з той жанчынай разышоўся…

Пад «той жанчынай», верагодна, трэба разумець маладую палюбоўніцу, з якой іх заспела цётка...

— Вось… Потым яшчэ раз ажаніўся…

Пазнаю Перагуду. Цікавей было б ведаць, колькі разоў ён *не* ажаніўся.

— І ў яго блізняты нарадзіліся, маленькія яшчэ, на тры гады за майго Лёшу старэйшыя…

О-о-о, якая займальная гісторыя! Прынамсі, будзе нагода паразмаўляць сёння з мамай даўжэй за пару хвілін.

— А як там мама? — і каб я не зблытала са сваёй, удакладніла: — Мая.

— Яна ў Італіі жыве… — я марудзіла ў марным спадзеве, што Сняжынка перапыніць мяне, уражаная неключавым фактам. — Працуе там у рэстаране афіцыянткай… Ну, як жыве… Кажа, што яшчэ год — і вернецца, але кажа так ужо сёмы год…

— Слухай! — Сняжынка нечакана накрыла маю руку сваёй і зірнула мне ў вочы. — Я на яе не крыўдую. Няма за што. Я яе разумею. Калі б мой Андрэй, ну… гэта… Я разумею! Пагатоў, я ж, апрача яе, нікога і не ведаю. Яна мяне выгадавала…

Неверагодна! Я слухала і дзіву давалася. З чаго б маёй шалёнай сястрычцы стацца такім анёлам? Неверагодна!

* * *

У панядзелак мой аўтобусны сон быў зруйнаваны выбухам весялосці ў салоне. Я памарудзіла расплюшчваць вочы: раптам прастору перамкнула, і з моста ўсе пабачылі дэльфінаў у Сажы? Але ў момант вяртання да людзей мост мы ўжо праехалі, аўтобус сунуўся паўз Лугавую. Я таксама пабачыла прычыну ажыўлення. Ля запраўкі, на месцы, вядомым усім гамяльчанам і асабліва дальнабойшчыкам, стаяла самотная красуня. Людзі рэфлекторна зрэагавалі смехам на блакітную пляму ейнага футра.

— Ты глядзі, глядзі, як апранулася! Свята ў іх прафесійнае ці што?

— Не, гэта каб заўважылі хутчэй! Справы ў іх зусім дрэнна пайшлі, калі так увагу прыцягваюць!

Цёткі насупраць бессаромна і нязлосна весяліліся, іншыя, меней разняволеныя, пасмейваліся сабе ў шалікі. Я таксама адчула штосьці блізкае да радасці, правяла дзяўчыну цікаўным турыстычным позіркам. Аўтобус ужо мкнуў па Навабеліцы, а ў маіх вачах зіхацеў яркі адбітак.

* * *

Штосьці так узрушыла мяне, што ў абед я не стрывала і ўзялася за тэлефон, каб нарэшце выканаць дзёрзкі план.

Дзёрзкі, але просты: я памятала, што кватэра ў Перагудаў — не тая вялікая цётчына, якую яны скандальна мянялі па разводзе, а аднапакаёвая дзядзі-Алегава — месцілася на вуліцы Амурскай. Лагічна было б аддаць кватэру дачцэ. Пра іншыя лагічныя варыянты не думала, каб не сурочыць.

Я набрала 109.

— Аператар сем, Ірына, добры дзень.

— Дзень добры, калі ласка, Амурская, Перагуда, — выдала я.

— Чакайце, — загадала мне аператар, і ў слухаўцы загучала чароўная музыка.

Музыка грала нядоўга. Перарваўшы яе шыпеннем, робат-жанчына адрывіста сказала: «Нумар. Сем. Восем. Пяць. Чатыры. Два. Два», і пабеглі каторкія гудкі.

Я набрала новы нумар і ў чаканні адказу глядзела ў акно.

Да здзіўлення, адказаў жаночы голас. Я спалохалася.

— А ці магу я Сняжану пачуць?

— Гэта я.

І нарэшце ў мяне закалацілася сэрца: я ж не прыдумала, што казаць.

— Сняжынка? Гэта я, твая сястра… — нават не краем вока, а скурай я адчула, як у дзевак адвіслі сківіцы і натапырыліся вушы, — я цёці Алісы пляменніца… Ты памятаеш мяне?

На тым канцы дроту нябачная дзяўчына моўчкі каўтала здзіўленне. Нарэшце яна ачомалася:

— Ах ты ж ё… — і я зразумела, што, апроч здзіўлення, мая суразмоўца пракаўтнула і некалькі мацюкоў.

— Ну ні фіга сабе… А ты дзе?

Я выдыхнула з палёгкай: найскладаны перавал пройдзены.

— Я ў Гомелі… То можа, нам…

— Валі да мяне!

Я, прыціскаючы слухаўку плячом, алоўкам запісвала адрас. Сняжынка тлумачыла, як даехаць.

—…і налева ў двор, трэці пад’езд насупраць зялёнага гаража. Ясна? — і сястрычка, не выдаткоўваючы лішніх слоў, адключылася.

Я так і завісла над сталом, з алоўкам у руцэ, у вуха ліліся гудкі. Прамінула пяць хвілін абедзеннага перапынку, а я знайшла чалавека, якога не бачыла васямнаццаць гадоў. Дзеўкі напружана шарахцелі паперамі, унікаючы сустракацца са мной вачыма, напэўна, у нашым кабінеце ніколі не адбываліся падзеі такога маштабу, таму і стэрэатып рэагавання не выпрацаваўся.

Я паклала слухаўку на апарат і пайшла да шафы.

— Слухайце, дзяўчаты, я паехала. Да сястры. Па абедзе не прыйду. Мы не бачыліся даўно, і… — я махнула рукой, адчуўшы імгненную гідоту да няшчырых апраўданняў, — не магу сёння працаваць, карацей.

— Ой, ну так, ідзі! — Светка першая ачомалася. — А калі галоўная заявіцца, дык я скажу, што ты атруцілася ў сталоўцы!

— Не прыйдзе яна, бо планёрка сёння на горадзе, — разгубленая Ленка зноў ператварылася ў звыклую, — давай, добра табе з’ездзіць.

— Ну ўсё, дзякуй, — я ўжо штурхала рыпучыя дзверы ў калідор.

* * *

Без патрэбы ў спальныя раёны не прыязджаюць. Я ўпершыню пракладала маршрут па пустых незнаёмых дварах і пачувалася так, нібы трапіла ў чужую непрыбраную кватэру. На стаптаных газонах тапырыліся абсурднымі канструкцыямі з фарбаванай арматуры дзіцячыя пляцоўкі, лаўкі ля пад'ездаў, чэзлыя кусты, агароджы смеццевых бакаў чаргаваліся з жорсткай непаслядоўнасцю, і раптам сцежка, выкладзеная ўрослымі ў зямлю пліткамі, рабіла выкрутас і выходзіла на пляц, адкрыты сямі вятрам: да мясцовай прадуктовай крамы з недарэчна паэтычнай назвай. Людзі тут трапляліся рэдка, бы ў лесе. Канешне, усе ж на працы. Цікава, чаму мая сястрычка лынды б'е. Мо працуе на якім заводзе па зменах. Ці ў вялікай краме, там жа таксама змены. Зараз дазнаемся.

З набытай у краме «Арго» бутэлькай віна я вярнулася да знойдзенага раней зялёнага гаража, дамафон не працаваў, ліфт, дзякуй богу, давёз мяне да дзясятага паверха. Стрымліваючы дрыжыкі ў каленях, я пазваніла ў дзверы, абцягнутыя карычневым дэрмацінам, і на пляцоўцы пачуліся прыцішаныя першыя такты «Элізы». У нас дома калісьці таксама быў такі модны званок.

Дзверы расхінуліся. На парозе стаяла даўганогая дзеўка ў расцягнутым швэдары і цёплых калготках, бялявыя кудзеркі былі зацягнутыя ў хвост, а лялечны роцік усміхаўся з саланаватым прысмакам цынізму. Я б пазнала яе на вуліцы. Усё было на сваіх месцах. Нават прапорцыі нашага росту засталіся такімі самымі.

Сняжынка таксама разглядала мяне.

— Ты не змянілася! — абвясціла яна і адступіла, даючы мне ўвайсці.

Я аддала ёй пакунак з бутэлькай, зняла паліто і таксама аддала, дзякуй богу, думала я, расшпільваючы боты, яна засталася адэкватнай. Зараз мы з ёй вып'ем, і размова пойдзе, і дачыненні наладзяцца.

Сняжынка кудысьці сунула маё паліто і шарахцела на кухні пакетам.

— Гэта ты добра прыдумала! — крыкнула яна мне з кухні. — Мый рукі і валі сюды.

У лазенцы мной была знойдзена адна зубная шчотка, батарэя жаночых бутэлечак і ніводнага крэму для галення. Усё з табой ясна, сястрычка.

На кухні мяне чакала разлітае па шклянках віно, Сняжынка скручвала корак са штопара, каб заткнуць бутэльку.

Я каўтанула пякучую вадкасць і адразу знясілела; дзякуй богу, са Сняжынкай можна было ненапружана маўчаць! Так далёка сягнула, аказваецца, рэха нашага дзяцінства. Я недарэмна шукала яе.

— Слухай, а што табе раптам торкнула мяне шукаць? — Сняжынка такі вырашыла раскрыць галоўную інтрыгу.

— Ай, не ведаю, — я павазіла шклянкай па стале, здзіўлена адзначаючы, што ўжо выжлукціла амаль палову. — Я цябе прысніла, а потым уранні ўзгадала, і так ты мне на думку ўзбілася… Прасцей было знайсці, чым забыцца.

Сняжынка бязмэтна паглядзела ў акно. У разбаўленым цюлевай гардзінай святле я разгледзела, як ад вачэй маёй сястры папаўзлі да скроняў першыя зморшчынкі, так, не зморшчынкі, а толькі намёкі. Але цяпер ясна: у маім уяўленні яна назаўжды застанецца дзіцём, той бялявай капрызлівай дзяўчынкай, якая боўтала нагамі, седзячы на крэсле. Напэўна, менавіта гэтаксама бацькі бачаць у сваіх дарослых дзецях заўсёдных немаўлят.

— І што, ты замужам? Як жывеш? Што робіш? — Сняжынка зноў павярнулася да мяне і запатрабавала справаздачы.

— Не, не замужам, — я рассмяялася, а што, не трагізму ж мне ў голас дадаваць, — а ты?

— А я была, — здзівіла мяне сястрычка, — і падвысіла градус, — двойчы!

— Ого! — я ўзняла бровы, — распавядай! Як гэта ў цябе атрымалася? Не, блін, я ведаю, чаму не замужам: бо некаторыя ажно некалькі разоў паспелі!

— Ай, было б пра што распавядаць, — адмахнулася Сняжынка, задаволеная ажыўленнем гутаркі. — Першы раз у васямнаццаць гадоў выскачыла, як дура, не цяміла ж ні ў чым, а ён старэйшы быў на дзесяць гадоў, пачаў мяне выхоўваць: туды не хадзі, тое не рабі. Мне спачатку падабалася, а потым адчула ўвесь «кайф»… Толькі год стрывала…

— Ты малайчына, — ухваліла я, — шмат хто дзесяцігоддзямі трывае і думае, што так і трэба… Дык у цябе характар! Малайчынка! А што другі?

— О, другі! — Сняжынка пракаўтнула рэшту віна і так ляпнула шклянкай аб стол, што пра яго я зразумела авансам. — Другі! Во днямі год будзе, як разышлася! Чаго мне каштавала яго з гэтай кватэры выгнаць, ты не ўяўляеш! Сядзеў на маім карку, не працаваў, а яшчэ мяне звінавачваў, якая я дрэнная. І піў за мой кошт, і сяброў сваіх паіў!

— І сяброўак? — удакладніла я.

— І сяброўак, а як жа ж, — пацвердзіла Сняжынка, — пра сяброўак я ўвогуле маўчу. Сябраваў так, што толькі і паспявала па суседскіх бабках пра новых сяброўак навіны збіраць…

— А я вось ні разу замуж не выходзіла, — я падтрымала гутарку.

— Ой, лепш бы і я не выходзіла! А то любоў. Да таго ж ён прыгожы быў, дзеўкі на ім віселі, а ён мяне абраў — прыемна! Потым стала ясна, па якіх крытэрыях абіраў. А ў кватэры ж ні халеры не рабіў! У мяне кран пацёк, выклікала сантэхніка, а той вырашыў, што я адна жыву, клеіцца пачаў: маўляў, вам мужчына ў доме патрэбны… Смех!

Ну вось, цяпер у мяне ёсць сястра. Аднаго са мной веку. Ні мужа, ні дзяцей. У нас нават кватэры падобныя.

— О, слухай, — мне падалося дарэчным спытаць, — а як там дзядзя Алег?

Сняжынка разліла па стаканах рэшту віна і па прымхлівай звычцы паставіла пустую бутэльку пад стол.

— Папік? Ха! — яна так выразна хмыкнула, што мне зноў адкрыўся змест будучай прамовы. — Што з гэтым курвелем зробіцца? Думаеш, чаму я так хутка замуж выскачыла пасля школы? Задзяўбло, што ў мяне штогод новая мамачка! Хіба што не жаніўся на кожнай, і на тым дзякуй. Аліса была апошняй ягонай спробай трапіць у шэраг нармальных людзей. Хіба ў мяне можа быць нармальнае прыватнае жыццё з такімі генамі? Дарэчы…

І я ўжо ведала, пра што Сняжынка мяне спытае.

— Як там Аліса?

Я баялася, што Сняжынка крыўдуе на цётку. Мо хацела з ёй застацца, а не з дзядзем Алегам. Ды і хто там разбярэ ўсе гэтыя разводы, падзелы… Але Сняжынка проста пацікавілася.

— Нармальна, у Італіі сёмы год жыве…

— Што, замуж выйшла? — здзівілася Сняжынка.

— Не, працуе… Афіцыянткай. Паехала спачатку на сезон, а потым неяк зачапілася, уладкавалася… Відавочна, вяртацца не збіраецца, хоць і абяцае штогод…

— Хіба нармальныя людзі вяртаюцца з Італіі сюды? Але цікава… А што, яна шлюбам не бралася пасля папіка?

Я адмоўна пакруціла галавой.

— О, гэта наш радавы праклён! — Сняжынка засмяялася. — Звязаўся з Перагудамі — дабра не чакай! Я ж калі першы раз развялася, прозвішча сваё вярнула, думала, што…

Тут недзе ў пакоі азваўся мабільнік, Сняжынка пайшла размаўляць.

Я дапіла віно і сядзела, падпёршы падбароддзе, глядзела ў акно. Адсюль, з дзясятага паверха, бязглуздая стракатасць урбаністычнага пейзажа набывала сэнс, аб'яднаная ў адзіную карціну. Здавалася, зусім пад бокам пачынаўся лес, блізкі быў і край горада. Выявілася праўдзівая існасць нашых праблем і турбот, замкнёных у межах кальцавой. На Гомель насоўвалася зіма, і лёгка было даць веры, што аднойчы яна насунецца раз і назаўсёды, з ледавіком, змяце нашыя пачварныя пабудовы і пазбавіць патрэбы шукаць цуды ў нетрах пустых двароў, як любімы дзіцячы мячык, згублены ў вялікай кватэры. Бачыла б я штодня ў акне, замест люстранога адбітка ўласнага дома, лес на даляглядзе, мо і дасягнула б чагосьці, аддалена падобнага да прасвятлення.

Сняжынка вярнулася ў кухню апранутая, прычасаная і нафарбаваная, ад нечаканасці я тарганулася.

— Прабач, мне трэба ісці, — яна паставіла ў ракавіну пустыя шклянкі, — выбачай, але так добра, што ты прыйшла! Звані, не губляйся…

Мы пайшлі ў калідор. Я нахілілася зашпіліць боты, а Сняжынка чакала.

— Футра маё дай, — папрасіла сястра. Я адкрыла шафу — і ўва мне ўсё абарвалася. За маім паліто пухкім воблакам грувасцілася штучнае футра колеру красавіцкага неба.

Не дзіва, што Сняжынка падалася мне знаёмай, бо я бачыла яе сёння раніцай. Неверагодна…

Музыка грала нядоўга. Перарваўшы яе шыпеннем, робат-жанчына адрывіста сказала: «Нумар. Не знойдзены», і пабеглі каторкія гудкі.

Я так і завісла над сталом з непатрэбным алоўкам у руцэ, гудкі ліліся ў вуха. Прамінула пяць хвілін абедзеннага перапынку, а я страціла апошнюю надзею адшукаць чалавека, якога не бачыла васямнаццаць гадоў. Дзеўкі нязмушана шарахцелі паперамі, рыхтаваліся да абеду. Напэўна, у нашым кабінеце ніколі не адбудуцца падзеі маштабу большага за новую шмотку Светкі, такія ўласцівасці пpасторы.

Нічога не адбылося, але ўсё адно да вечара я не магла працаваць.

У суботу тырчаць дома было нясцерпна, таму я пацёгласяў горад; там адбываўся нейкі фестываль.

Савецкую перакрылі ад танка да парка, і людзі рушылі па дарозе. Мне падабаюцца перакрытыя вуліцы, асабліва плошча: нібыта ў вялікім пакоі ўсю мэблю ссоўваюць па сценах, а пасярэдзіне ставяць ёлку. Праўда, да ёлкі пасярод плошчы яшчэ паўтара месяца, але і без таго атрымлівала задавальненне. Я паднялася ад танка ў плыні мінакоў, дынамікі хрыпелі музыкай, а над галавой трымцелі пад парывістым ветрам расцяжкі. Нарэшце дазналася, што бяру ўдзел у адкрыцці «Сожскага карагода». Хваля з Савецкай выштурхнула мяне на плошчу, і я абышла яе двойчы, зазіраючы ў гандлёвыя палаткі, аблепленыя пакупнікамі; нават адстаяла адну чаргу і ў няроўнай барацьбе адваявала бутэлечку колы і два піражкі: з капустай і сырам. Прыціскаючы пакуначак з трафеямі да сябе, я выкруцілася з натоўпу і паглыбілася ў парк шпаркім крокам, нібыта рух мой меў кірунак і мэту.

Ніякай мэты я не мела. Усе гулялі па парах або з дзецьмі, а я адна, сама сабе начальнік. Таму вырашыла знайсці вольную лаўку, сесці і з'есці піражкі на самоце, пакуль гарачыя.

Жыццё ў каменных джунглях і барацьба за выжыванне загартавалі мяне, таму я не адступіла перад цяжкай задачай знайсці вольную лаўку ў час гарадскога свята.

Артэміда і Марс, можа, і іншыя багі сёння спрыялі мне, а над паляваннем гарэла шчаслівая зорка: ахвяры туліліся адно да аднога на маёй улюбёнай лавачцы на высокім беразе за зімовым садам.

Парачка падлеткаў, якія мо толькі што ўпершыню пацалаваліся, сядзелі ў абдымку. Я падышла і нахабна села побач з імі. Вынік доўга чакаць не давялося: дзеткі засароменіся і сышлі, пэўна, абураныя маёй беспардоннасцю. Піражкі ў пакунку ўжо дасягнулі тэмпературы, прыдатнай да ўжывання: яны грэлі рукі, але не апякалі язык.

Сняжынка мела цацку, якую я любіла са страшнай сілай. Дзядзя Алег даўно, калі нам было гадоў па пяць-шэсць, падарыў ёй гэдээраўскага зайца. Усё заечае цельца было мягкае, лапкі доўгія — з зайчыкам можна было абдымацца, а твар ён меў адмысловы — выраблены з гумы, і нагадваў лялечны або чалавечы. Ружовы зайчык з беленькім жывоцікам, як я яго любіла! Я пакутавала, што ён мне не належыць. Днямі і начамі я марыла, што мягкі зайчык з чалавечым тварам толькі мой. Сняжынка ахвотна аддавала яго ў мае рукі, калі я прыходзіла ў госці, цёця Аліса цягала цацку на нашыя супольныя прагулкі, аднойчы мне далі зайца на цэлы тыдзень, і я хадзіла з ім у школу, трымала яго ў пакеце пад партай і выцягвала на перапынках. Перад сном я прыладжвала зайчыка побач з падушкай, а ўночы пільна ўзіралася і не магла нагледзецца на ягонае аблічча, заўсёды прыветнае, але абыякавае да маіх пакут.

Можа, людзі падзяляюцца па відах любові? Як па групах крыві. Мая безадказная любоў да плюшавага зайца так і крочыць са мною па жыцці: ніхто не належыць мне. Як бы моцна я ні любіла, за найвялікшае шчасце атрымліваю толькі непрацяглае сузіранне абыякавага аблічча.

Гарачая хваля шкадобы да сябе падкаціла да носа і вачэй; я загасіла яе халоднай колай, выкінула тлусты пакецік з-пад піражкоў у сметніцу ля лаўкі і рушыла да людзей: на летняй эстрадзе за маёй спінай адбываўся нейкі канцэрт.

Нягледзячы на холад, гледачоў было багата. Як я зразумела з афішы, сярод ананімных выканаўцаў на дабрачынным арт-суботніку выступалі некалькі больш-менш вядомых калектываў, і менавіта іх прыйшлі паслухаць прыхільнікі. І верагодна, цяпер на сцэне прысутнічаў адзін з такіх гуртоў, бо сярод публікі падлеткавага веку назіралася ажыўленне.

Я стала цягнуць шыю, каб разгледзець. Ага, клавішы, бубнач, дзве гітары, а па авансцэне скакаў хлопчык у шырокіх штанах і вялізнай кепцы — чытаў рэп. Я ўслухалася, і мне спадабалася.

Жыццё нібыта неблагое,
Але не такое, іншае,
З салодкім прысмакам спакою, жыццё прыцішанае,
Замарожанае, як заварожаны, праходжу вуліцамі,
Дзе дом да дома туліцца…

Я ўзбілася на броўку, паднялася на дыбачкі, каб убачыць хоць штосьці, апрача патыліц людзей перад мною. Нарэшце хтосьці пасунуўся, і я хуценька запоўніла сабою прагал. Выканаўца чымсьці нагадваў Артурчыка. Я б нават сказала, што гэта ён і ёсць, але Артура Пятровіча на сцэне быць не магло. Я хацела даслухаць да канца, каб дазнацца назву гурта, мо на канцэрт схадзіць… Я азірнулася: вакол мяне скакалі і падпявалі падлеткі, плявала я на іх, схаджу на канцэрт. Саліст павярнуўся

тварам у мой бок: гэта быў Артурчык, і ніхто іншы. Старэйшы эканаміст скакаў па сцэне ў шырокіх штанах і прамаўляў у мікрафон:

...Хто знае?
Баюся, што цябе я не пазн*а*ю,
Скажу не тое, не пра тое я спяю,
Цябе баюся — і цябе не пазна*ю*…

Мне стала смешна і сумна. Пра якую, прабачце, закаханасць магла я весці гаворку, калі не здолела пазнаёміцца з чалавекам, з якім працавала не адзін год. Як мала я ведаю пра людзей, якія атачаюць мяне. Свет па той бок мяне жыве і віруе, а я не ў стане прымаць ягоныя сігналы. Я паламалася? Напэўна, я зусім паламалася.

Дзеткі мяне зусім заштурхалі, таму я выкруцілася з натоўпу і стаяла побач, слухала.

Ад групы міліцыянтаў, якія сачылі за парадкам, аддзяліўся адзін хлопец і рушыў у мой бок. Пры тым ён усміхаўся. Я азірнулася: за маёй спінай нікога не было. Міліцыянт працягваў з усмешкай набліжацца, шчэ і пачаў прывітальна ківаць мне галавой. Я са здзіўленнем адчула ў сабе радасць пазнавання.

Дзякуй богу, міліцыянт падышоў да мяне ўшчыльную і весела сказаў:

— Здароў! Як жыццё?

Гэта быў мой аднакласнік.

— Лёшыч, — я выдыхнула з палёгкай, — як ты мяне напалохаў! Я цябе не пазнала.

— Што, міліцыі баішся? — Лёша так радаваўся нашай сустрэчы.

— Ага, асабліва цябе… Уяўляеш, — я кіўнула галавой у бок сцэны, — гэта наш старэйшы эканаміст.

— Дзе? — Лёша не зразумеў.

— Па сцэне гойсае, пяе.

Аднакласнік прысвіснуў:

— Ні фіга сабе ў вас эканамісты! А як сама?

— Прыкол у тым, Лёшыч, што я з ім пяць гадоў прапрацавала, а пра тое, што ён пяе, дазналася дзесяць хвілін таму… Сама я так, нармальна. Звычайна, як заўжды.

— Замуж не выйшла?

— Божа, як вы ўсе дасталі мяне з гэтым «замужам», Лёшыч, хоць ты памаўчы! — адказала я абыякава.

— Ну што ты адразу злуешся, — прыміральна сказаў Лёша, ён у нас заўжды быў спакойным. — Я ж пытаюся выключна ў практычных мэтах!

— Што такое? — не зразумела я.

— Ну як жа! — Лёшыч рассмяяўся. — Даведваюся, ці можна цябе запрашаць на каву, не ведаю, на спатканне…

— А-а-а, — я таксама рассмяялася, — ты пра гэта! Я ўжо забылася, што за спатканні такія. Запрашай, патрэніруемся, каб кваліфікацыю не губляць. Лёш, слухай, пайду я дадому, а то змерзла, пакуль на лавачцы сядзела, вецер такі, не ўяўляю, як вы тут стаіце цэлы дзень.

Я развіталася і пайшла, паабяцаўшы аднакласніку «не губляцца» і «трымаць сувязь», як мы заўжды абяцаем адно аднаму пры сустрэчах. Вецер усё мацнеў і халадзеў, а перад вачыма ў мяне скакаў Артурчык, у кепцы і з мікрафонам: «Цябе баюся і цябе не пазнаю…»

За ноч прыйшла зіма: увечары, як толькі я дайшла да кватэры, паваліў снег з дажджом, уночы ўсё змерзлася, а ўранні свежы лёдзік падтаяў і пакрыўся тонкім слоем вады. Тыповае, зрэшты, для нашых шырот зімовае надвор’е.

Я тулялася па кватэры з пакоя ў пакой, з лазенкі ў кухню, і не знаходзіла сабе месца, бо не ведала ніводнай нагоды жыць. Я нікому не патрэбна. Нават перастала праз гэта пакутаваць, які сэнс? А ўчора выявілася, што не маю ні ў кім патрэбы. Я меркавала, што люблю Артурчыка, а любіла насамрэч скалечаны прывід, фантом уласнай свядомасці.

Я не любіла ні працу, ні калег, ні родны горад, ні Фелікса, з якім жыла ўжо другі год. Калі я паспела ператварыцца ў такую пачвару? Калі я першы раз забараніла сабе любіць? Таму я, пэўна, і зламалася, бо замкнула кантакты сама на сабе, а з навакольным светам усё добра, ён жыве.

Я ўзяла тэлефон, знайшла патрэбны нумар і націснула на выклік.

— Лешыч, здароў. Я адразу з просьбай… Слухай, ты можаш знайсці аднаго чалавека? Дзяўчыну. Я па ўсіх базах тэлефонных шукала, нідзе няма, мабыць, прозвішча змяніла, з усімі супольнымі знаёмымі кантакт згублены… Сняжана Перагуда, нарадзілася ў красавіку восемдзесят першага, Сняжана Алегаўна… Буду ўдзячная табе вельмі-вельмі… Ага, чакаю.

Я пайшла да акна. Ну вось, зараз усё вырашыцца. Чаму я раней не пазваніла Лёшычу? Я ж ведала, што ён працуе ў міліцыі.

Не памятаю, колькі прастаяла на кухні за фіранкай. Я так хвалявалася, што ўзяла Фелікса на рукі. Ён, пэўна, здурэў ад такіх праяў пяшчоты, бо замурчаў, як трансфарматар.

Нарэшце зазваніў мабільнік.

— Філя, ідзі гуляй, — я выпусціла ката на падлогу, — алё, Лёша, здароў…

— А хто яна табе? — без прадмовы спытаў Лёша, і па ягоным голасе — той гучаў, як нацягнутая да мяжы струна, — я здагадалася.

— Ніхто, — сказала я, фармальна гэта было праўдай.

— Яна памерла, нядаўна. Сняжана Алегаўна Краўчэня, 1981 года нараджэння… У красавіку…

Я ці то прашаптала, ці то падумала «Дзякуй», і націснула адбой. Думаю, Лёшыч даруе мне гэтую правіну. Я перазваню пазней, калі буду ў стане.

На пачатку красавіка… Значыць, яна першая ўзгадала пра мяне. Значыць, яна ўсё-ж такі мяне любіла.

Пад акном дворнік рытмічна апускаў лом на ільдзяную корку, і аскепкі пырскалі ва ўсе бакі, вызваляючы чорны асфальт. Фелікс ткнуўся прыплюснутай пысай мне ў нагу.

## ЦЫРКУС

### I

Куды вуліца горада завядзе чалавека, які не збочыць, не падымецца на прыступку трамвая, не спусціцца ў метро, а будзе крочыць напрасткі, мінаючы дом за домам? Вуліца вывядзе чалавека за горад, у поле, лес, да рэчкі і вясковых хат.

Так думае той гараджанін, які ніколі не спрабаваў прайсці па вуліцы ад пачатку да заканчэння. Насамрэч вуліцы вялікіх гарадоў закручаны як кішкі ў вантробах жыцця.

Каторы год спрабавала Гражына Аліцыя выбрацца з горада. Вось і цяпер ішла Чыгуначнай вуліцай, а разам з ёй перыстальтыка жыцця гнала наперад аўтамабілі, тралейбусы, лістападаўскі змрок ды холад, дробных, як мікробы, людзей у куртках

і палітонах. Гражына Аліцыя думала, што і сёння не хопіць часу прайсці вуліцу да канца, калі пачула музыку.

Гражына Аліцыя спынілася, азірнулася ў пошуках крыніцы музыкі і ўбачыла лямпачкі.

Каляровыя шарыкі-лямпачкі асвятлялі па перыметры фанерную шыльду, на якой калісьці быў старанна вымаляваны надпіс «Circus».

Такой дзіўнай шыльды яна не бачыла даўно, а можа, і ніколі. Хто ж цяпер вырабляе шыльды з расфарбаванай фанеры, ды яшчэ прапільвае ў ёй адтуліны для ўкручвання лямпачак?

Гражына Аліцыя паднялася па прыступках пад брыль будынка, каб бліжэй разгледзець дзіўны надпіс. Ды і што там быў за будынак! Вялізны шэры куб, з якога быццам выцягнулі адну з дэталек. Можна зразумець памкненні архітэктара да прыгажосці нелагічнай формы, але колькі цяпер будынкаў знерухомелі ад страху ды так і стаяць па сёння, штодня баючыся ўласнага зруйнавання.

Дзяўчына стаяла ля дзвярэй. Пад дзіўнай шыльдай знайшлася яшчэ адна: «Унітарнае канцэртнае прадпрыемства “Цыркус Плюс”», нумар і тэрмін дзеяння ліцэнзіі, час працы, а на шкляных дзвярах з сярэдзіны былі прыклееныя афішы. Адна з якіх прывабіла Гражыну Аліцыю актуальнай датай. І назва вабіла: «Паноптыкум. Музычная тэатралізаваная праграма».

Сёння выбрацца з горада ніяк не выпадала, і яна пацягнула цяжкія дзверы, тыя расчыніліся.

## II

Мембрана дзвярэй паслухмяна прапусціла Гражыну Аліцыю ў хол. Мутна асветленая прастора, замкнёная выцертымі плітамі падлогі і не раз фарбаванымі сценамі, драбілася цёмнымі калідорамі наўпрост налева і направа, а ў калідорах унутраны радар пеленгаваў шматлікія пусткі. Дзяўчына адразу ўявіла, як можна зайсці ў любую з іх і быць там бесперапынна няшчасным, плакаць, скуголіць ад няўцямнае бяды, сядзець на кукішках ля сценкі, хаваць твар у калені і прыкрываць патыліцу далонямі.

Але на сцяне, між стэндаў, залепленых схемамі ўцёкаў і выявамі тэхнагенных катастроф, вісела вялікая фанерная страла. Па перыметры яна мела адтуліны, у якія былі ўкручаны фарбаваныя лямпачкі. А па сярэдзіне было напісана «Circus». Магчыма, падумала Гражына Аліцыя, калі пайсці ў тым кірунку, то ў адным з калідораў знойдзецца пустка, пралом, шчыліна ў плотнай тканіне жыцця, дзе можна пачувацца шчаслівым.

Хол быў перагароджаны парапетам з турнікетам, а нябачная кнопка знаходзілася ва ўладзе цёткі ў шкляной будцы. Цётка ў святле настольнай лямпы сноўдала пруткамі, з якіх звісала шэрая субстанцыя. Гражына Аліцыя, нямала ўсцешаная сваёй здольнасцю адаптавацца і веданнем таемных правіл жыцця ў горадзе — напрыклад, як прайсці за турнікет — дала цётцы крыху магічных паперак, і тая неахвотна націснула кнопку, пусціла яе ў калідор.

## III

Гражына Аліцыя асцярожна пайшла па калідоры направа, сціскаючы ў руцэ білецік, паднялася па лесвіцы без вокнаў. Як раптам памякчэлая зямля ў лесе прадвяшчае блізкае балота, так кілім, пасцелены на другім паверсе, паглынуўшы

гулкія крокі, абяцаў вывесці дзяўчыну да таго, што мела назваю «Circus». І святло ў гэтым калідоры памякчэла: яшчэ не грэла любоўю, але і не труціла іртутнай варожасцю, не патрэсквала пагрозліва, як у холе. Таму Гражына Аліцыя амаль без страху прыадчыніла дзверы, за якімі павінна адбывацца дзея, — і не памылілася: чарговая цётка, якая пільнавала ўваход, уцягнула яе ўсярэдзіну, парвала магічны пропуск і паказала на вольныя месцы. Яна асцярожна села з краю: канцэрт ужо пачаўся.

Гражына Аліцыя акуратна сцягнула паліто, размотала шалік і агледзелася. Людзей у зале было небагата: парачкі, якія прыйшлі, абы пагрэцца, і людзі паасобку, мабыць, яны таксама шукалі кароткага перапынку ў штодзённых уцёках, але што адбывалася на сцэне!

Вялікая жанчына, пругкая, як жэле, абцягнутая цёмна-сіняй вечаровай сукенкай, спявала раманс, вібруючы ўсім аб'ёмам свайго цела. На раялі ёй акампанаваў карузлік, ягоныя ногі не сягалі педаляў, і правая дзёргалася ў такт. Акампаніятару можна было б даравацъ ягоны выгляд, але салістка! На жэлейнае дэкальтэ спявачкі спускалася чорная з сівізной барада.

Гражына Аліцыя, сузіраючы пералівы барады ў святле сафітаў (барада нібыта выступала асобным нумарам), бясспрэчна вырашыла, што «Цыркус» — не тое месца, дзе можна адчуць сябе шчаслівым, і чакала заканчэння нумара, каб сысці, ды прыцішвала нутраны страх, які сцягаў яе бізуном адрэналіну: «Прэч адсюль! Прэч адсюль!»

«"Паноптыкум!" — раптам узгадала Гражына Аліцыя. — Канцэрт называецца "Паноптыкум". Нас чакаюць жанчына-змяя, асілкі, фокуснік і чалавек, які прамаўляе жыватом. А барада — бутафорская».

Жаданне пакінуць залу амаль пераважыла, і дзяўчына памкнулася да выхада, калі зайграла музыка, якая змусіла яе апусціцца ў крэсла і глядзець на сцэну неадрыўна.

## IV

Гучала тая самая музыка, якая змусіла Гражыну Аліцыю падняць вочы на вуліцы і ўбачыць фанерную шыльду. Гук ішоў з катрынкі, а круціў ручку хлопец, які змяніў на сцэне карузліка і барадатую спявачку рамансаў.

У дзяўчыны зашчымела сэрца, а стрункі бялявы хлопец з высокім ілбом і паголенымі скронямі адразу ўвасобіў усё неабдымнае і недасяжнае шчасце, якое можна было прыдбаць, не пакідаючы горада. Мелодыя катрынкі, узмоцненая акустыкай залы, запоўніла ўсю прастору. Барабаны і ролікі катрынкі круціліся і намотвалі на сябе нябачныя ніці, якія цягнуліся з сэрца Гражыны Аліцыі, прыкручвалі яе да катрынкі мацней і мацней. Высокі хлопец безуважна глядзеў у паўпустую залу паўпрыкрытымі вачыма, а Гражына Аліцыя толькі і марыла злавіць ягоны позірк, прызначаны ёй адной.

Бываюць выпадкі, калі анатамічная будова павекаў дадае позірку стомленасці, грэблівасці, таямнічасці, а людзі прыпісваюць згаданыя якасці іх характару. Высокі хлопец, якому пашчасціла нарадзіцца прыгожым, анічога сам не зрабіў, толькі выйшаў на сцэну і пазіраў у залу паверх галоваў, ён нават не спяваў, не граў, толькі круціў ручку катрынкі, але ў Гражыны Аліцыі замкнула ўсе кантакты, і пабегла па коле шалёная хімічная рэакцыя.

Калі хлопец сышоў са сцэны, дзяўчына выцерла слёзы са шчок і пабажылася, што не выйдзе адсюль, пакуль гэты хлопец не будзе належаць ёй.

Дарэмна яна бажылася, дарэмна. І што ёй собіла? Як яна ўявіла сабе выкананае жаданне? Ці то вынесці хлопца адсюль, перавязанага стужачкай? Ці шлюбам пабрацца з ім у грымёрцы, пад блаславенне ўсіх вахцёрак? Ці то яна наўмысна абрала мэту, якой немагчыма дасягнуць?

Апамяталася, калі стаяла на сцэне, выкліканая фокуснікам. І, цярпліва прычакаўшы, пакуль той выцягне з яе носу ўсе манеткі, а з-за каўняра — насовачкі, пакуль падорыць і адбярэ ўсе папяровыя кветкі, сышла са сцэны за кулісы.

## V

Гражына Аліцыя дарэмна баялася, што яе пагоняць з-за кулісаў: у вантробах сцэны на яе ніхто не зважаў, хіба што стараліся абмінуць тыя, хто рыхтаваліся да выхада. Жанчына-змяя, гімнастка ў цялесным трыко, крыху пасунула яе, нават не зірнуўшы. Барадатая жанчына ў сіняй сукенцы, музыкі з інструментамі ў руках, дзяўчаты ў аднолькавых касцюмах з прылізанымі валасамі — усе мякка штурхаліся, рухаліся па вядомых ім маршрутах.

Цагляныя нетынкаваныя сцены былі забраны металічнай сеткай, з высокай столі спускаліся чорныя палотны, на падлозе грувасціліся скрыні, на адной з якіх стаяла самотная катрынка.

Яна асцярожна пагладзіла магічную скрыню па рабрыне, абмацала пальцамі ўзорчатую паверхню — і, як чароўная лямпа выклівае джына, так катрынка паклікала свайго бялявага гаспадара.

— Хочаш пайграць?

Хлопец са сцэны — які ён высокі! — стаяў ля Гражыны Аліцыі, і няможна было зразумець: ці то ён усміхаўся, ці то ягоныя вусны самастойна скlаліся ва ўсмешку.

Дзяўчына з дазволу круціла ручку, сама ўтварала музыку, якая прывяла яе сюды, а гаспадар з такім паблажлівым гонарам стаяў побач, нібыта спрычыніўся да навучання новага музыкі.

— Хадзем з намі! — хлопец узяў яе за руку, і ў той зайшлося сэрца, а сам глядзеў у іншы бок: адтуль клікалі, і ён падаваў знакі, маўляў, зараз.

— Ну хадзем жа! — не адпусціўшы рукі, ён зазіраў у вочы. — Хадзем, хадзем.

— А куды? — пацікавілася яна, гатовая ісці куды заўгодна.

— У бібліятэку! — рагатнуў хлопец і мякка штурхаў яе наперад, абдымаючы за плечы. — Пачытаем кніжкі. Потым здамо, новыя возьмем і зноўку пачытаем!

Гражына Аліцыя паслухмяна рушыла ў невядомае, адчуваючы на плячах адбымкі жаданых рук.

У грымёрцы разлівалі і пілі з такім выглядам, нібыта займаліся супольнай важнай справай, і віталі кожнага, хто ўвайшоў. Жанчына-змяя ў махровым халаце паверх трыко, барадатая спявачка і іншыя артысты — ніхто не пацікавіўся, каго прывёў музыка, толькі ахвотна пасунуліся, даючы ім месца на канапе. Сталы мужчына ў бэзавым фраку працягнуў ёй напоўнены пластыкавы кілішак.

— Што гэта? Гарэлка? — насцярожана пацікавілася яна.

— Не, не гарэлка, — запэўніў яе хлопец, — але табе спадабаецца, выпі!

— Выпі! — хорам паўтарылі ўсе прысутныя і запытальна паглядзелі на яе.

Гражына Аліцыя выпіла.

## VI

Калі дзяўчына прачнулася, у грымёрцы нікога не было. На туалетным століку гарэла няяркая лямпа. Куды ўсе падзеліся, чым скончыўся паход у мясцовую бібліятэку

тэку — як ні намагалася, узгадаць не магла. Адзінае, што памятала, — няспыннае вяселле і насычаную словамі супольную гутарку. Яшчэ Гражына Аліцыя цьмяна прыгадвала, што хлопец, які прывёў яе, увесь час абдымаў яе за плечы і, здаецца, пару разоў пацалаваў у шыю, а ўсе звярталіся да яго «Ежы Тадэвуш». А вось ці назвала яму сваё імя, успомніць не магла.

Яна асцярожна ўзнялася з канапы. Галава не балела, толькі хацелася піць. Гражына Аліцыя надзела паліто і выйшла ў калідор: трэба было выбірацца вонкі.

Калідоры блыталіся, перацякалі адзін у другі, таму Гражыне Аліцыі давялося паблукаць, перш чым ступіць на мяккі кілім другога паверха, адтуль па знаёмай лесвіцы спусцілася ў хол, да вахты з турнікетам.

У холе нікога не было. У будцы вахцёркі не гарэла лямпа, з высокай столі тачылася нежывое святло.

Турнікет, адключаны ад электрычнасці, паслухмяна пракруціўся, гучна і працягла скрыпнуўшы. Дзяўчына штурхнула дзверы на вуліцу, але тыя аказаліся замкнёнымі.

Тут Гражыну Аліцыю ахапіў жах. Адна ў пустым будынку з халоднымі сценамі, у нежывым святле! Што рабіць? Дзяўчына сцялася, гатовая заплакаць ад жаху і бездапаможнасці. Аж праз хвіліну прыступ панікі аціх, і яна вырашыла вярнуцца ў грымёрку ды перачакаць да раніцы, пакуль вернецца вахцёрка, тая ці іншая, адамкне дзверы і выпусціць яе вонкі.

Гражына Аліцыя зноўку паднялася на другі паверх, немаведама як адшукала грымёрку, тую ці не тую, уладкавалася на канапе і нечакана для сябе заснула.

## VII

Дзяўчыне здалося, што яна праспала сто гадоў. Прачнулася ад грукату ў дзверы.

Яна не адразу прыгадала, дзе знаходзіцца, аднак усё было на сваіх месцах: і туалетны столік з вялікім люстрам, і шафа, і нават крэсла стаяла там, куды яна яго заўжды адсоўвала.

Да грукату дадаўся голас:

— Ты звар'яцела! Прачынайся! Паглядзі на гадзіннік! Пра-чы-най-ся!

Грукат мацнеў, дзверы маглі не стрываць. Яна пацёглася, заспаная, адмыкаць, з трывожным прадчуваннем забытага чагосьці вельмі важнага.

У калідоры стаяла ўзрушаная дзяўчына з вельмі знаёмым тварам — Гражына Аліцыя магла пабажыцца, што ведае яе імя, і адразу ж прыгадала: Мара, тая рабіла вялікія вочы і з дакорам ківала: ну як так можна?

— Ты звар'яцела? Як так можна спаць? Фабіян дазнаўся, што цябе няма, так крычаў! Казаў, што галаву адарве! Праз дзесяць хвілін пачатак, а ты спіш! Пабеглі! — Мара ўхапіла яе за руку.

— Стой, а ўмыцца? — запярэчыла яна, але Мара толькі мацней пацягнула яе за сабой.

Дзяўчаты ўжо стаялі ля выхада на сцэну, калі хтосьці працягнуў ёй касцюм, і Гражына Аліцыя пачала спешна пераапранацца, адчуваючы патыліцай позірк Фабіяна, які, пэўна, быў тут. Раптам яна заўважыла, што нацягвае на сябе: гэта быў касцюм голай жанчыны. І дзяўчаты, якія засяроджана чакалі выхада на сцэну, усе, як адна, былі так апрануты.

На сорам часу неставала: артысткі, адна за адной, як парашутысты ў люк, пазрываліся на сцэну.

Апёк сораму пацiху астываў, засталася толькi трывожная неўтаймаваная няёмкасць, якая, аднак, не зашкодзiла Гражыне Алiцыi танчыць. Яна рухалася, як марыянетка, а нябачныя вяровачкi самi падымалi i апускалi ейныя рукi i ногi ў вар'яцкiм танцы.

Дзяўчына была здзiўлена i разгублена. Яна ведала кожную з дзяўчын у твар i па iменi, баялася гневу галоўнага рэжысёра Фабiяна, магла пералiчыць, нумар за нумарам, усю канцэртную праграму, трапляла ў такт музыцы, ледзь чутнай на сцэне за грукатам ног, але не магла, зусiм не магла згадаць, што яна рабiла ўчора, заўчора i папярэднi тыдзень.

Пад фiнальны акорд Гражына Алiцыя спрытна скочыла за кулiсы — i паляцела на Фабiяна, ён, пэўна, наўмысна апранаўся ў цёмнае, каб злiвацца з паўзмрокам. Фабiян грэблiва адсунуўся.

— Зойдзеш да мяне, — ён кароткiм рухам абтрусiў лацканы пiнжака, нiбыта запэцкаўся, — зараз жа зойдзеш да мяне! — i iмклiва знiк у калiдоры.

Дзяўчаты спачувальна глядзелi на Гражыну Алiцыю. Яна хацела пераапрануцца, але не стала марудзiць.

Дзверы ў кабiнет Фабiяна аказалiся на вышынi двух метраў — i нi прыступак, нi парэнчаў. Гражыну Алiцыю ахапiў звыклы бездапаможны адчай, як заўжды перад кабiнетам начальнiка, яна моцна замружылася, працягнула руку кудысьцi высока — i ў наступную секунду стаяла перад сталом Фабiяна, вiнавата панурыўшы галаву.

Фабiян быў такiм тыповым галоўным рэжысёрам, нiбыта сапраўдныя гаспадары «Цыркус» купiлi яго ў краме. Не стары, але пастарэлы, не тоўсты, але патлусцеўшы, не алкаголiк, але з чырвоным прыпухлым тварам, а рудыя вусiкi былi прыладамi для перадачы гiдлiвасцi.

Вiдаць, толькi Гражыну Алiцыю бянтэжыла тое, што яна стаяла перад начальнiкам голая, дакладней, у касцюме голай, а значыць, голая двойчы, Фабiяна ж гэта не хвалявала. Ён крычаў, навiсаў над сталом, варушыў гнюснымi вусiкамi, а потым, калi скончыўся завод, раптамацiх i сказаў спакойна:

— Ладна, усё, iдзi. Не спазняйся больш.

Гражына Алiцыя здзiвiлася не раптоўнаму заканчэнню ярасцi, а свайму iмунiтэту: ёй не хацелася нi плакаць, нi помсцiць, нi выпраўляць паводзiны — толькi не чуць гэтага больш нiколi ў жыццi.

Перш чым адчынiць дзверы, яна замружылася, сягнула наперад, гатовая падаць з вышынi, аднак не ўпала, а апынулася ў знаёмым да болю калiдоры, па якiм пабрыла ў свой пакойчык.

У грымёрцы дзяўчына сцягнула касцюм i села перад люстэркам. Адназначна, з ёй адбывалася штосьцi страшнае i незразумелае. Што было ўчора? А заўчора? А з тыдзень таму? Але найменшае намаганне ўзгадаць сцягвала яе ў такiя чорныя i вусцiшныя бяздоннi, што дзеля захавання душэўнага спакою цi нават здароўя яна вымушана была спынiцца. Прынамсi, некаторыя кропкi раўнавагi памяць намацвала без намаганняў. Гражына Алiцыя прысела, выцягнула нiжнюю шуфляду туалетнага столiка, запусцiла руку пад гурбу панчох i з самага дна дастала фотаздымак найлепшага, найпрыгажэйшага чалавека ў свеце — Ежы Тадэвуша.

**VIII**

Тое быў не проста фотаздымак мужчыны, а мапа ейнага сусвету. А патрэбу ў мапе Гражына Алiцыя цяпер мела моцную, як нiколi. Нiбыта бязадрасная энергiя любовi дзяўчыны выпраменьвалася ў прастору, i толькi сустрэўшы пера-

шкоду ў выглядзе Ежы Тадэвуша, набыла форму, змест і сэнс. Гражына Аліцыя пяшчотна і ўдзячна пацалавала фотаздымак і, схаваўшы яго пад панчохі, закрыла шуфляду.

Каб змяніць паветра навокал на больш шчыльную і трывалую субстанцыю, Гражына Аліцыя ўзяла рушнік і пайшла мыцца.

Толькі ў распраналцы з трох'яруснымі металічнымі шафкамі яна зразумела, што зусім не памятае, як выглядае тутэйшая душавая. І як яна дасюль дабралася?

Гражына Аліцыя, босая і заматаная ў рушнік, выйшла з распраналкі ў дзверы з сіняй выявай кроплі, якая выцякала з трубы, — і другі раз за дзень яе апёк сорам. Такі неразбаўлены, канцэнтраваны сорам. У вялікім памяшканні, значна большым за сцэнічны, радамі стаялі ванны, па дзесяць у шэрагу. Ля прыгалоўя кожнай з падлогі прараcталі трубы з кранамі. Хочаш мыцца — набірай ваду і мыйся, толькі з табой адначасова могуць мыцца яшчэ пяцьдзясят жанчын. Лазенка была хірургічна асветлена, а сцены і падлога абкладзены белай квадратнай кафляй. Дакладней, калісьці белай.

Пашыхтаваныя ванны, рытмічна натапыраныя краны — гэта нагадвала могілкі з надгроб'ямі ці крыжамі.

Дакладна, тут не ведалі ні пра сорам, ні пра асабістую прастору. Гражына Аліцыя асцярожна прасунулася да левай сцяны. Абраўшы чысцейшую ванну, давялося класціся ў гарачую ваду.

Гражына Аліцыя старалася не падымаць галавы, не магла прыдумаць, як паводзіць сябе, калі з ёй хтосьці павітаецца з суседняй ванны. Гарачая вада ўсё ж крыху разняволіла яе. Дзяўчына апусціла патыліцу на борцік, убачыла высокую столь. Аднастайны малюнак столі здаўся ёй знаёмым, і гэта крыху супакойвала. Яна заўважыла, што збольшага памятае элементы свайго свету, і, мабыць, варта толькі супакоіцца, разняволіцца — і нязмушана ўзгадаць, хто яна, як тут апынулася і навошта.

І адразу ці то зразумела, ці то ўзгадала, што дзесці побач ёсць басейн.

Гражына Аліцыя ўсхвалявалася. Сапраўды, калі за сценкаю — басейн, і яна гэта памятае, а не ўяўляе, то памяць можна аднавіць. Яна вылезла на падлогу, заматалася ў рушнік і, не счакаўшы нават, пакуль спусціцца вада, каб абмыць ванну, рушыла да непрыкметных дзвярэй у дальнім кутку.

Перад дзвярыма яна счакала секунду — а раптам ёй прымроілася? — але ўзялася за ручку, пакрытую кандэнсатам, і сягнула за парог.

Басейн быў на месцы.

Цёмны і закінуты, аднак напоўнены вадой, басейн быў такі, які яна ўяўляла. Шэсць дарожак, адасобленых белымі паплаўкамі, дзве вышкі, тумбы для прыжкоў і лаўкі ўздоўж сцен. Ваду не абнаўлялі, пэўна, даўно, і яна стаяла нерухома.

Гражына Аліцыя села на борцік і апусціла ногі ў ваду. І трубчатыя лесвіцы, і тумбы — усё было знаёмым. Відаць, яна тут плавала, ад борціка да борціка. Два вялікія гадзіннікі, адзін насупраць аднаго, паказвалі розны час і, пэўна, стаялі. Яна праседзела тут, пакуль не адбылося наступнае.

Дзверы па той бок басейна адчыніліся, з іх выйшаў Ежы Тадэвуш. Не зірнуўшы на Гражыну Аліцыю, спрытна даў нырца і паплыў, як рыба ці дэльфін.

Дзяўчына імгненна адчула сябе голай, хоць тканіны на ёй было шматкроць болей, чым на Ежы Тадэвушы, аднак функцыі рушніка і плавак розняцца кардынальна. Гражына Аліцыя не знайшла нічога лепшага, як спешна ўцячы.

## IX

Поспехі Гражыны Аліцыі ў аднаўленні памяці нельга было назваць бліскучымі, аднак невялікі прагрэс назіраўся. Праўда, узгадалася тое, на што варта было б забыцца: дзяўчына дэтальна аднавіла ўсю гісторыю дачыненняў з Ежы Тадэвушам. Дакладней, гісторыю адсутнасці дачыненняў. Ежы Тадэвуш хадзіў паўз яе і ў лепшым выпадку прыязна вітаўся.

Заставаліся яшчэ праца і сябры. Лепшай сяброўкай выявілася Мара — яна прыбегла будзіць Гражыну Аліцыю ў чорную раніцу, калі тая прачнулася з зацёртай памяццю. Мара была як лялька: маленькая, з пухлымі вуснамі і валасамі такімі кучаравымі, што ёй цяжэй за ўсіх было зацягваць іх у гульку перад кожным выступленнем. Затое толькі варта было выцягнуць шпількі — і валасы самі складаліся ў выкшталцоную прычоску, дзеля якой Гражыне Аліцыі давялося б усю ноч спаць на бігудзях. Сваю лялечнасць Мара лічыла памылкай прыроды, хмурыла бровы і закусвала вусны, каб выраз твару адпавядаў яе сур'ёзнай натуры.

Праца назаляла дзяўчыне найбольш. Яна штодня задавалася пытаннем: як можна было дайсці да такога жыцця, каб штодня дрыгацца на сцэне перад публікай у касцюме голай жанчыны і называць гэта «нармальнай працай» на той падставе, што твой начальнік і калегі не бачаць у гэтым нічога дзіўнага ці ганебнага.

«Геніяльны» тэатральны нумар нарадзіўся, канешне, у неспасцігальных нетрах фантазіі Фабіяна, і ён ім вельмі ганарыўся. На рэпетыцыях рэжысёр тлумачыў, што «нумар раскрывае прыхаваную прыроду чалавека, паказвае яго такім, які ён ёсць». А калі аднойчы Гражына Аліцыя пацікавілася мэтазгоднасцю касцюма і спытала, ці не прасцей было б выходзіць на сцэну голымі, Фабіян, насуперак чаканням, не стаў крычаць, а паведаміў, што яна бессаромная вар'ятка і калі мае жаданне танчыць голай, то хай робіць гэта ў іншым месцы, а «Цыркус» — прыстойная ўстанова.

Гражына Аліцыя спрабавала правесці падрыўныя работы з дапамогай Мары, але тая не павялася.

— Што значыць «прыстойна, не прыстойна»? — Мара нават абурылася. — Гэта твая праца, і рабі яе, калі ласка, добра! Не будзеш танчыць у голым касцюме — будзеш у іншым, а якая між імі прынцыповая розніца? Зрэшты, куды ты дзенешся з тэатра?

Вывесці гэтае пытанне з шэрагу рытарычных і намагалася Гражына Аліцыя, але тут яе заўжды чакала поўная параза.

— А гледачы? Куды яны дзяваюцца пасля канцэрта? — спрабавала яна дапытацца ў Мары, але сутыкалася з непаразуменнем.

— Ды паглядзі ты на гэтых гледачоў! — аднойчы не стрывала Мара. — Ты сапраўды звар'яцела. Фабіян, хоць і дурань дурнем, але і той заўважыў.

На наступны дзень пасля дзіўнай заявы сяброўкі Гражына Аліцыя паспрабавала ўгледзецца ў тых, хто сядзеў у зале падчас іх выступлення — і ўбачанае так агаломшыла, што яна збілася, зблытала рухі і прапусціла адзін такт. Фабіян, пэўна, ужо вібраваў ад злосці і гідоты, але ўбачанае ўсхвалявала дзяўчыну значна больш.

У зале сядзелі акцёры з іншай трупы, буфетчыцы і вахцёркі, а больш — нікога! Гражына Аліцыя сама часта глядзела з залы на калег, але чаму яе ніколі не дзівіла, што побач няма незнаёмых гледачоў?

А яшчэ ў першым шэрагу сядзеў Ежы Тадэвуш і, склаўшы рукі на грудзях, паблажліва ўсміхаўся.

Пасля канцэрта Гражына Аліцыя зачынілася ў сваёй грымёрцы і не выходзіла. Калі Мара прыйшла клікаць яе на вячэру, то Гражына Аліцыя ўдала, што спіць.

Аднак яна не змагла б заснуць, нават калі б не спала перад тым суткі. Думкі блыталіся і наскоквалі адна на адну, не падпускалі яе да важнай, вельмі важнай высновы, якая б дазволіла адказаць на адно, галоўнае, пытанне…

Але якое пытанне было галоўным? — Гражына Аліцыя цяпер не ведала. І замест таго, каб канчаткова разабрацца з тэатрам, у якім няма гледачоў, яна вырашыла заняцца ўдасканальваннем свайго жыцця тут. Паставіць мэты. Дасягнуць іх. Давесці ўсім.

Гражына Аліцыя спыніла нервовае хаджэнне па пакоі і цяжка абаперлася рукамі на туалетны столік.

— Я больш не буду танчыць голая! Ці я — не я!

З люстэрка на яе глядзела прыгожая маладая жанчына са згаслымі вачыма.

Назаўтра Гражына Аліцыя рашуча рушыла да Фабіяна. Гэтым разам дзверы ў ягоны кабінет былі вузкімі і нізкімі, як лаз у сабачую будку, давялося запаўзаць на каленях.

Гражына Аліцыя прабралася да стала начальніка і хутка, каб не згубіць адвагі, выдала:

— Я адмаўляюся ўдзельнічаць у нумары! Я больш не выйду на сцэну ў гэтым касцюме! Альбо давайце новы спектакль, альбо звальняйце мяне.

Фабіян лянівa павярнуўся да яе разам з фатэлем.

— Я цябе клікаў? Ці ты сама прыйшла? — адрывіста пралаяў ён.

— Я прыйшла сама, — не здавалася Гражына Аліцыя.

— Дык вось, — пераможна абвясціў Фабіян, — я цябе выклікаў! Рыхтую новы нумар. Усё ўжо зацверджана. У цябе галоўная роля. Будзеш каралевай Неба. Сёння рэпетыцыя. А цяпер ідзі адсюль!

## X

На прэм’еру «Каралевы Неба» сабраўся ўвесь «Цыркус». Але Гражына Аліцыя гэтага не бачыла. Яна сядзела пад сцэнай, пакрытай сіняй тканінай з нашытымі зоркамі, па якой танчылі дзяўчаты ў сініх трыко. Толькі напрыканцы спектакля дзяўчына прасоўвала ў прарэзы тканіны галаву і рукі, а рабочыя сцэны пачыналі падымаць яе, Гражына Аліцыя прыгожа вадзіла рукамі, пранікнёна і бязрадасна пазірала па-над галовамі, а яе падымалі ўсё вышэй. Вось ужо сіняя тканіна неба нацягвалася пругкімі шатамі, гучалі фінальныя акорды, дзяўчаты рабілі апошнія па, а Каралева Неба думала, ці надзейна яе трымаюць.

— Гражына, гэта поспех! — Мара кінулася абдымацца. — Гэта несумненны поспех!

Мара сяброўцы не зайздросціла, а радавалася за яе.

Пасярод ночы, калі ўжо даўно разышліся дзяўчаты (адзначалі прэм’еру), Гражына Аліцыя раптам прачнулася ў дзіўным стане. Ці то ўзрушаная прэм’ерай, ці то задаволеная ўласным поспехам, але яна нечакана перастала пакутаваць па Ежы Тадэвушу. Той нават не прыйшоў на прэм’еру, але цяпер гэта не засмучала.

Дзяўчына паднялася з ложка. Хто яна? Што яна тут робіць? Чаму так моцна кахае малазнаёмага Ежы Тадэвуша, што дзеля ягонай увагі дазволіла ўблытаць сябе ў вар’яцкія танцы? Які неверагодны, несумненны поспех — памяняць касцюм! — і застацца тым самым блазнам на пацеху няіснай публікі. А яшчэ гэты Ежы Тадэвуш…

Гражына Аліцыя спынілася перад люстрам. Яе зноў ахапіў жах. Жах перад прорваю, якая шырыцца пад нагамі. Але цяпер яна зразумела, што ніколі не выйдзе адсюль, калі не сягне ў гэтую чорную бездань.

— Хто я? — спытала Гражына Аліцыя ў люстра.

— Хто я? — сінхронна адгукнулася стомленая жанчына насупраць.

Дакладна, гледзячы на сябе, дазнацца пра штосьці немагчыма.

## XI

Памывачны ангар, нягледзячы на публічнасць, даваў прастору для самоты: у вадзе Гражыне Аліцыі думалася лепей, чым ва ўласным ложку: не было рызыкі заснуць і спакойна праспаць усю ноч.

Дзяўчына паклала патыліцу на борцік, заплюшчыла вочы і, калі ўваччу пагаслі адбіткі лямп, пакінуўшы яе ў поўнай цемры, зноўку задала сабе пытанне, якое штурхала яе ў прорву: «Хто я?»

Спачатку прыйшлі відавочныя адказы: «Я працую ў тэатры, люблю Ежы Тадэвуша». А калі разлюбіць Ежы Тадэвуша, кінуць працу ў тэатры? Што застанецца ад Гражыны Аліцыі? Страх рабіў дыханне перарывістым, але яна імкнулася прайсці далей. Не аглядаць мінулае, не прадказваць будучыню, самавызначыцца ў бягучым моманце.

Лежачы ў вадзе з заплюшчанымі вачыма, яна адчувала скурай шурпатае дно ванны. Гэта быў яшчэ не адказ, але свабодны палёт у прорву. Каб не зацягнулася прамоіна ў тумане штодзённых клопатаў, ёй трэба было апынуцца там, дзе яна яшчэ не была.

Пульсуючыя хвалі зацёртай памяці, якія перад тым падсунулі ёй падрабязнае відовішча басейна, цяпер вынеслі на бераг ейнай свядомасці яшчэ адно месца.

Дзверы, лесвіцы і калідоры ўсплывалі ў памяці за секунду да таго, як яна рабіла да іх крок. Дзяўчына імкліва, ледзь не подбегам, рушыла па надоечы ўзгаданым маршруце, і той паслухмяна выпростваўся, як вызваленая спружына. Яшчэ адзін пралёт угору, яшчэ адзін калідор, чарговыя дзверы… Усё ў цемры, у паўзмроку, навобмацак, вышэй і вышэй... Пакуль апошнія расхінутыя дзверы не вылілі на Гражыну Аліцыю моцны паток начнога халоднага паветра: яна была на даху.

Будка, праз якую Гражына Аліцыя трапіла на дах, была абнесеная сеткай рабіца, утвараючы клетку, дзе маглі вольна стаць два чалавекі. На самім жа пляскатым даху, які распрасціраўся на чатыры бакі, маглі змясціцца некалькі футбольных палёў.

Гражына Аліцыя абмацала клетку па перыметры: сетка была намёртва прыварана да жалезных рабрын. Дзяўчына ўчапілася ў сетку, прыціснулася да яе шчакой. Свежым паветрам з непрывычкі цяжка было дыхаць, вецер са свістам і гудзеннем пралятаў праз перашкоду ў выглядзе клеткі.

Але праз колькі хвілін Гражына Аліцыя паабвыклася, выраўняла дыханне, суцішыла сардэчную калатнечу. Пра існаванне горада даваў знаць нерухомы электрычны золак, які бляклым жоўтым водбліскам ляжаў на шчыльных начных аблоках.

— Эй, — нясмела вымавіла Гражына Аліцыя.

Маленькае слова ўпала ля ног, нікім не ўзятае.

— Эй! — гукнула Гражына Аліцыя крыху больш гучна.

Слова, падхопленае ветрам, пакацілася па даху.

— Э-ге-гей! — Гражына Аліцыя закрычала на поўную моц. Гэ-э-эй, хто я-а-а, э-э-эй!

Словы панесліся прэч, каб знікнуць і ніколі не вярнуцца.

Цяпер Гражына Аліцыя ператварылася ў таго, хто стаяў на даху і ведаў пра вялікі горад. Дах не прынёс адказу на пытанне, адно толькі пашырыў вязніцу да неверагодных памераў.

З даху яна спускалася крыху спустошаная раскідваннем слоў на вецер, але поўная рашучасці падаць у прорву да самага дна. Яна шукала такое месца, дзе не было б нічога, дзе нічога б не падказвала Гражыне Аліцыі, хто яна ёсць.

У «Цыркусе» ўсе ўжо спалі, ці пазачыняліся ў пакоях і чакалі сканчэння ўмоўнай ночы. Ва ўласнай грымёрцы Гражыну Аліцыю ўводзіла ў зман люстра. Яна сунулася ў каморку, дзе захоўваліся швабры з вёдрамі, але станавіцца швабрамі і вёдрамі ёй хацелася найменей, таму вырашыла залезці ў шафу.

Яна зграбла ўсе адзёжкі і, губляючы па дарозе плечыкі і пояскі, кінула ўсю гурбу на ложак, а зверху анучавай гары легла яе чорнае паліто. Штосьці гэтае паліто павінна ёй сказаць.

У прадчуванні чарговага адкрыцця Гражына Аліцыя нацягнула паліто і павольна павярнулася да люстра.

«Паліто, — асцярожна, каб не спужаць палахлівую вяртлявую здагадку, падумала Гражына Аліцыя. — Калі я апошні раз выходзіла ў паліто? КУДЫ я апошні раз выходзіла ў паліто?»

Яна сунула руку ў кішэню і павольна выцягнула складзеную тонкую зжаўцелую паперчыну.

«Унітарнае канцэртнае прадпрыемства «Цыркус Плюс», а далей, загалоўнымі літарамі: «“Паноптыкум”. Музычная тэатралізаваная праграма», і яшчэ ніжэй: «рад 15, месца 8», і дата, напісаная ад рукі шарыкавай сіняй ручкай: «21.11.2011».

Гражына Аліцыя глядзела на ўласную далонь з білетам і ўзгадвала, як калісьці… камусьці… паказвала гэты білет… каб прайсці… у «Цыркус»… Турнікет!

Дзяўчына ўпала на калені, не выпускаючы білет, які цяпер быў пропускам на адваротны бок, нашарыла пад пыльнай шафай адзін бот, потым другі, нацягнула іх і выскачыла з пакоя.

На лесвіцы яна запнулася і паляцела б у пралёт, але паспела ўхапіцца за парэнчы. У холе пераскочыла турнікет (у будцы, здаецца, нікога не было) і пратараніла плячом незакрытыя — дзякуй богу! — дзверы.

Яна бегла па начной вуліцы, пакуль не задыхнулася, страшна ныла рука, але Гражына Аліцыя не зважала. Яна сагнулася і, упёршы рукі ў калені, адпачывала, як марафонцы на фінішы. Пагоні не было.

Гражына Аліцыя, аднавіўшы дыханне, выпрасталася і азірнулася.

Якое боскае святло выпраменьвалі ліхтары! Якой доўгай, вялікай была вуліца Чыгуначная! Якія цудоўныя, разнастайныя дамы стаялі паабапал дарогі!

Дзяўчына ўдыхала і выдыхала халоднае паветра. Не, яна яшчэ не ведала, хто яна ёсць. Але адказ быў побач. Памяць мусіла вярнуцца неўзабаве. Прынамсі, Гражына Аліцыя ведала, дзе метро.

Яна стамілася, пакуль дабрыла да станцыі. Празрыстыя дзверы метро былі яшчэ замкнёныя, і Гражына Аліцыя ўладкавалася на кукішках побач з дзвярыма, каб на яе трапляла цёплае паветра.

Дзяўчына закрывала калені крысом паліто, дыхала на далоні. Наверсе зрэдку гула начная электрычка. Страх зноў вярнуўся: яна не ведала, куды ехаць. Памяць не вярнулася.

Нарэшце прыспеў час, і цётка ў сінім халаце, якая даўно назірала пакуты Гражыны Аліцыі са сваёй будкі, адамкнула дзверы і махнула рукой: маўляў, праходзь так!

Гражына Аліцыя, прайшоўшы за турнікеты ў тым прагале, дзе ходзяць дзеці і міліцыя, толькі тады здагадалася, што не мае жэтонаў, грошай і мэты паездкі.

У пустым вагоне, без спадарожнікаў, яна даехала да станцыі перасадкі і, зусім засмучаная, пайшла па пераходзе без спадзеву, што іншая лінія кудысьці яе завязе.

Пераход, тым часам, не канчаўся, затое звузіўся і пацямнеў. Праз два павароты Гражына Аліцыя пачула знаёмы гук: так гулка звініць поўнае вядро, калі яго перасоўваюць па падлозе, затым — плёскат вады і рытмічнае шорганне. А яшчэ праз колькі крокаў швабра, абматаная дзяругай, ткнулася ў мыскі ейных ботаў: Пятроўна мыла падлогу.

— Чаго не спіш? — Пятроўна ўдавала абуранасць, але хто ж будзе баяцца Пятроўны?

— Не спіцца, — буркнула Гражына Аліцыя.

— Эх, дзеўка, — раптам спачувальна прамовіла прыбіральніца ёй у спіну, — замуж табе трэба, бо ты пераспелая! Чалавек хіба жыве адзін? Паміpae ён адзін, а жыць разам трэба!

— Ага, — паслухмяна пагадзілася дзяўчына абы не спрачацца, — зараз во пайду выйду, толькі пасплю пару гадзінак.

Пятроўна дадала яшчэ нешта на адрас сучаснай моладзі, але Гражына Аліцыя не ўслухоўвалася. Калідорам яна выйшла ў хол, толькі не справа, адкуль выбягала, а злева. Выходзіць, прабегла па коле. Толькі руку пашкодзіла. Як цяпер выступаць?

Пакуль Гражына Аліцыя падымалася наверх, яна ціхенька падвывала, а ў грымёрцы ўпала на ложак і зараўла ў поўны голас: ад бездапаможнасці і безвыходнасці.

Даліся ёй гэтыя ўцёкі! Ды і куды, навошта? Тут яе дом, праца, сябры і Ежы Тадэвуш! Да раніцы яна курчылася ў новым кашмары, так недарэчна падкінутым ёй зычлівай Пятроўнай: Ежы Тадэвуш абдымаў сваю нявесту і шчасліва ўсміхаўся. Вядома, не Гражыну Аліцыю.

**XII**

За абедам у сталоўцы Гражына Аліцыя слаба адбівалася ад спроб Мары высветліць гісторыю траўмаванай рукі. Прыхаваць траўму было немагчыма. Калі ў чарзе да раздачы дзяўчына, узяўшы талерку, раптам скурчылася і войкнула, а суп разам з талеркай аказаўся на падлозе, Мара жаночай інтуіцыяй дапяла, што справа ў чымсьці сур'ёзным. Блытаныя тлумачэнні толькі распальвалі цікаўнасць, і Мара не дала веры звычайнаму падзенню з лесвіцы.

— Гэта ж з якой хуткасцю трэба было бегчы! — з праніклівасцю, якая бянтэжыла, заўважыла Мара. — І галоўнае — куды?

І тут шматкроць мацнейшы боль выліўся з сэрца Гражыны Аліцыі і спаралізаваў яе: па праходзе ішоў Ежы Тадэвуш, абдымаючы за талію фанабэрлівую прыгажуню, акрабатку Ліяну.

Мара перахапіла позірк сяброўкі. Яна даўно і небеспадстаўна лічыла Ежы Тадэвуша прыгожым мудаком, ведала пра бяду Гражыны Аліцыі і раіла звярнуць увагу на больш годных кандыдатаў.

— От жа курвель, — пракаменціравала яна з сяброўскай салідарнасцю.

— Мара, што за пошасць? Усё, чаго я баюся, адразу спраўджваецца, варта толькі ўявіць, — паўшэптам прастагнала Гражына Аліцыя.

Боль раптам пачаў сыходзіць, як зліваецца вада з ванны: бясшумна, але няўхільна. Боль сыходзіў і зносіў каструбаватую «любоў» да Ежы Тадэвуша, і яшчэ шмат рознай брыдоты.

— Я ўсё ведаю, — сказала Гражына Аліцыя і паклала лыжку на стол.

Мара таксама перастала есці. Яна са здзіўленнем сачыла за сваёй сяброўкай, якая, відаць, звар'яцела.

Гражына Аліцыя пайшла да раздачы і, расштурхаўшы чаргу, паставіла на паднос шэсць талерак з супам і рушыла між сталоў, трымаючы паднос на выцягнутай левай руцэ.

— Табе дрэнна? — асцярожна, як размаўляюць з хворымі, спытала Мара ў сяброўкі, калі тая параўнялася з іхным столікам. — Ты не баішся суп праліць?

Гражына Аліцыя пераможна і загадкава ўсміхалася.

— Ведаеш, калі я разалью суп? Калі пачну баяцца яго разліць! Мара, гэта сон! Я проста сплю, Мара! А ў маім сне — усё так. Як я хачу!

Гражына Аліцыя з нечаканым спрытам паставіла паднос на стол і выйшла са сталоўкі. Перш чым сысці з «Цыркусу», ёй хацелася зрабіць адну справу.

Дзверы кабінета Фабіяна нарэшце былі на належным месцы. Гражына Аліцыя ўвайшла, не пагрукаўшы.

— Фабіян, ты — тлусты парсюк! — сказала яна і адразу пашкадавала, бо начальнік абхапіў галаву рукамі і заплакаў.

Але гэта ўжо было неістотна. Гражына Аліцыя спусцілася па знаёмых сходах у хол, такі цяпер нястрашны, і выйшла на вуліцу, а там буяла зелянінай лета і так цёпла грэла сонца…

**XIII**

Гражына Аліцыя прачнулася ад таго, што яе настойліва кратáлі за плячо.

— Няўжо такі нецікавы канцэрт быў? — абражана спытала білецёрка, але злосці ў голасе не было.

— Ой, ой, прабачце, — Гражына Аліцыя пачала спешна збірацца.

Яна заснула ў нязручнай позе і адляжала правую руку, цяпер па ёй бегалі мурашы.

— А ў вас была жанчына з барадой?

Білецёрка зноўку пакрыўдзілася:

— Што вы кажаце такое. У нас рамансы выконваюць.

Гражына Аліцыя выйшла ў лістападаўскі позні вечар.

Сон не адпускаў дзяўчыну яшчэ доўга. У метро яна села ў куце — ехаць было з канца ў канец — і прынялася перабіраць дэталі сну, адну за адной, шукаючы адпаведнікі ў рэальным жыцці.

Памывачны ангар — гэта лячэбныя ванны ў Еўпаторыі, якія аказалі на яе, васьмігадовую, страшнае ўражанне. Якіх пакут ёй тады каштавала распрануцца да трусоў і залезці ў ванну пад позіркамі адналеткаў і старэйшых, між якімі была і пара хлопчыкаў! Гражына Аліцыя ажно сцепанула плячыма ад гідлівасці.

Бессаромны танец у голым касцюме — распаўсюджаны сюжэт, які вандраваў са сну ў сон, як і дзверы, у якія немагчыма ўвайсці, але пільна трэба.

Басейн — гэта «Дэльфін» за школай, у якім яна даплавалася да нейкага юнацкага разраду і вошай. Вошай вытруцілі смярдзючай вадкасцю, але ад вялікага спорту Гражыну Аліцыю адвярнула назаўжды.

Астатняе таксама можна было раскласці па палічках памяці, але адкуль узяўся Ежы?

Раптоўная здагадка змусіла рассмяяцца Гражыну Аліцыю на ўвесь вагон. Людзі азірнуліся. Але хутка адвялі вочы. «Ежы Тадэвуш» быў адным з першых

«буржуйскіх» манекенаў у Мінску. Яго, не пазней за дзевяноста сёмы год, паставілі ў Цэнтральным, і школьніца Гражына Аліцыя паўжартам называла яго «найпрыгажэйшым мужчынам у свеце». З суседняй вітрыны тужліва пазіралі на дасканалага бландзіна дзве аднолькавыя дзявулі, і гэтая троіца ілюстравала тыповую жыццёвую сітуацыю. Прыгажуну прымалявалі бараду, чым сапсавалі яго незваротна, і выкінулі. А дзеўкі стаяць дагэтуль.

Сон, канешне, незвычайны. Відаць, пад рамансы заўжды добра спіцца. Але найбольш Гражыну Аліцыю дзівіла здольнасць мозгу самастойна выбудоўваць лагічныя ланцугі. Дрыгацца голай на сцэне перад людзьмі — якая дакладная метафара ейнай працы. А як цікава сон інтэрпрэтаваў гульню «Выйсці з горада»! Замкнуў горад у межах аднога будынка. Ёй таксама не раз снілася метро, з якога нельга выйсці вонкі.

Цягнік прыехаў на канцавую станцыю. Гражына Аліцыя ішла па пераходзе да аўтобуснага прыпынку, і раптам пераход здаўся ёй занадта доўгім. Яна наўмысна прыцішыла крок, каб падоўжыць дзіўнае, як у сне, адчуванне. Насамрэч яна не баялася застацца назаўжды ў пераходзе. Ейнае кола было значна большае. Гражына Аліцыя дакладна ведала, што яе вязніца — агромністая і падрабязная, выробленая сумленна, перапоўненая каханнямі і любовямі. Яе вязніца мела выхад у горад, з горада, на вакзал, да мора, сотні розных басейнаў і санаторыяў, начных электрычак і ранішніх пераходаў… У ейнай вязніцы былі і лета, і зіма, і сябры, і праца: шмат featuresрознага і цікавага, каб надоўга, назаўжды забыцца на пытанне, якое абрыне яе ў чорную прорву без дна: хто ты, Гражына Аліцыя?

## ВЫПАДКОВАЯ ТАМАРА

Праз астылы попел шматлікіх зім чэрвеньскі сквер, змешчаны дзесьці далёка на вектары часу, здаецца раем. Пераборлівы, няпэўны позірк памяці бессаромна пазбаўляецца дэталей, але пакідае тое, што вырашыў захаваць сабе назаўжды: лавачкі вакол пляцоўкі з невялікай сцэнай, старыя дрэвы з маладой лістотай, што фільтруе высокае сонца да дробных кружочкаў на бруку, і цёплае лета. Вось ты ўжо там, сядзіш на лаўцы з кімсьці, зацёртым памяццю, і глядзіш, як на частку прыроды, на суседнюю кампанію. І нібыта ўсе табе знаёмыя, але бачыш ты толькі яго.

Вышэйшы на галаву ад усіх, ён, не ведаючы пра віжаванне, паказвае табе аблічча то ў профіль, то ў тры чвэрці, гэтага дастаткова, каб запомніць яго і вылучаць пры кожнай выпадковай сустрэчы ў горадзе — вялікім, але не занадта.

Ён высокі, смугласкуры, дваццацігадовы, танканосы і чорнавалосы, здаецца, тады ўжо адпусціў бародку-эспаньёлку. Яго ўсе ведаюць: гэта Хатаб, музыкант. Мае ўласны музычны гурт і грае на гітары. (Няма падставаў вінаваціць маму Хатаба ў злачыннай сувязі з іншаверцам: яна, верагодна, і не здагадваецца, што яе сын адгукаецца на мусульманскую мянушку).

Хай бы тое лета было вечным! Ён стаіць, доўгавалосы музыкант, славуты на ўвесь Гомель, п’е піва, і кожны побач — найлепшы сябар. Усе дзяўчыны млеюць пад ягоным позіркам, запраўляюць пасмачкі валасоў за вуха і смяюцца з кожнага жарту. Увечары — рэпетыцыя. І хутка — калі не заўтра, то паслязаўтра — накрые яго непазбежная слава, бо іначай — ніяк. Дзевяностыя нарэшце канчаюцца, і неўзабаве пачнецца новае жыццё, але пакуль што хай не пачынаецца, хай доўжыцца лета. Але, безумоўна, ніякае лета ў Беларусі доўга не трывае.

Вось і жнівень. Ідзеш ад сяброў з Мельнікавага лугу ў цэнтр горада ды зразаеш вялікі рог па маршруце, вядомым толькі гараджанам. Вузкі тунэль між платоў і муроў. Тут дзядоўнік і палын вымахалі за лета вышэйшыя за тваю галаву, на мурах змагаюцца хмель і дзікі вінаград, шпалы пахнуць мазутам... Насустрач табе па рэйках — кампанія патлатых з гітарамі. І Хатаб разам з імі, але не адзін: ён трымае за руку дзяўчыну. Бачыш іх і думаеш: чаму яна?

Гэта не дзяўчына. Гэта моль з бясколерным тварам і шэрымі валасамі, абвядзі яе позіркам хоць тройчы — і ўсё адно не знойдзеш, за што зачапіцца. Мела б яна доўгія ногі ці трэці памер, тады можна было б зразумець крыніцу палкай жарсці. А Хатаб учапіўся за яе. Што за вар'яцтва? Божанька, куды ты глядзіш? Як ты мог звесці пякельнага прыгажуна, якім мрояць па начах усе дзяўчыны Гомеля, з чалавекам без асабістых прыкмет? Дзе справядлівасць?

З кампаніяй вы даўно размінуліся, але далей ты ідзеш у стане лёгкага здзіўлення. Далібог, справа не ў вонкавым абліччы новай каханкі Хатаба: такіх, як яна, — тысячы. Каб ператварыцца ў заўважнага чалавека, ёй варта было б дадаць крыху фарбы і добрага густу. О, які яна мела выраз твару! Брытанская каралева трымаецца прасцей.

Неверагодна, але найпрыгажэйшы хлопец Гомеля прымаў дазвол трымаць яе за руку як найвялікшую міласць! Дзе такому вучаць дзяўчат? Дзе яна ўпырсквае сабе ін'екцыі такой самаацэнкі?

А як бы годна глядзелася побач з Хатабам даўганогая красуня з бялявымі валасамі, ці з такімі ж чорнымі, бы смала, як у яго, наманікюранымі кіпцікамі — адна рука трымала б маленькую торбачку, а другая — ягоны локаць. Ва ўсіх бы мову займала: якая прыгожая пара!

Таксама Хатабу вельмі пасавала б вакалістка з ягонага гурта, касуха з заклёпкамі, джынсы, цяжкія боты, стракатая майка Iron Maiden, вочы, густа падведзеныя чорным, а валасы неахайна зацягнутыя ў хвост. Але супольная справа і вялікая мэта, якая аб'ядноўвае людзей, мацнейшая за схільнасць да чужой прыгажосці. І ўсе б пра іх казалі: якая гарманічная пара!

Ці гукааператарка ў модных чырвоных акулярах, клятчастай кашулі і з кароткай стрыжкай, старэйшая за Хатаба гадоў на сем. Яны б запісвалі альбом у студыі якога-небудзь палаца юначай творчасці. Гукааператарка захапілася б талентам і прыгажосцю, а Хатаб — яе прафесійным досведам, а таксама сяброўствам з дырэктарамі ўсіх канцэртных пляцовак. Тут табе і карысць для кар'еры, і ўзаемнае прыцягненне — і ўтвараецца трывалая пара, і ўсім усё зразумела без пытанняў.

Але гэтая пыхлівая каралева з абліччам служкі? Навошта?

Пачаліся дажджы. Хмель і дзікі вінаград абсыпаліся, пакінуўшы на мурах парудзелую арматуру. Вялікія лужыны залілі чыгунку — абедзве каляіны, што вялі ў рачны порт, затапіла двары, вуліцы і гарадскія пляцы. Памяць таксама аказалася падмочанай. Яна, напрыклад, не ўтрымлівае звестак, колькі часу прамінула з той сустрэчы ў вузкім тунэлі: ці то год, ці то два, а можа, пара месяцаў — да таго моманту, калі табе спатрэбілася наведаць паліклініку. Навошта — таксама загадка: для даведкі на правы? З працы пагналі рабіць флюараграфію? Ці, можа, ты хварэў і закрываў бальнічны? Але ты стаяў ля акна на другім паверсе паліклінікі ў чаканні медсястры. Не ў стане трываць хараство інтэр'еру, глядзеў у акно — і кагосьці заўважыў унізе.

Хатаб тужліва бадзяўся ля паліклінікі — хадзіў узад-уперад, чакаючы кагосьці. Ягоная левая рука была сагнута ў локці ды крыху прыўзнята — ён перастаўляў

пальцы па нябачным грыфе, а правая — біла па няісных струнах. Ён беспрытульна соўгаўся ў маленькім скверыку, туляўся, агорнуты страшнай тугой, непрыхавана граў на нябачнай гітары ды марыў, відаць, толькі пра тое, каб апынуцца там, дзе ёсць сапраўдная гітара.

А каго можа чакаць мужчына ля паліклінікі? Стой, стой, Хатаб, павярніся да мяне бокам, пакажы сваю правую руку... Так і ёсць! Твая — адназначна! — цяжарная жонка недзе ў нетрах катавальні-паліклінікі наносіць планавы візіт урачу, а ты вырачона суправаджаеш яе.

І адразу пайшоў снег, шчыльны і густы, ён, як заслона, закрыў ад цябе і паліклініку, і восеньскі скверык, і Хатаба з нябачнай гітарай ды ягонай жонкай, якую ты тым разам не пабачыў. Снег утварыў вялікія сумёты, між якімі ты, па пратаптаных сцежках, у ільдзяной цемры з рэдкімі ліхтарамі, нарэшце дабраўся да пашпартнага стала — і заграз там.

Чакаць трэба доўга. Ты ўмомант макрэеш пад пухавіком, здымаеш шапку і пальчаткі, расшпільваешся. Снег на ботах растаў і заліўся ў швы. Разам з табой чакаюць такія самыя пакутнікі ў футрах і кажухах, ты нават твараў іх не памятаеш.

Бразгаюць дзверы, і разам з халодным паветрам у хол філіяла пекла заходзяць чарговыя грэшнікі, каб заступіць на належнае кола пакут.

Аднак табе чакаць ужо весялей, бо парачка — гэта Хатаб з жонкай. Жонка пачынае дзейнічаць: бярэ ў акенцы бланкі, гартае ўзоры на століку, падсоўвае сабе крэсла. Ты не глядзіш на яе, а будуеш карціну паводле гукаў, і тут на гукавое палатно кладзецца яшчэ адзін мазок, які ўпэўнена прамалёўвае ўсе контуры:

— Лёша, ну ідзі ж ты сюды! — і Лёша паслухмяна пасунуўся да стала.

Голас стомлены ды ўпарты, і дзівосным чынам паўтарае выраз яе твару.

А Хатаба, аказваецца, клічуць Лёшам. Як яму не пасуе гэтае імя! Як яму не пасуе гэтая зімовая шапка! Як тужліва назіраць ягоную панылую паставу! Шчаслівая сям’я, адным словам. А вось не трэба было браць моль у жонкі. І ты заплюшчваеш вочы, не ў змозе далей сузіраць брыдоту, якую памяць падсоўвае табе ў якасці твайго ж нібыта жыцця.

А расплюшчваеш ты іх ужо ў зімовым тралейбусе, дзе вокны зараслі недарэчна прыгожай шэранню, у якой пасажыры прапальваюць цёплымі далонямі акенцы.

У апошні момант у пярэднія вузкія дзверы ўскоквае высокі хлопец. У кожнай руцэ — па пакунку, забітым звычайным наборам наведніка крамы: макароны, цукар, з аднаго пакунку напалову вытыркаецца пачак памперсаў. Хлопец (так, гэта Хатаб) сядае побач з табой на сядзенне, абы-як згрувашчвае пакункі на свае (і твае) боты (1,5 гады — чытаеш ты на вялікай упакоўцы з выявай шчаслівых немаўлят), выцягвае з курткі тэлефон і ўзнаўляе размову, перарваную марш-кідком да тралейбуса — і ты разумееш прычыну яго добрага настрою:

— Слухай. Ён расказаў, што бачыў нейкага хлопца, які быў на канцэрце. Той распавядаў, што гралі мы афігенна! Вось як! Так што ўсё наладжваецца! Жыццё наладжваецца! Будзем працаваць! Усё зробім!

І ўсе прыпынкі, што Хатаб ехаў побач, ён дзяліўся з калегам-музыкантам сваёй радасцю.

А ты едзеш побач, і такая самая радасць паўстае ў тваім сэрцы: «Давай, Хатаб, ты здолееш, ты ўжо здолеў! Грай сваю музыку, здабудзь сваю славу. Адолей гэтую няпэўную рэчаіснасць, якая абяцала нам усё ў тым чэрвеньскім скверыку. Грай, Хатаб, на сваёй гітары, толькі не хадзі такі сумны па нашым з табой горадзе».

І лёгка было даць веры, што і ў цябе жыццё «наладзіцца», што б гэта ні азначала, і ты таксама «здолееш» і «пераможаш». Вось, здаецца, наперадзе з’яўляецца свят-

ло — ці фары сустрэчнага транспарту? А тралейбус тым часам заехаў так далёка, што ўзгадаць пачатак маршруту і мэту вандроўкі стала проста немагчыма.

У новым супермаркеце, які паўстаў у чыстым полі, як і новы раён, па памерах роўны невялікаму гораду, ты стаіш ля вялікай лядоўні ды тужліва абіраеш сыр. Дагледжаная жаночая рука выхоплівае ў цябе з-пад носу скрыначку з сырам, але адразу ж ставіць на месца. Пазнаць яе было б немагчыма, каб не голас.

— Саша, ідзі ж ты сюды! — выгуквае яна загадна, але адразу ж мякчэе: — Зірні, калі ласка!

Яна нарэшце зрабіла з сабой тое, што не лічыла патрэбным у юнацтве: старэйшая на дзясятак гадоў, яна выглядае выдатна. Перакінулася з мышы ў чалавека. Пегія валасы пасвятлелі, бровы набылі абрысы і выгнуліся, сукенка акрэслівае прывабную фігуру, а торбачка сведчыць, што ў яе жыцці ўсё добра. І толькі выраз твару застаўся нязменным. Аднак цяпер пыха нават пасавала ёй — дагледжанай жанчыне, да якой нарэшце падкаціў з загружаным вазком муж. Такім Сашам немагчыма было камандаваць: ён сам ведаў, куды яму ісці і што рабіць, а на пыху сваёй шыкоўнай жонкі яму, відавочна, было пляваць.

Яны пайшлі далей уздоўж гандлёвых шэрагаў, надзвычай гарманічная пара: вялікі, багаты мужчына і дробная, пыхлівая, шыкоўная жонка. І гледзячы на іх, можна было толькі ўзрадавацца, што боханька ўсё ж выпраўляе свае памылкі ды зводзіць урэшце людзей, якія пасуюць адно аднаму.

Знайсці ў сацыяльных сетках прафайлы чалавека, пра якога ты ведаеш толькі дурную юначую мянушку, — задача складаная. Перагледзеўшы сотню старонак сяброў, ты ўрэшце знаходзіш яго — і з немаведама адкуль узніклым хваляваннем адразу адмотваеш фотаздымкі да першага, каб адсачыць храналогію падзей.

Пусты, без мэблі, пакой з матрацам на падлозе ля сцяны: «Мой новы дом!» Ён што, жыве на нейкай дачы? Ці ў вёсцы? А, ну так, пусты пакой. Наступствы «падзелу маёмасці»: і ў тваім жыцці таксама быў такі пусты пакой без мэблі, і ў тваіх сяброў: карцінка знаёмая.

Далейшы прагляд фотаздымкаў дазваляе зразумець, што побач з Лёшам з’яўляліся жанчыны, якія пасавалі яму найбольш: даўганогія, бялявыя, чарнявыя і нават кучаравыя рудыя, і вакалісткі ў скураных куртках, і гукаапяраткі ў модных акулярах. Хіба што дзяўчаты, як былі тады, так і цяпер засталіся дваццацігадовымі, а твае смалістыя валасы, Хатаб, пасівелі, як пасівела бародка, лепш бы ты яе зголіў, каб выглядаць крыху маладзейшым. Але дзяўчатам, відаць, падабалася, калі меркаваць па шматлікіх каментарах пад фотаздымкамі. Сярод жанчын, аднак, не было галоўнай: той, якую ён абдымаў калісьці найбольш пяшчотна — гітары не было. І музыка твая, Хатаб, няўжо скончылася?

Раз-пораз трапляліся і фотаздымкі дзяўчынкі з чорнымі касічкамі. «Мая Тамарка!» — падпісваў іх Хатаб, не хаваючы гонару за дачку.

Як шкада, Хатаб, тваю няспраўджаную славу. І тваю дачку. Беднае дзяўчо, плён выпадковасці: твае дурныя маладыя бацькі зрабілі памылку, выпадкова ўз’ядналіся, а нарадзілася — ты, выпадковая Тамара...

Ты выпаліш тры цыгарэты, гледзячы ў адну кропку, вып’еш два кубкі кавы, адзін за адным, не без задавальнення ўзнаўляючы ў памяці ўласнае юнацтва. І застанешся перакананы, быццам усе твае высновы — слушныя.

На сцэне гарадскога цэнтра культуры адбываўся канцэрт. Выступалі дзеці з розных музычных школ і гурткоў, таму зала была запоўнена бацькамі ды сваякамі, але шмат было і выкладчыкаў. Вядучая абвясціла чарговы нумар:

— Выступае Тамара Альховік, дванаццаць гадоў, першая музычная школа! Скрыпка!

Гледачы паслухмяна запляскалі, а ў зале сінхронна ўзняліся два тэлефоны, каб запісваць відэа: на канцэрт прыйшлі і мама, і тата. Праўда, сядзелі яны ў розных месцах.

Тамара спынілася ля мікрафона і ўзняла на залу рашучы позірк чорных вачэй: сур'ёзны, без усмешкі. Яе выкладчыца ведала, што Тамара ў гуморы, проста вельмі засяроджана. Яе вучаніца заўжды хвалявалася перад кожным выступленнем.

Тамара колькі секунд узіралася ў гледачоў, потым заціснула скрыпку падбароддзем, кінула хуткі погляд на акампаніятарку за раялем — і апусціла смычок на струны.

Прысутныя зладзілі ёй авацыі.

Такім быў пачатак музычнай кар'еры скрыпачкі Тамары Альховік. Яна стала на гэты шлях у дзяцінстве і пайшла па ім роўна, упарта і ўпэўнена, не збочыўшы ні на крок, без скаргаў на заняткі па восем гадзін на дзень, на канцэртныя раз'езды і побыт у інтэрнатах. Музыка стала для яе лёсам і прафесіяй — і напоўніцу аддзячыла за ўсе намаганні. Каб ператварыцца ў сапраўднага музыканта, Тамары спатрэбіўся музычны талент бацькі і ўчэпісты, упарты, прабіўны нораў маці. Талент і характар спалучыліся ў ёй ідэальна. Той нябачны, хто зводзіць людзей, не робіць нічога выпадковага.

## МАЛАДЫ СПЕЦЫЯЛІСТ

200... год

*1 верасня*

Мне спадабалася 1 верасня сёлета, як і летась, як і каторы год. А як яго не ўпадабаць? Гэта ж у настаўнікаў пачынаецца іншае жыццё, а сціплая (нясціплая насамрэч) кадравічка Кацярына Андрэеўна можа зачыніцца ў сваім кабінеце ды носу адтуль не паказваць, прымаючы толькі лішак букетаў, якія настаўнікі ўжо не ў стане занесці дадому.

Але Кацярына Андрэеўна не такая. Яна (то бок я, на жаль, гэта была я) знайшла сёння дзесяць нагод, каб схадзіць у канцылярыю. І шлях абірала не па бакавых лесвіцах. Я хадзіла праз усю школу. На перапынках, з рызыкай быць знесенай з ног дзеткамі. Падпісвала загады асабіста ў дырэктрысы, піла гарбату з Лізаветай Антонаўнай, двойчы. Вешала абвесткі ў настаўніцкай, нават схадзіла ў бібліятэку! Поўная ганьба. І чаго я дасягнула ў выніку? О так, я яго ўбачыла.

Малады спецыяліст Максім Пятровіч сёння бегаў па школе ў касцюме ды цудоўна выглядаў. Да ўсіх ягоных станоўчых якасцей (пра якія мне пакуль што нічога не вядома), ён яшчэ ўмее насіць касцюм. Цікава, дзе ў ягоным родным аграгарадку Скароднае можна дэфіляваць у касцюме з гальштукам?

І ўсё б нічога, але ён мне жахліва падабаецца! Таму я з ім такая ільдзяная і каменная! Каб ён, не дай божа, не здагадаўся пра гэта!

Але ж які дакладны быў ягоны разлік! Запаўняй ён тады, у канцылярыі, у самае першае ягонае з'яўленне, асабовую картку без уздыхаў і прыдыханняў — хіба я заўважыла б яго? Хіба круціла б хвост на плойку? І якая яшчэ сіла ў сусвеце здольна прымусіць мяне прыходзіць на працу за пятнаццаць хвілін да пачатку працоўнага дня?

*2 верасня*

Максім Пятровіч сёння пратаптаў сцежку ў мой кабінет. Яго прывёў добры Антон, які адказна падышоў да маёй просьбы прывесці мне маладых спецыялістаў, каб тыя азнаёміліся з загадамі. І вось, пакуль Максімка знаёміўся з загадам...

Паветра ў маім кабінеце стала такое густое ад ферамонаў і гармонаў, што, удыхні я глыбей, — зацяжарыла б. Мяне нясе на Максімку! І я ж цудоўна ведаю законы фізікі (так, ён яшчэ і фізік!), разумею, што ў гэтай аварыі костак не збяру!

Ён яшчэ дзелавіта пацікавіўся, калі яны з Антонам выходзілі:

— Каця, гэта твой кабінет? — так нечакана ды не ў тэму, што Антон рассмяяўся.

Але ж я чакала, што ён запытаецца!

— Так, — кажу, — гэта *мой* кабінет.

Вось мне цікава... Ягоныя мэты мне зразумелыя. Максім — гэта хлопчык, які носіць заручальны пярсцёнак на мезенцы, фігуральна кажучы. Гэта я разумею. Але якія *мае* мэты ды матывы? Няўжо я здольна аддаць сябе ў рукі малазнаёмага хлопчыка ды не адчуць пры гэтым — а галоўнае *пасля* — адмоўных эмоцый?

*3 верасня*

Старчанка сёння хадзіў па школе ды спяваў: «Пайшла ты, любая, пад гоман жоўтых сосен! Пайшла, каханая! Пад хваль жытнёвых шум!»

І ўсё б нічога... Але калі я бачу Максімку, то абсалютна забываюся пра сваю ўстаноўку на незакаханасць. Я наогул пра ўсё забываюся. У мяне калоцяцца каленкі ды цямнее ўваччу. Сёння ў настаўніцкай ён трымаў скотч і дыхаў мне ў шыю, пакуль я клеіла абвестку — ледзь не згубіла прытомнасць.

Праўда, бліжэй да вечара абаяльнасць з Максімкі крыху спадае. Якая ж гэта закаханасць? Гэта падман зроку! Гэта вынік біяхімічных рэакцый! Чым ён мяне прывабіў? Не розумам жа. Не веру, што можа быць разумным чалавек, які ўсе пяць гадоў вучобы атрымліваў суцэльныя тройкі! (О так, кадравічка мае на руках вашыя выпіскі з дыпломаў, дарагія маладыя спецыялісты!) Толькі па сацыялогіі ды па мед. ведах — «добра», напэўна, выкладчыцы маладыя былі.

Ох, у мяне яўныя праблемы з мараллю. Я разважаю, як быць з чалавекам, які хоча адно пакарыстацца ды забыцца. Як мне вярнуць мой розум? Каб зразумець: правільна раблю ці дрэнна?

*5 верасня*

Учора мы з Арловай пасля яе работы пайшлі ў парк, прайшлі па Кіеўскім спуску, да прычала ды направа: туды, дзе ўвесну глыбіня два метры. І вось мы сядзелі ды глядзелі, як сядае сонца. Ніякай асаблівай рамантыкі ў гэтым не было: мы чакалі цемры. А навошта нам была патрэбна цемра — асобная гаворка.

Каля 11 ночы мы з Арловай палезлі даследваць шэры дом з аркай. І што выйшла. Сорак шостая кватэра па вуліцы Садовай, 37 — на першым паверсе каля аркі, вокны на вуліцу ды ў двор, пластыкавыя пачварныя аконныя пераплёты ды яшчэ і ралеты! Дык вось, ралеты наглуха задраены ды пакрыты сантыметровым слоем бруду. Кватэра 46 па вуліцы Садовай, дом 37, — абсалютна нежылая. Менавіта там і прапісаны склізкі тып Максімка.

Ну і дзе мне цяпер яго шукаць? На якіх лавачках ды ў якім раёне сядзець, каб увечары «выпадкова» сустрэць яго?

Тым лепш. Хоць нешта ўтрымае мяне ад таго, каб пачаць за ім бегаць. А я ўжо ў адным кроку ад прабежкі, шчыра кажучы. Сёння ўламілася ў кабінет завуча

Шашолкінай і завісла над настаўніцкім раскладам, не патлумачыўшы нават, якога чорта мне там трэба. А шукала я расклад Максімкі, але сетка аказалася пустой. Шашолкіна яе яшчэ не запаўняла.

Ах, Кацярына Андрэеўна, Кацярына Андрэеўна! Што ж ты робіш? Заўваж, ТЫ бегаеш даведвацца расклад Максімкі, каб «выпадкова» разам з ім выйсці са школы, пры тым Максімка цудоўна ведае, што ты працуеш да пятай. Максімка нават не спрабуе пад цябе падладжвацца. Ён проста расслабіўся і атрымлівае задавальненне, чакаючы, пакуль ты, як матылёчак, прыляціш да яго на…

Чаму мяне цягне на прыгоды? Быццам я — адрэналіназалежны чалавек, які збольшага жыве ў ільдзяным пекле бескайфовай ломкі.

Чаму ў мяне каля Максімкі не проста ананасы расквітнелі, а растапі арктычныя льды? Перастану за ім бегаць — і па ананасах жахне мароз, а райскія азёры пакрыюцца ільдзяной корачкай.

*7 верасня*

Учора ўвечары ў нас была прызначана сустрэча ў кабаку, у нашай з Арловай кампаніі. З рэстарана мы пайшлі на фантан, а потым — вышэй па Румянцаўскай, у парк. Добра ісці галоўнай вуліцай увечары ў складзе п’янай кампаніі з чатырма мужыкамі. Дайшлі ажно да прычала, там і стаялі.

І вось цягам усяго вечара, а таксама пад плёскат рачных хваль Рычкоў настойліва прапаноўваў мне любоў і дружбу, а сёння нават паразваніў. Але Рычкоў мне не падабаецца — як і ўсё, што можна лёгка ўзяць з палічкі.

А вось калі *нештачка* ляжыць у цёмным чулане пад заваламі, якія пагражаюць абвалам, — тады о-о-о, я гэта хачу! Вось пры супадзенні гэтых умоў *нештачка* робіцца прадметам маёй жарсці, крыніцай натхнення і аб’ектам невычарпальнай любові. І нават веданне таго, што не можа добрая рэч гадамі валяцца чорт ведае дзе, не змушае мяне менш жадаць атрымаць *нештачка*.

*8 верасня*

Ну што, Кацярына Андрэеўна, абламалася? Сёння мая калега Марына... Але не, па парадку.

Здаровы розум я яшчэ канчаткова не згубіла ды незалежнае расследванне датычна Максіма Пятровіча не пачынала. Дакладней, пачала ды скончыла ганебным калгасным гойсаннем пад вокнамі на Садовай. А магла б і раздрукоўкі ягоных тэлефонных размоў знайсці (знаёмыя працуюць у тэлефонных кампаніях), і выкладчыкаў ва ўніверсітэце распытаць пра студэнта Ляшкевіча М. П. І ў Косціка спытацца, які ў міліцыі працуе... Магла б выведаць пра Максімку ўсё!

Але тут, як у кіно, праявіла сябе мая таленавітая калега Марына. Сёння раніцай яна прыйшла да мяне і паведаміла:

— Прыкаліся! Сяброўка маёй малодшай сястры добра ведае нашага Максіма Пятровіча!

А ў суботу ў Марынінай сястры вяселле, і яна паабяцала выпытаць усё, што магчыма.

Хаця яна і так ужо выпытала нямала. Прапіска на Садовай у Максімкі сапраўды левая, затое жыве Пятровіч з намі па суседстве, і не адзін, а з дзяўчынай. Дакладней, у дзяўчыны. Адрас мы даведаемся ў суботу, і нават без званка ў ЖЭС я буду ведаць, хто прапісаны ў той кватэры... Бо што такое школа? — гэта выбарчая камісія. А што такое выбарчая камісія? — спісы жыхароў раёна...

...Які сэнс будзе ў тым, што я даведаюся імя ды прозвішча Максімкавай дзяўчыны? Якое гэта можа мець значэнне, калі, як кажа Марына, у іх «такая любоў, такая любоў»!

Фу, ну якія ж бываюць гадкія мужыкі. Калі ў іх «такая любоў», то чаго яны прыходзяць уладкоўвацца на працу і ў першыя ж пяць хвілін віртуозна ўлюбляюць у сябе мала таго, што кадравічку, дык яшчэ і пляменніцу дырэктрысы!

Нейкая пакрыўджаная істота ўва мне прачынаецца. Як даведалася, што Максім Пятровіч жыве з дзяўчынай, не тое каб прыраўнавала, а адчула сябе абкрадзенай. Я хаджу ўся такая прыгожая — і раптам нейкая дзявуля забірае ў мяне шчасце, радасць ды крыніцу натхнення! Звярніце ўвагу: не Максімку ў мяне забірае, а менавіта складнікі майго жыцця. Шчасце. Радасць. І крыніцу натхнення.

Адзінае суцяшае: тупыя вуглы ў трохкутніках — звычайна дзяўчыны, якія падсяляюць да сябе ў кватэры папрыгунчыкаў з аграгадкоў. Як жа вочкамі страляў! Як хадзіў тут увесь з сябе! Ага, у іх «такая любоў, такая любоў», што ён тут ажно са штаноў перада мной выскоквае. Любоў у іх! А ў мяне што?

*9 верасня*

Ах, дарэмна ты, Кацярына, перажывала, што табе не будзе пра што сёння запісаць у дзённічак! І дарма думала, што прападае ружовая сукеначка паўпразрыстая, бо сёння быў апошні спякотны дзень, і больш яе не адзенеш…

Калі я сёння курсіравала паміж канцылярыяй і сваім кабінетам, у калідоры з-пад локця вынырнуў Максім Пятровіч. (З гэтымі новымі акулярамі ў мяне рэзка скараціўся бакавы агляд, і цяпер усе нібыта вынырваюць у мяне з-пад локця).

І тут ён кажа:

— Добра выглядаеце! — і мы разыходзімся па сваіх справах у розных накірунках. Я — у кабінет, ён — у сталоўку.

«Добра выглядаеце» — яшчэ б! Уся школа ўжо мае вабноты разгледзела!

Так, Кацярына. Я ўжо пераканалася, што табе бессэнсоўна штосьці тлумачыць, казаць, пераконваць… Але давай яшчэ раз напішам правілы паводзін! Бо хоць некалі ты ж пачнеш іх трымацца!

Каця, ты павінна перастаць за ім бегаць! Сядзі ў сваім кабінеце і працуй! Каву і гарбату можна цудоўна піць у канцылярыі з Лізаветай Антонаўнай ці з Марынай у буфеце, а ў кабінет для настаўнікаў табе лезці няма патрэбы. А калі ты даведаешся расклад Максіма Пятровіча — я цябе заб’ю ў настаўніцкай, на тым праклятым месцы, дзе Максімка дыхаў табе ў шыю.

*10 верасня*

Брава, Кацярына Андрэеўна, брава! Лепей за ўсе чаканні! Ты сёння праявіла сябе ў баявой аперацыі! Як тое малое дзіця, якому кажуць: «Не рабі», і яно адразу ж ідзе і робіць, так і я: праседзела ў кабінеце для настаўнікаў па 20 хвілін два разы, даведалася Максімкаў расклад, чакала яго пасля ўрокаў.

Расклад у Максіма Пятровіча наступны: панядзелак — чатыры ўрокі на другой змене, аўторак — пяць урокаў на другой змене, серада — шэсць урокаў на другой змене, чацвер — урокаў няма, пятніца — шэсць урокаў на другой змене.

Шэсць урокаў на другой змене канчаюцца ў 19:10! А мой працоўны дзень — да 17:00. Ну, а палове на шостую я сыходжу звычайна. Сёння, спрабуючы апраўдаць сваю затрымку на дзве гадзіны, такую гару работы перарабіла! Перабрала працоўныя кніжкі, выпісала тых, у каго не было налепак, надрукавала ды займалася

выразаннем і аплікацыяй: на кожную працоўную кніжку наклеіла палосачку з прозвішчам.

Асабліва цяжкі выпадак!

Але. Не ўсё яшчэ згублена. Нейкая невядомая сіла (напэўна, рэшткі годнасці) змусіла мяне выйсці са школы за дзве хвіліны да званка. Нягледзячы на тое, што я доўга часала валасы, до-о-о-ўга падцягвала калготкі ў прыбіральні, вымыла рукі, а потым яшчэ і выцірала іх! За дзве хвіліны я паспела збегчы.

Шэсць гадоў працую ў школе — упершыню расклад вывучыла.

Яшчэ сёння Максімка прыходзіў у канцылярыю браць гарбату, патлумачыўшы Лізавеце Антонаўне, што «ў нас з Кацяй адзін пачак на дваіх». Якая кранальная падрабязнасць! А ён жа нават і не падазрае, што з таго ж пачка п’юць яшчэ і Антоша, і Старчанка! Так што ў мяне таксама ёсць таямніцы і прыватнае жыццё, хай не зазнаецца.

Дык вось, пачак гарбаты я забрала сабе ў парыве клопату аб спакоі Лізаветы Антонаўны. Цяпер буду падлічваць, колькі яшчэ ў пачку засталося пакуначкаў, і адмаўляць сабе дзеля таго, каб лішні раз убачыць Максімку.

*11 верасня*

Расклад я неяк няправільна паглядзела. Добра, хоць пазногці пафарбавала. Сёння ў складзе цудоўнай кампаніі — Марына, Старчанка, Антон і Максім Пятровіч. Цягам паўгадзіны піла каву ў настаўніцкім пакоі. І Максімка сеў на канапу побач са мной, а не з Антошам (памерці ад шчасця).

І глядзіць, і падыходзіць. А больш нічога не робіць. Мяне побач з ім проста калоціць. Можна на яго нават не глядзець. Гэтая чорная рэчка мае шалёную плынь.

А яшчэ Марына пагаварыла з ягонай сяброўкай. Дзяўчына Максімкі, паводле чутак, жыве ў Мазыры, працуе на нейкім заводзе, а сюды прыязджае на выхадных.

*16 верасня*

Глабальнае пацяпленне, глабальнае пацяпленне, а якое ж пацяпленне, калі на Дзень горада была спёка заўжды, а сёлета — халадэча. Тры дні з дому носу не паказвала. І мне гэта пайшло на карысць, бо я цалкам працверазела ды супакоілася. Які яшчэ, да чорта, Максім Пятровіч?

І сёння я ўся такая спакойная заявілася на працу. І спакойна працавала. І нават адзначыла, што для пахода да Лізаветы Антонаўны ў канцылярыю чакаю званка на ўрок, а не швэндаюся па калідорах на перапынках, уварочваючыся ад дзетак-ласёў, спадзеючыся на сустрэчу.

Але а палове на чацвёртую я яго сустрэла. У бібліятэцы. Стаю сабе, капірую дакументы, і раптам чую за спінай:

— Як прайшоў Дзень горада?

Я та-а-ак здзівілася! Ну, думаю, які таленавіты малады спецыяліст! І да Васільеўны здолеў падкаціць! І зараз яна яму за прыгожыя вочкі выдасць на рукі часопісы з чытальнай залі!

І ціхенька абарочваюся.

І бачу, што Васільеўны за стойкай няма. І нікога за стойкай няма, а толькі адна я.

— Як, кажу, Дзень горада прайшоў?

— А ты не памятаеш хіба? Была жахлівая халадэча і дождж!

— А нам, — кажа, — гэта не зашкодзіла! Мы адзначалі ў кустах дзень нараджэння Антона!

О як. Пакуль я ў суботу пакутавала і баялася за дзверы выйсці, у кустах пад маімі вокнамі «святкавалі дзень народзінаў» Старчанка, Антон і Максімка! Які цесны свет. І якія разнастайныя ў людзей спосабы бавіць вольны час!

Потым Максімка з Антошам, мілыя хлопчыкі, падпільнавалі мяне ля прыбіральні, і Максім Пятровіч скіраваўся да мяне ў кабінет па гарбату. І маўчаў па дарозе. Праўда, на развітанне паўсміхаўся. І я яму паўсміхалася. Мне хіба шкада?

Кацярына Андрэеўна! Будзь пільнаю! Не кранай — заб'е! Ты бачыш, як памайстэрску ён да цябе падвальвае? Які падлюга! Які мярзотнік! Ён прыкідваецца сціпленькім! Ён нібыта саромеецца! А сам — хоча табой скарыстацца! І галоўная праблема ў тым, што ты — не супраць.

*24 верасня*

Учора жахліва спала (начавала ў Арловай), а сніла архівы, працоўныя кніжкі і асабовыя справы.

Паглядзелі з Арловай зраніцы фільм пра мазгавых паразітаў: ёй расхацелася спаць, а мне — снедаць.

*3 кастрычніка*

Цётка сёння ў госці прыйшла! І што распавяла! Не мне, праўда, яны з мамай размаўлялі, але гутарка тычылася і мяне. Рэальна, трэба быць слабым на галаву, каб клеіць пляменніцу дырэктрысы і пры тым заляцацца да іншых настаўніц на вачох у яе ж! То бок, нашаму маладому спецыялісту не хапіла досціпу ўсталяваць ступень нашага сваяцтва! Да чаго трэба было здзівіць цётку, каб яна абурана распавядала пра Максімку, пра яго выключны талент з поўнай апатыяй ставіцца да навучальна-выхаваўчага працэсу. Затое адорвае ўсмешкай кожную жанчыну, нават Алёшыну Е. І.!

Та-а-ак, Максімка... Усё магла табе даравацьб але Алёшыну Е. І. — ніколі ў жыцці!

Ну што, лагічны фінал, галоўнае — прадказальны.

Я зусім закінула дзённік, а гэта — добры знак. Я такую гару спраў перарабіла. Няма калі пісаць: заўтра — Дзень настаўніка, каб яго, і мне трэба пратрымацца ў прытомным стане ажно да ночы.

*4 кастрычніка*

Ратуйце, ратуйце! Мой манеўр не атрымаўся! Усе мае жалезныя планы разваліліся!

Я ўчора (сёння) прыйшла дадому а палове на пятую раніцы. Усё было так. У пятніцу ўночы, калі мы з Максімкам ішлі ў Галактыку (святкаванне Дня настаўніка скончылася, але не для ўсіх), ён пачаў чытаць мне вершы нейкія. Я спачатку не ведала, куды ад сораму падзецца. Але прыслухалася, і чую, што вершы — не зусім лайно. Я кажу: «Ну і што за экспромт ты выдаў?» А ён адказвае: «Ды гэта ж не я, гэта тэкст Аўкцыона!» Я кажу: «Ты яшчэ і музло нармальнае слухаеш!» І ў той момант ён мяне пацалаваў (у шчочку), і мы пайшлі ў Галактыку.

Нда-а-а, ну і справы. Вымушана ўзяць назад амаль усе свае словы пра Максімку. Ён, бачыце вы, любіць класічную музыку (звар'яцець), чытае ў гэты час «Братоў Карамазавых», ведае майго сябра Толіка і выпытваў звесткі пра мяне!

А-а-а, ён афігенна цікавы! Мы збіралі каштаны, потым сядзелі за барнай стойкай, а ў мяне на шчацэ яшчэ гарэў ягоны пацалунак. (Не, Кацярына Андрэеўна, прызнайся, што паміж збіраннем каштанаў і «Галактыкай» было піццё гарэлкі з рыльца на вуліцы). Ах, ну і што! Мне ўсё адно, што будзе далей! А яшчэ, калі мы сядзелі за

барнай стойкай, ён мне распавёў, што аднойчы ехаў у аўтобусе, а я з яго выйшла (мы ехалі ў адным аўтобусе, а я яго не заўважыла!), і ён убачыў, як я іду: з выпрастанай спінай, задзершы нос, не гляджу сабе пад ногі! Сказаў, маўляў, гэта яго зачапіла!

Як жа ўсё цудоўна ў гэтым жыцці! Учора быў добры дзень, і сёння выдатны!

*5 кастрычніка*

Вечар нядзелі. Вось і надышоў мой маленькі жаночы трындзец. Я нічога не магу рабіць, у жаху сяджу і калачуся: што ж будзе ЗАЎТРА? А што мне рабіць? А як паводзіцца? А што сказаць пры сустрэчы? Пры выпадковай сустрэчы на лесвіцы?

Каця, ты афігела, ці што? Зусім хворая на галаву? Ты тут сядзіш, як ненармальная, ламаеш галаву: «А ці хоча ён са мной сустракацца?» Ах, ён жа ў «Галактыцы» прапанаваў выпіць «За нас». Давай яшчэ чаго паўзгадвай, ідыётка. Мазгоў сваіх жа няма! Выпіць прапанаваў, а вось твой нумар тэлефона яму не спатрэбіўся! Правільна, а навошта яму яшчэ тэлефон рознай лухтой засмечваць? Навошта яму твой нумар, калі ў панядзелак ён прыйдзе на працу, а там ты з адключанай галавой. Пацалаваў, а тэлефон забыўся ўзяць. Ах, што ты там лапочаш, Кацечка? Што? Ён вельмі стаміўся? П'яны быў? Не паспеў? Ты занадта хутка ў машыну села? А ты ўзгадай, Кацечка, як ён перад тым адмовіўся цябе дадому праводзіць. Пацягнуў цябе да фантана... У «Галактыку»... Усё спадзяваўся цябе дацягнуць да Садовай, 37/46.

Хочаш зганьбіцца на вачах усёй школы?

— Так, цяпер слухай мяне. Трымай пад кантролем сваю галаву і ўсё астатняе. Заўтра звальвай з працы разносіць справаздачы, з кабінета носу не высоўвай, а ў сераду пачынаецца адпачынак. Вось і супакоішся.

* * *

*2 жніўня*

Пяшчотнай жнівеньскай раніцай, яшчэ не сапсаванай спёкай, ён выйшаў з цягніка на перон, пазяхнуў, азірнуўся ды няспешна, заклаўшы рукі за спіну (гэты жэст быў праявай вышэйшай ступені самазадаволенасці ды ўпэўненасці), скіраваўся ў бок бліжэйшага скверыка, каб там, седзячы на лавачцы, спакойна прагледзець дакументы, азнаёміцца з новым імем, прыдумаць легенду ды скласці прыблізны план напружанай працы на бліжэйшы год. Ці крыху меней, ці болей — як пашанцуе.

Высокае летняе неба было шэра-блакітным, з ружовым адценнем. Такое неба бывае на планетах ля Альфы Цэнтаўра. Сам ён не быў ні на якой Альфе Цэнтаўра — прафесійным класам не выйшаў — калегі распавядалі. Але ўсё яшчэ наперадзе! — варта завяршыць хоць адно заданне паспяхова, і ён увойдзе ў шэрагі лепшых... А ў сваіх здольнасцях ён сумневаў не меў.

Ён адкінуўся на спінку лавачкі, выцягнуў ногі, заклаў рукі за галаву ды паглядзеў навокал — новы горад быў нішто сабе, вялікі. Прынамсі, большы за папярэдні. За час сваёй працы ён памяняў столькі гарадоў, гарадкоў, аграгарадкоў і вёсак, што памяць адмаўлялася ўтрымліваць іх назвы: уся інфармацыя і без таго захоўвалася ў дасье. Добра, што гэтым разам яму выпаў вялікі горад: з аднаго боку, працы ў такім — нашмат больш, але з іншага — болей і магчымасцей працаваць чыста. З мінулага задання давялося спешна выязджаць пасля таго, як яго збілі двойчы цягам тыдня, падпільнаваўшы ля пад'езда, да таго ж аблілі машыну сернай кіслатой,

добра яшчэ, што ў твар не плесканулі, а рэпутацыя ягоная грымела па ўсёй акрузе. Яшчэ б крыху — і... Вось жа дзе недарэчнасць! — падумаў ён: працуем з Космасам, а тэхналогіі змены аблічча ў працу дагэтуль не ўведзены. Ну што ж, гэта не нагода кідаць свой абавязак перад Галактыкай.

Ён выцягнуў з унутранай кішэні невялікую тэчку з паперамі: трэба было ўжывацца ў новую ролю. Спачатку пашпарт і новае імя. Максім Пятровіч Ляшкевіч. Гучыць добра, запамінаецца кепска: як і заўжды. Як заўжды, нейкая левая прапіска ў нежылой кватэры. Сапраўдным жытлом, дарэчы, кожны супрацоўнік мусіў забяспечваць сябе сам. Занятак ці праца. Ага, ён працуе ў школе. Настаўнікам. Ох, у школе... Лагічная лакацыя: канцэнтрацыя жанчын там, бадай, найвышэйшая. Ён зазірнуў у дыплом: ага, ён выкладае фізіку, і ў дадатак да дыплома — суцэльныя тройкі. Давядзецца граць, што рабіць. Адназначна, школа — гэта лепш, чым фабрыка па вырабе адзення ці адміністрацыя вобласці. Але складаней, чым вучоба на філфаку. Ва ўніверсітэце наогул не трэба нічога рабіць, а ў школе давядзецца імітаваць выкладанне. І натуральна, ні з чым не параўнаецца праца на марскім курорце: хоць ты ўлетку, хоць у лютым. Але на марскі курорт дасылалі не часцей, чым раз на два гады. Што ж, служба — гэта служба.

Пры згадцы аб высокай місіі ён ажно ссунуў бровы, сціснуў вусны ды выпрастаў спіну, а правая рука аўтаматычна пацягнулася аддаць салют. Ён стрымаўся, адно толькі дазволіў сабе прашаптаць: «Служу Галактыцы!» Больш ніколі ён не дазволіць сабе на заданні такой вольнасці. Цяпер ён — Максім Пятровіч Ляшкевіч, выпускнік фізфака, які вучыўся на адны тройкі, і толькі па сацыялогіі і медыцынскіх ведах — «добра». І ніхто ніколі не даведаецца пра яго місію па выратаванні Зямлі, Галактыкі і Сусвету, ніхто ніколі не пазнае ў сціплым школьным настаўніку...

Місія была не проста адказнай. Ад яе залежаў лёс чалавецтва на планеце Зямля.

Калі ён яшчэ юнаком трапіў у Касмічную контрразведку, у яго заняло мову ды па ўсім целе валасы ўсталі дыбарам. Даведаўся пра сапраўдныя працэсы, якія адбываюцца на планеце. Якім ён быў сляпым! І як шмат дагэтуль схавана ад нашых вачэй! Аказваецца, ужо не першае стагоддзе на Зямлі працуе разведка варожай нам Альфы Цэнтаўра, і іх агентурная сетка запусціла шчупальцы літаральна ў кожную шчыліну. Для перадачы інфармацыі яны карыстаюцца зашыфраваным каналам, які быў выяўлены. І сапраўды, ад падступнасці «альфаўцаў» займае мову. Для абмену інфармацыяй яны выкарыстоўваюць жанчын. Нашых зямных жанчын.

Спачатку ён быў абураны. А потым зразумеў логіку ворага. Жанчыны — лепшае, што яны змаглі б выкарыстаць, як жорстка гэта ні гучыць. Істоты без розуму ды волі, няздольныя кантраляваць сваю псіхіку ды гарманальныя ўсплёскі. Калі разабрацца, жанчыны створаны эвалюцыяй нібыта наўмысна, каб іх выкарыстоўвалі ў сваіх мэтах!

З таго часу ніякае пачуццё сораму не кранала яго. Толькі збор і расшыфроўка інфармацыі, якая перадавалася па гэтым канале, вымагалі працы ды навыкаў, скажам так, спецыфічных. Ніякая жанчына не нашэпча табе на вушка прынцыповую схему антыгравітацыйнага агрэгата, нават калі яе папрасіць. Жанчыны самі не ведаюць, чыю волю выконваюць, а здагадацца ім ніколі не хопіць ні розуму, ні ўпартасці. Каб жанчына пачала трансляваць шыфроўку на патрэбнай хвалі, яе трэба давесці да стану найвышэйшага фізічнага задавальнення. Кажучы прасцей, зацягнуць яе ў ложак. Гэтым і займаюцца агенты Касмічнай контрразведкі.

Удасканальваюць сваё майстэрства, каб апрацаваць за меншы час большую колькасць. Пры тым ніколі загадзя не будзе дакладна вядома, ці выкарыстоўваюць канкрэтную жанчыну «альфаўцы». Безумоўна, Контрразведка напрацавала шэраг прыкмет, па якіх можна весці папярэдні адбор, але адзіны спосаб даведацца на сто працэнтаў — праверыць. Зацягнуць яе на канспіратыўную кватэру, давесці да патрэбнага стану — а навокал ужо працуе складаная апаратура, якая запісвае, аналізуе, дэшыфруе...

Галоўнае ў працы агента — ніколі не дазваляць жанчынам кіраваць сабой. Сапраўдны агент працуе ўпэўнена, робіць працу хутка, самаліквідуецца, не пакідаючы слядоў. Гэта і называецца — берагчы гонар скафандра.

І ён мае гонар стаяць у гэтым шэрагу! Ён ледзь чутна прашаптаў: «Служу Галактыцы!» і пракаўтнуў нябачную слязу. Аднак жа, раніца была ўжо не такой ранняй, горад ажываў, і трэба было шукаць сабе жытло. Ён паклаў дакументы ў кішэню ды зноўку рушыў у бок вакзала: паглядзець на расклад.

Нарэшце прыбыў дызельны цягнік з Мазыра. Ён пільна ўглядаўся ў натоўп, які рушыў з перона да аўтобусных і тралейбусных прыпынкаў. Яму былі без патрэбы мужыкі з мяхамі ды бабы з клункамі, таксама не цікавілі яго жанчыны з дзецьмі, паўз сябе ён прапускаў дзяўчын, якіх нехта прыйшоў сустрэць з цягніка. Пад ягоную ўвагу траплялі толькі тыя, якія відавочна былі свабоднымі.

Ён прапусціў крыху наперад найпрыгажэйшую дзяўчыну (яна цягнула вялізную торбу на колцах, заплечнік, маленькую торбачку на плячы, яшчэ і пластыкавы пакунак), а потым кінуўся за ёй наўздагон, абагнаў на два крокі, азірнуўся ды ўсміхнуўся:

— Куды вы так хутка? Я бягу за вамі ад самога Мазыра! Давайце мне ўсе свае торбы! Такая прыгожая дзяўчына вартая таго, каб яе насілі на руках, а хтосьці дазваляе вам цягаць цяжар... Мы гэта зараз выправім! Дзе вы жывяце? Я давязу вас да дому...



ВОЛЬФГАНГ ХЕРНДОРФ

*Рубрыка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта*

# ЧЫК

## *Урыўкі з рамана*



***Вольфганг Херндорф нарадзіўся ў 1965 годзе ў Гамбургу. Скончыўшы Нюрнбергскую акадэмію выяўленчых мастацтваў, працаваў ілюстратарам, у прыватнасці ў вядомым сатырычным часопісе «Тытанік». Як пісьменнік дэбютаваў у 2002 годзе. Лаўрэат шматлікіх літаратурных прэмій. За раман «Чык» (Tschick, 2010) узнагароджаны Нямецкай прэміяй па літаратуры для моладзі (Deutscher Jugend literatur preis). У тым жа годзе ў пісьменніка выявілі злаякасную пухліну мозга, праз тры гады яго не стала.***

***У рамане «Чык» апавяданне вядзецца ад імя 14-гадовага падлетка Майка Клінгенберга — хлопчыка з багатай, але праблемнай сям'і, аўтсайдара ў школе. Аднойчы ў іх клас прыходзіць новы вучань — эмігрант з Расіі Андрэй Чыхачоў, асацыяльны, «цяжкі» падлетак, які атрымлівае мянушку Чык. Неспадзявана паміж хлопчыкамі завязваецца сяброўства, і на летніх канікулах яны на «пазычанай» савецкай машыне выпраўляюцца ў падарожжа «ў Валахію», дзе нібыта жыве дзядуля Чыка. Хлопцы блукаюць па дарогах былой Усходняй Германіі, трапляючы ў розныя прыгоды і сустракаючы розных людзей. У канцы падарожжа Майк зазначае: СМІ, навіны заўсёды пераконваюць нас, што чалавек — вельмі дрэнная істота. Магчыма, гэта на 99 працэнтаў так. Але ім на шляху трапляўся чамусьці 1 працэнт добрых людзей.***

<...>

### 9

З самага пачатку я цярпець не мог Чыка. Ніхто не мог яго цярпець. Чык быў сапраўдным вырадкам грамадства і выглядаў адпаведна. Вагенбах уцягнуў яго ў клас пасля Вялікадня, і калі кажу, што ён *уцягнуў* яго ў клас, я менавіта гэта і маю на ўвазе. Быў першы ўрок пасля велікодных канікул — гісторыя. Усе сядзелі нібы прыколатыя стэплерам да сваіх крэсел, бо калі ёсць сярод нашых настаўнікаў аўтарытарны азадак, дык гэта Вагенбах. Хаця «азадак» — гэта занадта моцна сказана; па сутнасці, Вагенбах цалкам нармальны. Ён праводзіць заняткі як мае быць і не дурны, як большасць астатніх, напрыклад, Волкаў. На яго ўроках не трэба прыкладаць асаблівых

намаганняў, каб сканцэнтравацца. А сканцэнтравацца варта, бо Вагенбах сапраўды ўмее разнесці чалавека ў пух і прах. Гэта ведае кожны. Нават тыя, у каго ён пакуль што ніколі не вёў. Яшчэ да таго, як пяцікласнік у першы раз пераступае парог гімназіі імя Тадэвуша Гаека, ён ужо ведае: увага, Вагенбах! Таму на ўроках Вагенбаха ўсе сядзяць як мышы пад венікам. Калі вядзе Шурман, самае меншае пяць разоў за ўрок раздаецца звон мабільніка. Аднойчы Патрыку нават удалося памяняць на яго ўроку мелодыю званка на сваім тэлефоне — адна за адной прагучалі шэсць, сем, восем мелодый, пакуль Шурман папрасіў, каб стала *крыху цішэй*. І нават тады ён не рашыўся паглядзець на Патрыка строга. Калі тэлефон звоніць на ўроку Вагенбаха, уладальнік гэтага тэлефона можа быць упэўненым, што яму не дабрацца жывым да вялікага перапынку. Ходзяць нават чуткі, што раней Вагенбах меў пры сабе малаток, каб разбіваць ім мабільнікі. Не ведаю, ці праўда гэта.

Дык вось, Вагенбах зайшоў у клас у тым жа дрэнным касцюме і з тым жа брыдка-карычневым партфелем пад пахай, што і заўсёды, а следам за ім плёўся гэты хлапец, які рабіў такое ўражанне, быццам ён хутка ўпадзе ў кому ці накшталт таго. Вагенбах грукнуў партфелем аб настаўніцкі стол і павярнуўся да нас. Ссунуўшы бровы, ён дачакаўся, пакуль хлапец павольна дашоргаў да яго, і сказаў:

— У нас з’явіўся новы вучань. Яго завуць Андрэй…

І ён паглядзеў на сваю паперку з занатаваным імем, а потым зноў паглядзеў на хлапца. Было відавочна, што ён хацеў, каб той сам назваў сваё прозвішча. Але хлапец сваімі раскосымі вачыма пазіраў у праход між партамі і нічога не казаў.

Магчыма, гэта і не настолькі важна, каб упамінаць, але мне ўсё ж такі хочацца расказаць, што я падумаў у той момант, калі ўпершыню пабачыў Чыка. Бо ў мяне было надта нядобрае ўражанне ад таго, як ён раптам узнік побач з Вагенбахам. «Два азадкі ў адной кучы», — падумаў я, хаця зусім не ведаў яго і не знаў, азадак ён ці не. Ён быў рускім, як потым высветлілася, сярэдняга росту, апрануты ў зашмальцаваную белую сарочку, у якой не хапала аднаго гузіка, джынсы за 10 еўра з магазіна таннага адзення «KiK» і карычневыя бясформенныя красоўкі, якія выглядалі як дохлыя пацукі. Апроч таго, у яго былі надзвычай высокія скулы, а замест вачэй — шчылінкі. Гэтыя шчылінкі адразу кідалася ў вочы. Яны рабілі яго падобным да мангола, і ніколі не было зразумела, куды ён глядзіць. Яго рот з аднаго боку быў крыху прыадкрыты; здавалася, нібы з гэтай адтуліны тарчыць нябачная цыгарэта. Ён меў моцныя перадплечы, на адным з іх у яго быў вялікі шрам. Ногі былі адносна тонкія, а чэрап вуглаваты.

Ніхто не хіхікаў. На ўроках Вагенбаха і так ніхто не хіхікаў. Але ў мяне было ўражанне, што ніхто не хіхікаў бы і без Вагенбаха. Гэты рускі проста стаяў і глядзеў кудысьці сваімі мангольскімі вачыма. І Вагенбаха ён поўнасцю ігнараваў. Адно гэта ўжо было дасягненнем. Гэта было практычна немагчыма.

— Андрэй, — сказаў Вагенбах, утаропіўся ў сваю паперку і бязгучна заварушыў вуснамі. — Андрэй Чы… Чыха… Чорофф.

Рускі нешта прамармытаў.

— Што? — спытаў Вагенбах.

— Чыхачоў, — сказаў рускі, не зірнуўшы на Вагенбаха.

Вагенбах уцягнуў паветра праз адну ноздру. Была ў яго такая дзівацкая звычка.

— Выдатна, Чышарофф. Андрэй. Ці не хочаш расказаць што-небудзь пра сябе? Адкуль ты родам, у якой школе вучыўся дагэтуль?

Гэта была стандартная працэдура. Калі ў клас прыходзілі навічкі, яны мусілі расказаць пра сваё паходжанне і ўсё такое. Але зараз, у выпадку з Чыкам, першы раз адбывалася змена гэтага парадку. Чык крыху павярнуў галаву ўбок, нібы толькі ў гэты момант заўважыў Вагенбаха. Пачухаўшы шыю, ён зноў павярнуўся да класа і адказаў:

— Не.

Зрабілася так ціха, што было чуваць, як муха праляціць.

Вагенбах сур'ёзна кіўнуў і сказаў:

— Ты не хочаш расказваць, адкуль ты?

— Не, — сказаў Чык.

— Добра. Тады я сам раскажу пра цябе, Андрэй, бо павінен прадставіць класу.

Ён глядзеў на Чыка. Чык глядзеў на клас.

— Я буду лічыць тваё маўчанне за згоду, — сказаў Вагенбах іранічным тонам, як і ўсе настаўнікі, калі яны кажуць нешта падобнае.

Чык не адказаў.

— Альбо ты маеш нешта супраць? — спытаў Вагенбах.

— Пачынайце, — сказаў Чык і зрабіў рух рукой.

Недзе сярод дзяўчынак цяпер усё ж такі пачулася хіхіканне. *«Пачынайце!»* Ачмурэць можна! Ён гаварыў з надзвычайна дзіўным акцэнтам: рабіў націск на кожны асобны склад. Па-ранейшаму стаяў, утаропіўшыся ў заднюю сценку класа. Магчыма, ён нават заплюшчыў вочы. Гэта цяжка было вызначыць. Вагенбах надаў свайму твару выраз, які заклікаў да цішыні.

— Дык вось, — сказаў ён, — нашага новага вучня завуць Андрэй Чыха... шорофф, і, як мы ўжо лёгка здагадваемся па яго імені, прыбыў наш госць здалёк, калі дакладна, з бяскрайніх рускіх прастораў, якія Напалеон захапіў на апошнім уроку перад Вялікаднём, — і з якіх ён сёння, як мы гэта ўбачым, зноў будзе выгнаны. Таксама як да яго быў выгнаны Карл XII. А пасля яго — Гітлер.

Вагенбах зноў уцягнуў паветра праз адну ноздру. Уступ не зрабіў на Чыка ніякага ўражання. Ён стаяў нерухома.

— Так ці інакш, чатыры гады таму Андрэй разам са сваім братам пераехаў сюды, у Германію, і... Не хацеў бы ты лепш расказаць пра гэта сам?

З боку рускага пачулася нешта накшталт шораху.

— Андрэй, я з табой размаўляю.

— Не, — сказаў Чык. — У сэнсе, я хацеў бы лепш пра гэта не расказваць.

Раздалося здаўленае хіхіканне. Вагенбах упарта кіўнуў.

— Добра, тады раскажу я, калі ты нічога не маеш супраць. Урэшце, гэта вельмі незвычайна.

Чык адмоўна пакруціў галавой.

— Ты не знаходзіш гэта незвычайным?

— Не.

— А *я* лічу, што гэта незвычайна, — настаяў Вагенбах. — І да таго ж дзіўна. Сям'я, з якой паходзіць Андрэй, мае нямецкія карані, але яго родная мова — руская. Ён выдатны аратар, як мы бачым, але нямецкую мову ён вывучыў толькі ў Германіі, і таму заслугоўвае некаторых паблажак з нашага боку ў пэўных галінах. Чатыры гады таму ён пайшоў спачатку ў школу для адстаючых. Потым яго перавялі ў агульнаадукацыйную школу, бо яго паспяховасць гэта дазволіла, але і там ён затрымаўся ненадоўга. Потым адзін год у рэальнай школе — і вось ён ужо ў нас. І ўсё гэта ўсяго за чатыры гады. Пакуль што ўсё правільна?

Чык пацёр сябе па носе тыльным бокам далоні, потым паразглядваў руку і сказаў:

— На дзевяноста працэнтаў.

Вагенбах крыху пачакаў, ці не прагучыць за гэтым яшчэ што-небудзь. Але нічога больш не прагучала. Астатнія дзесяць працэнтаў засталіся таямніцай.

— Добра, — сказаў Вагенбах з нечаканай прыязнасцю. — А зараз мы ўсе, безумоўна, з вялікай цікаўнасцю будзем сачыць за тым, што адбудзецца далей… На жаль, ты не можаш застацца стаяць перад класам, як бы прыемна нам ні было з табой гутарыць. Таму я прапаную, каб ты сеў за вольную парту ззаду. Добра?

Чык прашоргаў як робат па праходзе між партамі. Усе глядзелі яму ўслед. Таццяна і Наталі шушукаліся.

— Напалеон! — прамовіў Вагенбах і, зрабіўшы тэатральную паўзу, выцягнуў з партфеля пачак папяровых сурвэтак і грунтоўна высмаркаўся.

Тым часам Чык дабраўся да задняй парты, і з прахода, па якім ён ішоў, павеяла пахам, які так мяне ўразіў, што я ледзь паверыў свайму нюху. Ад яго несла перагарам. Я сядзеў за тры месцы ад прахода, але змог бы скласці спіс выпітых ім за апошнія суткі напояў. Так пахла ад маёй маці, калі ў яе выпадаў кепскі дзень. Я зразумеў, што гэты спіртны дух і быў прычынай таго, што Чык увесь час не глядзеў на Вагенбаха і не адкрываў рот. Але ў Вагенбаха быў насмарк, ён усё роўна нічога не адчуваў.

Чык сеў за адзіную вольную парту. У першы дзень вучэбнага года за ёй сядзеў Каленбах, галоўны дурань нашага класа. Але было вядома, што Каленбах бесперапынна замінае, і таму фрау Пехштайн яшчэ ў той самы дзень перасадзіла яго за першую парту, каб ён быў пад кантролем. І вось цяпер замест яго за апошняй партай сядзеў гэты рускі, і я быў, напэўна, не адзіным чалавекам, каму здавалася, што, з пункту гледжання фрау Пехштайн, пасадзіць яго там замест Каленбаха было не вельмі добрай ідэяй. Гэта было відавочна, і таму ўсе пастаянна на яго абарочваліся. Пасля гэтай сцэны з Вагенбахам ніхто не сумняваўся: нешта яшчэ здарыцца, будзе сапраўды цікава.

Але потым за ўвесь дзень не здарылася ўвогуле нічога. Усе настаўнікі нанава віталі Чыка, і на кожным уроку яму прыходзілася прагаворваць сваё прозвішча па літарах, але ў астатнім усё было спакойна. І ў наступныя дні таксама нічога не адбывалася, што стала суцэльным расчараваннем. Чык прыходзіў у школу ў той жа сарочцы, не прымаў удзелу ў занятках, адказваў заўсёды толькі «так», «не» ці «не ведаю», калі яго выклікалі, і не перашкаджаў. Ён ні з кім не пасябраваў, ды і не рабіў ніякіх спроб. Алкаголем ад яго ў наступныя дні больш не смярдзела, але ўсё роўна пры позірку на апошнюю парту заўсёды стваралася ўражанне, што ён адсутнічае. Гледзячы на тое, як хлапец сядзіць там, звесіўшы галаву, з абвіслымі плячыма і з гэтымі сваімі вачыма-шчылінкамі, немагчыма было зразумець, што з ім: ці ён спіць, ці п'яны ў дым, ці проста вельмі млявы?

Але потым прыблізна раз на тыдзень зноў пачаў з'яўляцца той самы пах. Не такі моцны, як у першы дзень, але ўсё ж. У нашым класе таксама былі людзі — сам я да іх не належаў — якім ужо выпадала напівацца ўшчэнт, але ніхто з іх не прыходзіў раніцой п'яны ў школу — гэта было штосьці новенькае. У такія дні Чык жаваў смярдзючую мятную жвачку — па гэтым заўсёды можна было здагадацца, што ён зрабіў чарговы заход.

Апроч гэтага, пра яго няшмат чаго было вядома. Сам факт, што гэты хлапец трапіў са школы для адстаючых у гімназію, быў дастаткова недарэчным. Але знаходзіліся людзі, якія яго баранілі, лічылі, што на самай справе ён зусім не дурань.

— Прынамсі, стопудова не такі дурань, як Каленбах, — пераконваў я кагосьці аднойчы, таму што быў адным з гэтых людзей. Але абараняў яго, шчыра кажучы, толькі таму, што Каленбах, які дзейнічаў мне на нервы, стаяў побач. Па тых нешматлікіх выказваннях, якія даводзілася чуць ад Чыка, на самай справе немагчыма было зрабіць вывад, ці ён дурны, ці разумны.

Пра яго паходжанне хадзілі розныя чуткі: Чачня, Сібір, Масква. Абмяркоўваліся ўсе варыянты. Кевін выказаў меркаванне, што Чык жыве са сваім братам у доме на калёсах недзе за Хелерсдорфам — суседнім раёнам на ўсходняй ускраіне Берліна, а брат гэты — гандляр зброяй. Нехта іншы меў звесткі, што брат гандляваў жанчынамі, ішла гаворка пра вілу на сорак пакояў, дзе руская мафія спраўляла оргіі; а яшчэ нехта сцвярджаў, што Чык жыве ў адным з тых шматпавярховікаў, што стаяць недалёка ад возера Мюгельзе. Але ўсё гэта былі, канешне, плёткі, і з'яўляліся яны толькі таму, што сам Чык амаль ні з кім не размаўляў. І вось паступова пра яго зноў забылі. Ці, ва ўсякім разе, забылі настолькі, наколькі можна забыць пра таго, хто кожны дзень з'яўляецца ў той жа самай сарочцы і танных джынсах, сядзіць на месцы галоўнага дурня класа. Красоўкі з мёртвых пацукоў былі ўсё ж такі аднойчы заменены на белыя «адзідасаўскія», пра якія нехта ведаў, што яны былі скрадзены. І, магчыма, на самай справе так і было. Але колькасць чутак больш не расла. Была толькі выдумана мянушка Чык, а для ўсіх, каму яна здавалася занадта простай, ён зваўся *Адстаючы,* — і на гэтым «руская тэма» была пакуль што вычарпана. Прынамсі, у нашым класе.

На аўтамабільнай стаянцы перад школай яна працягнулася крыху даўжэй. Бо тут кожную раніцу тырчалі старшакласнікі, і ў некаторых з іх ужо былі свае машыны. Яны знаходзілі «мангола» страшэнна цікавым. Гэта былі тыпы, якія па пяць разоў заставаліся на другі год; яны стаялі, абапіраючыся на адчыненыя дзверы сваіх машын, каб кожны бачыў, што менавіта яны ўладальнікі гэтага нацюнінгаванага металалому. Вось яны і кпілі з Чыка. Асабліва стараўся тып на жоўтым «фордзе». Я доўга не ведаў, ці разумее Чык, што яны яго маюць на ўвазе і з яго смяюцца, але аднойчы, праходзячы паўз іх, ён спыніўся. Я быў заняты тым, што замыкаў свой веласіпед, і чуў, як яны гучна рабілі стаўкі, ці трапіць Чык у школьныя дзверы, калі яго так моцна хістае. Чык спыніўся, развярнуўся і пайшоў да хлопцаў. Усе яны былі на галаву вышэйшыя і на некалькі гадоў старэйшыя за яго, і яны страшэнна шырока шчэрыліся, гледзячы, як рускі набліжаецца да іх. Ён накіраваўся да таго тыпа на «фордзе», які кпіў гучней за ўсіх, паклаў абедзве рукі на жоўты дах машыны і пачаў гутарыць з ім так ціха, што ніхто іншы не змог нічога пачуць, а потым з твару гэтага тыпа паціху пачала спаўзаць усмешка, а Чык павярнуўся і пайшоў у школу. З таго дня яны больш нічога не крычалі яму ўслед.

Я быў, канешне, не адзіны, хто назіраў гэту сцэну, і з таго часу ўжо не сціхалі чуткі, што сям'я Чыка сапраўды была рускай мафіяй ці накшталт таго, бо ніхто не мог уявіць, як ён інакш мог трыма сказамі цалкам абламаць гэтага ёлупа з «фордам». Але гэта была, зразумела, лухта. Мафія? Поўная лухта. Ва ўсякім разе, мне так здавалася.

## 10

Праз два тыдні нам вярнулі першую работу па матэматыцы. Штраль заўсёды спачатку чарціў на дошцы табліцу з агульнымі вынікамі класа, каб усіх напужаць. У гэты раз у кагосьці была адзінка[1], што было незвычайна. Любімая фраза Штраля гучала так: «Адзінкі існуюць толькі для Госпада Бога». Жах. Але Штраль быў настаўнікам матэматыкі, і не дзіва, што ён быў хворы на ўсю галаву. Было дзве двойкі, безліч троек і чацвёрак, ніводнай пяцёркі. І адна шасцёрка. У мяне была невялічкая надзея на адзінку: матэматыка — адзіны прадмет, па якім у мяне калі-нікалі нешта атрымлівалася. Але аказалася, што я атрымаў двойку з мінусам. Таксама даволі няблага. Двойка з мінусам у Штраля — гэта амаль адзінка. Я крадком паварочваўся, каб пачуць, адкуль раздасца крык трыумфу з нагоды атрымання адзінкі. Але ніхто не трыумфаваў. Ні Лукас, ні Кевін, ні астатнія нашы матэматычныя профі. Замест гэтага Штраль узяў апошні сшытак і занёс яго Чыхачову персанальна на апошнюю парту. Чыхачоў сядзеў і жаваў, як звар'яцелы, мятную жвачку. На Штраля ён не паглядзеў, толькі перастаў жаваць і дыхаць. Штраль нагнуўся да яго, аблізаў вусны і сказаў: «Андрэй».

Чык амаль ніяк не адрэагаваў. Толькі ледзь варухнуў галавой, як гангстар у фільме, які пачуў за спінай шчаўчок курка.

— Твая работа. Я не разумею, што гэта такое, — сказаў Штраль і абапёрся адной рукой на парту. — Я маю на ўвазе, што калі вы гэта яшчэ не праходзілі ў тваёй старой школе, дык ты павінен нас дагнаць. Ты ж увогуле нічога не рашыў, нават не паспрабаваў. А вось гэта, — Штраль разгарнуў сшытак і панізіў голас, але ўсё роўна яшчэ можна было пачуць, што ён гаворыць. — Я маю на ўвазе гэтыя жарты. Мне давялося паставіць шасцёрку, але яна стаіць, так бы мовіць, у дужках. Я думаю, што табе трэба звярнуцца да Кевіна або Лукаса. Няхай яны дадуць табе сшытак з матэрыялам і за апошнія два месяцы. Ну і таксама, калі ў цябе ўзнікнуць пытанні… Бо інакш нічога не выйдзе.

Чык кіўнуў. Ён кіўнуў так, нібы ўсё зразумеў, а потым адбылося гэта. Ён бразнуўся Штралю пад ногі. Настаўнік здрыгануўся, а Патрык і Юлія ўсхапіліся са сваіх месцаў. Чык ляжаў на падлозе, як мёртвы.

Ад Чыка можна было чакаць усяго, але не таго, каб ён з чуллівасці зваліўся з крэсла з-за шасцёркі па матэматыцы. Як потым высветлілася, гэта была зусім не чуллівасць. Ён усю раніцу нічога не еў, а тое, што справа ў алкаголі, было відавочна. У сакратарыяце ён наванітаваў яшчэ поўную ракавіну, а потым яго з суправаджэннем адправілі дамоў.

Ад гэтага выпадку яго рэпутацыя, зразумела, не палепшылася. Што за жарты ён намаляваў у сшытку замест работы па матэматыцы, засталося таямніцай, і хто атрымаў адзінку, я таксама ўжо не памятаю. Але што я дагэтуль помню і, напэўна, ніколі не забуду, дык гэта твар Штраля ў той момант, калі рускі зваліўся яму пад ногі. Каб вы яго толькі бачылі!

Але ва ўсёй гэтай гісторыі збівала з панталыку не тое, што Чык бразнуўся з крэсла ці напісаў работу на шасцёрку. Дзівіла тое, што праз тры тыдні ён атрымаў двойку. А потым зноў пяцёрку. А потым зноў двойку. Штраль знерваваўся. Ён казаў нешта накшталт: «Добра прапрацаваў матэрыял» і «цяпер не расслабляцца», але нават сляпому было відаць, што гэтыя двойкі ніяк не звязаны з тым, прапрацаваў Чык матэрыял ці не. Проста ўся справа была ў тым, што часам ён быў п'яным, а часам — не.

[1] 1 — найлепшая адзнака ў нямецкай школе, 6 — найгоршая.

Паступова гэта пачалі разумець і настаўнікі. Некалькі разоў, прачытаўшы натацыю, яго адпраўлялі дамоў. Праводзілі з ім і размовы сам-насам, але пакуль што школа не рабіла асаблівых захадаў. Усё ж такі ў Чыка быў цяжкі лёс; а пасля тэста «ПІЗА»[1] ўсе хацелі даказаць, чаго б гэта ні каштавала, што нават у асацыяльных, п'яных ушчэнт рускіх ёсць шансы ў нямецкай гімназіі. Таму па-сапраўднаму яго не каралі. Праз пэўны час становішча нармалізавалася. Хаця ніхто так і не даведаўся, што з Чыкам такое. Але па большасці прадметаў ён больш ці менш паспяваў. Ён усё менш жаваў на занятках мятную жвачку. І ўжо амаль не замінаў. Калі б не яго выбрыкі, што здараліся час ад часу, усе, напэўна, нават забыліся б пра яго існаванне.

## 11

*— Чалавек, які доўгі час не бачыў спадара К., прывітаў яго наступнымі словамі:*

*— Вы зусім не змяніліся.*

*— Ах, — сказаў спадар К. і паблядне́ў.*

— Толькі што прагучала прыемна кароткае апавяданне.

Кальтвасэр расхіснуў палавінкі дошкі, зняў пінжак і накінуў яго на сваё крэсла. Кальтвасэр быў нашым настаўнікам нямецкай мовы, ён заўсёды заходзіў у клас без прывітання, ці, прынамсі, яго прывітання ніколі не было чуваць, бо пачынаў урок, яшчэ не прайшоўшы ў дзверы. Я мушу дадаць, што не да канца разумею Кальтвасэра. Акрамя Вагенбаха, Кальтвасэр — адзіны настаўнік, які праводзіць заняткі як мае быць, але калі Вагенбах — азадак — ну, па-чалавечы, то ў выпадку з Кальтвасэрам так проста не разбярэшся. Ці, прынамсі, я не магу ў ім разабрацца. Ён заходзіць у клас і пачынае гаварыць, як машына. Урок ідзе суперкарэктна на працягу 45 хвілін, а потым Кальтвасэр зноў выходзіць, — і невядома, як гэта разумець. Напрыклад, я не магу сказаць, які ён у прыватным жыцці. Усе астатнія сыходзяцца на думцы, што Кальтвасэр прыблізна настолькі ж прыемны, як замарожаная куча, але я не ведаю. Нават магу сабе ўявіць, што ён па-за школай цалкам нармальны.

— Прыемна кароткае, — паўтарыў Кальтвасэр. — І таму некаторыя, несумненна, падумалі, што таксама кароткай можа быць і інтэрпрэтацыя[2]. Але потым зразумелі: усё тут не так проста. Ці камусьці здалося, што ўсё вельмі проста? Хто хоча паспрабаваць? Дабравольцы? Ну, давайце. Бачу, нехта ўсміхаецца мне з апошняй парты.

Мы ўслед за позіркам Кальтвасэра паглядзелі назад. Там, паклаўшы галаву на парту, разлёгся Чык; і нельга было дакладна вызначыць, ці ён разглядваў падручнік, ці спаў. Гэта быў шосты ўрок.

— Спадар Чыхачоў, дазвольце папрасіць вас!

— Што? — Чыкава галава павольна паднялася. Іранічны зварот на «вы». Гэта быў папераджальны сігнал.

— Спадар Чыхачоў, вы тут?

— Увесь у працы.

[1] Міжнародная праграма па ацэнцы адукацыйных дасягненняў навучэнцаў (*англ. Programme for International Student Assessment,* PISA).

[2] Інтэрпрэтацыя тэксту — тыповая форма працы ў нямецкіх школах.

— Вы выканалі дамашняе заданне?

— Зразумела.

— Ці не зробіце ласку прачытаць яго нам?

— Канешне, — Чык хутка агледзеў парту, потым знайшоў на падлозе свой поліэтыленавы пакецік, усцягнуў яго наверх і пачаў шукаць сшытак. Як заўсёды, ён не расклаўся перад урокам. Выцягнуў некалькі сшыткаў і намагаўся ідэнтыфікаваць патрэбны.

— Калі ты не выканаў дамашняе заданне, скажы.

— Не, у мяне ёсць, — ён паклаў сшытак на парту, засунуў астатнія назад і пачаў гартаць яго. — Вось, вось яно. Мне прачытаць?

— Вядома.

— Добра, я пачынаю. На дом было зададзена апавяданне пра спадара К. Я пачынаю. Інтэрпрэтацыя апавядання пра спадара К. Першае пытанне, якое ўзнікае, калі чытаеш апавяданне Прэхта, гэта, натуральна…

— Брэхта, — паправіў Кальтвасэр, — Берта Брэхта.

— Ах, — Чык вылавіў з пакета ручку і пачаў крэсліць у сшытку. Потым зноў засунуў ручку ў пакет.

— Інтэрпрэтацыя апавядання пра спадара К. Першае пытанне, якое ўзнікае, калі чытаеш апавяданне Брэхта, гэта, натуральна: хто хаваецца за загадкавай літарай К.? Моцна не перабольшваючы, можна сказаць, што гэта чалавек, які асцерагаецца вачэй грамадскасці. Ён хаваецца за літарай, а іменна, за літарай К. Гэта адзінаццатая літара алфавіта. Чаму ён хаваецца? На самай справе спадар К. — гандляр зброяй па прафесіі. Разам з іншымі цёмнымі асобамі (спадаром І. і спадаром Ф.) ён заснаваў злачынную арганізацыю, для якой Жэнеўская канвенцыя — усяго толькі невясёлы жарт. Ён прадаваў танкі і самалёты, зарабіў на гэтым мільярды і даўно ўжо лічыць за лепшае не пэцкаць рукі. Замест гэтага ён раз’язджае на яхце па Міжземным моры — там на яго і выйшла ЦРУ. Але спадар К. збег у Паўднёвую Амерыку. Там знакаміты доктар М. змяніў яго твар пры дапамозе пластычнай аперацыі. Зараз ён збянтэжаны тым, што нехта пазнаў яго на вуліцы: ён бляднее. Само сабой разумеецца, што чалавек, які пазнаў яго на вуліцы, таксама, як і пластычны хірург, пазней апынуўся жудасна глыбока пад вадой з прывязанымі да ног бетоннымі глыбамі. Усё.

Я паглядзеў на Таццяну. Яна наморшчыла лоб і трымала ў роце аловак. Потым я паглядзеў на Кальтвасэра. Па яго твары нічога немагчыма было зразумець. Здавалася, што ён злёгку напружаны, але хутчэй зацікаўлена-напружаны. Ні больш ні менш. Адзнаку ён не паставіў. Затым Аня зачытала правільную інтэрпрэтацыю, знойдзеную ў «Гугле», потым была бясконцая дыскусія пра тое, ці быў Брэхт камуністам. Урок скончыўся. І было гэта перад летнімі канікуламі.

<…>

### 28

Наступным днём мы зноў выехалі на аўтабан. На гэты раз невыпадкова. Мы пачувалі сябе дастаткова ўпэўнена і хацелі хутчэй рухацца наперад, гэта нам удавалася. Калі дакладна, мы праехалі пяцьдзясят кіламетраў. Потым Чык паказаў на індыкатар узроўню паліва, стрэлка якога была ўжо далёка ў чырвонай зоне.

Дагэтуль мы зусім не думалі пра тое, што трэба будзе запраўляць машыну. Спачатку гэта не здалося мне вялікай праблемай. Наперадзе была стан-

цыя адпачынку, а ў нас — дастаткова грошай. Але потым я здагадаўся, што работнікі заправачнай станцыі, відавочна, не будуць прымаць з надзвычайнай радасцю двух васьмікласнікаў на машыне. Можна было і раней да гэтага дадумацца.

— Во, тут паўсотак! Здачы не трэ! — сказаў Чык уяўнаму запраўшчыку і зарагатаў.

Мы ўсё ж такі пад'ехалі да станцыі адпачынку. Было крыху за поўдзень, станцыя кішэла людзьмі. Чык накіраваў машыну за калонкі з дызельным палівам і прыпаркаваўся паміж двух вялікіх грузавікоў з прычэпамі, дзе нас ніхто не мог убачыць. Мы прыгнечана агледзеліся. Чык выказаў меркаванне, што тут нам ніколі не ўдасца разжыцца бензінам, а я прапанаваў зноў узламаць яшчэ адну машыну пры дапамозе тэніснага мяча.

— Зашмат народу, — сказаў Чык.

— Пачакаем, пакуль стане менш.

— Пачакаем да вечара, — сказаў ён, — тады ты падыдзеш да самай крайняй калонкі, а я пад'еду на «ніве» — і — бац! — заправімся ды зматаемся. Яшчэ і грошы сэканомім.

На думку Чыка, гэта быў выдатны план, пераход Ганібала праз Альпы, не менш. І я, магчыма, нават пагадзіўся б з ім, калі б ведаў, як трэба запраўляцца. Але я ніколі яшчэ не трымаў заправачнага шланга ў руцэ, і, як высветлілася, Чык таксама. Там жа ёсць не толькі вялікі рычаг на ручцы, але яшчэ і маленькі для фіксацыі. Я часта назіраў, як гэта робіць бацька, але ні разу не разгледзеў дастаткова дакладна.

Таму мы спачатку купілі на станцыі па марозіву «Магнум», селі на прыступку насупраць заправачных калонак і пачалі назіраць, як людзі запраўляюць свае машыны. Здавалася, што гэта сапраўды не вельмі цяжка. Хіба што праходзіла цэлая вечнасць, пакуль бак напаўняўся. І заўсёды побач стаялі людзі, а запраўшчык бачыў усю тэрыторыю праз свае панарамныя шыбы. Мы маглі, канешне, заправіць толькі некалькі літраў і даць уцекача, але на наступнай станцыі давялося б зрабіць тое ж самае.

— У цябе больш няма тэніснага мяча? — спытаў я, паказваючы на стаянку: — Столькі выдатных машын!

— Мы не можам кожны раз красці новую тачку, калі ў нас пусцее бак.

— Але ў цябе ёсць яшчэ гэты мяч? — я паглядзеў на Чыка. Ён абхапіў рукамі калені і зарыўся галавою ў рукі.

— Так-так-так, — сказаў ён, — мы і «ніву» хацелі вярнуць. Не можам жа мы красці адну машыну за другой.

Усё гэта не выклікала ў мяне ніякіх сумненняў. Але каб зараз праз гэта скончылася наша падарожжа?

Чырвоны «паршэ» спыніўся каля калонкі, з яго выйшла дзяўчына з гладкімі светлымі валасамі і схапіла пальцамі з ружовымі пазногцямі заправачны шланг — і раптам я зразумеў, як можна раздабыць бензін. Нам трэба ўсяго толькі зліць яго з іншай машыны! Гэта зусім проста. Патрэбны толькі шланг. Яго неабходна прасунуць у бак, а потым падсмактаць, тады бензін пабяжыць з бака наверх. Я ведаў гэта з адной кнігі, якую мне падарылі, калі я пайшоў у школу. Гэта была кніга, у якой табе тлумачаць цэлы свет, кніга для шасцігадовых. Зразумела, што ў гэтай кнізе шасцігадовым не тлумачылі, як скрасці бензін. Але я помніў выяву са сталом, на якім стаяў гаршчок. У гаршчку была вада, яна цякла па трубачцы цераз край. Гэта грунтавалася на дзеянні нейкай фізічнай сілы.

— Што ты хочаш мне расказаць? Што вада цячэ знізу ўверх?

— Трэба спачатку падсмактаць.

— Ніколі не чуў пра зямное прыцягненне? Вада не цячэ наверх.

— Дык потым яна цячэ ўніз.

— Але ж бензін не ведае, што потым ён пацячэ ўніз.

— Гэта фізічны закон. У яго яшчэ назва ёсць, нешта са словам «сасуды». Ці «трубы». «Закон якіхсьці там сасудаў».

— Лухта ўсё гэта, — сказаў Чык. — Закон несусветнай лухты.

— Ты ніколі не бачыў такога ў фільмах?

— Так, *у фільмах*.

— Я ведаю гэта з кніжкі, — адказаў я. — Нешта на літару «З» ці «С». Закон… скручаных сасудаў, ці нешта накшталт таго.

— Скручаная фіга нам будзе, чувак!

— Не, там нешта іншае… Успомніў! Сазлучаныя, так! Закон сазлучаных сасудаў.

На гэта Чык нічога не адказаў. Паверыць ён усё яшчэ не мог. Але тое, што я змог прыгадаць назву закона, пазбавіла яго пазіцыю перавагі. Я растлумачыў, што дзеянне закона сазлучаных сасудаў мацнейшае за сілу зямнога прыцягнення і ўсё такое, але ў асноўным рабіў гэта для таго, каб падбадзёрыць нас, бо не хацеў, каб наша падарожжа скончылася зараз.

Мы з'елі яшчэ па марозіву, а потым яшчэ па адным, але ў нас так і не з'явілася ніякай лепшай ідэі, таму мы вырашылі паспрабаваць.

## 29

Была, канешне, адна праблема: у нас адсутнічаў шланг. Спачатку мы абшукалі мясцовасць за заправачнай станцыяй, потым — хмызняк, потым — узаранае поле, адыходзячы ўсё далей і далей. Мы знаходзілі каўпакі ад колаў, поліэтыленавую плёнку, шкляныя бутэлькі, якія можна здаць за грошы, процьму піўных бляшанак і нават пяцілітровую каністру без накрыўкі, але нічога шлангападобнага не трапілася. Мы шукалі амаль дзве гадзіны і, перакрыкваючыся, дзяліліся новымі планамі, як нам можна выбрацца з гэтага становішча. Планы станавіліся ўсё больш абсурднымі, і гэта псавала настрой. Нідзе ніводнага шланга, трубы ці кабелю. Пры гэтым скрозь валялася безліч усялякіх рэчаў, якія нам зараз не былі патрэбны.

Чык пайшоў у магазін пры запраўцы і паглядзеў сярод аўтамабільных прылад, але шлангаў у іх не было. Затое ён выйшаў з магазіна са жменяй саломінак. Мы паспрабавалі, усоўваючы адну саломінку ў другую, саставіць з іх адну доўгую трубачку, але пры позірку на гэту хісткую канструкцыю нават трохгадоваму дзіцяці з пашкоджаннем мозга стала б ясна, што пры яе дапамозе запраўцца нельга.

І тады Чыку прыйшла ў галаву яшчэ адна ідэя. Ён прыгадаў, што недзе на нашым шляху быў вялікі сметнік. Я не памятаў ніякага сметніка, але Чык быў упэўнены. Па яго словах, з правага боку ад шашы, усяго за некалькі кіламетраў ад станцыі адпачынку, былі гіганцкія смеццевыя горы. І калі дзе і можна было знайсці шлангі, дык толькі там.

Мы пашыбавалі ўздоўж дарожнай агароджы па маленькай пратаптанай сцежцы, потым зноў праз лес, поле і платы, але не губляючы аўтабан з вачэй. Стала горача, як і ў папярэднія дні, на ўскрайку лесу, як клубы туману, вісела машкара. Мы шыбавалі ўжо больш за гадзіну, але ніводнай смеццевай гары ўсё яшчэ не было відаць. Мне хацелася здацца і кінуць гэту справу са шлангам. Але цяпер Чык быў чамусьці канчаткова перакананы ў гэтай ідэі і ні ў якім разе не хацеў вяртацца без шланга. Пакуль мы дыскутавалі, каля

абочыны нечакана паказаўся велічэзны зараснік ажын. Ён цягнуўся амаль на сто метраў, большасць ягад яшчэ не выспела, але там, дзе на іх свяціла яркае сонца, было шмат спелых, а смак у іх быў фантастычны. Не памятаю, ці расказваў пра гэта, але я нічога не люблю на свеце больш за ажыны. Таму мы спыніліся, нарвалі і з'елі кожны кілаграмаў па сто. Пасля гэтага абодва выглядалі як нафарбаваныя — увесь твар ліловы.

Цяпер я зноў адчуў сябе цудоўна і не меў нічога супраць, каб шыбаваць далей у пошуках шланга. Прайшло яшчэ дзве гадзіны, перш чым паказаліся горы смецця. Агромністыя горы, поўнасцю абмежаваныя з аднаго боку аўтабанам, а з другога — лесам. І мы былі на іх не адны. Недзе далёка бегаў, сагнуўшыся ў крук, нейкі стары і збіраў электракабелі. Была яшчэ дзяўчына нашага ўзросту, уся перапэцканая. І двое дзяцей. Але яны, здаецца, не мелі дачынення адно да аднаго.

Мне дасталася гара з бытавым смеццем. Я падабраў два фотаальбомы, якія хацеў паказаць Чыку. У адным з іх была нейкая сям'я — скрозь здымкі бацькі, маці, сына і сабакі; і на кожным здымку ўсе яны так і ззялі — нават сабака. Я прагартаў альбом, але пад канец усё ж такі шпурнуў яго прэч, бо ён засмуціў мяне. Успомніў пра сваю маці і пра тое, як ёй будзе кепска, калі пра ўсё гэта стане вядома. Потым я ўзяў нейкую зашмальцаваную драўляную планку і з'ехаў на ёй з гары, трапіўшы ў кучу гнілых фруктаў.

Чык улез на іншую гару і знайшоў вялікую карычневую каністру з заліўной гарлавінай. Ён барабаніў па ёй кулаком і размахваў над галавой. Каністра была, канешне, класная. Але шланга па-ранейшаму не было.

Я ў першую чаргу шукаў пральныя машыны, але з усіх пральных машын, якія я знаходзіў, былі па нейкай прычыне зняты барабаны і шлангі. Калі скурчаны чалавек краўся міма мяне, я спытаў, ці не ведае ён выпадкова, чаму на ўсіх пральных машынах няма шлангаў, але ён ледзь узняў позірк і толькі паказаў на свае вушы, быццам быў глухі. Перапэцканая дзяўчынка таксама адзін раз пракараскалася побач, як маленькі жвавы пацучок, не зірнуўшы на мяне. Яна бегала басанож, яе ногі былі чорныя па калена. А над каленямі былі высока падкасаны армейскія штаны і брудная футболка. У яе былі вузкія вочы, пухлыя вусны і пляскаты нос. А валасы выглядалі так, нібы падчас стрыжкі зламалася машынка. Я вырашыў, што лепш з ёй пакуль што не загаворваць. Пад пахай яна трымала драўляную скрынку, і я не быў упэўнены, ці яна знайшла яе тут, ці захоўвала ў ёй нешта, і таксама не ведаў, што яна тут увогуле шукала.

Пад канец я сустрэўся з Чыкам на самай вялікай гары. Мы абодва нічога не знайшлі, акрамя каністры. Але якая нам з яе была карысць? Мы прыселі на зламаную пральную машыну. Сонца вісела невысока над кронамі дрэў. Шум аўтабана паступова ціхшэў, сагнутага круком чалавека і дваіх дзяцей больш не было відаць. Толькі брудная дзяўчынка сядзела на яшчэ адной гары насупраць нас. Яе ногі звісалі з-за адчыненых дзверцаў старой шафы-сценкі, якая стаяла калісьці ў нечай гасцінай. Дзяўчынка нешта крычала ў нашым напрамку.

— Што?! — крыкнуў я.

— Вы, ёлупні! — крычала яна.

— Ты здурнела?!

— Ты чуў мяне, ёлупень? І твой дружок таксама ёлупень!

Доўгі час былі відаць толькі ногі дзяўчынкі, якія матляліся, звісаючы з шафы. Потым яна села прама і пачала абуваць боты, якія стаялі побач з ёй у адной з шуфляд. Пры гэтым яна паглядала на нас.

— А я сёе-тое знайшла! — прараўла яна, маючы на ўвазе, відавочна, не боты. — А вы таксама што-небудзь знайшлі?!

— Ды якая твая сабачая справа! — прароў Чык у адказ.

Яна на некалькі секунд перастала корпацца са шнуркамі. Потым нагнулася і пракрычала:

— Якія ж вы ідыёты!

— Заткні свой рот!

— Педзік!

— Зараз я да цябе дабяруся!

— Вой, сярдзіты мужык хоча да мяне падысці! І што ты зробіш, калі будзеш тут?! Ну, давай, ідзі. Хадзі сюды, кіска! Ужо баюся!

— У яе не ўсе дома, — сказаў мне Чык.

Прорва паміж дзвюма гарамі смецця была такой стромкай, што спатрэбілася б не менш за тры хвіліны, каб перабрацца з адной гары на другую.

На нейкі час усталявалася цішыня. Потым дзяўчынка зноў закрычала:

— Дык што вы шукалі?!

— Шлангі! — крыкнуў я. Гэта лаянка мне надакучыла. — Мы шукалі шлангі! А ты?

Над гарамі смецця, пахістваючыся, праляцела варона і спланіравала на вялізны кавалак бляхі. Дзяўчынка не адказвала. Яна проста зноў адкінулася назад у шафу.

— А ты?! — крыкнуў я.

Доўгі час бачны былі толькі яе брудныя лыткі. Потым паказалася рука.

— Шлангі вунь там!

— Што?!

— Вунь там!

— Яна хоча нагнаць сабе цану, — сказаў Чык.

— Я ўсё чула! — прараўла дзяўчынка з неймавернай гучнасцю.

— Ну, і што далей?!

— Азіят чортаў!

— Дзе — там?! — крыкнуў я.

— Куды я паказваю?!

Відаць былі толькі яе калена і рука, і, шчыра кажучы, рука паказвала кудысьці ў неба. Пару хвілін панавала цішыня. Я спусціўся з нашай гары і ўзабраўся на гару дзяўчынкі.

— Дзе — там? — спытаў я, стоячы каля шафы-сценкі і пераводзячы дух.

Дзяўчынка нерухома ляжала ўнутры, утаропіўшы позірк у маю шыю.

— Дзе — там? — зноў спытаў я, — і тут яна раптам ускочыла. Ад страху я зрабіў крок назад і ледзь не сарваўся. Адразу за мною быў абрыў.

— Дык ты знаеш, дзе шлангі, ці не?

Яна выцерла з маёй футболкі фруктовы кавалачак, якога я не заўважаў. Потым узяла з шафы сваю драўляную скрыначку, зажала яе пад пахай і пайшла ўперад. Узабралася на наступную гару, а потым яшчэ на адну — і спынілася, паказваючы ўніз: «Там!».

Каля падножжа смеццевай гары ляжала невялічкая куча металалому, а побач — велізарная куча шлангаў усіх відаў. Чык, які караскаўся за намі ўслед кружным шляхам, адразу схапіў тоўсты шланг ад пральнай машыны.

— Убудаванае калена, — закрычаў ён і заззяў ад радасці. Дзяўчынка не ўдастоіла яго позіркам.

— Калена — лухта, — сказаў я і адшрубаваў нейкі шланг ад душа.

— Навошта вам гэта трэба?

— Калена — гэта заўжды добра, — сказаў Чык, апускаючы выгнуты канец у каністру.

— Гэй, я ў цябе пытаюся, — паўтарыла дзяўчынка.

— Чаго?

— Навошта табе гэта?

— Майму тату на дзень нараджэння!

Дзіўным чынам яна не адказала лаянкай, толькі зрабіла незадаволеную міну і сказала:

— Я вам паказала гэта барахло, цяпер і вы маглі б мне сказаць, навошта яно вам.

Чык, укленчыўшы, абследаваў шлангі адзін за другім і спрабаваў усунуць іх у каністру.

— Навошта?!

— Мы спёрлі тачку, — сказаў Чык. — А цяпер нам патрэбен бензін.

Ён дзьмухнуў у агромністы шланг, паглядзеўшы пры гэтым на дзяўчынку.

Яна абсыпала яго сотняй абраз:

— Адразу было зразумела, што калічы вы несусветныя! Няхай я і паказала вам гэта барахло… Але ж чаго яшчэ было чакаць! Ды рабіце вы, што хочаце!

Яна правяла рукавом па твары і села са сваёй скрынкай пад пахай на вялізную пакрышку ад цягача. Я ўзняў свой душавы шланг, падаючы тым самым Чыку сігнал на выступленне. З каністрай і трыма шлангамі мы выправіліся ў зваротны шлях.

— Навошта вам сапраўды гэтыя шлангі?! — крычала дзяўчынка нам услед.

— Ты нервуеш!

— Ці няма ў вас чаго з'есці?!

— А што, падобна на тое?!

— Падобна на тое, што вы калічы!

— Ты паўтараешся!

— У вас ёсць грошы?!

— Для цябе ці што?!

— Без мяне вы б шлангаў ніколі не знайшлі!

— Пайдзі і вазьмі сабе адзін!

Чык і дзяўчынка перакідваліся лаянкай нават тады, калі крыкаў ужо амаль не было чуваць. Ён зноў і зноў абарочваўся і роў абразы, а яна раўла са смеццевых гор. Я вырашыў не ўмешвацца.

Але потым яна пабегла за намі следам. І калі я ўбачыў, як яна за намі бяжыць, у мяне адразу ўзнікла нейкае вельмі дзіўнае пачуццё. Бо звычайна дзяўчынкі не ўмеюць бегаць. Але гэта ўмела. І яна бегла са сваёй скрынкай пад пахай так, быццам гэта было пытанне жыцця і смерці. Не тое каб я сапраўды спалохаўся, гледзячы, як яна стрымгалоў ляціць да нас. Але трошкі вусцішна стала.

— Я хачу есці, — сказала яна і спынілася перад намі, цяжка дыхаючы. Пры гэтым яна глядзела на нас прыблізна так, як на тэлевізар.

— Там далей ёсць ажыны, — сказаў я.

Яна абвяла ўказальным пальцам круг вакол рота і сказала:

— А я ўжо падумала, што вы педзікі. З-за таго, што ў вас тут губная памада.

Мы з Чыкам пайшлі далей, і ён яшчэ раз прашаптаў, што ў яе не ўсе дома.

Але мы яшчэ не паспелі далёка адысці, калі зноў пачулі, як яна раве:
— Гэй!
— Што?!
— Дзе яны?! Ажыны, чувак! Дзе ажыны?!

## 30

Дарога назад здалася мне карацейшай. Магчыма, прычына была ў тым, што дзяўчынка бесперапынна размаўляла. Спачатку яна бегла за намі, потым — паміж нас, а потым — па другім баку сцежкі. У нейкі момант Чык зацiснуў нос і паглядзеў на мяне — і праўда была яго. Ад яе смярдзела агідна. На сметніку гэта было не так чуваць, бо смярдзеў увесь сметнік. Але зараз смурод ад яе быў сапраўды жудасны. Мастак, які малюе коміксы, намаляваў бы навокал яе галавы рой мух. І да таго ж яна бесперапынна размаўляла. Увесь час пыталася, дзе мы жывём, ці ходзім у школу, ці добра ведаем матэматыку (гэта было ёй, чамусьці, асабліва важна). Пыталася, ці ёсць у нас браты ці сёстры, ці ведаем мы пра Кантара[1] і гэтыя яго штукі з бясконцасцю. Але калі мы пыталіся, навошта ёй усё гэта ведаць, яна ніколі не адказвала. І на пытанне, што сама шукала на сметніку, яна таксама не адказала.

Замест гэтага яна балбатала пра тое, што ў будучыні хоча працаваць на тэлебачанні. Яе марай было весці якую-небудзь тэлевіктарыну. Нібыта ў яе ёсць кузіна, якая працуе тэлевядучай, і гэта «суперская работка».

Пагаварыўшы дастаткова доўга пра тэлебачанне, яна зноў вярнулася да «жарту» пра крадзёж машыны і сказала, што Чык — дужа дасціпны хлопец, ці неяк так, і што яна вельмі моцна *ўнутрана* смяялася з гэтага жарту пра машыну. Чык пачухаў патыліцу і адказаў, што гэта яна правільна заўважыла, бо ён сапраўды час ад часу праяўляе даволі вялікую дасціпнасць. Вось таму ён і вырашыў падарыць свайму бацьку шланг на дзень нараджэння.

— А ты заўсёды гэтакі ціхоня? — спытала дзяўчынка і падштурхнула мяне ў плячо, а потым спытала яшчэ раз, ці я *сапраўды* хаджу ў школу. Я падумаў: «Хутчэй бы гэты ажыннік, а то мы ад яе ніколі не пазбавімся».

Яшчэ я думаў, што ў нейкі момант дзяўчынка сама пойдзе назад, але яна спраўна шыбавала за намі ўсе тры альбо чатыры кіламетры да самага ажынніку. Тым часам я зноў паспеў прагаладацца, і Чык таксама, і мы ўтраіх накінуліся на ажыны.

— Мы павінны неяк ад яе пазбавіцца, — прашаптаў Чык.

І тут дзяўчынка заспявала. Па-англійску, спачатку зусім ціха, з невялікімі паўзамі, бо трэба было пражоўваць ажыны.

— Цяпер яшчэ гэты недарэчны спеў, — сказаў Чык, а я прамаўчаў, бо спявала яна зусім няблага. Спявала песню Беёнсэ[2] «Survivor». Яе вымаўленне было недарэчным. У мяне склалася ўражанне, што яна наогул не ведае англійскай мовы, а толькі пераймае гучанне слоў. Але спявала добра. Я асцярожна адсунуў двума пальцамі галінку і праз лісце пагладзеў на дзяўчынку, што стаяла ў зарасніку, напяваючы і жуючы ажыны. І быў яшчэ смак ажын у маім уласным роце, і аранжава-чырвонае вечаровае неба над верхавінамі

[1] Георг Кантар (1845—1918) — нямецкі матэматык, стваральнік тэорыі мностваў.

[2] Сучасная амерыканская спявачка.

дрэў, і прыцішаны шум аўтабана, — у маёй душы з'явілася вельмі дзіўнае пачуццё.

— Далей мы пойдзем адны, — сказаў Чык, калі мы зноў выправіліся ў дарогу.

— Чаму?

— Нам трэба ісці дадому.

— Дык і я пайду з вамі. Нам па дарозе, — сказала дзяўчынка, але Чык адказаў:

— Табе з намі зусім не па дарозе.

Ён растлумачыў недзе пяцьсот разоў, што мы не хочам, каб яна ішла з намі разам, але тая толькі паціскала плячамі і ўсё роўна бегла за намі. Урэшце Чык заступіў ёй дарогу і прамовіў:

— Табе зразумела, што ты смуродзіш? Ты смуродзіш, як навозная куча. Валі прэч.

Потым у мяне некалькі разоў узнікала ўражанне, што яна ўсё яшчэ ідзе за намі. Але, здаецца, дзяўчына паціху адставала, і ўжо хутка нельга было заўважыць ніякіх адзнак яе прысутнасці. Паміж дрэў распаўзаўся цемень. Аднойчы ў хмызняку нешта зашамацела, але гэта была, пэўна, усяго толькі нейкая жывёліна.

— Калі яна бяжыць за намі — гэта поўны адстой, — сказаў Чык.

Каб упэўніцца, мы пашыбавалі трошкі хутчэй, а потым, пасля крутога павароту, прытаіліся ў кустоўі і сталі чакаць. Мы чакалі не менш за пяць хвілін, і калі пераканаліся, што дзяўчынка за намі не крадзецца, пайшлі да заправачнай станцыі.

— Не трэба было ёй казаць, што яна смярдзіць.

— Але ж нешта мне трэба было сказаць? І, чувак, ад яе ж сапраўды смярдзела на ўсю моц! Яна на сметніку жыве. Бамжыха.

— Але як яна хораша спявала, — сказаў я праз некаторы час. — І яна, натуральна, не жыве на сметніку.

— Чаму яна тады пыталася пра ежу?

— Так, але ж мы не ў Румыніі. Тут ніхто не жыве на сметніках.

— Ты не заўважыў, як ад яе смярдзела?

— Напэўна, ад нас зараз смярдзіць не менш.

— Яна там жыве, стопудова. Збегла з дому. Павер мне, я ведаю такіх людзей. Яна зусім без мазгоў.

Злева над аўтабанам з'явіліся першыя зоркі. Мы ўжо ледзьве разбіралі дарогу, і я прапанаваў пайсці ўздоўж праезнай часткі ў святле фар, бо інакш мы заблудзім. Праўда, гэта быў даволі ідыёцкі аргумент: шум ад аўтабана можна пачуць і ў лесе. Але, шчыра кажучы, у цемры мне стала страшна. Не ведаю чаму. Наўрад ці гэта быў страх перад злачынцамі, якія гойсаюць навокал. Адзінымі злачынцамі, што гойсалі па гэтым лесе, былі, безумоўна, мы. Але, магчыма, гэта і было тое, што мяне непакоіла. Я ўзрадаваўся, калі неонавыя агні запраўкі засвяцілі наперадзе праз лісце.

## 31

Першае, што мы зрабілі, дабраўшыся да запраўкі, — купілі марозіва і колу. Мы схавалі каністру і шлангі за дарожнай агароджай і пайшлі па-за машынамі ўздоўж стаянкі, спрабуючы адкрыць накрыўкі бензабакаў у прыпаркаваных машын. Ніводная не адкрывалася. Я ўжо амаль страціў надзею, калі Чык нарэшце знайшоў стары «гольф» са зламанай накрыўкай.

Мы дачакаліся, пакуль стала зусім цёмна, і ўзяліся за справу.

Шланг ад пральнай машыны аказаўся такі нягнуткі, што можна было яго адразу выкінуць. Але шланг ад душа добра пралазіў у бак. Толькі бензін, на жаль, усё не цёк. Прычым бак быў поўны. Знізу шланг быў недзе на пятнаццаць сантыметраў мокры.

Пасля таго, як я разоў дзесяць падсмактаў бензін і ўсё роўна нічога не пацякло і Чык таксама паспрабаваў яшчэ разоў дзесяць, ён паглядзеў на мяне і сказаў:

— Дык што гэта за кніжка была такая? Адкуль ты яе выкапаў, га?

У мяне не было ніякага жадання тлумачыць, што гэта была за кніга. Я працягнуў спробы падсмактаць бензін і пачаў заўважаць, што такім чынам мне ўсё ж удаецца паднімаць яго па шлангу. Адзін раз бензін нават дайшоў да маіх губ, але болей за тры кроплі потым не выцекла. Мы стаялі на каленях між прыпаркаваных машын і глядзелі адзін на аднаго.

— Я ведаю, што трэба рабіць, — сказаў нарэшце Чык. — Ты будзеш набіраць бензін у рот і выплёўваць яго ў каністру. Гэта спрацуе.

— А чаму я?

— Хіба гэта была мая ідэя?

— У мяне ёсць ідэя лепш. У цябе яшчэ ёсць тэнісны мяч?

— Вось блін, — прастагнаў Чык. — Гэта немагчыма!

— Зараз цёмна, хоць вока выкалі. Ніхто нас не ўбачыць.

— Гэта *немагчыма*, — сказаў Чык і паглядзеў на мяне так, быццам яму ўсё балела. — Ты ж не паверыў мне на самай справе, праўда? Тэнісным мячом нельга адчыніць машыну. Інакш усе б так рабілі. «Ніва» была заўсёды адчынена, няўжо ты не заўважыў? Ці замок зламаўся, ці яе ніколі не замыкалі, адкуль я ведаю. Думаю, што ніколі не замыкалі. Бо гэткі драндулет ніводзін чалавек не сапрэ. Мой брат гэта аднойчы заўважыў і... Не глядзі на мяне так! Мой брат таксама развёў мяне з гэтым тэнісным мячом... Во-ох, не адварочвайся!

— Што гэта?

— Прыгні галаву! Там нехта ёсць, ля кантэйнераў.

Я бокам прыхіліўся да «гольфа» і паспрабаваў асцярожна зірнуць цераз плячо.

— Цяпер ужо нікога няма. Там быў нейкі цень, за агароджай, дзе стаіць кантэйнер для бутэлек.

— Тады змотваемся!

— Вунь, зноў з'явіўся! Курну цыгарэтку.

— Чаго?

— Маскіроўка!

Чык устаў і засунуў пры гэтым шланг і каністру нагой пад «гольф». Гэта выклікала жудасны грукат. Я таксама асцярожна ўстаў. За кантэйнерамі нешта варухнулася. Я ўбачыў гэта бакавым зрокам.

— Можа, проста галінкі, — прамармытаў Чык. Ён закурыў цыгарэту над бакам.

— Ты б яшчэ запалку ў бак кінуў!

Ён зацягнуўся некалькі разоў і пачаў пацягвацца, нібы робячы зарадку. Больш ідыёцкай маскіроўкі я не бачыў ніколі ў жыцці.

Потым мы надзвычай павольна пайшлі назад да «нівы». Мімаходам я здолеў зачыніць сцягном адкідную накрыўку бака.

— Вы, ёлупні! — зароў нехта ззаду.

Мы ўгледзеліся ў цемру, з якой данёсся голас.

— Паўгадзіны корпаецеся, а так нічога і не надбалі, ёлупні! Прафесіяналы экстра-класа, блін!

— Ці не можаш ты крычаць яшчэ гучней? — сказаў Чык і спыніўся.

— А потым яшчэ курыць пачалі!

— Яшчэ гучней можаш?

— Якія ж вы ідыёты!

— Можаш зваліць прэч?

— Чулі калі-небудзь пра падсмоктванне?

— А мы тут чым увесь час займаемся? Давай, валі!

— Тшш!.. — сказаў я.

Мы з Чыкам стаялі, прыгнуўшыся, паміж машынамі, толькі дзяўчынцы было, канешне, на ўсё напляваць.

— Ды няма тут нікога, баязліўцы! Дзе ў вас шланг?

Яна выцягнула з-пад «гольфа» нашы прылады. Потым усунула адзін канец шланга ў бак, а другі канец і адзін палец — сабе ў рот. Яна ўсмактала дзесяць-пятнаццаць разоў, быццам глытаючы паветра, потым выняла з рота шланг.

— Вось. Цяпер давайце каністру.

Я падставіў ёй каністру, яна ўсунула шланг у гарлавіну, і бензін імкліва пацёк з бака. І яго паток нават не думаў спыняцца.

— Чаму ў нас не атрымалася? — прашаптаў Чык.

— Гэты канец павінен быць ніжэйшы за ўзровень вадкасці, — сказала дзяўчынка.

— Дакладна, ніжэйшы за ўзровень вадкасці, — сказаў я.

Дзяўчынка сядзела на кукішках побач з каністрай, і калі бензін перастаў цячы, яна зашрубавала накрыўку, а Чык прашаптаў:

— Які яшчэ ўзровень вадкасці?

— Спытайся ў яе, дурань, — прашаптаў я ў адказ.

## 32

Так мы пазнаёміліся з Ізай. Седзячы на заднім сядзенні і паклаўшы локці на спінкі пярэдніх, яна пільна назірала, як Чык завёў «ніву» і даў газу. Канешне, нам гэтага зусім не хацелася. Але пасля гісторыі з бензінам было цяжка ёй адмовіць і не ўзяць з сабой. Яна абавязкова хацела паехаць з намі, а пачуўшы, што мы з Берліна, сказала, што гэта ёй па дарозе. Мы растлумачылі, што едзем не ў Берлін, яна адказала, што гэта ёй таксама па дарозе. Яшчэ Іза паспрабавала дазнацца, куды ж мы тады едзем, але не магла сказаць нам, куды хоча трапіць яна, і таму мы таксама сказалі ёй толькі тое, што едзем прыблізна на поўдзень. Тады дзяўчына прыгадала, што ў Празе жыве яе зводная сястра, якую ёй неабходна тэрмінова наведаць. Па яе словах, Прага была практычна па дарозе, і, як я ўжо казаў, было цяжка адмовіцца і не выканаць яе жаданне, бо без яе ў нас не было б бензіну.

Калі мы выехалі на аўтабан, то адчынілі ўсе вокны. Усё роўна смурод быў чутны. Тым часам Чык ужо пазбавіўся праблем з яздой па аўтабане — ён вёў машыну як Гітлер[1] у свае лепшыя дзянёчкі, а Іза сядзе-

---

[1] Раней хлопчыкі спрабавалі неяк змяніць знешнасць Чыка, каб ён выглядаў больш дарослым у якасці вадзіцеля, і вырашылі, што лепш за ўсё гэту задачу выконвае квадратны кавалак чорнай ізастужкі, які Чык потым заўсёды наляпляў сабе пад нос, калі садзіўся за руль.

ла ззаду і балбатала без перапынку. Яна раптам стала вельмі ажыўленая і, гаворачы, патрэсвала спінкі нашых сядзенняў. Не тое каб я лічыў, што гэта нармальна, але ў параўнанні з нядаўняй лаянкай гэта ўсё ж такі быў праграэс. І тое, пра што яна гаманіла, не заўсёды было нецікавым. Мяркую, што яна не была дурніцай, і Чык таксама праз некаторы час прыкусіў язык і слухаў яе, ківаючы.

Усё ж такі напружанасць паміж імі яшчэ не зусім прайшла. Калі Іза неяк прасунула галаву ўперад паміж сядзеннямі, Чык паказаў на яе валасы і сказаў:

— Там у цябе ёсць насельнікі.

Іза адразу ўцягнула галаву назад і сказала:

— Я ведаю.

А праз адзін-два кіламетры спытала:

— Ці няма ў вас нажніц? Бо мне трэба падстрыгчы валасы.

Мы спрабавалі высвятліць па шыльдах перад з'ездамі з дарогі, дзе знаходзімся. Але назвы гарадкоў трапляліся такія, якіх ніводзін чалавек не ведае. У мяне было падазрэнне, што мы ўвогуле не прасунуліся наперад, калі блукалі па прасёлкавых дарогах. Але гэта было няважна. Прынамсі, мне. Аўтабан даўно ўжо ішоў не на поўдзень, і ў нейкі момант мы збочылі з яго і паехалі па палявых дарогах — услед за сонцам.

Іза запатрабавала, каб мы паставілі нашу адзіную касету з музыкай, а затым яна запатрабавала, каб мы выкінулі яе ў акно. Потым перад намі на гарызонце раптам з'явіўся гіганцкі ланцуг гор — мы паехалі да яго. Страшэнна высокі, са скалістымі зубцамі. Мы не мелі ніякага ўяўлення, што гэта былі за горы. Шыльды на іх не было. Дакладна не Альпы. Але ці былі мы яшчэ наогул у Германіі? Чык кляўся, што ва Усходняй Германіі не было гор. Іза лічыла, што ўсё ж такі былі, але не вышэйшыя за кіламетр. А я ўспомніў, што на геаграфіі мы апошняй праходзілі Афрыку. Перад тым была Амерыка, яшчэ раней — Паўднёва-Усходняя Еўропа, — бліжэй мы да Германіі ніколі не падбіраліся. А зараз гэтыя горы, якіх тут зусім не павінна быць. У тым, што іх тут не павінна быць, мы, тым не менш, былі згодны. Прайшло яшчэ недзе з паўгадзіны, і мы пачалі марудна паўзці наверх па серпанціне.

Мы выбралі самую вузкую дарожку, і «ніва» з цяжкасцю пераадольвала пад'ём на першай перадачы. Як ручнікі, злева і справа на схілах ляжалі палеткі. Потым пайшоў лес, а калі ён скончыўся, мы стаялі перад цяснінай, на дне якой было возера, празрыстае, як шкло. Возера было зусім невялічкае. Адзін яго бок абмяжоўвалі светла-шэрыя скалы, а з другога боку была нейкая канструкцыя з бетону і металу — рэшткі плаціны ці нешта такое. І апроч нас — ні душы. Мы паставілі «ніву» каля возера. З плаціны адкрываўся від на даліну і ўсе горы. Толькі за некалькі соцень метраў пад намі ляжала вёска. Ідэальнае месца для начлегу.

Для купання возера здавалася занадта халодным. Я стаяў на беразе побач з Ізай і глыбока ўдыхаў паветра, а Чык зноў схадзіў да машыны і вярнуўся з нейкім прадметам, які ён непрыкметна трымаў за спінай. У нас, відавочна, узнікла адна і тая ж думка. Чык падаў знак, мы падхапілі Ізу і кінулі яе ў ваду.

Узняўся фантан пырскаў, калі яна ўпала ў ваду. І толькі ў гэты момант мне прыйшла ў галаву думка, што мы не ведалі, ці ўмее яна плаваць. Яна жаласна крычала і пляскала рукамі па вадзе, плаваючы пры гэтым па-сабачы. Чык кінуў ёй бутэльку гелю для душа. І пакуль я разважаў, смяяцца мне ці спачуваць, атрымаў штуршок у спіну і таксама зваліўся ў возера.

Было нават халадней, чым проста холадна. Я вынырнуў і пачаў крычаць, а Чык стаяў на беразе і смяяўся, Іза лаялася і смяялася папераменна.

Плаціна была занадта высокай, каб па ёй можна было выкараскацца, таму нам давялося плысці наўскос праз усё возера да адзінага месца са спадзістым адхонам. Пакуль мы плылі, Іза лаяла мяне бесперапынна, кажучы, што я яшчэ большы ёлуп, чым мой сябр, і давала мне пад вадой выспяткі. Паміж намі распачалася бойка. Тым часам Чык прашпацыраваў да машыны, нацягнуў, насвістваючы, плаўкі, і вярнуўся да вады з цыгарэтай у кутку рота і перакінутым цераз плячо ручнікам.

— Вось так купаюцца джэнтльмены, — прамовіў ён, надаў свайму твару арыстакратычны выгляд і «ластаўкай» сігануў у возера.

Мы разам аблаялі яго.

Калі мы дабраліся да берага, Іза адразу зняла футболку, штаны і ўсё астатняе і пачала намыльвацца. Гэта было, напэўна, апошняе, чаго я ад яе чакаў.

— Цудоўна, — сказала яна.

Дзяўчына стаяла па калена ў вадзе, пазірала на краявіды і пакрывала валасы мыльнай пенай; я не ведаў, куды мне глядзець. У яе была класная фігура, а яшчэ яна пакрылася гусінай скурай. Я таксама пакрыўся гусінай скурай. Апошнім на плыткае месца выплыў Чык, і, дзіўным чынам, больш не ўзнікала наогул ніякіх спрэчак. Ніхто нічога не казаў, не лаяўся, не адпусціў ніводнага жарту. Мы толькі мыліся, задыхаліся ад холаду і карысталіся адным ручнікам.

Потым, гледзячы на горы і даліны ў вячэрняй смузе, мы з'елі цэлае вядро жэлацінавых мішак «Haribo», якія засталіся пасля паходу ў супермаркет. Іза надзела маю футболку і «адзідасаўскія» джынсы. Яе смярдзючае адзенне назаўсёды засталося каля берага.

Гэтым вечарам мы яшчэ шмат разоў спрабавалі дазнацца, адкуль яна і куды хоча дабрацца. Але Іза, хоць забі, не хацела казаць, што рабіла на сметніку, што было ў яе драўлянай скрынцы, якую ўсюды цягала з сабой. Адзінае, што яна выдала, — прозвішча — Шміт. Іза Шміт. Ва ўсякім разе, гэта было адзінае, чаму мы паверылі.

<…>

***Пераклад з нямецкай Аляксея ДЗЕНІСЕНКІ***

***Крыніца:***

**Wolfgang Herrndorf, «Tschick»**

**Copyright © 2010 Rowohlt Berlin Verlag GmbH, Berlin**



Ірына ШАЎЛЯКОВА

# ЭПОХА «АМАЛЬ»

## Станаўленне новага тыпу літаратурнай творчасці ў найноўшай культурнай прасторы

Найважнейшым лейтматывам фарміравання культурнай прасторы канца XX — пачатку XXI стагоддзя з'яўляецца агульнае адчуванне крызіснасці, што мяжуе з катастрафізмам і выкарыстоўваецца для апісання самых розных аспектаў існавання інфармацыйнага грамадства — гнасеалагічных, аксіялагічных, анталагічных і г. д. Пераважная большасць сучасных канцэпцый, мадэлей, стратэгій сацыякультурнага развіцця грунтуецца на своеасаблівым «пафасе заняпаду» — ці звяртаецца да яго як да будаўнічага матэрыялу. Паказальна, што гісторыя найноўшай мастацкай славеснасці, якая ствараецца ў рэжыме он-лайн, не толькі яе спажыўцамі (чытачамі), але і самімі стваральнікамі (пісьменнікамі, крытыкамі), асэнсоўваецца як гісторыя назапашвання стратаў.

У якасці ўніверсальнага гнасеалагічнага інструмента на зломе стагоддзяў/тысячагоддзяў сцвердзілася рэфлексія. На думку неатаміста Э. Жыльсона, рэфлексія, што набыла статус і вагу метада, займае месца рэальнасці, як бы выкідваючы са сферы ведаў усё тое, чаго не можа знайсці ў рэчах. Тое, што ў 1970—1980-я здавалася стратай рэальнасці (напрыклад, Ж.-П. Сартру, які ў адным з літаратурных маніфестаў абвясціў «крах рэалізму» ў сувязі са знікненнем рэальнасці), у сярэдзіне 2010-х набывае выразныя адзнакі пераструктурызацыі «гнасеалагічнага вобраза» рэчаіснасці як выніку чарговага злому культурнай парадыгмы. Варта нагадаць, што найбольш выразна феномен згаданай зломнасці быў акрэслены Ю. Лотманам, для якога на схіле жыцця галоўнай тэарэтычнай праблемай стала праблема выбуху ў гісторыі і культуры, а таксама звязаная з ім прынцыповая непрадказальнасць наступстваў.

Апошні па часе «культурны выбух» пачаў спець у нетрах XIX стагоддзя, выспяваў цягам XX стагоддзя і распачаўся ў яго апошняй чвэрці. Наяўную сітуацыю следам за А. Дзімерам можна ахарактарызаваць як «герменеўтычную» [1, с. 17], калі «адзіны свет» змяняецца «плюралізмам светапоглядаў», месца адзінага сэнсу трывала (прынамсі, як гэта падаецца цягам 2000—2010-х) заняло мноства, а галоўным прынцыпам структуравання і рухавіком быцця (у тым ліку літаратурна-мастацкага) сталася канкурэнцыя як сэнсавых перадумоў, так і тлумачэнняў.

Адной з красамоўных адзнак таго, што згаданы выбух яшчэ доўжыцца, з'яўляецца фарміраванне новага тыпу літаратурнай творчасці, сутнасць якога мы вызначаем для сябе праз паняцце ***квазіасабовасці***.

Спецыфіка *квазіасабовасці* як адметнага мастацкага спосабу асваення рэчаіснасці найбольш яскрава выяўляецца праз супастаўленне з індывідуальна-творчым тыпам, які вызначаў характар мастацка-эстэтычнай прасторы ў XIX—XX стагоддзях. Нават у паэталогіі літаратурнага рэалізму (не кажучы пра нерэалістычныя плыні і феномены) прыкладна да сярэдзіны XX стагоддзя выспяваюць якасныя змены, што кваліфікуюцца звычайна як абнаўленне паэтыкі рэалізму. Адмова ад прамога аўтарскага ўмяшання, павелічэнне вагі элементаў фантастыкі, алегорыі, іроніі, гратэску, скіраванасць да сінтэтычных жанрава-стылявых форм, — гэтыя і іншыя адзнакі спрыялі ўзмацненню пазаасабовай логікі аднаўлення паэтыкі свету ў паэтыцы тэксту. І гэта толькі прыватны прыклад — рэакцыя мастацкай славеснасці на зрухі ўнутры агульнакультурнай парадыгмы.

Яшчэ адна важная прыкмета фарміравання новага тыпу літаратурнай творчасці звязана з імклівай міфалагізацыяй усіх сфер быцця інфармацыйнага грамадства.

Спецыфіка сённяшняй культурнай сітуацыі шмат у чым абумоўлена актывізацыяй феноменаў так званага постнавуковага мыслення, сутнасць якога тлумачыцца то аксіялагічным крызісам, то зменай гнасеалагічнай арыентацыі ад неапазітывісцкай да фенаменалагічнай, то распадам цэласнасці светаўспрымання. Падкрэслім, варта гаварыць менавіта пра актывізацыю, а не пра з'яўленне згаданых феноменаў, бо мысленне постнавуковае сутнасна падобнае да мыслення міфалагічнага.

Важкія аргументы на карысць маштабіравання неаміфалагізму без цяжкасцей адшукваюцца ў беларускай літаратурнай прасторы. Напрыклад, спроба актывізаваць у найноўшым айчынным дыскурсе праблематыку сацыялогіі літаратуры вынікам мае і цікавы матэрыял для аналізу ў кантэксце гаворкі пра ўплыў міфалагічных структур на змены ў мастацкай свядомасці. У чэрвені 2014 года Лабараторыя аксіяметрычных даследаванняў «Новак» правяла (па замове аднаго з пісьменніцкіх грамадскіх аб'яднанняў) вывучэнне практыкі чытання і літаратурных зацікаўленасцей беларусаў. Паказальна, што ў аспекце жанравай папулярнасці класічная літаратура «тоесная» дэтэктыўнай (па 34%). Пры гэтым сярод «небеларускіх літаратараў, якіх рэспандэнты любяць чытаць», класічная літаратура са «школьнай праграмы», а таксама «класічны і сучасны дэтэктыў, жаночы раман і фантастыка» [2].

Між тым, ці не самым яскравым сведчаннем на карысць чарговага трыуму міфа падаецца ўсплёск цікавасці да метафары як у сферы філасофска-тэарэтычнай, так і прасторы ўласна мастацкай.

У сучаснай тэорыі пазнання даволі выразна фармулюецца думка пра тое, што менавіта метафара — гэта «асноўны кагнітыўны працэс, без якога было б немагчыма атрымліваць новыя веды» [3, с. 360]. У пэўным сэнсе, метафара сёння паўстае і формай калектыўнай свядомасці (згадаем імклівую эсэізацыю самых розных відаў дыскурсу), і яе зместам (ідэалогіяй).

Калі з пункта гледжання арыстоцелевай логікі метафара ўважалася за прыхаванае параўнанне, то ў традыцыі філасофіі міфа Дж. Віко метафара паўстае адметным спосабам экзістэнцыяльнай жыццядзейнасці. На думку сучасных даследчыкаў, гэта «дыялектыка метафары» (К. Жоль) выдатна адчувалася тэарэтыкамі і практыкамі рыторыкі. Так, неарыторыкі Ф. Уілрайт, М. Фос, А. Бергрэн у ХХ стагоддзі распрацоўвалі тэорыю метафарычнага напружання, дзе метафара асэнсоўвалася ў якасці напружанага працэсу разумовай дзейнасці, які ўтрымлівае выключныя (унікальныя) магчымасці для выражэння жывой, зменлівай рэальнасці.

В. Гейзенберг лічыў, што для адэкватнага разумення светабудовы варта адмовіцца ад паняцця «фундаментальная часціца» і замяніць яго паняццем «фундаментальная сіметрыя», ад якой залежыць спектр часціц ды іх узаемадзеянне. У пазнаваўчай прасторы мяжы ХХ—ХХІ стагоддзяў метафара актуалізуецца не як «рытарычны прыём» ці троп у арыстоцелевым разуменні, але як ідэя, спосаб структуравання, пераадолення хаатычнасці, фрагментарнасці жыццёвага матэрыялу — як «фундаментальная сіметрыя» ў разуменні Гейзенберга.

Верагодна, М. Блэк меў рацыю, калі сцвярджаў, што метафара менавіта стварае, а не выражае падабенства. Нягледзячы на ўсю разнастайнасць, здаецца, наўмысную «плюралістычнасць» індывідуальных манер пісьма сучасных філосафаў, культуролагаў, літаратуразнаўцаў, сацыёлагаў іх яднае агульная рыса: рэзаніраванне, супадзенне са стылістыкай эпохі, улюбёнай тэхнікай пісьма, якой стала «метафарычная эсэістыка». Тэарэтызаванні практычна ў любых дыскурсіўных практыках — ад філасофскіх да прыродазнаўчых — урэчаўляюцца ў формах мастацкай вобразнасці і прапануюць метафарычна занатаваную

**Паказальна, што гісторыя найноўшай мастацкай славеснасці, якая ствараецца ў рэжыме он-лайн, не толькі яе спажыўцамі (чытачамі), але і самімі стваральнікамі (пісьменнікамі, крытыкамі), асэнсоўваецца як гісторыя назапашвання стратаў**

**Ва ўяўленні мысляроў постнекласічнага часу не людзі думаюць метафарамі, а метафары самі «думаюцца» між сабою**

карціну свету. Перафразуючы выказванне К. Леві-Строса пра міф, можна сцвярджаць, што ва ўяўленні мысляроў постнекласічнага часу не людзі думаюць метафарамі, а метафары самі «думаюцца» між сабою. Галоўная пагроза, якая заключаецца ва ўзмацненні ўплывовасці «ідэалогіі метафары», звязана з рэлятывізацыяй самога паняцця «каштоўнасць»; метафара становіцца ўніверсальным інструментам рэкрутавання ў прыхільнікі міфа як найбольш выніковай (зручнай) ідэалагічнай сістэмы. Так, у міфалогіі маскульту метафара забяспечвае максімальна эфектыўную (простую ў тэхналагічным сэнсе) узнаўляльнасць эстэтычных уражанняў. Суб'ект вызваляецца ад неабходнасці канструяваць індывідуальны вобраз свету — ён становіцца спажыўцом паўфабрыкатаў, што не патрабуе асобаснай мысленчай творчасці.

*Квазіасобасны* тып літаратурнай творчасці — феномен, цесна звязаны з постнекласічнай гнасеалогіяй, якая прадуцыруе вобраз свету з дапамогай адметнай логікі. Гэта логіка метафарычных метамарфоз, логіка бясконцых узаемалюстрункаў (архетыпаў, міфалагем, артэфактаў і г. д.), дзе асобаснасць, шматкроць адлюстраваўшыся ў сабе самой, становіцца знікомай — трансфармуецца ў *квазіасобаснасць*, гэткую «*амаль асобаснасць*».

Паводле Дж. Віко, кожная эпоха канструюе свой міф — розніца толькі ў метафарах. У інфармацыйным грамадстве міф зноў набывае статус універсальнага светабудаўнічага інструментарыя. Магчыма, менавіта спецыфічнасць сённяшніх метафар і абумоўлівае спецыфічнасць сканструяванага міфа — вобраза свету, дзе катастрафізм мыслення ёсць найбольш пэўным спосабам (вы)жыць.

У найноўшым беларускім літаратурным дыскурсе ўзаемасувязь ідэалогіі метафары (асновы), міфу як ідэалагічнай сістэмы і *квазіасабовасці* як тыпу літаратурнай творчасці (мастацкай тэхналогіі вытворчасці і інтэрпрэтацыі сэнсаў) становіцца вызначальным фактарам для фарміравання і разгортвання беларускай версіі «дыялектыкі трывогі» як канцэптасферы найноўшай мастацкай славеснасці.

Паняцце і асноўныя канцэптуальныя палажэнні «дыялектыкі трывогі» былі прапанаваны тэолагам, філосафам культуры П. Ціліхам. Ён вылучаў тры тыпы трывогі: трывогу лёсу і смерці; трывогу пустэчы і бессэнсоўнасці (страты сэнсу); трывогу віны і асуджэння. Тры тыпы трывогі, перажытыя ў сваёй гранічнай, максімальнай форме, вядуць да адчаю. Але менавіта ў адчаі раскрываецца сутнаснае становішча чалавека, бо яго жыццё — гэта намаганне пазбегнуць адчаю. Трывога штурхае чалавека да мужнасці самасцвярджэння. Экзістэнцыяльная трывога — скразны матыў літаратуры XX стагоддзя. Напачатку XXI стагоддзя ці не адзіным спосабам (вы)жыць у сітуацыі згаданай трывогі становіцца пагружэнне ў адчай. Для беларускіх пісьменнікаў розных пакаленняў аб'ектам гэтай трывогі становіцца беларушчына як ядро нацыянальнай самасці, умова і вынік асобаснай і нацыянальнай ідэнтычнасці. Гэта вакол беларушчыны выбудоўваецца той мастацка-эстэтычны ўніверсум, што закліка790 супрацьстаяць «беспадстаўнасці» быцця, на якую асуджаны сучасны творца на досвітку эпохі *квазіасабовасці*.

**ЛІТАРАТУРА:**


1. Ильин, И. П. Постмодернизм от истоков до конца столетия: эволюция научного мифа / И. П. Ильин. — М.: Интрада, 1998. — 255 с.

2. Літаратура — без чытача // Літаратурная Беларусь. — 2014. — 29 жніўня. — № 8 (96). — С. 1.

3. Маккормак, Э. Когнитивная теория метафоры / Э. Маккормак // Теория метафоры: сборник; пер. с англ., фр., нем., исп., польск. яз. / Вступ. ст. и сот. Н. Д. Арутюновой; общ. ред. Н. Д. Арутюновой и М. А. Журинской. — М.: Прогресс, 1990. — С. 358—386.

*Юлія ВАЎЧОК*
**bjarozka@zviazda.by**

# СКРЫНКА З НАСТАЛЬГІЯЙ І ШЫЛЬДАЧКАЙ «КАХАННЕ»

***Цікавыя рэчы ў жыцці здараюцца даволі часта, а калі мы іх заўважаем, то здзіўляемся, задаём пытанні і шукаем адказы на ўражанні. Пытанні-ўражанні сёння звязаны з тым, як пазбегнуць фармулёўкі «дапоўненае перавыданне»; як напісаць зборнік, заснаваны на тэгах; пра што распавесці, калі тэма — каханне.***

## РЭЦЭПТ СТВАРЭННЯ «НОВАЙ» КНІГІ

**АНЁЛЫ: аповесці, апавяданні, эсэ /**

*Дзмітрый ПЯТРОВІЧ. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2015.*




У гэтым годзе выдавецтва «Мастацкая літаратура» выпусціла кнігу Дзмітрыя Пятровіча «Анёлы» — гісторыі мужчын пра сямейныя каштоўнасці і з «прагай хэпіэнду», як пісала Аксана Бязлепкіна пра ранейшы літаратурны праект таго ж аўтара «Белая жанчына». Па вялікім рахунку тэксты «Анёлаў» нічым не адрозніваюцца ад тэкстаў «Белай жанчыны». Можна, безумоўна, казаць пра непаўторны аўтарскі стыль, якім валодае кожны пісьменік, ці пра яго бачанне жыцця… Калі б не слова «змест», пасля якога дакладна пералічваецца ўсё, з чаго складаецца кніга. І тут не трэба валодаць добрым літаратурным густам, каб зразумець, што «Анёлы» — гэта «Белая жанчына» + некалькі новых апавяданняў і адно эсэ. Зборнік гэтага года не называецца дапоўненым перавыданнем, ён успрымаецца чытачом як новая кніга Дзмітрыя Пятровіча. Тым больш, што тэрмін у тры гады паміж выданнямі «Белая жанчына» і «Анёлы» дазваляе не заўважаць «змест».

Але назваць «Анёлаў» дапоўненым перавыданнем можна, калі ўлічваць толькі літаратурны складнік кнігі. Ці актуальна набываць яе тым, у каго ўжо ёсць «Белая жанчына», — пытанне. З пункту гледжання выдавецкай справы «Анёлы» — новы праект. Змена выдавецтва («Белая жанчына» выйшла ў выдавецтве «Четыри четверти»), апавяданні і эсэ, якіх не было ў складзе раней, а таксама замена словазлучэння «новы зборнік» на выраз «а таксама новыя творы пісьменніка» ў анатацыі (усё астатняе ў тэкстах абедзвюх кніг аднолькавае) знімае ўсе пытанні да выдання. Тым больш, што перавыданне асноўнай часткі «Анёлаў» — кнігі «Белая жанчына» — адбылося ў 2013 годзе. А гэта можа значыць толькі тое, што яе папярэдніца была запатрабаванай. Чаму б не друкаваць тое, што добра прадавалася?

Калі вяртацца да тэкстаў Дзмітрыя Пятровіча, варта адзначыць сувязь аўтара з роднымі мясцінамі, яго прагу да ўспамінаў і жаданне падзяліцца з чытачамі поглядам на жыццё. Свае адносіны ён выказвае так: «…мы, адарваныя ад каранёў і пазбаўленыя магчымасці падзяліцца ўласным жыццёвым досведам і тым багаццем, што назапасілі і перадалі нам нашы продкі, можам страціць сваю будучыню, будучыню сваёй нацыі…» (эсэ «Галаўнінскімі шляхамі»).

Амаль усе творы Дзмітрыя Пятровіча — успаміны з прыпіскай «пра каханне». Аўтарская настальгія не адпускае сістэму сямейных каштоўнасцей, а шлюб паводле Пятровіча немагчымы без кахання. Аднак далёка не ўсе гісторыі

*хэпі-эндавыя*. Напрыклад, апавяданні «Сын» і «Мудранка» пра пачуццё, якое існуе па-за сямейнымі адносінамі. У першым галоўны герой распавядае пра каханне, якое прайшло, і мінулы шлюб. У «Мудранцы» гаворка ідзе пра гісторыю пятнаццацігадовага хлопца, які сустрэў дзяўчыну ў лагеры, але яны так і не засталіся разам.

«Мудранка» — не першае апавяданне, дзе пачуцці зараджаюцца ў лагеры. Да гэтага была надрукавана «Выстава» — твор пра мастака, для якога настальгія па юнацкім каханні ўвасабляецца ў карцінах. Мастак у якасці галоўнага героя існуе і ў «Яніне» — апавяданні пра нараджэнне звычайнага кахання на малой радзіме. Супадзенне месца падзей можна прасачыць у тэкстах «Анёлы» і «Ружы». У апошнім Дзяніс сустракае ў цягніку сваю любую, якую не бачыў шмат гадоў. А ў «Анёлах» увесь сюжэт будуецца на гісторыях людзей, што трапілі ў адно купэ. У сваіх творах Дзмітрый Пятровіч выкарыстоўвае лісты як сімвал мінулага. Той самы Дзяніс («Ружы») атрымлівае канверт з высахлай ружай — кветкай былога кахання. А Лявону Мурашкевічу («Выстава») на персанальнай выставе перадаюць ліст-развітанне, напісанае каханай, з якой ён так і не бачыўся пасля лагера.

Пасля прачытання твораў Дзмітрыя Пятровіча застаецца адчуванне, што прапанаваныя ім персанажы, месцы дзеянняў, сюжэты і іншыя складнікі тэкстаў узятыя з адной скрынкі, прычым колькасць элементаў, якія можна выкарыстаць, хтосьці папярэдне абмежаваў.

## СХЕМА НАСТАЛЬГІІ

**ВОСЕНЬ У ВІЛЬНЮСЕ: аповесці і апавяданні /**

*Маргарыта ПРОХАР. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2014.*




Зборнік «Восень у Вільнюсе» Маргары Прохар таксама прасякнуты ўспамінамі. Настальгія па каханні, сябрах і мінулым не адпускае герояў твораў, іх «вяртанні» пачынаюцца са змены месца: дзяўчына, што займаецца пошукам згубленных рэчаў і жывёл, едзе ў Вільнюс («Восень у Вільнюсе»), гераіня аповесці «Паўночнае лета» з'язджае ў літоўскі рыбацкі пасёлак, Марцін («За аблокамі душы») спрабуе ўладкаваць жыццё ў Празе, Андрэй з дзяўчынай едуць на мора («Убачыць мора»). У «Тонкай лініі» ўспаміны звязаны са смерцю сябра, у апавяданні «Прынцэса і бядняк» распавядаецца пра ад'езд Эльзы з горада, у які яны з татам прыехалі адпачываць, а гісторыя «Назіральніка» пачынаецца, калі герой выходзіць з цягніка.

Самым папулярным адбіткам настальгіі ў тэкстах Маргарыты Прохар з'яўляюцца месцы грамадскага харчавання: рэстарацыя («За аблокамі душы»), марская кавярня («Назіральнік»), піцэрыя («Восень у Вільнюсе»), kavine («Паўночнае лета») і г.д. Напрыклад, так аўтар піша пра кавярню ў аповесці «Паўночнае лета»: «Я адкрыла рыпнуўшыя ў занавесах цяжкія драўляныя дзверы і апынулася ў ціхай утульнасці мінулага — таго, чаго больш няма…» А ўспаміны суправаджаюцца дажджом: «Без ветру, у дажджы, у адбітках агнёў далёкага маяка мора і ўсё вакол выглядала яшчэ больш глухім, закутаным і самотным» («Паўночнае лета»). Менавіта прыродную з'яву пад назвай дождж выбірае аўтар, каб перадаць стан сваіх персанажаў: «Ды няхай будзе ўсё, як было, няхай нічога не губляецца: ні align-рознакаляровыя кроплі дажджу, ні пах грогу, ні стомленасць ног на дряўлянай падстаўцы…» («За аблокамі душы»), «Ведаеш, а Яна ўсё яшчэ кахае цябе. Калі дождж, Яна выходзіць на балкон, моўчкі стаіць і глядзіць у дажджыстую далеч. Яна памятае, што ты любіў дождж» («Тонкая лінія»).

Маргарыта Прохар робіць акцэнт і на порах года, аддаючы перавагу восені (магчыма, таму дзеянні ў творах часцей і суправаджаюцца дажджом), а таксама лету, дакладней — жніўню. Відавочна, па аўтарскім меркаванні гэта самы зручны час для настальгіі: «У жыцці, як у прыродзе, ёсць свая вясна, восень, зіма. Значыць, павінна быць і сваё лета. Тады лета — сярэдзіна жыцця, яго росквіт і адначасова сталасць, паварот да задум-

лівай восені і самога сябе» («Паўночнае лета»).

Яшчэ адным элементам настальгіі і распаўсюджаным параўнаннем у зборніку «Восень у Вільнюсе» можна назваць слова «птушка», менавіта яго аўтар часцей за ўсё выкарыстоўвае ў дачыненні да сваіх персанажаў і іх асяродку: «Ён (Марцін) хутчэй нагадваў залётную птушку, у якой не было іншага выйсця» («За аблокамі душы»); «бяжыш хутка, ляціш, як птушка» ці «моцна пабіліся — як жаўтаротыя птушаняты, што спрабуюць моц» («Тонкая лінія»). «Дні праляталі, нібыта імклівыя птушкі мора, — ад аднаго вечара ў kavine да другога» («Паўночнае лета»). «Яны (чужыя гарады) дазваляюць вось так думаць — вольна, як птушка» («Восень у Вільнюсе»).

Запаўняюць прастору настальгіі рэчы, звязаныя з пісьменніцтвам: аўтар выкарыстоўвае вынікі творчасці сваіх персанажаў у якасці «брамы», праз якую можна вярнуцца ў пэўны час. Напрыклад, гісторыя, што распавядаецца ў аповесці «Восень у Вільнюсе», раскрываецца пры дапамозе дзённікавых запісаў. А ў апавяданні «Прынцэса і бядняк» «вяртаннем» можна назваць ліст, які галоўны герой прыносіць у рэдакцыю. Адчуваць настальгію дапамагаюць персанажы тэкстаў — пісьменнікі або журналісты («Восень у Вільнюсе», «Назіральнік», «Паўночнае лета»): Андрэ («Паўночнае лета») піша раман пра каханне ў рыбацкім пасёлку; галоўны герой «Назіральніка» дзеліцца перажываннямі — так званай «прозай жыцця». Паэзія дамінуе ў творах «За аблокамі душы» і «Тонкая лінія».

Значнае месца ў кнізе Маргарыты Прохар займае сістэма пытанняў і адказаў, што вельмі добра адчуў мастак Уладзімір Васюк і працытаваў у сваіх малюнках да кнігі. Чамусьці аўтар тэкстаў спрабуе даць тлумачэнні на ўсе свае пытанні, а ролі пазоўнікаў і адказчыкаў раздае персанажам. Напрыклад, у аповесці «Паўночнае лета» журналістку клапоціць: «Чаму мы ўвесь час гаворым аб мінулым у нашым цяперашнім?» Адказ Маргарыта Прохар дае такі: «Чалавек прывыкае да ўсяго, гэта інстынкт самазахавання, і толькі памяць, жывая і моцная, як ртуць, здольная патрывожыць, разбудзіць усё, што створана жывёльнай звычкай проста жыць — есці, піць, дыхаць» («За аблокамі душы»).

Але канцэнтрацыя ўспамінаў, мінулага і настальгіі (у дачыненні да кнігі, што разглядаецца, гэтыя словы можна выкарыстоўваць і ў якасці сінонімаў) пад адной вокладкай стварае ўражанне аднолькавасці тэкстаў — разумееш, што чытаеш новую гісторыю, а яна пра тое ж. Таму, калі пагуляцца ў сістэму проціleгласцей аўтара і запытаць, пра што кніга Маргарыты Прохар «Восень у Вілюнюсе», то адказ атрымаецца такі: пісьменства, успаміны, дождж і поры года — тэгі — ключавыя, але зусім не звязаныя паміж сабой словы, якія ў жыцці дапамагаюць хутчэй знайсці патрэбнае, а ў кнізе Маргарыты Прохар забіраюць крыху больш за трыста старонак. Між тым, «Восень у Вільнюсе» — зборнік аповесцей і апавяданняў.

Аднак адчуваецца і прага аўтара да аб'яднання сваіх тэкстаў у адзіны арганізм. Яна будуе «мосцікі» — пераходы ад аднаго тэкста да другога. Напрыклад, у аповесцях «Назіральнік» і «Паўночнае лета» ёсць кавярні з марскім інтэр'ерам, праўда, у апошняй месца адпачынку знаходзіцца ўжо побач з морам. Таксама ў «Паўночным леце» існуе гара Ведзьмаў, да якой людзі прыносяць крывава-чырвоныя ружы, каб ім даравалі ўсе памылкі. Гэтыя ж кветкі і ў аповесці «За аблокамі душы», а Таня з ужо закранутага твора і хлопчык з апавядання «Убачыць мора» мараць пра адно — мора.

Але ўражанне, што тэксты склаліся ў адзін, не ствараецца. Можа, і не патрэбна гэта, калі размова ідзе пра зборнік — магчымасць аўтара праявіць сябе рознабакова.

## ПАДТРЫМЛІВАЮЧЫ ТЭМУ

**КАХАЦЬ І ВЕРЫЦЬ: зборнік апавяданняў маладых пісьменікаў /**

*уклад. Віктар ШНІП. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013.*



**ПАД ЗОРКАЙ КАХАННЯ: аповесці, апавяданні /**

*уклад. Віктар ШНІП. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2015.*




І засталося толькі расказаць пра кнігі, што хаваюцца за шыльдачкай з надпісам «Каханне». Гэта два зборнікі — «Пад зоркай кахання» і «Кахаць і верыць». Безумоўна, у зборніках з твораў адразу некалькіх аўтараў дыяпазон раскрыцця тэмы больш шырокі.

Укладальнікам абодвух зборнікаў з'яўляецца Віктар Шніп. Пад вокладкай «Кахаць і верыць» сабраны апавяданні маладых пісьменнікаў. Кніга «Пад зоркай кахання» — восьмая з серыі «Вера. Надзея. Любоў».

Разнастайнасць бачыцца нават у жанравых падыходах: міфалагічныя, фантастычныя, апавяданні-імпрэсіі, іншае. З сюжэтаў таксама ёсць, як кажуць, што выбіраць. Некаторыя адбіткі сучаснасці найбольш актуальныя для маладога пакалення, напрыклад, гісторыя дзяўчыны, якая змагаецца з анарэксіяй і сваім жаданнем паходзіць на кагосьці знакамітага («Смак яблыка» Наталлі Ярмольчык); ці знаёмства праз сеціва («Смайлік на пероне» і «Вулічныя пісьмёны» Антона Янкоўскага). Ёсць апавяданне пра «звычайнага рускага алігарха сярэдняй рукі» — гісторыя без добрага канца, але з усімі вядомымі (па шматсерыйных стужках) стасункамі ў любоўным трохкутніку («Нябожчык» Віталя Брыля). А вось «Страчанае сэрца» Юрася Панкевіча не абышлося без чараўніцтва: герой ператвараецца ў міфалагічную істоту — цмока, які з'ядае сэрцы людзей. Нават зварот да чытача адпавядае казачнаму: «Напэўна, усе беларусы ведаюць, хто такі цмок. А калі ты, мой сябра, раптам не ведаеш, то давядзецца распавесці табе цэлую гісторыю, так, быць можа, папарэдзіць, каб ты не патрапіў у бяду. Таму слухай». Адбываецца і чароўнае вяртанне чалавека ў свой звычайны стан, і прычына ператварэнняў распавядаецца — чорная панна вырвала сэрца хлопца і аддала яго каханай дзяўчыне.

Нікуды не дзеліся з-пад «крыла» кахання і адносіны на адлегласці («Сола» Таццяны Гарэлікавай), і нетрадыцыйныя спосабы (чары і змовы) набыцця шчасця («Навучы мяне зноў любіць» Таццяны Гарэлікавай), а таксама нечаканыя сустрэчы вачыма («Прыгожыя караблі» Міхася Слівы). Знайшла сваё месца і гісторыя пра гадзіннік, які дапамагае ў сне знайсці каханне, якое пасля прыйшлося адшукаць у рэальнасці («Шукальніца страчанага шчасця» Станіславы Умец).

Пад шыльдачкай «Каханне» можна знайсці шмат гісторый. Хутчэй за ўсё, сюжэты многіх пададуцца знаёмымі, але гэта ўжо даўно нікога не здзіўляе. На прыкладзе апісаных уверсе кніг можна зрабіць выснову: калі пад адной вокладкай збіраюцца творы, аб'яднаныя тэмай ці пэўнай ідэяй укладальніка, то аўтару, магчыма, прасцей застацца незаўважаным чытачом ці згубіцца сярод калег. І гэта не так магчыма, калі зборнік належыць творчай адзінцы.

## КАМПЕДЫУМ

***Маргарыта ПРОХАР «Восень у Вільнюсе»***

*Для* тых, каму надакучыў псіхалагізм у літаратуры, хто хутае мудрае жаночае слова ў тэкстах і хоча натхніцца ўспамінамі.

*Падчас* дажджу і сумнага настрою.

*Калі* няма жадання доўга разважаць над прачытаным.

***Дзмітрый ПЯТРОВІЧ «Анёлы»***

*Для* чытачоў, якія засумавалі па сямейных ідэалах ці звычайных цёплых адносінах, стаміліся ад трэшу ў літаратуры і жыцці.

*Падчас* настрою на лепшае.

*Калі* захацелася адчуць штосьці добрае, цёплае, светлае.

***«Кахаць і верыць», уклад. Віктар ШНІП***

*Для* тых, каму цікава, хто такі малады пісьменік.

*Падчас* жадання знайсці штосьці новае.

*Калі* захацелася хутка разабрацца, хто што піша.

***«Пад зоркай кахання», уклад. Віктар ШНІП***

*Для* тых, каму блізкая тэма кахання.

*Падчас* натхнення да чытання.

*Калі* галоўнае — разнастайнасць падачы агучанай тэмы.



Алег ГРУШЭЦКІ

# БЕЛАРУСЫ — ПЕРШАПРАХОДЦЫ Ў ФЭНТЭЗІ

## ТРОШКІ ЛІКБЕЗУ (НЕ ПАШКОДЗІЦЬ)

Фэнтэзі — жанр фантастычнай літаратуры, у аснове якога закладзены казачныя і міфалагічныя матывы. Яго сюжэты нярэдка заснаваны на матывах кельцкіх і скандынаўскіх саг (напрыклад, валійскі «Мабінагіён», ісландская «Старэйшая Эда»), гераічным эпасе ранняга Сярэднявечча (напрыклад, «Беавульф») і вельмі цесна звязаны з сюжэтамі рыцарскіх раманаў «артураўскага» цыкла. Ад фантастыкі жанр адметна адрознівае адсутнасць навуковасці і тое, што новае паказана, так бы мовіць, павернутым у бок мінулага.

Сярод асноўных герояў звычайна знаходзяцца людзі з чароўнымі здольнасцямі (чараўнікі, друіды, празорцы і г. д.) ці з чароўнымі прадметамі (рыцары з зачараванай зброяй), міфічныя стварэнні, нярэдка запазычаныя з сярэднявечных бестыярыяў (цмокі, аднарогі, пярэваратні). У сюжэтнай лініі, як правіла, выкарастаны вандраванні маладога героя, яго бітвы з пачварамі і фінальнае вызратаванне знаёмца ці знаёмкі. Фэнтэзі як асобны жанр пачаў фарміравацца на мяжы XIX—XX стагоддзяў. Лепшымі ўзорамі жанру лічацца «Уладар пярсцёнкаў» (1954—1955) Дж. Р. Р. Толкіена, «Хронікі Нарніі» (1950—1956) К. С. Льюіса, «Чараўнік Земнамор’я» (1968—1990) У. Ле Гуін, «Гары Потэр» (1997—2007) Дж. К. Роўлінг.

## ЗАСНАВАЛЬНІКІ ЖАНРУ Ў БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Фэнтэзійныя элементы прысутнічаюць у беларускай культуры з даўніх часоў, бо жанр цесна звязаны і з фальклорам, і з міфалогіяй. Элементы містыцызму і вобразы міфалагічных істот выкарыстоўваў у сваёй творчасці Адам Міцкевіч. Так, да вобраза Світязянак (насельніц возера Світязь, белатварых дзяўчын з доўгімі распушчанымі валасамі, у якіх ператварыліся жанчыны горада Світязь, затопленага багамі па іх просьбе вадой, каб пазбегнуць зганьбавання варожым рускім войскам) і легенд, звязаных з імі, паэт звяртаўся ў баладах «Світязь» (1820), «Світязянка» (1821), «Рыбка» (1822).

Але ж найбольш ярка беларуская міфалогія адлюстравана ў творы Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» (1844—1846), у якім аўтар нас пераносіць у фантастычную, прыдуманую Беларусь, у якой чытач спаткаецца з пярэваратнямі і ваўкалакамі, волатамі і цмокамі, пачварамі, чараўнікамі і чарнакніжнікамі. Менавіта Ян Баршчэўскі і лічыцца заснавальнікам жанру фэнтэзі ў беларускай літаратуры. Паводле выкарыстанай міфалагічнай асновы яго творчасць варта аднесці да такога субжанру, як славянскае фэнтэзі, у аснове якога ляжыць спалучэнне славянскага фальклору (паданняў, былін, міфаў) і стандартных фэнтэзійных канонаў.

## АД МІФАЛОГІІ ДА…

Выкарыстанне шматлікіх міфалагічных персанажаў прысутнічае і ў нашаніўскай паэзіі Янкі Купалы. Некаторыя даследчыкі (напрыклад, канд. філ. навук Г. М. Мятліцкая) нават ужываюць такі тэрмін, як купалаўскі міфалагізм. Пэўны час міфалагічная вобразнасць у творчасці паэта была ледзьве не дамінантнай. «Цемнатворцы» ды такія міфічныя і паганскія істоты як вядзьмаркі, ваўкалакі, чэрці, вадзянікі, русалкі пануюць у яго вершах «Ў вечным бору...» (1912), «Русалка» (1912), «Хохлік» (1911), «Дзе ні вылеці з няволі...» (1906), «Забытая карчма» (1907), «Люлі, люлі, мужычок!» (1905—1907), «Ноч за ночкай» (1909), паэме «Сон на кургане» (1910). Чаго толькі варты ўрывак з верша «Забытая карчма»: «Жэняць ведзьму з ваўкалакам, сватае шынкар, попам — рабін,

ведзьма — дзякам, а чорт — гаспадар. Так гуляюць, покуль недзе ня кігне пятух... Гіне ўсё, і па бяседзе пуста, сумна ўкруг».

Дапаўняе нацыянальную ўтопію Вацлаў Ластоўскі, які ў 1923 годзе выдае поўную загадак аповесць «Лабірынты», якой, напэўна, і сёння няма жанравых аналагаў ні ў беларускай, ні ў сусветнай літаратурах. Жанр твора займае пагранічнае становішча паміж утопіяй і навуковай фантастыкай — уяўляе сабой паяднанне гістарычнага і фантастычнага. У творы мы бачым перапляценне некалькіх свядомых аўтарскіх містыфікацый, галоўная з якіх звязана з існаваннем Полацкага лабірынта. І як у старажытнагрэчаскай міфалогіі існаваў міф пра Лабірынт на Крыце і Мінатаўра, які паслужыў тэмай для шэрагу літаратурных твораў, так і Полацкі лабірынт у трактоўцы Ластоўскага стаў для яго адным з цэнтральных артэфактаў, на якім грунтавалася яго крыўская тэорыя.

У кантэксце стварэння новых мастацкіх сусветаў праводзіць асацыяцыю Уладзіміра Караткевіча з Толкіенам даследчык Андрэй Хадановіч. Паводле Хадановіча, Беларусь Караткевіча — ідэальная краіна, населеная шляхетнымі рыцарамі, мужнымі патрыётамі і нацыянальна свядомымі арыстакратамі з паэтычнымі здольнасцямі. На думку Хадановіча, стваральнікам беларускага фэнтэзі з'яўляецца Уладзімір Караткевіч. У нечым Хадановіч мае рацыю. Для творчасці Караткевіча характэрны не толькі гістарызм, але і наданне ёй асобных міфалагічных рыс. Крытык А. Ненадавец у артыкуле «Міфалогія ў творах Уладзіміра Караткевіча» заўважае, што ў творах гэтага пісьменніка паняцці «чарадзейка», «чараўнік», «знахар» і «варажбіт» амаль не адрозніваюцца па сэнсе, хоць на самай справе розніца паміж імі выпрацавана шматвяковым практычным вопытам народа.

## ПОСПЕХ І ПАПУЛЯРНАСЦЬ

На думку старшыні секцыі «Прыгоды і фантастыка» СПБ Уладзіміра Кулічэнкі, беларускія фантасты маюць большы поспех у жанры «фэнтэзі», чым у жанры «навуковай» фантастыкі, бо «фэнтэзі» і яго паджанры хутчэй знаходзяць водгук. Напэўна, найбольш ярка ў гэтым жанры вылучаецца Вольга Грамыка, чые кнігі (выдаюцца з 2003 года) адрознівае іронія, якая месцамі пераходзіць у сарказм. Галоўнымі героямі яе кніг з'яўляюцца персанажы, якія ў традыцыі фэнтэзі лічацца адмоўнымі: ведзьмы, вампіры, пярэваратні, цмокі, тролі. А фэнтэзійны свет, створаны пісьменніцай, нагадвае нашу старонку. Так, назва яе выдуманай краіны Белорыя відавочна адпавядае Беларусі, назва сталіцы Белорыі Стармін сугучна Мінску, горад Віцяга — Віцебску.

Яшчэ па адной прыдуманай краіне, на гэты раз заснаванай на легендах і паданнях Вялікага Княства Літоўскага, мы можам павандраваць у рамане «Ганітва» пісьменніцы Нікі Ракіцінай (сапр. імя — Людміла Багданава). Прататыпам Омеля з'яўляецца Гомель, родны горад пісьменніцы. Назвы ж вёсак і сяліб наўпрост пераносіліся з карты Беларусі на старонкі кнігі: Строчыцы, Макееўка, Наўліца. А самі падзеі разгорваюцца ў краіне, якая завецца Лейтавай — гістарычная Літва, ВКЛ. На кангрэсе «Еўракон-2008» эксперты прызналі беларуску Ніку Ракіціну лепшым маладым пісьменнікам-фантастам.

На беларускіх землях разгортваюцца прыгоды ў цыкле казак Пятра Васючэнкі «Прыгоды паноў Кубліцкага ды Заблоцкага» («Прыгоды паноў Кубліцкага і Заблоцкага» (1997) і «Жылі-былі паны Кубліцкі ды Заблоцкі» (2003)). Твор месцамі абсурдны і камічны, але філасафічны, дазваляе нам збоку зірнуць на нелагічнасць чалавечых празмерных жаданняў. І ўсё гэта падаецца з народным гумарам. Гэта добра бачна, напрыклад, ва ўрыўку, дзе паны даюць парады Куры-Шчабятуры наконт таго, якое яна павінна прынесці кураня («[Заблоцкі] Каб сала на тым кураняці было з далонь таўшчынёю... [Кубліцкі] Дый ростам каб яно было з ладнага парсюка... [Заблоцкі] Не з парсюка, а з быка каб было велічынёю! Во!»). Але замест жаданага паны атрымліваюць яйка памерам з бочку, з якога вылупліваецца Страшыдла, што патрабуе есці. У 2003-м за кнігу «Жылі-былі паны Кубліцкі ды Заблоцкі» Пятро Васючэнка ўганараваны прэміяй «Гліняны Вялес» (за лепшую мастацкую беларускамоўную кнігу года). У 2013-м аўтар звярнуўся і да міфалогіі старажытнай Грэцыі, распавёўшы ва ўласцівай яму манеры, займальна і з гумарам, пра подзвігі вядомага асілка Геракла («Дванаццаць подзвігаў Геракла», 2013).

З 2002 года з-пад пяра суаўтараў Андрэя Жвалеўскага і Ігара Міцько выходзіць цыкл

фэнтэзійных раманаў-пародый на вядомую ва ўсім свеце серыю гісторый пра Гары Потэра — «Поры Гатэр» («Поры Гатэр і Каменны Філосаф»; «Асабістая справа Мергіоны, ці Чатыры Чортавы тузіны»; «Дзевяць подзвігаў Сэна Аеслі»). Пародыя пабудавана на «перагортванні» сюжэта: амаль кожная рэч, апісаная ў арыгінале, пададзена навыварат. Поры Гатэр звычайны хлопчык, які з'явіўся ў вядзьмарскай сям'і, але да засмучэння сваіх бацькоў зусім не валодае магічнымі здольнасцямі. Напачатку пародыі падабенства з арыгіналам праглядаецца досыць выразна, нават вытрымліваецца адпаведнасць сюжэтных ліній. Але ўжо прыкладна пасля чвэрці кнігі сюжэт пачынае заўважна адхіляцца ад арыгінала.

Вельмі плённа творыць у навукова-фэнтэзійным жанры Раіса Баравікова. Напэўна, асабліва вылучаецца яе трылогія для дзяцей сярэдняга школьнага ўзросту «З казак старога астранаўта» (2005). Тут і касмічныя прыгоды, і авантурны сюжэт, рэальны свет існуе недзе побач з выдуманым. І гэты аўтар надае свайму фантастычнаму твору нацыянальны каларыт: касмадром — пад Раўбічамі, а экіпаж сумуе не па планеце Зямля, а па беларускай прыродзе.

Умоўна да жанру фэнтэзі можна аднесці «аповесць-міф» Людмілы Рублеўскай «Дзеці гамункулуса» (2000), у аснову якой пакладзена легенда пра чарнакніжніка пана Твардоўскага, стваральніка штучнага чалавека — гамункулуса. У той жа час для творчасці Рублеўскай больш характэрны зварот да міфалагічнай спадчыны, як, напрыклад, у яе кнізе «Старасвецкія міфы горад Б.», у якой прыгожыя гісторыі старажытнарымскіх і грэчаскіх міфаў нібы пераносяцца і накладаюцца на рэаліі жыхароў звычайнага беларускага мястэчка XIX стагоддзя. І ў пэўнай ступені аўтар здолеў стварыць свет гістарычнага беларускага фэнтэзі ў цыкле гісторый пра Пранціша Вырвіча. Нават мова твора месцамі вытрамана на старажытны, напышліва барочны манер. Вельмі гэта адчуваецца ў першай частцы («Авантуры Пранціша Вырвіча, шкаляра і шпега», 2012), насычанай гістарычнымі показкамі кшталту гісторыі пра спатканне Караля Радзівіла Пане Каханку з русалкай і што «вынікам шлюбу былі селядцы». На працягу прыгод Вырвіча згадваецца і сусветнае дрэва Ігдрасіль, і лабірынты з Мінатаўрам, і вынаходніцтвы Леанарда да Вінчы.

Свет прыгод чакае і ў цыкле фэнтэзійна-прыгодніцкіх рыцарскіх раманаў «Кароль і Суддзя» Інны Сударавай. Героі змагаюцца з ляснымі разбойнікамі, іх чакаюць сутычкі і інтрыгі, здрада сяброў і каханне прыгожых дам, бітвы і слава.

Блізкі да эпічнага фэнтэзі цыкл раманаў Наталлі Новаш «Здабыццё мінулага» (2009), у якім пасля сутыкнення велізарнай каметы з Зямлёй адкрываюцца «дзверы» паміж светам людзей і светам эльфаў.

У свет магіі, эльфаў, пярэваратняў, людаедаў, вампіраў, ваяроў і драконаў пераносіць чытача і Святлана Уласевіч, аўтар «Сагі аб Драконах», якую распачынае раман «Паўтара метра непаразуменняў, ці Не будзіце спячага Дракона!» (2009).

Яшчэ адна кніга, героі якой — драконы, — раман Эльвіры Вашкевіч «Дарога да Срэбных Вадаспадаў» (2014), у якім з далёкай планеты, дзе жывуць драконы, на Зямлю накіроўваецца пасланец з мэтай пошуку кантакцёра з магічнымі здольнасцямі.

Чароўны свет міфалагічных істот сустракаецца нам і ў рамане-фэнтэзі Генадзя Аўласенкі «Палонныя чорнага лесу» (2011). У таямнічым Чорным лесе жыве мноства самых разнастайных пачвар, а непраходныя Паўночныя скалы заселены гномамі. Паміж лесам і горамі, на шырокай даліне, жывуць варагуючыя між сабой чалавечыя плямёны.

Кніга Сержа Мінскевіча «Усмешка жалобнай каралевы, альбо Таямніца Магнітнага замка» (2013) заснавана ўжо на беларускай міфалогіі. У вобразе героя гэтай казкі, мастака-вандроўніка Дроздзіча, які ходзіць у ботах з чырвонага саф'яну, з чароўным парасонам-кіёчкам і малюе не ўсмешкі, а «ўсмуткі», забіраючы сум людзей, лёгка пазнаецца легендарны беларускі мастак Язэп Драздовіч. Галоўныя героі аповесці — Алеола, «будучая яснапанна», і Арцін, будучы віцязь са Светлаазёрнай краіны. Іх бацькоў разам з усімі жыхарамі мястэчка выкрала «Жалобная Каралева Паляндра», і дзеці выпраўляюцца перамагаць злую чараўніцу.

На прэзентацыі сваёй фэнтэзійнай аповесці пра традыцыі беларускай фантастыкі беларускі паэт і кандыдат філалагічных навук Серж Мінскевіч выказаўся так: «Мы самыя першыя напісалі фэнтэзі, калі яшчэ і не прыдумалі гэтаму жанру назву. Яшчэ не было Толкіена, а ў нас ужо быў Ян Баршчэўскі...»

Паліна ЛІСОЎСКАЯ
maladost@zviazda.by

# КРОКІ ДЗІЦЯЧАГА

*Як зацікавіць беларусаў тэатрам? Як прыцягнуць у тэатральныя залы свядомых гледачоў — тых, што прыйдуць на спектакль не дзеля адпачынку ці весялосці (пакінем гэтыя функцыі тэлебачанню і жоўтай прэсе), а дзеля развагі і самаразвіцця? Вырашыць такія пытанні можна добра распланаванай рэпертуарнай палітыкай, тэатральным маркетынгам і працай з гледачамі — лекцыямі, майстар-класамі, артыкуламі ў прэсе). Толькі, шчыра кажучы, упэўненасці ў тым, што такая палітыка прынясе плён, — няшмат. Дарослыя гледачы на тое і дарослыя: уяўленне пра тое, якім павінен быць тэатр, у іх ужо сфарміравана. А сэрцы і галоўкі маленькіх беларусаў — своеасаблівы пластылін, які ў добрых руках, як вядома, здольны на цудоўныя пераўтварэнні. Таму разважаць будзем пра спецыфіку дзіцячага тэатра. Да таго ж, у Мінску прайшоў Трэці Міжнародны дзіцячы тэатральны форум «Крокі».*



Аналізаваць дзіцячыя спектаклі як дарослыя немагчыма — да іх трэба прымяняць зусім іншыя крытэрыі. Ідэя, сюжэт, літаратурная аснова — гэта, бадай, не самае галоўнае ў дзіцячай пастаноўцы. Бо менавіта гісторыя, у якой удзельнічаюць дзеці, якую яны граюць сто разоў, а мо і болей, запомніцца ім на ўсё жыццё. Нават лепей, чым казка, прачытаная ў ложку перад сном. Цікава, што ўдзельнікі форуму звярнуліся да розных літаратурных твораў, выкарыстоўвалі розныя сродкі выразнасці.

Тэатральнае аддзяленне ДУА «Дзіцячая харэаграфічная школа мастацтваў № 2 Мінска» паставіла «Алісу ў Залюстроўі». У праграмцы назва спектакля выглядала як у люстэрку. Дарэчы, гэта пастаноўка ўзяла Гран-пры. Не дзіўна, бо маленькія акцёры здолелі паказаць вар’ята Кэрала з яго галаваломкамі, парадоксамі ды «перавёртышамі» з лёгкасцю, якой могуць пазайздросціць дарослыя. Да якой высновы можна прыйсці, прагледзеўшы сон Алісы, у якім усё дагары нагамі? Ды ні да якой наогул. Здаецца, і сам Кэрал не ставіў такой задачы. Але ёсць россып яскравых макулінак сэнсу.

Да прыкладу, страшыдламі могуць быць не толькі Леў ды Аднарог, з вялізнай грывай і пагрозным рогам, але і маленькая прыгожанькая дзяўчынка. Не мяркуйце па знешнасці, бо кожны бачыць сітуацыю са свайго боку — чым не высновы? Ці вось яшчэ: а ці не сон я сама? Чым вам гэта не «Жыццё ёсць сон» Кальдэрона?

Акрамя філасофскіх пластоў, у казцы ёсць яшчэ і псіхалагічны — звязаны з характарамі герояў, і нават сацыяльны. Як дзеці здолелі паказаць падсвядомае «Я» персанажаў — навуцы, як кажуць, не зразумела. Але яны атрымаліся надзвычай шматграннымі. Добрая баязліўка Белая Каралева, да прыкладу. А знаёмая ўсім сітуацыя з кантралёрам у транспарце паказана ў спектаклі

да дрыжыкаў вострa. Тут злы кантралёр — маленькі ўладар. А «зайцы». Нашыя зайцы звычайна сваю боязь не дэманструюць, але ж яна — у іх вачах. І бунтаўшчык у выглядзе Алісы назіраецца. Навідавоку поўны камплект сучасных персанажаў.

Усе пласты казкі дзеці перадалі вельмі пераканаўча. Напэўна, таму так атрымалася, што спектакль яны ператварылі ў гульню.

Вельмі прафесійна, з запалам яны паставіліся да сцэнаграфіі. Шахматную дошку стварылі з тканіны. Грыву Льва — з саломы, рог Аднарога — з лейкі-варонкі, пірог — з чыпсаў. Фантазія калектыву пазбавіла спектакль статычных дэкарацый, яны атрымаліся пластычнымі і паветранымі, чым яшчэ больш пераконвалі нас: гэта сон.

Энергія акцёраў, якія самі ў сваіх ролях былі шчаслівыя, перадалася гледачам. І ўзнік інтэрактыў. Не прымітыўны, не назойлівы, а вельмі натуральны. І зразумелы для ўсіх, міжнацыянальны.

Аналіз дае магчымасць сфармуляваць складнікі якаснага дзіцячага спектакля.

**Сэнсавая частка мае два ўзроўні ўспрымання — дзіцячы і дарослы.** Бо трэба ж разумець, што на дзіцячы спектакль з дзецьмі ходзяць дарослыя, якім лепей не проста праспаць пастаноўку, а вынесці з яе штосьці і для сябе, каб потым разам з дзецьмі абмеркаваць убачанае. Для дзяцей жа ў спектаклі класічна павінна прысутнічаць выхаваўчая лінія — што такое добра, што такое дрэнна. Але праз пазітыў і смех, бо маралізатарства нават выдатнік слухаць не будзе.

**Форма — нестандартная.** Яе ад дзіцячага тэатра патрабаваць цяжка, але, як мы бачым, магчыма. Усё залежыць ад жадання/нежадання рэжысёра навучыць дзяцей думаць нетрадыцыйна, па-за рамкамі звычайнага і простага. Вядома, у выніку эксперыментаў форма можа атрымацца, а можа і не атрымацца, але для дзіцячага тэатра гэта нармальна, бо галоўнае для яго — працэс пошуку гэтай формы. А яшчэ — узрошчванне добрага густу ў дзяцей, каб потым, гадкоў праз дваццаць, калі маленькія акцёры пасталеюць, у нас была надзея ўбачыць мноства якасных пастановак у тэатрах. Альбо мець праніклівых гледачоў з крытычным вокам.



**Шчырасць і інтэрактыў.** Дзеці здольны рабіць тэатр паўсюль, не толькі на сцэне. На падлозе свайго дзіцячага пакоя, ствараючы там цэлыя царствы і гарады. Прымушаючы дарослых быць ваўкамі, мядзведзямі, зайкамі. Нават у дзіцячых садках і школах, дзе дзяўчынкі ператвараюцца ў прынцэс, фей і не зусім зразумелых гераінь сучасных мультфільмаў, а хлопцы — лётаюць з пісталетамі ды шаблямі. Таму сцэна для маленькіх акцёраў не праблема. І менавіта шчырая гульня маленькіх акцёраў больш за ўсё падкупляе ў дзіцячым тэатры. Нават самы таленавіты дарослы акцёр не мае такой фантазіі, як маленькі тэатрал. Пры наяўнасці шчырасці ўзнікае інтэрактыў: эмоцыі акцёраў перадаюцца гледачам, ад іх — зноў акцёрам. Так і ўзнікае кругаварот эмоцый у тэатры.

Як жа гэтым крытэрыям адпавядалі астатнія ўдзельнікі форуму?

**Сэнсава** амаль усе з іх былі на вышыні. Азербайджанскі «Гюнай», літоўскі «Элементарус» і латвійскі «Кніфіньш» зацікавілі нацыянальнымі водарамі. Літоўцы распавялі пра свае прыказкі, латышы расказалі народныя казкі, азербайджанцы зрабілі спектакль паводле п’есы нацыянальнага драматурга Узеіра Гаджыбекава «Аршын мал алан», у якім паказалі свае традыцыі.

Пазнавальна і карысна для міжнацыянальнага сяброўства. Да таго ж цікава як дзецям, так і дарослым.

А вось эстонцы (тэатральная студыя «Лятучая карова») вырашылі інтэрпрэтаваць Уільяма Шэкспіра. Іх спектакль «What is a youth?» з'яднаў санеты, «Сон у летнюю ноч», «Дванаццатую ноч», «Рамэа і Джульета». Здаецца, што такая нялёгкая гульня з тэкстамі была б больш арганічнай у дарослым тэатры. Бо наколькі добра ўкладаюцца ў галовы дзяцей такія тэксты і ў такой колькасці, да таго ж прадстаўленыя ўрыўкамі і знітаваныя ідэяй кахання — пытанне пытанняў. Вядома, самі акцёры зразумелі сэнс свайго нялёгкага спектакля (нездарма існуюць рэпетыцыі). А вось маленькія гледачы — наўрад ці. Таму атрымаўся спектакль-рэбус (для дарослых) і спектакль-незразумелка (для маленькіх).

Амаль зусім нельга пагадзіцца з сэнсавай часткай рускага мюзікла «Тук. Тук! Хто там?» (тэатральная студыя «ЭсТэР», Масква), у аснове якога — п'еса Міхаіла Барценьева паводле вядомай усім казкі пра ваўка і семярых казлянят. Напрыканцы гісторыі Воўк, які павінен быў пацярпець паразу, як і належыць злодзею, узяў ды ажаніўся з Казой. Добра, назавём гэта прапагандай сямейных каштоўнасцей. Але мозг усё роўна адмаўляецца разумець такі шлюб (Каза выйшла за Ваўка, які хацеў з'есці яе дзяцей?!). Гэта сапраўднае руйнаванне сістэмы казачных вобразаў, якая ўжо склалася ў дзяцей. Зруйнавалі, але што пабудавалі?

**Форма** некаторых спектакляў вельмі ўзрадавала, а некаторых — наадварот, засмуціла. Чаго толькі не навыдумлялі эстонцы. І маскі з маленькімі шчылінкамі для вачэй, і сімвалы (драўляны карабель), і пластычная праца з тканінамі (пры дапамозе тканіны і сваіх целаў акцёры стваралі ўсе дэкарацыі)… Вочы здзіўляліся і радаваліся ад такога тэатральнага мыслення. Увогуле, для калектываў, якія прыехалі з Еўропы, сучасная тэатральаная форма — норма, інакш яны тэатр не ўяўляюць.

У спектаклях з Азербайджана і Расіі шмат «пабытавых» дэкарацый. Многія з іх — мёртвыя: стаяць на сцэне непрывабным грузам, не дапамагаюць акцёрам, не граюць сваю ролю. Праблема, здаецца, у рэжысёры. Мабыць, пасля прагляду спектакляў форуму маленькія выканаўцы змогуць прысніць пастаноўку ў іншай эстэтыцы.

**Шчырасцю** на «Кроках» падкуплялі амаль усе. Мужчынскую ролю Султанбека дзяўчынка грала так, што ўпэўніць у яе полавай прыналежнасці магла толькі праграмка.

Зрабіць шчырасць праблемай могуць толькі дарослыя, якія часцей выкарыстоўваюць пугу, а не пернік. Нават найлепшыя фантазёры могуць спачатку пужацца сцэны і незнаёмцаў у зале. У такім выпадку рэжысёр можа пайсці двума рознымі шляхамі. Першы — пернікавы, без крыкаў і загадаў. Рэжысёр можа стварыць сямейную атмасферу ў сваёй студыі, якая дапаможа маленькім выканаўцам пераадолець страхі. Я паразмаўляла з многімі маленькімі выканаўцамі. Сапраўды, яны «адзін за ўсіх і ўсе за аднаго» не толькі на сцэне. Гэта «сямейны» дух дзіцячых тэатраў дапамагае ім пераадольваць боязь сцэны і ўсім разам улюбляцца ў тэатр.

Калі ж рэжысёр вырашае вучыць пугай, на сцэне мы сустракаем дзяцей, якія жывуць у ролі, выконваюць усе патрэбныя дзеянні, размаўляюць з іншымі персанажамі, як робаты, — абы толькі потым не было праблем, каб сысці з гэтай незразумелай сцэны як мага хутчэй. Навошта Сава з рускага музычнага спектакля ўвесь час апантана махала крыламі? Дзяўчынка схапілася за гэты жэст як за саломінку-выратаванку, ёй было няёмка ў сваёй ролі. Дзе ж тут асалода ад тэатра? Дарэчы, кіруе студыяй жанчына з камандным голасам і вачыма благога паліцэйскага. Чула, як яна размаўляла са сваімі выхаванцамі. Жах! Што застанецца пасля такой муштры ў дзяцей? Наўрад ці любоў да тэатра.

А вось яшчэ адна праблема шчырасці. Дзіўна, але некаторыя дзеці ўжо адчулі «зорную хваробу». «Зорак» я сустрэла не ў шумлівым рускім калектыве, не ў працавітым азербайджанскім, не ў сур'ёўным эстонскім… Адзначыліся нашыя. У размовах з аднагодкамі і нават у размовах з журы. Многія студыі (і не толькі тэатральныя) накіраваны на тое, каб вырасціць паспяховых, лепшых дзяцей, сапраўдных «зорак». Гэта нейкі трэнд XXI стагоддзя, але ж ці месца яму ў тэатры?

***Фота Вольгі ЗУБЕНКА***

*Маргарыта ДЗЯХЦЯР*
**maladost@zviazda.by**

# ТЫ МНЕ ВЕРЫШ?

Людзі бываюць такімі безабароннымі і такімі прыгожымі, і такімі безабаронна прыгожымі, і такімі прыгожымі ў сваёй безабароннасці. Такімі былі Раіса і Ёні ў стужцы з Фінляндыі «Яны збеглі» Ю.-П. Валкеапяя.

Фільм дэманстраваўся ў кінатэатры «Мір» у рамках фестывалю «Паўночнае ззянне». Не тое каб я адразу вылучыла гэтую стужку з іншых, але мяне заінтрыгавала афіша: на ёй неверагодна прыгожы лес з сакавітай травой, на якой сядзяць адзін насупраць аднаго хлопец з галавой аленя і дзяўчына ў скуры мядзведзя. Цікава, пра што гэты фільм?

Кажуць, што ў кожнага фільма ёсць колер. Часцей за ўсё жоўты або сіні — цёплы ці халодны. У гэтай стужкі няма ніводнага з абодвух колераў, бо ёсць свой, асабісты. Калі б колер азначаў, наколькі аптымістычны фільм, я б ацаніла «Яны збеглі» на 10 балаў аптымістычнасці. Такіх яскравых і прыгожых колераў у кіно я не бачыла з часоў «Шэрбурскіх парасонікаў». Але першае ўражанне, вядома, падманлівае.

Раіса і Ёні жывуць у рэабілітацыйным цэнтры для праблемнай моладзі. Банальна параўноўваць герояў з агнём і вадой, але так і ёсць: яна падобна да запалкі, якой не патрэбна вялікага полымя, каб разгарэцца, досыць іскрынкі. А ён — спакойны як вада, трава, марскі брыз. Ён празрысты і ціхі. Безумоўна, яны павінны сысціся.

У галаве Раісы круціліся вар'яцкія думкі збегчы з цэнтра, а Ёні яе падтрымаў. Яны збеглі на яго машыне. Тут і пачынаецца цікавае. Для чалавека, які ніколі ў жыцці не дазволіў бы сабе парушыць якія-небудзь законы, гэты фільм падасца немагчымым для прагляду, бо законы ў ім парушаюцца кожны момант: дзеці адчуваюць свабоду, якой ім мала. Яны глядзяцца арганічна: Раіса — з белымі валасамі, заўсёды нафарбаваная ярка-ружовай памадай, у светлым адзенні (не лепшы варыянт для чалавека, які хоча збегчы), Ёні — прыгожы хлопец з фарфоравай скурай і вачыма-азёрамі (Фінляндыя!). Усё, што ёсць на экране, — сакавітае, іншае слова проста немажліва падабраць.

Дзеці збеглі, яны едуць да Раісінай бабулі. Грошай у іх няма, паліва хутка скончыцца, ежы няма таксама. Што рабіць тым, каму няма чаго губляць? Рабаваць у крамах, напрыклад. Плысці на лодцы, якую таксама скралі. На выспе іх чакае казачны дом — напэўна, чыёсьці лецішча, а там — падполле з усім на свеце. Пашчасціла, так бывае. І яны ні ў чым сабе не адмаўляюць — ні ў алкаголі, ні ў іншых забароненых рэчывах…

Раптам Раісе з Ёні робіцца добра, так немагчыма добра, што яны апранаюць скуры жывёл і пачынаюць бегаць па лесе. Зноў прыгожыя колеры, зноў невыносная сакавітасць. Ёні падае ў прадонне вачэй Раісы, якія становяцца зорным небам, а Раіса падае ў бездань яго вачэй колеру восеньскага лесу. Рамантыка, жывёльная пяшчота. Сапраўдная гісторыя кахання.

Але такія гісторыі, звязаныя так ці інакш са злачыннасцю, звычайна добра не заканчваюцца. Не выключэнне і гэтая. Хутка колеры ў стужцы зменяцца, а гледачы атрымаюць не меладраму, на якую прыйшлі, а драму з элементамі хорара. Неверагодна хутка перататасоўваюцца падзеі, руйнуюцца жыцці Раісы і Ёні, лёс бярэ плату за ўсё зробленае.

У фільме ёсць моманты, калі хочацца збегчы з залы, але сюжэт настолькі цікавы, што не даеш сабе рады.

Крыху здзівіла штучнасць пастаноўкі: памада Раісы, колер якой не сыходзіў з яе вуснаў ні на імгненне; Ёні, які ніколі і ні пра што не пытаецца, а толькі спрыяе казачнасці атмасферы. Раіса лічыць сябе дарослай, кажа: «Людзі думаюць, што яны ўсё ведаюць», думаюць, што яна нікога ніколі не кахала і не збіраецца. Не кажы «гоп».

«Яны збеглі» вельмі ўдала. Стужка ўдала знята, а ЯНЫ ўдала збеглі. Сапраўды ўдала збеглі. Уцяклі ад усяго свету, так шмат згубілі, але так шмат знайшлі.

*Леанід ЛАЎРЭШ*

# ШТОДЗЁННАЕ ЖЫЦЦЁ ПАВЯТОВАГА ГОРАДА ЛІДА Ў 1915—1918 ГАДАХ

***Паводле віленскай беларускай газеты «Гоман»***

У маі 1915 года пачаўся нямецкі наступ на рускім Заходнім фронце і немцы акупавалі Заходнюю Беларусь. 22 верасня 1915 года нямецкія войскі занялі Ліду.

Homan («Гоман») — беларуская грамадска-палітычная і літаратурная газета, выдавалася з 15 (28) лютага 1916 года да канца 1918-га ў Вільні на беларускай мове з дазволу акупацыйных германскіх улад. Выходзіла 2 разы на тыдзень лацінкай і кірыліцай (з 1.09.1916). Першым рэдактарам быў В. Ластоўскі, з № 33 (125) 1917 года — Я. Салавей. У рубрыцы «З усяго краю» газета друкавала разнастайную інфармацыю пра жыццё беларускіх гарадоў і мястэчак, у тым ліку і горада Ліда.

На акупаваных землях была арганізавана акруга Обэр-Ост (Ober-Ost). Лідскі павет для больш надзейнага кантролю за тэрыторыяй быў падзелены на чатыры меншыя: Лідскі, Радуньскі, Васілішскі і Шчучынскі.

## ПАЎСЯДЗЁННАЕ ЖЫЦЦЁ, КУЛЬТУРА, АДУКАЦЫЯ

Першая беларуская школа ў зоне Обер-Ост была адкрыта 13 лістапада 1915 года ў Вільні на Юр’еўскай вуліцы дзякуючы намаганням нашай зямлячкі А. Пашкевіч (Цёткі) і Б. Пачобкі.

На пачатку сакавіка 1916 года газета «Гоман» паведаміла, што нямецкі галоўнакамандуючы ўсходнім фронтам Гіндэнбург выдаў загад пра арганізацыю школ. Сярод іншага ў дакуменце гаворыцца: «*Беларуская мова, як адменная ад расейскай, дапускаецца да ужытку без ніякіх перашкод. Аб навуцы рэлігіі сказана, што яна павінна выкладацца ў матчынай мове вучняў, — значыць, у тэй мове, у якой бацькі гавораць з дзяцямі*»[1].

Найважнейшай праблемай быў недахоп настаўнікаў, большай часткаю мабілізаваных ці эвакуіраваных у Расію. Аднак беларусы скарысталіся з загаду Гіндэнбурга і ў лістападзе 1916 года газета паведаміла, што ў Лідзе *«для тутэйшых настаўнікаў і настаўніц наладжаны педагагічныя курсы. На іх пакуль што вучыцца 26 душ»*[2].

Верагодна, самай вядомай беларускай школай, арганізаванай у тыя часы, была школа ў вёсцы Збляны. У 1914 годзе ў Зблянах згарэў будынак старой школы і да пачатку Першай сусветнай вайны сяляне атрымалі страхоўку ды купілі будаўнічыя матэрыялы. Пры канцы 1915 года новы будынак быў узведзены, а вяскоўцы, скарыстаўшыся сваім правам, адчынілі беларускую школу. Яна існавала тут да сярэдзіны 1920-х[3].

Улады Обэр-Оста прынялі рашэнне адкрыць беларускую настаўніцкую семінарыю ў Свіслачы, дзе на месячных курсах павінны былі атрымаць падрыхтоўку новыя кадры. Цяжка аказалася знайсці выкладчыкаў, таму заняткі ў семінарыі пачаліся толькі 15.10.1916 і працягваліся да 15.11.1918. Дырэктарам семінарыі быў анямечаны сілезец Бэндзеха, а выкладчыкамі Б. Пачобка і Квяцінскі, часова — прафесар Рудольф Абіхт з Вроцлаўскага ўніверсітэта. У выніку тут атрымалі падрыхтоўку 144 настаўнікі беларускіх школ[4].

[1] Homan № 8, 10 marca 1916.

[2] Homan № 79, 14 listapada 1916.

[3] «Беларуская Ніва». № 17 (30), 27 лютага 1926 г.

[4] http://www.belhistory.com/be/deutcshe_belarus_1917.html.

У Свіслачы вучылася і моладзь з Лідчыны: *«У тутэйшай беларускай вучыцельскай семінарыі навукі ідуць поўным ходам. Работа ідзе ахвоча, бо ўсе курсісты — гэта шчырыя беларусы, сыны беларускай вёскі, з'ехаўшыеся з розных ваколіц: з-пад Васілішак, Плянт, Гродна, Беластока і г. д. Хаця курс навук толькі трохмесячны, аднак пры акуратна наладжанай рабоце яго праходзяць як мае быць, і ў снежні месяцы вучні пачнуць практыку ў адкрытай пры семінарыі пачатковай беларускай школе. У семінарыі варункі навукі надта выгодныя. Вучні жывуць у самой семінарыі і маюць тут поўнае ўтрыманне. Кормяць добра: на абед ёсць мяса, а на вячэру даюць гарачую страву. І за гэта — разам з платай за вучэнне — бяруць з іх у месяц 41 марку, за увесь курс — 123 маркі. Гэткія грошы лёгка можа сабраць кожная вёска ці грамада і за гэта можа выхаваць сабе свайго настаўніка — аднаго паміж сваіх сыноў, абы ён скончыў народную школу. 1 лютага курс навукі будзе закончаны і пачнецца новы курс, на каторы можна запісацца. Хай жа людзі загадзя падумаюць аб тым, каб сваіх дзяцей выправіць на навуку і гэтак зусім невялікім коштам даць ім магчымасць зарабіць сабе на хлеб і служыць свайму народу»*[1].

На пачатку 1917 года паведамлялася пра новы набор у семінарыю: *«Запісвацца на новы трохмесячны курс у Свіслацкай Беларускай Вучыцельскай Сэмінарыі, каторы пачнецца 1 лютага, трэба ў Вільні не пазней за 10 студзеня ў Stadschulrata, Дамініканская 3, пакой 55. Варункі навукі: за навучанне — 5 марак у месяц, за поўнае ўтрыманне — 36 м., разам 41 м. у месяц і за увесь курс 128 м. Плаціць можна памесячна — напярод. Хто хацеў бы ехаць вучыцца з вёскі, можа заявіць аб гэтым у сваім Крэйсамце (Kreisamt — павет), дзе яму дадуць усе патрэбныя ведамасці»*[2].

На пачатку 1917 года *«Галоўнакамандуючы на Усходзе адведаў лідскія школы»*[3], што сведчыла пра цікаўнасць акупацыйных улад да сістэмы адукацыі.

[1] Homan № 85, 5 śnieźnia 1916.

[2] «Гоман». № 2, 5 студзеня 1917.

[3] «Гоман». № 15, 20 лютага 1917.

У лістападзе 1916 года «Гоман» перадрукаваў з нямецкай Ковенскай газеты «Kownaer Ztg.» артыкул, у якім, хоць і з недакладнасцямі, падавалася гісторыя нашага горада. Я думаю, будзе цікава прывесці змест артыкула цалкам:

*«Ліда — гэта адзін з найбольш старых гарадоў Краю. Ад пачатку горад і ваколіцы былі незалежным удзельным княствам князёў Дайноўскіх. У 1180 годзе заваёваны літвінамі, якія зруйнавалі горад і адбудавалі новую Ліду. Ліда была памежным горадам паміж Літвой і Руссю. У 1242 гаду да Ліды дайшлі манголы, але былі разбіты. У 1326 г. вялікі князь Гедымін пабудаваў мураваны замак. Ягайла дараваў горад свайму улюбёнцу Вайдылу. У 1381 года горад заваяваў князь Вітаўт з дапамогай немца Конрада Валенрода, узяў і зруйнаваў горад. У 1394 г. горад ізноў быў зруйнаваны крыжакамі. У часе войнаў паміж маскалямі і Рэччу Папалітай Ліда не раз цяжка пацярпела. Гэтак яе зусім зруйнаваў у 1659 г. князь Хаванскі. У 1702 г. шведы ўзарвалі лідскі замак. Гарадскі архіў перавезлі ў Смаленск, дзе ў 1812 г. ён згарэў. У 1795 г. горад далучаны да Расеі. Ад 1802 г. горад належаў да Гродненскай губерні. У 1842 г. Ліду зрабілі павятовым горадам і далучылі да Віленшчыны. Герб Ліды, засведчаны ў 1845 г., складаецца з двух частак: у верхняй частцы — герб Віленскай губерні, у ніжняй — на зялёным полі сноп і серп, як знак,*



*Яўрэйская бясплатная кухня для бедных.*

*што ў ваколіцах Ліды жыхары займаюцца пераважна гаспадаркай»*[1].

Вывучэнне гісторыі нашага краю падчас нямецкай акупацыі ў Першую сусветную вайну толькі пачынаецца і нам цяжка ўявіць паўсядзённае жыццё жыхароў горада. Таму, я думаю, будзе цікава прывесці некалькі навін з культурнага жыцця горада ў тыя часы.

На пачатку жніўня 1917 года газета паведаміла, што *«ад 1 да 3 жніўня тут іграў нямецкі тэатр з Берліна»*[2]. Праз некалькі тыдняў хтосьці з лідзян пісаў у газету: *«Тутэйшае жыццё пры цяперашніх цяжкіх варунках праходзіць даволі разнастайна і весела. Ад часу адбываюцца нямецкія і яўрэйскія спектаклі, канцэрты і іншыя забавы, у тым ліку нядаўна ў гарадскім садзе адбыўся "дзень кветкі". У кастрычніку тут адбудзецца з'езд нямецкіх вайсковых пастараў»*[3]. 4 верасня 1917 года газета пісала, што ў Лідзе *«на кароткі час адкрыта нямецкая ваенная выстаўка»*[4]. А 14 верасня таго ж года невядомы аўтар падсумоўваў вынікі культурнага жыцця горада за некалькі тыдняў: «*Аб тутэйшым жыцці можна судзіць паводле адбыўшыхся адна за аднэй урачыстасцях, як публічнае гулянне, выстаўка штукарства, сход спевакоў і свята спорту. На выстаўцы можна было пабачыць каля 800 экспанатаў»*[5].

### ГАНДАЛЬ, ЭКАНОМІКА

Жыццё пад акупацыяй у прынцыпе не можа быць добрым. Яшчэ Напалеон сказаў: «Вайна павінна сама сябе карміць». Таму любая акупацыйная ўлада заўжды будзе карыстацца рэсурсамі занятай тэрыторыі для сваіх мэт, ужываючы для гэтага розныя механізмы: ад рабавання да выпрацоўкі складаных механізмаў эксплуатацыі праз гульню з курсам валюты, якая адмыслова ўводзіцца на акупаваных тэрыторыях.

На нашай зямлі адначасова з акупацыйнымі маркамі выкарыстоўваліся і старыя царскія рублі, курс на якія ўстанаўліваўся адміністрацыйна. Напрыклад, у жніўні 1916 года «Гоман» інфармаваў: *«Курс рубля. Афіцыйны курс — 1 марка 75 пф., у банках на рубель пры продажы даюць 1 марку 89 пф., пры куплі 1 марку 93 пф.»*[6].

Акупацыйныя ўлады стрымлівалі інфляцыю на занятай тэрыторыі праз механізм замарожвання цэн. Практычна адразу яны пачалі рэгламентаваць кошт харчовых тавараў: *«Цана на яйкі. Цэны на яйкі за апошні час шмат перавысілі ўстаноўленую найвышэйшую цану. Найвышэйшая цана ўстаноўлена ў 15 пфенігаў за адно яйцо, і толькі ў асаблівых выпадках дазволена браць 18 пфенігаў за штуку. Тым часам гандляры ніколі не бяруць меней 20 пфенігаў»*[7]. *«Найвышэйшая цана на новую бульбу ў ... назначана 5 марак за цэнтнер»*[8]. «*Назначаны цэны за хлеб: за 1 расейскі фунт хлеба 15 пф. або 8 кап., за 1 расейскі фунт мукі 20 пф., або 10,5 кап.»*[9].

Табачныя вырабы падчас вайны з'яўляюцца «стратэгічным таварам», таму *«ў межах Обэр-Ост усе папяросы паводле цэн будуць разделены на 10 груп: па 2, 2½, 3, 3 8/10, 4 3/10, 5, 6½, 8, 10½ і 12½ пф.»*[10].

Тое самае тычылася і мёду: «*Увесь мёд, сабраны сёлета, павінен быць здадзены нямецкім уладам за плату 2 маркі за нямецкі фунт. Інакш яго будуць канфіскоўваць»*[11].

Кошт тавараў на Лідскіх рынках газета не друкавала, але, зразумела, што яны павінны былі быць трошкі ніжэйшымі за кошты ў Вільні, пра якія газета ў жніўні 1916 года пісала так: *«На віленскіх рынках паявілася многа свежых фруктаў. Цэны трымаюцца пакуль што высокія. Бульба, гранец 16 пф.; Галава капусты 20 пф.; Пучок морквы 23 пф.; 1 бурак 3 пф.; Яблыкі, за расейскі фунт 10 пф.; Грушы, за расейскі фунт 30 пф.; Вішні, за расейскі фунт 30 пф.; Слівы, за расейскі фунт 30 пф.; Чарніцы, кварта 25 пф.; Брусніцы, кварта 10 пф.»*[12].

[1] Homan № 80, 17 listapada 1916.
[2] «Гоман». № 62, 3 жніўня 1917.
[3] «Гоман». № 68, 24 жніўня 1917.
[4] «Гоман». № 71, 4 верасня 1917.
[5] «Гоман». № 74, 14 верасня 1917.
[6] «Гоман». № 62, 15 верасня 1916.
[7] Homan № 48, 28 lipienia 1916.
[8] Homan № 48, 8 żniúnia 1916.
[9] Homan № 65, 26 wierasńia 1916.
[10] «Гоман». № 61, 31 ліпеня 1917.
[11] «Гоман». № 81, 9 кастрычніка 1917.
[12] Homan № 56, 25 żniúnia 1916.

Цвёрда рэгулявалася праца рынкаў і крам: *«Усе крамы і публічныя месцы продажу ... павінны аставацца аткрытымі ў гэткія дні: у-ва ўсе будні, нядзелі і святочныя дні ад 8 гадзін раніцы да 5 гадзін вечара. Іх можна дзяржаць аткрытымі да 8 гадзін вечара»*[1].

У сакавіку 1916 года газета пісала: *«Немцы забаранілі продаж спіртных напояў, нават піва: тутэйшыя бровары... маюць права прадаваць сваё піва толькі ваенным атрадам, ваенным крамам, прытулкам і паадзінокім ваенным. Некаторыя тутэйшыя рэстараны маюць права атрымоўваць з брагай піва, але толькі дзеля продажу ваенным. За парушэнне гэтага прыказу накладаецца вялікая кара — грошамі ці астрогам»*[2]. Верагодна, таму ў Лідзе *«ў быўшым бровару... пачала працаваць фабрыка грыбных кансерваў. На ёй працуе больш, за 120 жанчын і дзяўчат»*[3], тым больш, што *«з-за дажджоў сёлета незвычайна ўрадзілі грыбы»*[4].

Летам 1917-га выданне паведамляла, што *«цяпер у межах Обэр-Ост працуюць 600 млечарань рознай велічыні. Цэны на масла будуць павялічвацца з 250 да 300 марак за цэнтнер. Пастаўшчыкі малака будуць атрымліваць за сваё малако вышэйшую цэну, каб павялічыць дабыванне малака»*[5].

## ЗЛАЧЫННАСЦЬ, НЯШЧАСНЫЯ ВЫПАДКІ

Як і заўжды, падчас вайны вырасла злачыннасць.

Раз за разам адбываліся рабункі з забойствам ахвяры, 4 ліпеня 1916-га газета паведаміла, што *«яўрэй — купец Гірш Сэрванскі ў панядзелак пасля Тройцы забіты і абрабаваны па дарозе з Ліды ў Жырмуны. Забойцаў, як здаецца, было трое. Улады абяцаюць узнагароду 500 марак таму, хто пакажа забойцаў»*[6].

Некалькі разоў газета пісала пра забойства Люцыяна Габрылеўскага, якое адбылося ў Лідскім павеце. У выніку акружны суд у Гродне прыгаварыў забойцу *«землякопа Захара Рамашку за рабунак і душагубства... на смерць. 24 чэрвеня ён забіў і абрабаваў гаспадарскага сына Люцыяна Габрылеўскага на дарозе з Эйшышак у Бутрыманцы»*[7]. На пачатку кастрычніка газета паведаміла, што асуджаны на смерць за забойства землякоп Захар Рамашка, родам з-пад Радуні, *«ужо пакараны смерцю»*[8].

У кастрычніку 1916-га забойства адбылося ў вёсцы Вольжава, што каля Ліды. Жыхар гэтай вёскі *«Канстанцін Мазалеўскі за душагубства і спробу забіць чалавека засуджаны на смерць»*[9]. Падчас вайны прыгаворы хутка прыводзіліся ў дзеянне, ужо 28 лістапада цікаўныя даведаліся, што *«сын селяніна Канстанцін Мазалеўскі, засуджаны гродзенскім акружным судом за забойства, павешаны ў пятніцу пасля абеду»*[10].

Канешне ж, не заўжды рабаўніцтва заканчвалася забойствам. У верасні «Гоман» расказаў такую крымінальную гісторыю: *«У двух яўрэяў з Ліды з пасвішча ўцяклі дзве каровы. Іх знайшлі ў Радунскім павеце. Па дарозе да хаты каля Кербядзёў іх затрымалі два невядомыя і запатрабавалі грошы. Міравы суд абодвух ліхадзеяў за гвалт засудзіў на 6 месяцаў у астрог кожнага»*[11].



*Бяруць адбіткі пальцаў.*

---

[1] Homan № 91, 25 śnieźnia 1916.
[2] Homan № 8, 10 sakavika 1916.
[3] Homan № 87, 12 śnieżnia 1916.
[4] Homan № 54, 18 żniúnia 1916.
[5] «Гоман». № 61, 31 ліпеня 1917.
[6] Homan № 41, 4 lipienia 1916.
[7] Homan № 57, 29 żniúnia 1916.
[8] Homan № 67, 3 kastrycznika 1916.
[9] «Гоман». № 72, 20 кастрычніка 1916.
[10] «Гоман». № 83, 28 лістапада 1916.
[11] Homan № 72, 7 wierasńia 1917.

Нехта пытаўся падзарабіць зводніцтвам: *«Ян Наталевіч і жонка яго, Марыя, за “зводніцтва” і распусту засуджаны: Ян — на 1 год, Марыя — на 2 месяцы ў астрог»*[1].

Здараліся злачынствы на сексуальнай глебе. У Лідзе ў кастрычніку 1916 года *«за згвалтаванне дзяўчыны гаспадар Ян Боленс засуджаны ў папраўчы дом на 1 год 4 месяцы»*[2].

Хтосьці спрабаваў падзарабіць вымагальніцтвам, у Іўі *«гандляр Мендэль Левін за вымаганне ў аднаго хлопца з Ліды грошай, пад страхам выдаць яго кражу, аб каторай Левін ведаў, засуджаны на 1½ года ў астрог»*[3].

А нехта, як селянін Даўгоўскі з вёскі Рэзы, што пад Шчучынам, помсціў сваім крыўдзіцелям. У вёсцы Рэзы *«згарэлі драўляныя свіраны Вінцэнта Пачука і Фелікса Рачука. Западозрылі селяніна Даўгоўскага, каторы, як думаюць, падпаліў, каб помсціць старасце Вінцэнту Пачуку. Яго чакае кара смерці»*[4].

Агульнавядомага ў Лідзе і раней судзімага расійскай уладай Яна Боландзя не абышлі бокам і акупацыйныя ўлады: *«Ліда. За ўкрывальніцтва стрэльбы і медзі. Упраўляючы Ян Боландзь засуджаны акруговым судом за гвалт і ўзлом, таксама судзіўся за ўкрыванне паляўнічай стрэльбы і незаяўку меднага посуду, які знайшлі схаваным у хляву. Ён засуджаны на 5 гадоў папраўчых работ»*[5].

Пад акупацыяй, як і ў мірны час, сяляне пакутавалі ад канакрадаў. У лістападзе 1916 года газета паведамляла вось што: *«Ліда. Шавец Міхал Запаснік з Кербядзёў, работнік Юрка і 67 гадовы Хацкель Радунскі ўкралі 4-х канёў з пасвішча. Першых двух засудзілі на 4 года ў астрог, трэцяга, з-за недахопу доказаў, апраўдалі»*[6]. Праз год «Гоман» піша, што ў лідскіх *«ваколіцах зноў узняліся крадзяжы коней, якіх пасля за бясцэнак перапрадаюць далей. Трэба напомніць, што гэткія куплі вызываюць не толькі канфіскацыю коней, але і высокія штрафы грашыма»*[7]. Улады на самай справе наказвалі не толькі злодзеяў, але і тых, хто пакваліўся на таннага каня: *«Гандляр рыбай Шварц купіў двух коней хоць ведаў, што яны крадзеныя, і паехаў прадаваць у Гародню. Яго засудзілі на 1000 марак штрафу або 100 дзён астрогу. Коні канфіскаваныя»*[8].

Газета неаднаразова пісала пра з’яўленне фальшывых грошай і размяшчала аб’явы акупацыйных улад пра ўзнагароды тым, хто дапаможа выявіць фальшываманетчыкаў, аб’ява жніўня 1917 года: *«1000 марак нагарады. Галоўнае ўпраўленне пазыковых кас (Dariehenskassen) у Берліне суліць награду да 1000 м. таму, хто выкрые ці пакажа паліцыі на майстроў фальшывых двухмарковак, якія зноў вельмі пашыраюцца ў межах Обэр-Ост.»*[9].

Да вайны ў Радуні не было турмы, таму пасля стварэння немцамі Радуньскага павета, у 1916 годзе тут *«адчынена новая мураваная турма на 40 душ»*[10].

У канцы жніўня 1918-га гродзенская паліцыя арыштавала гастралёраў, *«злодзеяў з Ліды, якія ўжо ехалі дахаты з пакрадзеным дабром з трох крадзяжоў з узломам. Адзін з лідскіх злодзеяў — хлопец 14 гадоў»*[11]. А ў кастрычніку з гродзенскай турмы ўцёк канакрад, пра якога напісана вышэй, жыхар Ліды *«шавец Міхал Запаснік, 18 гадоў, з Зарэчнай вуліцы, 14. Яго шукае беластоцкі акружны суд»*[12].

Здаралася і такое: *«Радунь. 17 лістапада, нямецкія патрулі затрымалі банду з 15 чалавек. Пры спробе ўцячы ўся банда была знішчана»*[13].

Узімку 1918 года газета паведаміла, што па дарозе Ліда — Гродна, каля Новага Двара, *«конь, спужаны аўтамабілем, панёс і разбіў санкі аб тэлеграфны слуп. Міліцыянт Якабсан зваліўся з санак і папаў пад аўтамабіль, каторы яго задавіў на смерць»*[14].

---

[1] Homan № 52, 11 żniúnia 1916.
[2] «Гоман». № 71, 17 кастрычніка 1916.
[3] Homan № 53, 15 żniúnia 1916.
[4] «Гоман». № 73, 24 кастрычніка 1916.
[5] Homan № 77, 7 listapada 1916.
[6] Homan № 81, 21 listapada 1916.
[7] «Гоман». № 75, 18 верасня 1917.
[8] Homan № 70, 6 wieraśnia 1918.
[9] «Гоман». № 60, 28 жніўня 1917.
[10] Homan № 81, 21 listapada 1916.
[11] «Гоман». № 68, 30 жніўня 1918.
[12] «Гоман». № 78, 4 кастрычніка 1918.
[13] «Гоман». № 94, 29 лістапада 1918.
[14] Homan № 6, 18 studnia 1918.

4 студзеня 1918-га паведамлялася: *«Шчучын. 4 студня ў вечары замак кн. Сапегі ў Спушэновай, каторы называўся Тарак, згарэў да тла з усімі рэчамі. Удалося вьгратаваць толькі некалькі рэчаў. Агонь ад пажару адбіваўся на хмарах у форме крыжа. Народ пераканаиы, што гэта знак скорага міра»*[1]. Верагодна, першай пабудовай у закапанскім стылі на гістарычнай Лідчыне быў сядзібны дом Сапегаў у Спушы (сучасны Шчучынскі раён). Дом пачаў будаваць у канцы XIX стагоддзя Ян Павел Аляксандр Сапега, будаўніцтва закончыў яго сын, Яўстафі Каэтан Сапега. Сядзіба складалася з пяці жылых пабудоў, аранжарэі, стайняў, цяпліц, галоўны дом неаднаразова дабудоўваўся і паляпшаўся. Сядзібны дом Сапегаў у Спушы быў найбольш цікавым будынкам у закапанскім стылі на Лідчыне.

## АДМІНІСТРАЦЫЯ, КІРАВАННЕ ТЭРЫТОРЫЯЙ

Восенню 1916 года яўрэйская грамада горада арганізавала сталовую для сваёй беднаты, так званую «Народную кухню»: *«Ліда. Тут з дапамогай нямецкай улады яўрэйская грамада адкрыла страўню, каторая выдае 700 абедаў у дзень. Палову абедаў выдаюць дарма, за другую бяруць па 10 пфенігаў»*[2]. «Народная кухня» знаходзілася на рынкавай плошчы горада, захавалася некалькі паштовак з яе выявамі.

Адкрылася сталовая і ў Радуні: *«Яўрэйскі камітэт адкрыў народную страўню, у якой бедныя людзі на 10 пфенінгаў дастаюць дзве талеркі пажыўнай супы»*[3], і рыхтавалася да адкрыцця ў Эйшышках: *«Для наладжання тут народнай страўні, каторая не мае патрэбных грошай, збіраюцца ахвяраванні»*[4].

У лістападзе 1916-га выданне паведамляе, што *«пасля перапісу жыхароў у Лідскім, Мерачскім, ...паветах, для жыхароў гэтых паветаў мае сілу прыказ мець пры сабе пашпарт»*[5]. Насельніцтву акупаваных абшараў немцы выдавалі пашпарты (пасведчанні асобы), прыгодныя нават для міжнародных падарожжаў. Цікава, што гэтыя пасведчанні змяшчалі адбіткі пальцаў. У калекцыі аўтара ёсць паштоўка часоў Другой сусветнай вайны, на якой жыхары горада Ліда здаюць адбіткі пальцаў для атрымання пашпартоў. Менш вядома, што ў бланку гэтых эрзац-пашпартоў была таксама беларуская мова лацінкай у класічным правапісе. Пра гэта беларусам напамінаў «Гоман»: *«Так званыя пашпарты Обэр-Ост выдаюцца і ў беларускай мове. Беларусы павінны вымагаць, каб ім выдавалі беларускія пашпарты. Як нам наказваюць яшчэ дагэтуль, не ўсе беларусы ведаюць, што ёсць беларускія пашпарты*»[6].



*Раздача супу.*

У лістападзе 1916 года на тэрыторыі гістарычнага Лідскага павета ў Эйшышках *«каралеўска-прускі мецеаралагічны інстытут устроіў тут невялікую абсерваторыю дзеля нагляду за пагодай»*[7].

Зіма 1917-га была вельмі суровай і снежнай. Улады рабілі намаганні для расчысткі дарог: *«Радунь. Тут былі сільныя снежныя заносы. Дарогі зрабіліся не праезджанымі. Загаданы адпаведныя крокі дзеля іх расчысткі»*[8]. Але ў Радуні *«ачысцгы дарог ад снегу вельмі шкодзіць вецер, які ўраз*

[1] Homan № 5, 15 studnia 1918.
[2] «Гоман». № 61, 11 верасня 1916.
[3] Homan № 82, 24 listapada 1916.
[4] Homan № 89, 19 śnieźnia 1916.
[5] «Гоман». № 76, 3 лістапада 1916.
[6] «Гоман». № 83, 22 кастрычніка 1918.
[7] «Гоман». № 83, 28 лістапада 1916.
[8] «Гоман». № 6, 19 лютага 1917.

*жа заносіць ачышчаныя дарогі»*[1]. *«Ліда. Даносяць аб снежных мяцеліцах у Лідскім павеце. Дарогі гэтак занесены снегам, што па іх немагчыма праехаць. Іх цяпер расчышчаюць»*[2]. У сувязі з моцнымі маразамі лідскія гарадскія ўлады спрабавалі дапамагчы бедным: *«з прычыны вялікіх халадоў гарадская ўправа выдала бедным 475 кубічных метраў дроў»*[3].

У гэту ж зіму дапамагаць беднаце пачалі і акупацыйныя ўлады: *«Ліда. Вялікую падмогу для тутэйшай беднаты дае публічная страўня. Порцыя абеду каштуе толькі 10 пфенігаў. Галоўнакамандуючы арміяй аддаў на яе вялікую часць даходу з кінематографаў. Ад 25 чэрвеня да 31 снежня выдана ўсяго 67 тысяч порцый стравы, у тым ліку каля 15 тысяч без ніякай платы»*[4]. Ёсць паштоўка, на якой нямецкія жаўнеры раздаюць суп тым жыхарам горада, якія мелі ў гэтым патрэбу.

У ліпені 1917-га выданне даводзіць да жыхароў акупаваных тэрыторый загад нямецкага галоўнакамандуючага пра тое, *«як тутэйшыя жыхары павінны ставіцца да варожых летуноў. За не спаўненне яго караціму ць штрафам да 10 000 марак або астрогам на 5 гадоў. Загад забараняе падыходзіць да спусціўшагася сваёй ахвотай ці проці волі варожага лятуна, апроч выпадкаў, калі трэба памагчы пагібаючаму лятуну ці выратаваць яго машыну ад знішчэння. За даванне варожым летунам якіх-кольвечы знакаў вінаватых будуць аддаваць пад суд за здраду гасударству»*[5].

Летам 1917 года нямецкі імператар Вільгельм II наведаў фронт: *«Крэва. 30.VII. Нямецкі імператар быў сёння на фронце Смаргонь — Крэва і дзякаваў войску за адбіццё апошніх штурмаў расейцаў. Шмат каму з адзначыўшыхся салдат імператар сам даў жалезныя крыжы»*[6].

Нумар «Гомана» ад 9 кастрычніка 1917 года піша пра тое, што ў Лідзе *«на сёмую пазыку падпісана дагэтуль на 6 900 марак»*, гэты ж нумар друкуе некралог па Максіму Багдановічу[7], а ў нумары ад 9 лістапада паведамляецца пра рэвалюцыю ў Пецярбургу[8].

У снежні 1917 года ў ваколіцах Ліды *«аб'явіліся ваўкі. На статак ... напалі ваўкі і зарэзалі свінню»*[9].

Аднак жыццё ў Лідзе працягвалася, *«ад 1 кастрычніка 1917 г. да 1 сакавіка 1918 г. тут нарадзілася 47 дзяцей ... памёрлі 124 асобы»*[10].

Нумар «Гомана» ад 3 красавіка 1918 года пад загалоўкам «Незалежная Беларусь» паведаміў: *«Сталася тое, чаго ўсім сэрцам і ўсёй душой жадае здаўна ... беларускі народ: у Менску Беларускім ... Рада Беларускай Народнай Рэспублікі ў ноч з 24 на 25 марта апавясціла дзяржаўную незалежнасць нашае Бацькаўшчыны...»*[11]. Пачынаўся адлік новай гісторыі нашай дзяржавы.

16 мая 1918 года ліквідаваны Васілішскі павет[12].

10 верасня 1918 года ў Гродне адбыўся рэгіянальны кангрэс сіяністаў, дзе сярод дэлегатаў з Вільні, Гродна, Беластока, Коўна і інш. былі і дэлегаты з Ліды[13].

Пры канцы 1918 года палітычнае становішча ў горадзе і павеце рэзка абвастрылася. Мясцовыя палітычныя фракцыі — польская, яўрэйская і ў меншай ступені літоўская — імкнуліся да таго, каб германскія акупанты пры сваім адыходзе перадалі ўладу менавіта ў іх рукі.

У снежні 1918 года міністр беларускіх спраў Літвы Язэп Варонка прызначыў «камісараў у беларускія паветы Літвы», у Лідскі павет быў прызначаны Е. Пашкевіч[14].

Пры канцы снежня 1918 года Рада Народных Міністраў Беларускай народнай рэспублікі прызначыла міравых суддзяў, якія

[1] «Гоман». № 16, 23 лютага 1917.
[2] «Гоман». № 15, 20 лютага 1917.
[3] «Гоман». № 16, 23 лютага 1917.
[4] «Гоман». № 16, 23 лютага 1917.
[5] «Гоман». № 61, 31 ліпеня 1917.
[6] «Гоман». № 62, 3 жніўня 1917.
[7] «Гоман». № 81, 9 кастрычніка 1917.
[8] Homan № 90, 9 listapada 1917.
[9] «Гоман». № 97, 4 снежня 1917.
[10] Homan № 53, 9 lipnia 1918.
[11] Homan № 27, 3 kresawika 1918.
[12] Homan № 45, 4 červienia 1918.
[13] «Гоман». № 72, 13 верасня 1918.
[14] Homan № 99, 18 śnieżnia 1918.

былі ўпаўнаважаны прыняць ад нямецкіх судоў справы, дакументы, кнігі, грошы, інвентар. Яны ж былі павінны часова выконваць абавязкі судовых следчых. У Лідскі павет быў прызначаны Антон Каўшун[1].

Беларускі рух у горадзе ўзначаліў былы лідскі спраўнік, ветэран Першай сусветнай вайны, палкоўнік Яўген фон Гротэ дэ Буко[2].

У лістападзе 1918 года беларускі актывіст з Ліды Сымон Сяўрук пісаў у газету:

*«Адным з месц панскай польскай агітацыі ёсць Лідскі павет. Тут паны раз'язджаюць па вёсках і ўсякімі хітрыкамі ўмаўляюць сялян падпісвацца пад просьбамі аб прылучэнні да Польшчы і аб прысланні польскіх легіянераў. Памагаюць у гэтым і лідскія ксяндзы — палякі, дзекан і пробашч. Даходзіць навет да гэткіх здарэнняў, што, напрыклад, пушчаецца пагаласка, што дзекан выдае квіткі на дармавы хлеб. Народ кідаецца да дзекана, а дзекан пасылае іх да пробашча, каторы неграматных людзей падпісвае пад просьбай аб прылучэнні да Польшчы і г. д.*

*Уся гэтая нагодная работа балямуцтва і маны дзеецца тут заўсёды і ні кога не дзівіць. Але вось польскім панам, спалоханным рэвалюцыяй, захацелася чагось вялікшага, паны, каб змацаваць сваё панаванне над гаротным народам, пастанавілі арганізаваць "польскую раду лідскай зямлі". Каб гэта было ў іншым часе, дык паны на мужыкоў і ўвагі не звярнулі б. Але цяпер рэволюцыя і паном патрэбна была сялянская закраска. Аднак ня гледзячы на ўсе стаpанні паном удалося прыцягнуць толькі некалькіх чалавек. 10 лістапада назначана было сабранне, каб выбраць польскую раду. Сабранне адбывалася ў клябані, у дзекана. На гэтае сабранне было прыцягнена толькі каля 12 чал. сялян, а рэшта былі паны. Адкрыў сабранне кс. дзекан, каторы гаварыў аб багацці Польшчы, аб патрэбе прылучэння да яе, аб легіонерах і г.д. Як прыйшло да "выбараў" у польскую раду, то паны выставілі адразу сваіх кандыдатаў. Як прышла справа да сялян, дык не было з чаго выбіраць і захрыстыян адлічыў 8 чал. і ўпіхнуў як прадстаўнікоў ад сялян. Гэтак была ўтворана "польская рада земі лідзкей"»*[3].



*Сядзібны дом Сапегаў у Спушы.*

29 снежня 1918 года ў Лідзе быў створаны павятовы рэўкамітэт. Яго членамі сталі 9 чалавек: 5 камуністаў — Утроб (Чэхаў), Лазараў, Вацлаў Калясінскі (селянін з Ёдкаў), Адольф Сцяпанавіч Сегень (селянін вёскі Вінькаўцы), Камінскі, Камянецкі, і 4 сацыял-дэмакраты інтэрнацыяналісты. Рэвалюцыйны камітэт заняў дом беженца ў гады вайны, мясцовага купца Ілютовіча, які размяшчаўся па вуліцы Садовай. Бальшавікі захапілі склад са зброяй, якая належала мясцоваму аддзяленню літоўскай партыі — 100 вінтовак і стварылі гарадскі атрад народнай міліцыі колькасцю каля 100 чалавек, абсалютную большасць членаў міліцыі складалі лідзяне яўрэйскай нацыянальнасці.

---

[1] Homan № 101, 24 śnieżnia 1918.

[2] Лаўрэш Леанід. Яўген фон Гротэ дэ Буко — першы кіраўнік беларускага руху ў Лідзе // НАША СЛОВА. — № 12 (1111). — 20 сакавіка 2013 г.

[3] «Гоман». № 93, 26 лістапада 1918.



*Рынкавая плошча, фотаздымак з Die Woche, Jahrgang 1916 Nr. 24.*

ват камандаванне бальшавікоў прызнавала, што на тэрыторыі павета і горада адыход нямецкіх войскаў не суправаджаўся марадзёрствам і псаваннем чыгуначнай маёмасці, а наадварот, пакідаючы горад, нямецкія салдаты арганізавалі рэвалюцыйны мітынг салідарнасці з мясцовым насельніцтвам. Такія ж мітынгі адбыліся і ў шэрагу іншых населеных пунктаў Лідчыны[1].

Публікацыі ў «Гомане» даюць урыўкавае, фрагментарнае ўяўленне пра жыццё горада Ліды і павета, і з гэтых фрагментаў цяжка скласці агульную карціну. Артыкул можа разглядацца як першая спроба апісаць жыццё пад акупацыяй 1915—1918 гадоў.

Сыходзячы з горада, згодна з Берасцейскай дамовай, нямецкія войскі перадалі зброю мясцоваму Рэвалюцыйнаму камітэту. У ноч з 27 на 28 снежня 1918 года часткі германскіх войскаў пачалі пакідаць Ліду, і 3 студзеня 1920 года нямецкія войскі пакінулі тэрыторыю Лідскага павета. За тры дні праз чыгуначную станцыю прайшло больш за тры дзясяткі цягнікоў са зброяй, амуніцыяй, фуражом і іншым вайсковым абсталяваннем. Трэба адзначыць, што на-

[1] Федоров И. О. Город Лида в годы установления советской власти (1919—1920) // Ліда і Лідчына: да 685-годдзя з дня заснавання горада : матэрыялы рэспуб. навук.-практ. канф., (Ліда, 3 кастр. 2008 г.). Ліда, 2008. С. 129—133.

Мікола МІКУЛІЧ

# ЗОРНАЕ ВОДГУЛЛЕ

Дваццаць гадоў прамінула пасля таго, як пайшоў з жыцця (7 жніўня 1995 года) Яўген Іванавіч Скурко, Максім Танк, падкрэслена шчыры, дабрадушны, высакародны, сціплы, сумленны і адказны чалавек. Зусім непрэтэнцыёзны і непрагматычны.

Колькі разоў ён гаварыў мне, што хоча перапісаць паэму «Нарач», бо яна яму не ўдалася, перапрацаваць многія свае вершы, бо яны слабыя. І гэта пры тым, што паэму «Нарач» высока ацанілі айчынная і замежная (польская, руская і іншыя) крытыка і літаратуразнаўства, а пра такія «слабыя» вершы маглі б толькі марыць многія сучасныя беларускія паэты. Яўген Іванавіч неаднаразова адзначаў, што я перахваліў яго ў сваёй манаграфіі «Максім Танк і сучасная беларуская лірыка». І гэта пры тым, што кнігу вельмі прыхільна прынялі нашы спецыялісты. А чаго вартая ацэнка паэтам сваёй давераснёўскай творчасці, дадзеная ім у дзённікавых нататках «Лісткі календара». «З жахам агледзеўся, што мне мінула 27 год! — запісаў ён 29 верасня 1939 года. — А ў мяне толькі некалькі зборнікаў вершаў, сярод якіх 75 працэнтаў слабых, 20 працэнтаў — сярэдніх і толькі 5 працэнтаў — добрых. Няма чым хваліцца».

Знайдзіце сёння хоць аднаго беларускага літаратара з такімі ці падобнымі думкамі пра сябе.

Мы ведаем, што Максім Танк адмаўляўся ад пасад, якія яму прапаноўвалі: і ад пасады старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў, і ад пасады старшыні Вярхоўнага Савета БССР, і ад пасады віцэ-прэзідэнта Акадэміі навук. Адмаўляўся таму, што хацеў засяродзіцца на творчай працы, якая прыносіла яму вялікае маральнае задавальненне. Аднак сціпласць, сумленнасць і адказнасць Максіма Танка высока цаніліся рэспубліканскім кіраўніцтвам, і ў большасці выпадкаў удавалася пераканаць паэта ў неабходнасці згадзіцца з той ці іншай кадравай прапановай, а фактычна — рашэннем зверху.

Будучы галоўным рэдактарам часопіса «Полымя», Максім Танк заўсёды выкрэсліваў сваё імя з матэрыялаў, дзе яно фігуравала ў кантэксце пахвалы і кампліментаў. Лічыў, што друкаваць іх — не вельмі этычна для кіраўніка выдання. Ён саромеўся насіць свае дзяржаўныя ўзнагароды. Ніхто ніколі не чуў ад Максіма Танка, што ён з'яўляецца Героем Сацыялістычнай Працы ці акадэмікам Акадэміі навук Беларусі. «Ён быў такі, — прызнаваўся падчас адной з нашых гутарак сын народнага паэта Максім Яўгенавіч, — што ніколі ўперад не палезе, ніколі сам дзесьці ў прэзідыуме не сядзе. Гэта толькі калі абставіны вымагаюць, калі пранумараваны месцы, з указаннем прозвішчаў канкрэтных асоб…»

Максім Танк неаднойчы раіў мне пісаць пра яго не так, як пра некаторых іншых паэтаў Заходняй Беларусі, у прыватнасці, пра Валянціна Таўлая, Сяргея Крыўца, Ганну Новік, пра ўдзельнікаў народнавызваленчага руху, людзей таленавітых, сумленных і ахвярных. Ён вельмі клапаціўся пра тых, з кім некалі разам уваходзіў у літаратуру. Пра заходнебеларускіх падпольшчыкаў Яўген Іванавіч заўсёды гаварыў сентыментальна. Было бачна (ды ён і не хаваў гэтага), што яны для паэта — дужа дарагія людзі.

У Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва захоўваюцца сотні пісем да Максіма Танка ад жыхароў Беларусі (і не толькі) з просьбамі ў нечым дапамагчы, заступіцца, абараніць і г.д. І фактычна ніводнае з іх не засталося без адказу. Максім Танк не дзяліў людзей на добрых і кепскіх, дапамагаў усім, хто да яго звяртаўся.

* * *

Яўген Скурко, будучы беларускі паэт Максім Танк, нарадзіўся па новым стылі 17 верасня 1912 года ў вёсцы Пількаўшчына Вілейскага павета Віленскай губерні, у царскай Расіі. Рушыўшы разам з бацькамі падчас Першай сусветнай вайны ў бежанства, ён з 1917 па 1922 год жыў у Савецкай Расіі, у Маскве. Вярнуўшыся на Радзіму, апынуўся ў Польшчы, паколькі яго родныя мясціны знаходзіліся ў складзе Заходняй Беларусі, якая паводле Рыжскага мірнага дагавора 1921 года адышла да гэтай дзяржавы. Пасля ўз'яднання Беларусі ў 1939 годзе Максім Танк жыў у Савецкім Саюзе, а памёр у незалежнай Рэспубліцы Беларусь.

У школу малы Яўген Скурко пайшоў у бежанстве ў Маскве. Вывучаючы рускую мову і літаратуру, палюбіў творы Пушкіна, Някрасава, Гогаля, Горкага, некаторых іншых пісьменнікаў. Вярнуўшыся, працягваў вучобу ў польскіх пачатковых школах: спачатку ў Шкленікава, пасля ў Сватках. Тут ён пазнаёміўся з польскай класікай — творамі Міцкевіча, Славацкага, Сянкевіча, Ажэшкі…

Беларуская кніга ўпершыню трапіла ў рукі Яўгена Скурко толькі ў 1925 годзе. Гэта быў беларускі каляндар, у якім увагу падлетка прыцягнулі сацыяльна і патрыятычна заангажаваныя вершы Янкі Купалы.

Тое, што Максім Танк пазнаёміўся спачатку з рускай літаратурай, затым з польскай і толькі пасля з беларускай, абвастрыла ў ім пачуццё нацыянальнага. Ён развіваўся як вельмі беларускі паэт. Беларускі па тыпе мастацкай свядомасці, філасофіі творчасці, вобразным ладзе мыслення.

Яўген Скурко вучыўся ў чатырох гімназіях, аднак ніводнай з іх не закончыў: Вілейскую рускую закрылі польскія ўлады, з Радашковіцкай беларускай і Віленскай беларускай ён быў адлічаны за непадпарадкаванне адміністрацыі і ўдзел у забастовачным руху пратэсту, а падчас навучання ў Віленскай рускай пачынаючага паэта непасрэдна ў класе арыштавала польская паліцыя і кінула ў Лукішкі.

## Да паэта можа проста прыйсці Хрыстафор Калумб і сказаць яму: «Браце, а я цябе тры дні шукаў»

Парадоксы лёсу Максіма Танка заключаюцца ў тым, што ён быў народным паэтам БССР, акадэмікам Акадэміі навук Беларусі, аднак не меў не толькі вышэйшай адукацыі, але і закончанай сярэдняй. У сваёй картачцы персанальнага ўліку члена Саюза пісьменнікаў у графе «Адукацыя» паэт указаў, што ў 1954 годзе закончыў Вячэрні ўніверсітэт марксізму-ленінізму пры Мінскім гаркаме КПБ.

Максім Танк працаваў інструктарам ЦК камсамола Заходняй Беларусі, неаднаразова арыштоўваўся польскай дэфензівай і знявольваўся. У гады вайны служыў у франтавым друку, паскорана адаптаваўся да новых для яго савецкіх грамадска-сацыяльных умоў і парадкаў. Дарэчы, у канцы 1930-х гадоў былі рэпрэсаваны, высланы ў Сібір цёткі паэта па бацькавай лініі Соня і Поля з сем'ямі, якія жылі ў Савецкім Саюзе, а ў гады вайны пры нявысветленых абставінах ад рук партызан загінула малодшая сястра Вера са сваім двухгадовым сынам.

У пасляваенны перыяд Максім Танк працаваў на адказных дзяржаўных пасадах. На працягу 18 гадоў (з 1948 па 1966) паэт кіраваў вядучым беларускім літаратурна-мастацкім часопісам «Полымя», на працягу 24 гадоў (з 1966 па 1990) узначальваў вельмі аўтарытэтную на той час сацыяльна значную і ўплывовую арганізацыю — Саюз пісьменнікаў Беларусі. 24 гады (з 1947 па 1971) ён з'яўляўся дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, 20 гадоў (з 1969 па 1989) — дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР. Максім Танк працаваў старшынёй Вярхоўнага Савета БССР VI — VII скліканяў (1963 — 1971).

Такой біяграфіі не мае ніводзін пісьменнік у гісторыі новай беларускай літаратуры.

Сінтэз унікальнага чалавечага характару і мастацкага таленту абумовіў вялікія творчыя здабыткі.

Паэзія маладога Максіма Танка вызначалася экспрэсіўнасцю светаадчування, свежасцю і вастрынёй мастацкага мыслення, рамантызаваным выяўленнем суровага рэалізму часу:

Нарач, як мора, шуміць
і на бераг круты наступае,
Дыміць над выгарамі і над палямі туман.
З ветрам узняўшыся, кружыцца вывадак чаек,
Спуджаных скрыпам абозаў і звонам кайдан.

І чуваць, па-над намі
лятуць недзе гусі у вырай.
Развітальны іх крык патанае ў глухой лебядзе.
Ды балюча скрыпяць і галосяць калёсы па жвіры,
Па мядзельскім тракту
бясконцы этап наш брыдзе…

*(«Нарач, як мора…»)*

Што мы бачым у гэтым вершы? Абшары Заходняй Беларусі. Закаваных у жалезныя кайданы, дарэшты знямоглых, але не скораных палітзняволеных пад канвоем гоняць па этапе. Першая страфа — звычайны лірыка-апавядальны эцюд, а далей: «І чуваць, па-над намі лятуць недзе гусі у вырай. Развітальны іх крык патанае ў глухой лебядзе…» Ад цяжкіх дум і стомы лірычнаму герою няма як падняць вочы. Гусей ён не бачыць, а чуе. Натуральна, вобраз гусінага выраю сімвалізуе надзею, веру ў светлы пачатак. У вершы выявіліся вызначальныя рысы нашага нацыянальнага менталітэту, асаблівасці гістарычнага краявіду Беларусі.

Такой культуры перажывання і мыслення нельга навучыцца. Яе трэба выпакутаваць. Максім Танк выпакутаваў.

Яго паэзія 1930-х — гэта паэзія чорных скібак, шурпатых далоняў, незагойных ран, гневу і бунту. Характэрная летуценнасць, душэўная высакароднасць спалучаліся ў ёй з наступальнай бескампраміснасцю.

На поўную сілу творчая індывідуальнасць Максіма Танка раскрылася ў пасляваенны перыяд.

У 1960—1980 гады паэт сцвердзіў у беларускай літаратуры такія ідэйна-мастацкія напрамкі, як паэтызацыя спаконвечных зямных асноў народнага жыцця, духоўна-маральных каштоўнасцей працоўнага асяроддзя, працы хлебароба, аратага, сейбіта, філасофска-аналітычнае асэнсаванне складанай і супярэчлівай дыялектыкі прыватных з'яў і гістарычных працэсаў, шматстайнай прычынна-выніковай сувязі асобы і грамадства, раскаванасць мастацкага мыслення, набліжэнне мовы паэзіі да мовы прозы, умоўна-асацыятыўная вобразнасць.

Максім Танк пакінуў пасля сябе дзясяткі арыгінальных паэтычных кніг, кожная з якіх з'яўляецца этапнай у гісторыі беларускай літаратуры XX стагоддзя. Паэту належаць творы такой непрамінальнай красы і надзвычайнай эмацыянальнай сілы, што зрабілі б гонар любой нацыянальнай культуры свету. Вершы яго перакладалі найлепшыя перакладчыкі. Кнігі яго выдаваліся ў Расіі, Украіне, Прыбалтыцы, Польшчы, Балгарыі, Чэхаславакіі, Югаславіі, Кітаі і іншых краінах.

Максім Танк — выдатны еўрапейскі паэт. Ён належыць да ліку вельмі нямногіх нашых пісьменнікаў, каму магла быць прысуджана Нобелеўская прэмія. Па сіле і размаху прыроднага дару, ідэйна-мастацкага мыслення, сцвярджэнні спаконвечных асноў народнага жыцця, адмысловай якасці і самабытнасці рэалізацыі ў слове высокай эстэтыкі чалавечага духу Максім Танк у беларускай паэзіі роўных сабе не мае. Па гэтых асаблівасцях ён пераўзыходзіць многіх вядомых і аўтарытэтных еўрапейскіх пісьменнікаў.

* * *

Пачынаючы даследаванне жыцця і творчасці Максіма Танка, яго ўплыву на развіццё беларускай паэзіі, дзесьці ў сярэдзіне 1980-х я правёў анкетаванне беларускіх пісьменнікаў на прадмет іх бачання і ацэнкі месца народнага паэта Беларусі ў свеце сучаснай паэзіі, усведамлення сваёй далучанасці да яго мастацкага вопыту. Прайшло тры дзесяцігоддзі, але матэрыялы той анкеты ўяўляюцца цікавымі ды актуальнымі і сёння — асабліва ў кантэксце 20-х угодкаў смерці Максіма Танка.

Прапаную некаторыя з іх увазе чытачоў часопіса «Маладосць».

**— На вашу думку, якое месца належыць Максіму Танку ў свеце сучаснай паэзіі?**

*Васіль Зуёнак, паэт, кандыдат філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі:*

— Месца паэта (як і любога мастака) у сучасным літаратурным (мастацкім) працэсе вызначаецца перш за ўсё той роляй,

**Парадоксы лёсу Максіма Танка заключаюцца ў тым, што ён быў народным паэтам БССР, акадэмікам Акадэміі навук Беларусі, аднак не меў не толькі вышэйшай адукацыі, але і закончанай сярэдняй**

якую адыгрывае ён у духоўным жыцці свайго народа, у выяўленні яго нацыянальнага характару, яго нацыянальнай ідэі. Толькі праз гэта паэт узнімаецца да ўзроўню агульначалавечай вартасці — зацікаўленай і ўдзячнай.

Максім Танк — адзін з тых, хто ў кагорце наступнікаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча ярка і самабытна засведчыў у паэтычных вобразах веліч і прастату, працавітасць і злітнасць з прыродай, пакручасты лёс і несмяротную жыццерадаснасць, натуральную мудрасць і гістарычны аптымізм беларуса. Уласна гэтым і запаў мне асабіста ў душу Максім Танк.

*Анатоль Грачанікаў, паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі:*

— Максім Танк — паэт, якім ганарылася б кожная цывілізаваная нацыя ў свеце. Па сваёй маштабнасці, філасофскаму напаўненню, эмацыянальнаму напружанню яго высокагуманістычная паэзія, грунтуючыся на нацыянальнай аснове, сёння ўзбагачае духоўны патэнцыял не толькі нашага народа, але і ўсяго чалавецтва. Яго імя ў радзе паэтаў, творчасць якіх — своеасаблівы духоўны барометр, што рэгіструе ўзровень інтэлектуальнага і мастацкага развіцця чалавечага грамадства.

*Данута Бічэль, паэтэса, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі:*

— Максім Танк займае адно з вядучых месц у паэзіі. Паколькі ў паэзіі не прысуджаюць, як на алімпійскіх гульнях, медалёў, а ўзнагароды і прэміі — таксама адносны паказчык, то можна так акрэсліць: Максім Танк на высокай вышыні, сярод класікаў нашага стагоддзя — сусветных класікаў.

*Мікола Арочка, паэт, літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук:*

— Максім Танк — сучасны паэт, вялікі паэт. Вялікі, мусіць, не можа не быць несучасным. Ён сапраўды сучасны па балюча-трывожнай праблематычнасці, гуманістычным клопаце за сённяшняга чалавека і чалавецтва. А таксама — па форме ўвасаблення творчай культуры. У свеце беларускай сучаснай паэзіі Танк — ці не першая велічыня. Роўная Куляшову. Набліжаная да класічнага сузор’я Купалы і Коласа.

*Алесь Разанаў, паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі:*

— Тая з’ява, якую мы акрэсліваем адным найменнем Максім Танк, мае некалькі пастацеў: адзін Танк — у заходнебеларускі перыяд сваёй творчасці, яшчэ адзін — у 1960-я, перыяд «адлігі», і яшчэ адзін — у апошнія дзесяцігоддзі. У кожным з гэтых перыядаў ён сказаў свае слова, насыпаў свой «курган». Паэзія Максіма Танка цесна і чуйна звязана з грамадскім кліматам, яго ўстойлівымі ізабарамі і ізатэрмамі, і з тымі пераменамі, якія адбываюцца ў ім. Яна не забягае наперад працэсу, але і не адстае ад яго, не спрачаецца з сучаснасцю, але і не дагматызуе яе, не адкрывае новыя ісціны, але і не закрываецца ад іх, не кажа неспадзяванае, але затое кажа спадзяванае; яна, як барометр, выяўляе, што на дварэ.

*Раіса Баравікова, паэтэса, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі:*

— Пытанне вельмі складанае, таму што спачатку трэба сказаць, што такое сучасная паэзія. Не буду гаварыць пра плыні, але за апошнія некалькі дзесяцігоддзяў, на маю думку, з’явілася многа паэтаў, якія лёгка рыфмуюць (дарэчы, гэта можа любы адукаваны чалавек), адсюль той паток, пра які няспынна гавораць; і дзякуй богу, што над гэтым патокам нязменна ўзвышаюцца такія вышыні, як Максім Танк. Гэта — класіка, залаты фонд.

*Юрка Голуб, паэт:*

— Калі сучасную паэзію прыняць за своеасаблівую анталогію, то месца Максіма Танка ў ёй побач з А. Твардоўскім, П. Нерудам, Ж. Прэвэрам… Зрэшты, спіс даволі

адвольны, таму што невядома: у якія часавыя рамкі паставіць яе, сучасную паэзію?

*Мар'ян Дукса, паэт:*

— Што датычыцца беларускай паэзіі, то гэта месца самае грунтоўнае, па ўсіх параметрах вартае класікі. Арыгінальнасць танкаўскага светаўспрымання — бясспрэчная, асабліва яна праявілася ў форме верша. Можна ў гэтай сувязі параўнаць Танка з нашымі іншымі хрэстаматыйнымі паэтамі. Талент Куляшова сфарміраваўся на ўзорах рускай класічнай паэзіі. Яго радок (ва ўсякім выпадку, пазнейшага часу) — строгі, рытмічна-меладычны, які цераз метафару нясе павышаную дэтанацыю сэнсу. Але галоўнае ў Куляшова — рамантызм, які звязвае, цэментуе ўсе перыяды творчасці паэта. Народнасць паэта можна «апраўдаць» менавіта гэтым акцэнтам у яго паэзіі: народ заўсёды марыць пра светлае і добрае.

Броўка — «прадукт» эпохі: і вершы, і паэмы яго дыктаваліся пэўным часам, калі галоўнымі патрабаваннямі да паэзіі былі палітычная яснасць, аптымізм, поўная аддансць афіцыйным ідэалам. І нават лірызм позняга Броўкі не супярэчыў канонам паэзіі 1930—1950-х. Народнасць паэта ў тым, што ён — просты, даступны кожнаму. А пафас і аптымізм яго твораў не «працуюць» на народнасць, яны штучныя ў дачыненні да народнага духу нядаўняй эпохі.

Панчанка — публіцыст. Яго грамадзянскі максімалізм заўсёды быў на першым плане. Яго народнасць — у катэгарычным сцвярджэнні дабра, маральнай чысціні, непрыкрытай пагардзе да злога і фальшывага. Народ жа таксама не гуляе ў «эстэцкія» хованкі адносна дабра і зла. Панчанка рашуча абараняе народную мараль.

І нарэшце Танк. Калі мы ўжо звярнулі на сцяжыну народнасці, па ёй і пойдзем. Народнасць Танка ў тым, што ён глядзіць на ўсё, «што дзееца на свеце», вачыма селяніна, вясковага жыхара, прычым гэта не гульня, не какецтва. Паэзія павінна быць не столькі «інтэлектуальнай», колькі мудрай. Танкаўская паэзія такая і ёсць. Прычым мудрасць зноў жа вельмі народная — памяркоўная, някрыўдная для іншых, з лёгкім пацвельваннем, хітрынкай. Танк ніколі — а гэта ўласціва народу — галаслоўна не сцвярджае нейкія ісціны, да іх ён прыходзіць цераз назіранні, параўнанні, супастаўленні. Творчы метад Танка — «разважлівы рэалізм», калі можна так сказаць, блізкі па сваёй мастацкай логіцы да народнай творчасці.

Значэнне Танка ў беларускай паэзіі якраз у тым і заключаецца, што ён найбольш таленавіта ўсе хітраспляценні сучасных праблем, поглядаў, густаў спрабуе развязаць звычайнай сялянскай развагай. Танк — непераўзыдзены майстар іроніі, такой рэдкай у беларускай паэзіі. Танк — рэфарматар у нашай паэзіі, першы, можна сказаць, хто смела перасадзіў верлібр на беларускую глебу.

**— Ці адчувалі вы на пэўным этапе сваёй творчасці ўплыў асобы і паэзіі Максіма Танка? Калі так, дык якія грані таленту паэта былі вам асабліва блізкія?**

*Ніл Гілевіч, кандыдат філалагічных навук, прафесар, народны паэт Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі:*

— Уплыў? Відаць, быў — у ранняй маладосці, але ў самым агульным плане, бо канкрэтных слядоў пераймання сам я не бачу. Думаю, што творчасць Максіма Танка, як і іншых выдатных паэтаў, паўплывала на выпрацоўку творчых крытэрыяў, выбар ідэйна-эстэтычнай пазіцыі, тэматычную арыентацыю, фарміраванне мастацкага густу, адносіны да працы ў літаратуры як да занятку ў вышэйшай ступені самаахвярнага. Пра больш канкрэтныя мае стасункі з паэтам Максімам Танкам і яго творчасцю гаворыць напісаны ў 1964 годзе вянок санетаў «Нарач», прысвечаны яму, вядома ж, невыпадкова.

*Васіль Зуёнак:*

— Помніцца яго выступленне на вялікім літаратурным вечары ў БДУ, дзе мы, студэнты-навабранцы, увачавідкі бачылі, на свае вушы ўпершыню чулі тых, з кім сустракаліся дагэтуль толькі на старонках чытанак і хрэстаматый ды газет і часопісаў. Уразіла, як зліваецца воблік паэта з характарам верша, як з гэтага адзінства вырастае штосьці вельмі блізкае, роднае, тыпова беларускае — тое, што жыве ў кожным вясковым дзядзьку, які і годнасць сваю ведае, і можа, пад настрой,

добра пасмяяцца з сябе. Сустрэча тая была штуршком да выбару тэмы адной з вучэбных, практычных журналісцкіх работ: я пісаў яе па кнізе Максіма Танка «След бліскавіцы». А гэта ўжо можна назваць вучобай у выдатнага паэта. Толькі так — калі глядзіш не збоку, а пачынаеш пэўным чынам прабірацца да глыбінь, рабіць спробы пранікнуць у сакрэты майстэрства, разгадаць іх, — можна нечаму навучыцца, займець, як кажуць, нешта і для сябе.

*Янка Сіпакоў, паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі:*

— Ён знаходзіць свае вершы ля помніка Авідзію і ля помніка Янку Купалу, ля вясковага калодзежа і ля неапалітанскай затокі, ля навагрудскай гары і ў заснежаных Татрах. Яго вершы растуць у роднай Пількаўшчыне, якую, як ён сам, усміхаючыся, расказвае, заснаваў вясёлы, такі ўжо беларускі-беларускі грэк Пількаўшчадзіс, і на сцежках Суомі, якая сціпла і годна, як і паэтава радзіма, не адразу і не кожнаму раскрывае хараство сваіх прастораў; на беразе Нарачы і ў Парыжы, у джунглях і ля ціхай беларускай крыніцы. Да паэта можа проста прыйсці Хрыстафор Калумб і сказаць яму: «Браце, а я цябе тры дні шукаў». А ўсе гэтыя прывабныя і чароўныя дзяўчаты з Коста-Рыкі, усе Венеры Мілоскія, манашкі і іншыя вобразы жанчын свету, якіх так многа жыве ў вершах Максіма Танка, — якія ж яны беларускія, свае, з маленства знаёмыя, з мілым, спрадвечным беларускім клопатам жыць, жаць, кахаць і люляць дзяцей. А вобразы беларускіх жанчын з Танкавай лірыкі? Яны сарамлівыя і ласкавыя, прывабныя і цнатлівыя, працавітыя і годныя, яны з гонарам упісваюцца ў кветнік жанчын свету, іх з гордасцю можна паказваць у любым Луўры нашай зямлі.

Вось гэтая натуральная сувязь нацыянальнага і інтэрнацыянальнага заўсёды прыемна ўражвае, ёй, на мой погляд, варта вучыцца не толькі маладым, але і старэйшым беларускім паэтам.

*Анатоль Грачанікаў:*

— Вызначэнні і метады, якімі сёння кіруюцца крытыкі і літаратуразнаўцы пры даследаванні паэзіі, на маю думку, недастатковыя, каб у поўнай меры «расшыфраваць» паэзію Максіма Танка. Нават распадаючыся на асобныя строфы і радкі, яго паэзія не мяняе свайго якаснага складу, магічнай прывабнасці і першароднасці.

*Данута Бічэль:*

— Уплыў ёсць, нават калі ён не адчуваецца. Недзе ў 1970-я, калі я рэзка звярнула ад маладой захопленасці, экзальтаванасці да простых скупых інтанацый у зборніку «Ты — гэта ты», то тут, напэўна, быў уплыў тагачаснай філасофскай, па-сялянску імклівай песні Максіма Танка. І тады я яшчэ ленавалася шукаць забытыя з дзяцінства словы ў слоўніках, а Максім Танк мне іх даваў у сваіх вобразах — усе гэтыя «капшукі»,«лучыны», «саганы»… У ім гэта ўсё не забыта. І ён падказваў сваёй творчасцю, што паэту трэба закранаць самыя непаэтыцкія глыбы жыцця, трэба быць смелым, шчырым, не шкадаваць сваё пяро. Заставацца паэтам ва ўсім, не здраджваць жанру. Бо там, дзе нехта пісаў бы рэпартажы, Танк пісаў вершы, дзе нехта чытаў бы даклады, Танк «пяе» вершам.

Асабліва блізкі мне Танк — паэт-селянін. Яго сялянскія матывы. Сялянская стыхія. Селянін і рэвалюцыянер, змагар.

Уся заходнебеларуская паэзія была вельмі рамантычна-метафарычнай. Я не сказала б, што Танк зацьміў Таўлая ці Васілька, або што яны падражалі Танку, пляліся за ім у хвасце. Гэта была магутная паэзія змагання. І ўсё ж — Танк здолеў адшліфаваць свой радок, пазбавіцца выпадковых слоў, смецця ў яго не было. Ён быў класічны ўжо ў першым зборніку. І асабліва «Журавінавы цвет». Калі б сёння ў мяне спыталі, якому зборніку беларускай паэзіі я аддала б першае месца, то завагалася б паміж «Вянком» Багдановіча і «Журавінавым цветам» Максіма Танка.

*Мікола Арочка:*

— Уплывовасць паэзіі Максіма Танка адчуваў і адчуваю на ўсіх лініях і зломах свайго развіцця. Асабіста знаёмы з 1950 года. З тых дат, калі ў СП БССР Танк выступіў з крытычным разглядам маёй жахліва недасканалай вершаванай прадукцыі. Як буйны талент ён пачаў адкрывацца паступова, пазней, спачатку толькі было адчуванне яго вялікасці, захапленне, потым — імкнен-

не пранікнуць да нейкіх разгадак паэтычных таямніц паэтыкі, стылю, у жывыя тканкі і клетачкі вершаў і паэм, лірычнага і эпічнага дару. Прыйшла паглыбленая ўлюбёнасць у танкаўскую творчасць, а разам з яе крытычным асваеннем — і першае «адштурхоўванне» ад яе, вызваленне з-пад магічнай аблады твораў паэта ўвогуле. Хоць чараўнічая сіла лепшых з іх («Нарачы», «Плачу кулікоў», «Люцыяна Таполі» — называю толькі буйныя) захоўвае пастаянства і, адчуваю, будзе заўсёды валодаць маім душэўным станам і кранаць да ўзрушэння, калі перачытваеш асобныя мясціны ці цалкам творы зноў і зноў.

Зразумела, што такая пажыццёва-творчая прывязанасць да Танка, паэтычная і крытычна-даследчая, не можа не ўплываць на мяне, унутрана і нават знешне. Максім Танк — тая паэтычная планета, у стасунку да якой міжвольна адчуваеш сябе «спадарожнікам». Прызнацца, часам нават прыемна знаходзіцца ў палоне такіх вось «цэнтрабежных» сіл. Ва ўсякім выпадку, гэта мне сёння ўжо, здаецца, зусім не перашкаджае выяўляць сваю самастойнасць.

У сферы паэтыкі мяне заварожвае, напрыклад, таямнічая сіла танкаўскага верлібра. Тып верша незвычайна складаны. Яго «нялёгкастраўнасць» формы мае свае выдаткі, калі не стае кампенсацыі паэтычнай гармоніі, без якой немагчыма ўвогуле паэзія, тым больш, калі не стае важкасці філасафічнай. Часам хочацца паспытаць сябе ў свабодным вершы, ды бачу — не атрымліваецца ў мяне так, як у сапраўднага майстра верлібра. І толькі некаторыя лічаныя рэчы, здаецца, нечакана набылі самастойнасць — «Партызанскі хутар», «Пачынаю ўгадваць зорку», «Дзяўчынка і Армія», «Зайздросны свет». Гэтыя верлібры напісаны, вядома, не без вывучкі ў Максіма Танка. Пра некаторыя з іх крытыка нават пісала (А. Лойка пра «Партызанскі хутар»), што пазначаны яны таленавітасцю, але ўсё ж напісаны «пад Танка». Помніцца, Іван Ралько выказаў нязгоду з такім характарам ацэнкі: калі напісаны «пад Танка», пад яго стыль, манеру, то як жа тады яны могуць быць «таленавіта» напісанымі.

Думаецца, што дасягнутая мера самастойнасці ў падобных творах не можа зыходзіць

**Па сіле і размаху прыроднага дару, ідэйна-мастацкага мыслення, сцвярджэнні спаконвечных асноў народнага жыцця, адмысловай якасці і самабытнасці рэалізацыі ў слове высокай эстэтыкі чалавечага духу Максім Танк у беларускай паэзіі роўных сабе не мае**

з вывучкі толькі ў Максіма Танка. У вопыт непрыкметна, напэўна, увайшло крытычнае засваенне (часам, нават захопленае) асацыятыўнай вобразнасці свабоднага верша П. Неруды, П. Элюара, Н. Хікмета, Арагона, Эліёта, Т. Х'юза, Рыцаса, лацінаамерыканскага кантынента паэзіі і інш. Калі б толькі было раўненне на аднаго Максіма Танка, то ці не пайшла б праца па коле прымітыву, звужэння магчымасцей, ці была б дасягнута нейкая ўласная самастойнасць?

Я вельмі важнымі лічу вышуканні ў сферы формы, праз якую выяўляецца сутнасць. Форма павінна быць, як мне думаецца, абавязкова памечаная сучаснай культурай вершатворчасці. Але ж галоўная прыкмета самастойнасці твора — у закладзенай сутнасці самой асобы паэта, сутнасці мэты яго жыцця ў паэзіі. А да мэтавага самаўсведамлення мне дапамагалі даходзіць (ды і цяпер дапамагаюць) Купала і нават урокі, якія браў у яго Таўлай. А калі шырэй, у дачыненні да многіх вялікасных постацей, то гэта — і Скарына, і Гусоўскі, і Будны, і два Міцкевічы (наш Канстанцін Міхайлавіч і Адам), і Багдановіч, і Куляшоў. Ды і Шэкспір, да якога сваю ластаўку драматычнай задумы («Хамуціуса») пасылаў А. Куляшоў. Купала — Куляшоў — Марцінкявічус, а перад імі на небасхіле сусветнай паэзіі — Мільтан, Шэкспір, Байран — вось мая «другая» лінія драматычна-паэмных пошукаў. «Пад Танка» нельга было б падводзіць усе мае творчыя спробы і шуканні паэзіі, так, відаць, як і паэзію Танка ставіць у залежнасць з адным-двума буйнымі імёнамі.

*Алесь Разанаў:*

— Цікавілі і цікавяць здабыткі Максіма Танка ў галіне «кароткаметражнага» верша: верша-метафары, верша-назірання, верша-выслоўя і, бясспрэчна, у галіне свабоднага верша — верлібра.

*Раіса Баравікова:*

— На самым пачатку, калі пачынала пісаць. Кніжкі «След бліскавіцы», «Мой хлеб надзённы» чыталіся і перачытваліся. Скажам, верш «Ave Maria» да гэтага часу дае той эмацыянальны штуршок, калі хочацца ўзяцца за аловак. Што было тады асабліва блізкім? Эмацыянальнасць, нязмушанасць, пластычнасць. У Максіма Танка вучуся думаць у радках, мне патрэбен паэт-філосаф. Напэўна, у кожнага паэта наступае той момант, калі цесна нават у традыцыйнай вершаванай форме, час ад часу гэта ўжо адчуваецца і, напэўна, зноў трэба будзе вучыцца ў Максіма Танка аддавацца не знешняй аздобе радка, а існі ў сутнасць Быцця. Гавару «вучыцца», таму што вельмі высока бачу над сабою ўсё, што напісана паэтам.

*Мар'ян Дукса:*

— У 1960-я, калі пачынаў пісаць і выдаў першую кнігу, у беларускай і не толькі беларускай паэзіі яшчэ панавалі вульгарныя каноны, догмы і штампы. Танк, у тыя гады ўводзячы верлібр, як бы рабіў выклік усяму гэтаму, абвяшчаў законнае права мастака на свабоду творчасці. Мне вельмі імпанавала гэта ягоная пазіцыя. Я невыпадкова акцэнтую ўвагу на гэтым і вось чаму. У апошнія дзесяцігоддзі шмат сапсавана паперы на высвятленне, што такое сацыялістычны рэалізм. Каб надаць яму боскі выгляд, было шмат выдаткавана ліберальнай пудры. Але галоўны пастулат крытыкаў заставаўся стабільным: з сацыялістычнага рэалізму — гэтага турэмнага дворыка — не пажадана выходзіць ніводнаму савецкаму пісьменніку. А чаму, зрэшты, не пажадана? А калі творцу бліжэй — такі склад натуры — сентыменталізм, рамантызм ці нават дэкадэнс, ці экзістэнцыялізм, якія найбольш, як мне здаецца, адпавядаюць трагізму эпохі і чалавека? На сёння звязваць рукі сабе нейкім дагматычным творчым метадам — проста несур'ёзна. Час спрыяе выкінуць ашмоцце сталінскіх вярыг. Але мушу прызнацца: недзе так ці прыблізна так думалася ў 1960-я менавіта пад уплывам паэзіі Танка.

І яшчэ. Мне імпануе танкаўская іронія. Я лічу, што іронія ўвогуле актуальна для беларускай паэзіі, змест якой часта ляжыць на паверхні, звужаючы яе мастацкую вартасць.

Танк — рэфарматар у нашай паэзіі, першы, можна сказаць, хто смела перасадзіў верлібр на беларускую глебу

**— Што вас не задавальняе, выклікае непрыняцце ў паэзіі Максіма Танка?**

*Анатоль Грачанікаў:*

— Час ад часу можна пачуць у вусных размовах і нават галасы з шаноўных пісьменніцкіх трыбун, што паэзія Максіма Танка нібыта «няроўная», што і ў гэтага выдатнага паэта трапляюцца выпадковыя радкі.

Паэзію Максіма Танка можна параўнаць з дзеючым вулканам, калі разам з расплаўленай паэтычнай магмай на паверхню выкідваюцца і рэшткі неперагарэлага попелу. Але «выседжваць толькі залатыя яйкі» — гэта не задача і не мэта паэта. У Максіма Танка радэнаўскі, мастакоўскі размах, калі з глыбы будзённасці ён высякае сапраўдны твор мастацтва пры мінімальных вытворчых адыходах.

*Мікола Арочка:*

— У творчасці Танка мае ўсё большае непрыйманне выклікае яго слабаватая часам, «паточная» прадукцыя вершатворчасці з вялікімі якаснымі перападамі. Былі цэлыя перыяды (як пасляваеннае дзесяцігоддзе) з суцэльнымі, бадай, па агульнай танальнасці ўсхваленнямі, дэкларацыйнай агульшчынай, ад якіх, дарэчы, паэт не свабодны і зараз.

Не можа мяне цалкам задаволіць і такая натуральная для паэта стыхія, як смех, магутны, прывабны, жыццесцвярджальны, спагадны, выкрывальны, іранічны — дзякуючы яму выяўляюцца глыбока драматычныя пласты жыцця. Але драма са схільнасцю да трагічнага — гэта было б, відаць, не адпавя-

дальна прыроджанасці паэтычнага таленту. А мне без такога вымярэння ўжо не хапае толькі Танка. Імпануе больш А. Куляшоў — у апошніх паэмах.

*Алесь Разанаў:*

— Максім Танк не пазбягае адказных праблем, але, на маю думку, вырашае іх занадта вершатворча: разраджаючы, змякчаючы, пераводзячы іх на план жарту і гумару, на мову досціпаў і паэтычных тропаў.

Паэзія Максіма Танка рухаецца па зямлі, паглыбляючыся ў яе на самую мэтазгодную глыбіню — глыбіню народа. Аднак, апрача гэтага, «землярробчага», вектара, паэзія — у прынцыпе і ў патэнцыі — утрымлівае ў сабе яшчэ адзін дужа актуальны вектар, яшчэ адно дужа істотнае прызначэнне: капаць калодзежы. І не толькі ў глыб зямлі, але і ў глыб неба. І болей таго — у глыб самога чалавека. Мяркую, што наступныя дасягненні і адкрыцці ў паэзіі будуць звязаны менавіта з гэтым вектарам.

**— Як вы адносіцеся да такой формы вершаванай творчасці, як верлібр?**

*Ніл Гілевіч:*

— Успрымаю спакойна, лічу з'явай натуральнай у літаратуры. Але і чытаю спакойна — без таго асаблівага хвалявання, з якім сапраўдная паэзія звычайна чытаецца. За выняткам вядомага «Я хацеў бы спаткацца…» Багдановіча, не помню беларускага верлібра, які б ускалыхнуў душу, а тым больш запомніўся, і яго хацелася б паўтарыць. Не ведаю, як каму, а мне і ў паэзіі Максіма Танка перш за ўсё ўспамінаюцца «Аве, Марыя», «Жэтон» і іншыя рытмічныя, арганізаваныя звычайнай традыцыйнай формы вершы. Менавіта іх і хочацца цытаваць пры выпадку — яны занялі сваё месца ў сэрцы. Што ж да верлібраў, то часам нават з'яўляецца думка: а ці вершы гэта? Можа, іх трэба як-небудзь іначай называць і не пісаць «у слупок». Бо гэтае пісанне «ў слупок» зусім адвольнае, яно нічому не падпарадкавана — ні рытму, ні інтанацыі, ні рыфме. Гэта зусім не значыць, што новы жанр горш, чым верш. Не гаворым жа мы, што проза горш за паэзію толькі таму, што яна не паэзія. І калі б назвалі гэту з'яву ў нас сваім імем — можа, не было б і ніякіх наконт гэтага смут сярод чытачоў, крытыкаў і саміх паэтаў. Будзем помніць, што наш верш пайшоў ад народнай песні і таму яго галоўная прыродная адзнака — рытмічная арганізацыя (больш ці менш моцная — гэта ўжо іншая справа). У большасці беларускіх верлібраў, што з'яўляюцца ў друку, зусім няма ніякай рытмічнай арганізацыі, ніякага рытмічнага парадку. Чаму ж іх трэба называць вершамі, калі ў іх няма вызначальнай прыроднай адзнакі верша?

**У апошнія дзесяцігоддзі шмат сапсавана паперы на высвятленне, што такое сацыялістычны рэалізм. Каб надаць яму боскі выгляд, было шмат выдаткавана ліберальнай пудры**

Аднак, паўтараю, гэта форма літаратурнай творчасці законная — гэтыя экспромты думкі, выказанай вобразна, але не ператворанай у верш. Думаю, што і назва для гэтага новага жанру літаратуры з цягам часу знойдзецца.

**— Якія якасці стануць асноватворнымі ў далейшым развіцці беларускай паэзіі?**

*Ніл Гілевіч:*

— Не люблю выступаць у ролі аракула і яснавідца. Не знаю, якімі шляхамі пойдзе далей наша паэзія, і не бачу вялікага сэнсу гадаць пра гэта. Усё роўна яна не будзе развівацца так, як некаму хочацца. А будзе прымяркоўвацца да жыцця і да яго вызначальных сацыяльна-грамадскіх працэсаў. Пра адно, думаю, можна гаварыць несумненна: у самы бліжэйшы час значна павысіцца маральны пафас у літаратуры ў цэлым, а значыць, і ў паэзіі, набудзе непараўнальна больш моцнае гучанне голас сумлення.

*Алесь Разанаў:*

— Увага не толькі да ўзнёслага, але і да простага, да ўзнёслага ў простым; разняволенне паэтычнай інтанацыі і вершаванай формы; узрастанне ўдзельнай вагі разумовага (і разумнага!) пачатку ў вершы.

Рубрыка гістарычных факультэтаў краіны

Васіль ШУР

# АНАМАСТЫКОН МАЗЫРА Ў ЧАСЕ І ПРАСТОРЫ



*Васіль Шур — мовазнаўца. Доктар філалагічных навук (2004), прафесар (2006). Закончыў Мазырскі дзяржаўны педагагічны інстытут (1976). Загадчык кафедры беларускага мовазнаўства Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя І. П. Шамякіна. Аўтар больш чым 220 навуковых прац, у тым ліку 6 манаграфій, 8 вучэбных дапаможнікаў для школ, педагагічных каледжаў і ўстаноў вышэйшай адукацыі, якія атрымалі высокую ацэнку спецыя-лістаў, 6 з іх з грыфам Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.*

Асноўная вызначальная дамінанта Мазыра ва ўсе перыяды існавання горада — яго ландшафт. Даследчыкі, якія ўсебакова вывучылі гісторыю горадабудаўніцтва Мазыра, яго станаўленне як паселішча, адзначаюць адметнасць і непаўторнасць навакольнага мясцовага рэльефу. Перапад вышыні паміж узроўнем вады ў Прыпяці і найбольш высокімі часткамі гарадской тэрыторыі (*Спаская гара, Шайтан-гара, Ксяндзоўка, Курган славы* і інш.) дасягае больш за 90 м. Уся тэрыторыя горада, яго вызначальныя часткі падзелены некалькімі глыбокімі ярамі (*Калінік, Рымашоў роў, Янны роў* і інш.) Далінны прыродны комплекс Прыпяці, яры, узвышшы, парослыя дубамі, бярозавымі і ліпавымі гаямі, што праразаюць тоўшчы ўзвышшаў, а таксама кантрастны раўнінны, лугавы і азёрны ландшафт левабярэжжа сталі галоўнымі, ключавымі элементамі фарміравання асноўных кампанентаў гарадской інфраструктуры. Лічыцца, што пачаткам Мазыра было славянскае пасяленне *дрыгавічоў* на правым беразе Прыпяці, што ўзнікла прыкладна ў VIII стагоддзі. Час узнікнення Мазыра дакладна не вядомы. І ніхто не ведае, што значыць слова — «Мазыр». Упершыню назва ўпамінаецца на старонках *Іпацьеўскага летапісу* пад 1155 годам, калі Юрый Даўгарукі, вялікі князь Кіеўскі, аддаў гэты горад князю Святаславу Ольгавічу Чарнігаўскаму. Сказана ў летапісе: *«Тады ж Георгій прывёў Ізяслава ў Корчэск, а Святаслава Ольгавіча ў Мазыр і, тут уладкаваўшы іх, пайшоў у свой Кіеў».*

У самастойнае княства Мазыру афарміцца не давялося. Спачатку ён уваходзіў у склад Тураўскага, а потым — Турава-Пінскага княстваў. У 1227 годзе пад Мазыром адбылася бітва між татарамі і славянам. У радах літоўскага войска змагаліся і мазыране. У 1241 годзе горад быў разбураны адным з атрадаў хана Батыя. Татары і ў далейшым не адзін раз спустошвалі паселішча і яго ваколіцы. Мазыране пераажылі набегі татар з Крыма ў 1497, 1521 і 1537 гадах. Цікавая гісторыя Мазыра і ў наступныя стагоддзі…

Час узнікнення паселішча *Мазыр* і паходжанне самога айконіма да нашага часу канчаткова не высветлена, хоць пра гэта існуюць шматлікія народныя паданні, напісана даволі багатая навуковая і мастацкая літаратура вядомымі гісторыкамі, археолагамі, лінгвістамі, этнографамі, пісьменнікамі. Прывядзём некаторыя з іх.

З даўніх часоў на Палессі вядома наіўная легенда пра ўзнікненне назвы горада. Паводле яе зместу, айконім утварыўся ад спалучэння слоў **мой жыр** (тлушч), якія зліліся ў адно цэлае. Адбыліся яшчэ пэўныя фанетычныя змены, і найменне набыло сучасныя варыянты: *Мазы́р, Мо́зыр*. Словы **мой жыр** быццам бы доўга паўтараў яўрэй-купец, які на месцы пераправы ў раёне сучаснага першага аўтамабільнага маста праз *Прыпяць* перакуліў лодку з бочкамі тлушчу. Ён быў надзвычай скупым і не мог змірыцца з такою стратаю, гаворачы ўсім пра гэта. На правым, высокім беразе *Прыпяці,* дзе насупраць яўрэем былі ўтоплены бочкі, узнікла паселішча, якое, як горкая іронія, атрымала назву *Мазы́р* або *Мо́зыр*. Аднак такая «этымалогія» не вытрымлівае элементарнай крытыкі, бо яўрэі, як вядома са шматлікіх крыніц, летапісаў, афіцыйных дакументаў Кіеўскай Русі і Вялікага Княства Літоўскага, з'явіліся на тэрыторыі сучаснай Беларусі толькі ў канцы XIV стагоддзя, першапачаткова ў *Бярэсці, Троках, Гародні*, а яшчэ пазней — у гарадах і мястэчках усходняй часткі Беларусі (гл.: Статут Вялікага княства Літоўскага 1588. — Мінск, 1989. — С. 545).

Такая легенда не можа вырасці на голым месцы. Яўрэі да Вялікай Айчыннай вайны былі асноўнай часткай насельніцтва Мазыра і суседніх мястэчак — Юравіч, Скрыгалава, Ельска, Нароўлі. Так, у перадваенныя гады, а дакладней, у 1938 годзе, калі Мазыр стаў цэнтрам Палескай вобласці, у горадзе пражывала 17 477 жыхароў, а з іх — 6 307 яўрэяў. З 22 жніўня 1941 года Мазыр быў акупіраваны фашыстамі, захопнікамі былі расстраляны, утоплены ў Прыпяці 4 700 гараджан, з іх 1 500 былі яўрэямі («Жыццё Палесся». — 2010. — № 16. — С.11)

П. Шпілеўскі ў нарысе «Падарожжа па Заходнерускім краі» прыводзіць крыху іншую легенду пра *Мазыр* і паходжанне яго назвы. Паводле падання, запісанага гэтым этнографам і пісьменнікам, узнікненнем паселішча абавязана двум братам, ураджэнцам Кіева, якія, пераехаўшы на Палессе, пасяліліся на высокіх і надзвычай маляўнічых берагах Прыпяці з мэтаю гандляваць рыбіным тлушчам. Браты нядоўга між сабою жылі ў згодзе. Старэйшы знешне быў пачварным вырадкам і зненавідзеў малодшага, статнага прыгажуна, за перавагу, якую яму аддала маладая сядзелка, а яшчэ болей за хуткае абагачэнне, бо яму шанцавала ў гандлі. Каб пазбавіцца ад зайздроснага брата, малодшы захацеў аддзяліцца і пасяліцца далей ад яго. Старэйшы не захацеў аддаць яму палову тавару (тлушчу), што прыходзіўся на яго долю, і загадаў сваім памагатым прагнаць брата без нічога. Малодшы сабраў дружыну і аб'явіў вайну старэйшаму. Захоплены знянацку, старэйшы брат звярнуўся па дапамогу да вядзьмаркі (чараўніцы), якая жыла побач на высокай востраканечнай гары, і тая прыйшла яму на дапамогу з вялікай колькасцю падуладных ёй духаў. Бой быў няроўны, малодшы брат павінен быў загінуць ад сіл вядзьмаркі, але тая настолькі была зачаравана незвычайнай прыгажосцю малодшага з братоў, што спыніла змаганне і прапанавала згоду і мір. Але старэйшы брат не пагадзіўся і патрабаваў прадоўжыць вайну: *«Мой жыр, — крычаў ён, — я не аддам яму ніводнай меркі»*, — і з гэтымі словамі накінуўся на брата. Абражаная такім учынкам вядзьмарка махнула чароўным мячом, і гара распалася на дзве часткі. Утварылася бяздонне, у якім загінуў старэйшы брат. Ён да самага канца крычаў: *«Мой жыр!» «Не! Мой жыр,* — паўтараў малодшы, стоячы каля абрыва раздзеленай гары. — *Табе не ўдалося пакрыўдзіць мяне»*. Пасля гэтага вядзьмарка прапанавала малодшаму брату перанесці свой дом на яе частку гары, але ён адмовіўся, і, падманутая ў сваіх спадзяваннях, яна, на зло яму, сама пасялілася на процілеглым баку рассечанай гары і доўга не пераставала мучыць яго чарамі. Урэшце малодшы брат па прапанове жонкі паставіў крыж на сваёй частцы гары, і вядзьмарка не мела магчымасці дакранацца да святога месца. І далей: «…з оўруцкага гасцінца відаць высокая востраканечная гара, ад нізу да верху яна мае форму шара, па якім нельга дабрацца да вяршыні. На самой макаўцы гэтай змрочнай

і аддаленай гары разрасліся да непамернай вышыні і таўшчыні вечназялёныя хвоі, якія прыдаюць наваколлю нейкі маркотны і тужлівы выгляд і міжволі падтрымліваюць у народзе паданне, што ў яе ваколіцах жыве вядзьмарка-чараўніца, што загубіла старэйшага брата: яна, між іншым, і называецца *Чортавай гарой* або *Шайтан-гарой*. Месцам гібелі старэйшага брата просты люд называе глухія, цёмныя зараслі між чахлымі лясамі суседняй ваколіцы каля манастыра *Цыстэрсак*, якую называюць яшчэ *Кімбараўкай* або *Смертнай далінай*» (Запісана П. Шпілеўскім у 1859 годзе).

Прыведзеная П. Шпілеўскім з падрабязнасцямі легенда каштоўная для даследчыкаў яшчэ і тым, што ў ёй тлумачыцца не толькі народнае ўяўленне аб айконіме *Мазыр*, але і падаюцца тлумачэнні іншых мясцовых назваў, частка якіх архаізавалася і вядома толькі старажылам і спецыялістам. У прыватнасці, гара, на якой быў пастаўлены крыж меншым братам, а потым пабудавана царква *святога Міхаіла, якая* мела назву *Святая*; суседняя гара, дзе нібыта засталася жыць чараўніца, у народзе атрымала назву *Чортава гара*, а цясніна-каньён паміж гэтымі гарамі — *Смертная даліна*, або вядомая амаль усім мазыранам *Кімбараўка*, як цяпер называюць гэтую частку *Мазыра* на ўсход ад піўзавода, а таксама піўны бар за старым рынкам каля сучаснай *плошчы Максіма Горкага*.

А. Бобр у кнізе *«Мой Мозырь»* на падставе народнага тлумачэння і звестак з гэтай легенды, а іменна, паўтора спалучэння ***«мой жир»,*** звязвае паходжанне з такім фактам мясцовай тапанімікі, як наяўнасць некалі ў наваколлі мазырскіх узвышшаў і равоў невялікай рачулкі пад назвай *Манжыр'е*. Апошняя нагадвае сучасную назву паселішча, што ўзнікла пры зліцці *Манжыр'я* і *Прыпяці*. Такія факты, калі назвы маленькіх рачулак пры іх зліцці з больш значнымі рэкамі станавіліся назвамі паселішчаў у выніку так званай трансанімізацыі, даволі частыя ва ўсходнеславянскай анамастыцы: рака *Орша* → горад *Орша*, рака *Жыздра* → горад *Жыздра*, рака *Прыпяць* → горад *Прыпяць*, возера *Асвея* → гарадскі пасёлак *Асвея* і г.д. Дарэчы, слова *жыр (жір)*, як прасачылі даследчыкі, у старабеларускай мове мела яшчэ адно значэнне, якое цяпер архаізавалася, — добрае існаванне ўлады. Гэта, як мяркуе аўтар артыкула «Мазыр — цэнтр Палесся» В. Герасімаў, магло быць месца, пра якое заснавальнік горада казаў: *«Мой жір»*. Што значыла — месца, дзе *«мне добра»*, дзе *«мая ўлада», «маё ўладанне»* (Полымя. — 2005. — № 9. — С. 151).

Назва *Мазыр* засведчана ў творах беларускага фальклору, напрыклад, у прыказках: *Ведай, па чым сыры ў Мазыры; Мазыр, як пузыр: кругом горы і вада, а ў сярэдзіне бяда*.

Навуковую этымалогію айконіма *Мазыр* у розныя часы спрабавалі вытлумачыць С. Роспанд, А. Трубачоў, Ф. Бязлай, В. Неразнак, В. Жучкевіч, А. Рогалеў, І. Жалязняк, Р. Казлова, Г. Цыхун і інш. Аднак іх высновы і перакананні самыя розныя, часам нават супярэчлівыя, пра што будзе размова ніжэй. У межах сучаснага Мазыра выяўлены два гарадзішчы: на *Спаскай гары* (Гары Камунараў), дзе нядаўна адноўлены старажытны мазырскі замак і выяўлена мноства керамікі (XII—XIII стагоддзяў) і ва ўрочышчы *Кімбараўка*, дзе знаходзяць мноства матэрыялаў мілаградскай культуры і часоў Кіеўскай Русі. Назву *Кімбараўка* археолагі лічаць пачаткам сучаснага Мазыра і адносяць да скіфскага (сармацкага) утварэння: *кімы* — горы, а *бар* – паселішча, двор, горад. Такія паселішчы, як мяркуюць даследчыкі, маглі ўзнікнуць у II стагоддзі нашай эры, а заснавалі *Кімбараўку*, магчыма, *неўры* — лясныя скіфы-земляробы, якіх упамінаў *Герадот*. Ёсць і другое тлумачэнне гэтай назвы, якое прыводзіць В. Шабасовіч — мазырскі краявед. Назва *Кімбараўка*, як лічыць гэты краязнаўца, можа быць германамоўная: *зімбар* — лысая гара, *кімбарг* — горад, крэпасць кругавой забудовы і планіроўкі. Такія назвы звязваюць з этнічнай міграцыяй германскіх плямёнаў готаў, якія мігравалі ў II—V стагоддзях новай эры з нізоўяў *Віслы* цераз прыпяцкі басейн у паўночнае Прычарнамор'е ў перыяд вялікага перасялення народаў. Так апісвае гэтыя падзеі гоцкі гісторык *Іардан*. Археалагічныя помнікі з гоцкімі рэчамі вядомы на Прыпяці, але ўперамежку са славянскімі і балцкімі кампанентамі.

«Кімбараўкай» цяпер называюць піўны бар каля Мазырскага піўзавода. Але ўсё ж

гэтая назва ў першую чаргу нагадвае помнік: славянскае паселішча, ад якога бярэ пачатак наш славуты Мазыр.

Паходжанне назвы *Мазыр (Мозыр)* А. Трубачоў і Ф. Бязлай звязваюць са славянскім апелятывам *mozirje* — балота, ад якога ў Славеніі ўтвораны айконім *Mozirje,* які блізкі па гучанні да беларускага *Мозыр (Мазыр)* [Трубачоў, 3].

Як лічыць А. Рогалеў, айконім *Мазыр* па сваёй структуры зусім не славянскі, яго апелятыў мае сувязь са словамі *мазра* — пасёлак, хутар, выселкі; *мазор, мазар* — магіла, узгорак; *мажары* – перасечаная мясцовасць, пакрытая ўзгоркамі. Словы гэтыя ёсць у некаторых цюркскіх і іранскіх мовах, а таксама ў паўднёварускіх дыялектах. Як вядома, обры-авары часта ўпамінаюцца ў «*Аповесці мінулых гадоў*», «*Слове пра паход Ігараў*», гістарычных летапісах і інш. Працяглыя кантакты *обраў* са славянамі (войны, гандаль) у дахрысціянскі перыяд, на думку гэтага даследчыка, далі магчымасць замацавацца ў мове дрыгавічоў многім цюркізмам і іранізмам, у тым ліку і названым вышэй словам. На поўдні Беларусі ёсць і іншыя цюркскія паводле паходжання найменні паселішчаў, невялікіх рачулак і балацін. Гэты ж даследчык лічыць, што айконім *Мазы́р (Мо́зыр)* можна параўноўваць таксама з беларускім дыялектызмам *мо́сар* — балота, балотная нізіна, што зарасла травою, кустоўем; ён таксама не аспрэчвае і думку пра мажлівую сувязь назвы *Мазыр* з лексемамі *мосер, мӧсьор*, якія ў мове комі абазначалі *«волак, шлях на водападзеле»* .

*Ёсць таксама меркаванне, што назва Мазыр* узнікла ад этноніма *мазуры*, якім на Беларусі і ва Украіне найчасцей, чым словамі *паляк, палякі, лях, ляхі*, называлі ўраджэнцаў з *Мазоўшы* (Мазурыі) — паўночна-ўсходняй часткі Польшчы. На карысць гэтай гіпотэзы, выказанай В. Жучкевічам (гл.: Мозырь и мазуры. — Неман. — 1972. — № 3), сведчаць назвы паселішчаў, асабліва частыя на Палессі, у аснове якіх ляжаць назвы-этнонімы *мазуры, ляхі*: *Мазуры, Мазуршчына, Мазуркі, Мазурына* і інш., што вядомы ў Ельскім, Петрыкаўскім, Светлагорскім, Салігорскім і другіх раёнах; горад *Ляхавічы*, вёскі *Ляхавічы* ў Жыткавіцкім, Драгічынскім, Іванаўскім раёнах, вёскі *Ляхаўцы* ў Кобрынскім і Маларыцкім раёнах. Раней лічылася, што на Палессі *Мазурыя* стала вядома толькі з XVI стагоддзя. І асабліва ў XIX стагоддзі, калі з этнічнай Польшчы пачаўся прыток батракоў, сялян, рабочых-буднікаў, рамеснікаў у маёнткі апалячаных беларускіх, а таксама польскіх феадалаў, на распрацоўку лясных промыслаў у палескія пушчы. Гэта ў нейкай ступені пярэчыла думцы, выказанай В. Жучкевічам, што давала падставы не падзяляць думку гэтага вучонага. Аднак паводле даследаванняў апошніх гадоў выявілася, што этнічныя кантакты заходніх славян з усходнімі праяўляліся даволі інтэнсіўна ўжо ў VIII стагоддзі. Пра гэта сведчаць не толькі еднасць этнічных саюзаў, але і гандаль, палітычныя і культурныя зносіны паміж суседнімі плямёнамі, у тым ліку з дрыгавічамі і мазурамі (гл.: Перхавко, В. Западнославянское влияние на раннесредневековую культуру Белоруссии. У кн.: Древнерусское государство и славяне. — Мн., 1983). На заканчэнне можна зазначыць, што на Мазыршчыне таксама шырока бытуюць прозвішчы *Мазур, Мазуркевіч, Мазурэнка, Мазурэцкі, Лях, Ляхавец, Ляхавецкі* і іншыя, якія генетычна ўзыходзяць да этнонімаў *мазуры, ляхі*.

Фармальнай падставай для таго, каб назву *Мазыр* звязваць з этнонімам *мазуры*, відаць, было і тое, што сапраўды на *Мазыршчыне* даследчыкі выяўляюць польскія паводле паходжання пасяленні (назвы вёсак, хутароў, засценкаў) і польскія антрапонімы (прозвішчы, уласныя імёны). Так, В. Вярэніч, які вывучаў польскія пасяленні на беларускіх землях, да ліку такіх, што ўзніклі ў перыяд першай польскай міграцыі на Палессе (XV стагоддзе), адносіць *Кустаўніцу* — адну з сямі былых шляхецкіх вёсак у Мазырскім раёне (зараз гэтага паселішча няма, а на яго месцы пабудаваны Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод. — ***В. Ш.***). Як і жыхароў астатніх шасці вёсак Мазырскага раёна (*Тварычаўкі, Пянькоў, Драздоў, Загорын, Нараўшчызны, Стрэльскай Грады*), старажылаў гэтых пасяленняў на Мазыршчыне называюць польскай шляхтай. Паводле ўспамінаў карэнных жыхароў гэтых паселішчаў, на Палессе іх продкі трапілі нібыта за нейкія заслугі перад польскім каралём, які шчодра надзяліў перасяленцаў зямлёю і даў шляхецтва.

***Працяг будзе.***



*Чалавек — частка прыроды. Калі ён уладкаваны ў светабудову няправільна, то адчувае дыскамфорт. Гэта і прымушае шукаць іншы шлях*



*Колькі ў нашай краіне дзяцей, якія пакутуюць ад бацькоўскай любові? Чаму так часта мамам патрэбны не дарослыя самастойныя асобы, а маленькія дзеці, якія маюць патрэбу ў апецы?*

Андрэй СІДАРЭЙКА

# 30 ½ гадзін

## Апавяданне-рэпартаж

Зіма. Люты. Поўдзень.

Я іду ў храм. Да яго — дзесяць крокаў. Кароткая дарога да Бога.

Настаяцель храма айцец Павел сустракае мяне. Пачынае свой аповед-споведзь.

Я разумею: гэта не проста аўтабіяграфія. Гэта — дарога. У пошуках сябе. Шлях да сябе.

Ён няпросты. Другарадных дарог, што адводзяць ад галоўнай, у айца Паўла было шмат. Выйсці на наканаваны лёсам шлях атрымалася, калі стрэлка жыццёвых гадзін перайшла на чацвёрты дзясятак.

Калі б я прыйшоў сюды на споведзь, мне б таксама было што распавесці. Бо мой шлях завёў у тупік. І цяпер я быццам стаю на перакрыжаванні. Можна працягваць хадзіць па замкнёнай прасторы. Можна выбраць іншы накірунак. Я вольны ў выбары. Але хто падкажа? Хіба што споведзь.

У храме вядзе свой аповед айцец Павел.

На дварэ зіма.

Люты. Поўдзень.

Калі пачынаць споведзь, дык пачынаць ад пачатку гісторыі. А дзе ён, гэты пачатак?

У прафесійнай дзейнасці я аддаю перавагу сітуацыйнаму рэпартажу. Крок за крокам перадаваць наваколле. Калі сваю споведзь выкласці на паперу і надаць ёй стыль сітуацыйнага рэпартажу, то ён будзе пачынацца з першых паўсядзённых дзеянняў. Што ж, пачнём з іх.

Як вы ўжо, мабыць, здагадаліся, я — журналіст. Мне — 25.

Мой дзень пачынаецца а сёмай. Я ўстаю, збіраюся і іду на аўтобусны прыпынак. Пад'язджае транспарт. Я заходжу ў яго. Дзверы зачыняюцца. За дзесяць хвілін я праязджаю пяць прыпынкаў. На перадапошнім сыходжу. Раблю прыкладна сто крокаў. І вось — я на месцы.

Праца даўно мне надакучыла. Але гэты шлях я выбраў сам. Свядома. Аднак я разумею, што з яго

трэба сысці. Па ім пакрочаць іншыя, каму ён будзе па душы.

У кабінет заходзіць галоўны, дае заданне. Каб выканаць яго, дастаткова набраць нумар спецыяліста, узяць інфармацыю. Але я дамаўляюся аб сустрэчы. Збіраюся і сыходжу.

На дварэ — халодны лютаўскі вецер.

Раніца.

У засценках установы я адчуваю сябе як рыба ў акварыуме. Быццам бы ёсць асяроддзе, у ім можна існаваць, тым больш, што табе рэгулярна кідаюць ежу. Але адчуваеш сябе не як у рацэ ці возеры.

На вуліцы, як жывёла, выпушчаная ў натуральнае асяроддзе, я пачынаю глытаць свежае паветра.

Спецыяліст (як і я — акварыумная рыбка) дыктуе інфармацыю. Ён рады майму з'яўленню. Яму, як і мне, нязручна ў шкляных засценках, і ён з прагнасцю ўдыхае паветра, занесенае з вуліцы. Яму хочацца адцягнуцца ад манатоннай працы.

Я запісваю апошнюю фразу. Мне трэба сыходзіць, але не хочацца. Спецыяліст таксама не хоча, каб я сыходзіў. Калі за мной зачыняцца дзверы, яму давядзецца апусціцца на дно.

Я ведаю: яго натуральнае асяроддзе — гэта яго дом. Там ён адчувае сябе ўтульна. Там гатуецца на абед боршч. І, магчыма, ужо ад самага ранку ён думае пра тое, як у гадзіну дня пакіне акварыумнае асяроддзе і на шэсцьдзесят хвілін акунецца ў сапраўднае шчасце.

Але затрымлівацца непрыстойна.

Вуліца сустракае мяне лютаўскім марозам.

Зіма не збіраецца саступаць надыходзячай вясне.

Блізіцца поўдзень.

Прырода гарманічная. У ёй усё наладжана і зведзена ў сугучча. Чалавек — частка прыроды. Калі ён уладкаваны ў светабудову няправільна, то адчувае дыскамфорт. Гэта і прымушае шукаць іншы шлях. Нехта яго знаходзіць хутка, нехта — толькі з гадамі.

Так думаю я падчас напісання матэрыяла.

Нарэшце стаўлю ў артыкуле апошнюю кропку. Аддаю яго адказнаму сакратару.

Разгортваю нататнік. Гляджу, што трэба зрабіць яшчэ. Бачу запіс — матэрыял пра протаіерэя, лаўрэата духоўнага конкурсу. Гэта заданне ў ліку іншых я перапісваю ўжо трэці тыдзень запар. Да яго ніяк не даходзяць рукі. Сёння ці ніколі.

Набіраю нумар. Дамаўляюся пра сустрэчу.

У адрозненне ад нядаўняга суразмоўцы, на абед мяне ніхто не чакае. Я сядаю ў машыну і еду ў невялікае мястэчка.

Уздоўж дарогі ў зімовым убранні стаяць дрэвы.

На дварэ — гадзіна дня.

Дарога да Бога айца Паўла была доўгай. Яе пачатак — народзіны сына. Пасля распаду СССР бацька з малым наведваў царкву. Гэта было за шмат дзясяткаў кіламетраў адсюль.

Сын, як кожны дапытлівы малы, задаваў шмат пытанняў на духоўную тэму. Адказы на іх мой суразмоўца не ведаў. Менавіта так з'явілася жаданне даведацца пра Усявышняга больш.

Ён пачаў здзяйсняць паломніцтвы ў святыя месцы. Быў прыняты чытальнікам у адзін з храмаў, пасвечаны ў сан дыякана, вучыўся ў духоўнай установе. Служыў настаяцелем храма, пабудаваным у XVII стагоддзі адным з Сапегаў. Потым пераехаў у гэта мястэчка.

Праз пятнаццаць гадоў пасля прыходу да Бога святар вядзе са мной гутарку ў храме, які быў пабудаваны пры ім.

Несці службу тут — яго жыццё.

Калі б у лютым квітнелі яблыні, сказалі б: светабудова змянілася. А пакуль усё звыкла. У лютым ідзе снег, стаіць мароз, а яблыні квітнеюць напачатку мая.

Такія думкі наведваюць мяне, калі я выходжу з храма.

Час — пасля абедні.

Еду назад, гляджу ў акно.

Вакол ляжыць снег. Мільгаюць дрэвы.

У Старажытнай Русі люты лічыўся апошнім месяцам года.

Апошні месяц — апошняя мяжа. Паміж аджылым і новым. Тым, што толькі грукае ў дзверы.

За лютым прыходзіць вясна. Аднаўляецца прырода. Сяляне думаюць пра сяўбу, будучы ўраджай.

Дарога ідзе ўгару.

Калі ўявіць, што жыццё — дарога, якая вядзе на вяршыню, то можна сказаць: мая дарога віхляе ля падножжа ўзгорка. Да вяршыні мне далёка.

Мароз мацнее.

Дзень коціцца да свайго заходу.

Я ў пакоі. За акном ідзе снег. Сяджу за сталом, абдумваю будучы матэрыял, падбіраю словы.

Матэрыял кладзецца на электронную старонку неахвотна, павольна, няспешна.

Я ўстаю з-за стала, падыходжу да акна. Гляджу ўдалячынь. Там гарыць ліхтары, у вокнах — святло. Людзі гатуюць вячэру, п'юць гарбату. Ці мала чым можна заняцца ў зімовы вечар?

Пішу апошні сказ: «Настаяцель храма аднойчы знайшоў веру і прыйшоў да Бога, і цяпер адважна ідзе з ёй па жыцці, даносіць словы святога Евангелля да кожнага верніка».

Гэта выбар айца Паўла. Хоць мог бы адпрацаваць усё жыццё будаўніком. Менавіта такую спецыяльнасць ён выбраў напачатку свайго шляху. І адпрацаваў бы. Але… у самы прыдатны момант у яго жыццё ўварваўся вецер перамен.

Зіма. Люты. Ноч.

Бессань.

Раніца.

Я сыходжу на прыпынку і іду на працу.

Ужо які год я раблю гэтыя сто крокаў. Іду і лічу: адзін, два, тры, чатыры…

Мая свядомасць падказвае: гэта апошні раз.

Зранку ў кабінет заходзіць галоўны. Дзень пачынаецца з непрыемнай гутаркі. Я разумею: калі гаспадар выхоўвае сабачку, ён адчувае самасцвярджэнне.

За апошнія паўтара года з калектыву пайшло шэсць чалавек. Частка з іх — каб скінуць з сябе ашыйнік.

Пасля размовы з галоўным я бяру аркуш паперы і пішу заяву па ўласным. Збіраюся і сыходжу.

На вуліцы мяне абдае халодны вецер.

Зіма. Люты.

Новы дзень у самым пачатку.

Я іду па горадзе.

Азіраюся на пройдзены шлях. Сляды на дарозе заносіць снегам. Яны не застануцца тут. Яны не застануцца ў душы. Хоць гэты шлях я пракладаў больш за тры гады.

Жыццё ў акварыуме будзе існаваць і далей. А ці была тут іншая рыбка? Каму якая справа.

Пройдзены шлях — заўсёды застаецца пройдзеным. Калі б можна было вярнуцца назад… Як у класіка: «О, як бы я хацеў спачатку дарогу жыцця па парадку прайсці яшчэ раз, азірнуцца, сабраць з дарог камяні тыя, што губяць сілы маладыя…» Але навошта вяртацца?

Па новым шляху пайсці ніколі не позна. А валуны няхай ляжаць на сваім месцы. Каб некалі зноў прыйсці да іх і зразумець, што па гэтай дарозе мы ўжо ішлі. І слядоў не пакінулі. Іх замяло лютаўскай парошай.

Удалечыні віднеецца перакрыжаванне дарог. Своеасаблівая ростань.

Які шлях мне выбраць? Якім ён будзе? Ці прывядзе да кропкі «Б»?

Я зварочваю туды, куды лічу патрэбным.

Снег узмацняецца. Пачынаецца невялікая завіруха.

Хочацца растварыцца ў снезе. Зліцца з холадам. Пераўвасобіцца да новага існавання.

Скончыцца люты. Пачнецца сакавік. Мяжа паміж аджылым і новым будзе перасечана. Вясна абавязкова прыйдзе. Разам з ёй наступіць пара яблынь.

На дварэ зіма.

Люты. Поўдзень.

*Іераманах АГАПІЙ (ГОЛУБ)*

# Няма дзяцей

*Іераманах Агапій (Голуб) нарадзіўся 29 ліпеня 1976 года ў Глуску Магілёўскай вобласці. Скончыў Мінскую духоўную семінарыю. З'яўляецца супрацоўнікам Духоўна-асветніцкага цэнтра пры Жыровіцкім манастыры. Пазаштатны супрацоўнік рэабілітацыйнага цэнтра для алка-нарказалежных «Анастасіс» (http://anastasis.by/). Аказвае пастарскую і кансультацыйную дапамогу сем'ям, што маюць праблемы псіхаактыўнай залежнасці. Удзельнічае ў рабоце форуму праваслаўных псіхолагаў (http://dusha-orthodox.ru/forum/index.php?act=idx).*



«Няма дзяцей» — даволі распаўсюджаная прычына звароту да свяшчэнніка сямейных пар або іх маці, якія вельмі хочуць бачыць унукаў. Падобна на тое, што ў Беларусі працэнт бясплоднасці высокі.

Пра медыцынскія (фізіялагічныя) прычыны, як іх пазбегнуць і дзе атрымаць дапамогу, пішацца шмат. Толькі ў большасці гэтых пісанняў не відаць чалавека. Такое адчуванне, быццам апісваецца нейкі механізм і яго вытворчасць, а не асоба, не чалавек з яго шматлікімі гранямі. Хаця нават псіхолагі могуць сказаць, што медыцынскі аспект — далёка не адзіны ў азначанай праблеме. Але і да псіхалогіі зводзіцца далёка не ўсё.

У мяне на гэты конт даўно ўзнікаюць думкі, якія я, праўда, дагэтуль уголас яшчэ не выказваў. Людзі звяртаюцца па дапамогу, ім патрэбна пастырская падтрымка, а не мае разважанні. Затое я магу дазволіць сабе выказаць іх тут.

Першая. У дзіўным грамадстве мы жывём. З аднаго боку, людзі хочуць з'яўлення дзяцей, настойліва шукаюць дапамогі ў Царкве і медыцыне. Але пры гэтым кожны год у Беларусі робіцца некалькі тысяч абортаў, ставяцца спіралі і выкарыстоўваюцца прэпараты абартыўнага дзеяння. І пакуль што ненароджаных, забітых — не менш, чым тых, хто ўбачыў свет. То бок, у нашым грамадстве тысячы сямей робяць усё магчымае, каб толькі дзяцей не было, у тым ліку і забойствы. Думаеце, тут няма прамой сувязі з бясплоднасцю?

Другая. Людзі просяць у Бога, Царквы падарыць ім дзяцей, але пры гэтым большасць сучасных сямей дакладна плануе, колькі іх павінна быць. Такое адчуванне, што

яны хочуць менавіта «завесці» дзіця. Для сябе. Мець дзяцей, а не быць бацькамі. І гадаваць іх ужо канешне ж не для Царства Хрыстова. А як іх выхоўваць, якую іерархію каштоўнасцей прышчэпліваць, што значыць — быць татам і мамай, які сэнс у хрышчэнні, на якое яны немаўля абавязкова панясуць... Далей, шаноўны чытач, развівай думку самастойна.

Трэцяя. Вынікае з папярэдніх. У які свет вы хочаце нарадзіць дзяцей, да чаго вы будзеце іх рыхтаваць? Калі мне спатрэбілася падрыхтаваць публікацыю пра тое, што з'яўляецца глебай для развіцця наркаманіі, мне не трэба было корпацца ў псіхалагічнай літаратуры. З назіранняў і стасункаў я зразумеў, што дастаткова ўзяць узор выхавання дзяцей у гарадской сям'і з дастаткам сярэднім і вышэйшым за сярэдні і адукацыйным цэнзам. Так з'явілася мая публікацыя «Як выгадаваць безасабовасць». Гляджу на дзяцей, якія праходзяць апісаныя там этапы «выхавання», і думаю: «Які сэнс у тым, што твае бацькі вянчаліся, хрысцілі цябе? Якім ты будзеш у свае 25? І якім будзе свет, калі ты зробішся дарослым? Ці не будуць больш шчаслівымі тыя сямейныя пары, якія не маюць дзяцей?» Гэта, скажам так, экзістэнцыйныя пытанні. Ёсць і больш канкрэтныя прычыны бясплоднасці.

Раннія аборты. І не раннія, між іншым, таксама. Пазбаўляюцца ад дзяцей — «не своечасова» зачаліся, а пасля плачуць горкімі слязьмі: дзяцей хочам. Не хочуць браць на сябе за свае ж дзеянні адказнасць, якая заключаецца і ў прыняцці наступстваў гэтых дзеянняў. Нават на споведзь ідуць не столькі з-за болю страты Бога, здрады Яму сваімі грахамі, колькі менавіта для «нейтралізацыі» мінулага. Сапраўднага ўцаркоўлення, змены жыцця паводле Евангелля, не назіраецца. Хоць, канешне, здараюцца і шчаслівыя выключэнні.



Магчыма, на бясплоднасць уплываюць аборты бацькоў. Ва ўсялякім выпадку, мне даводзілася прымаць шчырыя пакаянні маці, чые дарослыя дочкі і сыны, якія доўгі час жывуць у шлюбе, дзяцей, як ні хочуць, не маюць. Гэтыя жанчыны самі адчулі сваю віну і, усвядоміўшы грэх, прыйшлі да таямніцы пакаяння.

Выкарыстанне розных кантрацэптываў — таксама прычына. Тут каментарыяў, думаю, пакідаць не патрэбна.

Сістэматычнае (раз на тыдзень і нават часцей) ужыванне алкаголю, асабліва піва. Алкаголь дрэнна ўплывае на рэпрадуктыўныя магчымасці. А сукведдзі хмелю, якія выкарыстоўваюцца ў піваварэнні, утрымліваюць жаночы гармон эстраген у колькасці, дастатковай для нанясення ўдару па арганізме і мужчынскім, і жаночым.

Курэнне. Яго негатыўны ўплыў на рэпрадуктыўныя сістэмы абодвух полаў — дастаткова вядомы факт. Ну, а калі піва і цыгарэты сыдуцца разам?

Я ўпэўнены, што немалую ролю адыгрывае і дашлюбная сексуальная сувязь, то бок, блуд. Прычым, неабавязкова з рознымі партнёрамі. Гэта можа быць і адзін чалавек, той, з якім створана сям'я. Толькі вось да шлюбу дзяцей не хацелася. У сексуальную блізкасць уступалі, а дзяцей не хацелі і недзе ўнутры баяліся. Раз, другі, трэці... Вось, нарэшце, і распісаліся, і быццам бы дзяцей ужо жадаюць. Толькі, калі можна так сказаць, за дзясяткі кантактаў да шлюбу ўжо «запраграмавалі» свой арганізм псіхалагічнай устаноўкай «дзяцей не мець». «Праграма» працуе. Як можна прасіць у Бога блаславення, калі здзейснілі перад Ім, і не раз, смяротны грэх, разбураючы ў сабе Яго вобраз.

Падсвядомы псіхалагічны страх перад нараджэннем дзіцяці. Не толькі з-за адказнасці, да якой можна адчуваць сябе не вельмі гатовымі. Вялікі ўплыў можа мець той факт, што бацькоўская сям'я не вельмі шчаслівая, і ў ёй вы не атрымалі дастаткова любові і цеплыні. Не столькі, колькі павінны былі атрымаць. Да прыкладу, бацька хварэе на алкагалізм, сям'я пакутуе, і дзяўчынка з дзяцінства расце ў атмасферы страху, скандалаў, мо нават і фізічнага насілля (бацька б'е маці). Дарослая, яна хоча з мужам, увогуле непітушчым, дзіця. Але ў глыбіні яе сядзіць маленькая спалоханая дзяўчынка, якой дрэнна. Яна баіцца нарадзіць дзіця ў гэты свет, бо ён хворы, у ім шмат зла і пакут. Напэўна, гэтым абумоўлены і шматлікія выпадкі выкідышаў, родавых траўм. Ёсць нават такое паняцце — дарослыя дзеці алкаголікаў. Другая, псіхалагічная назва дысфункцыянальных стасункаў у сям'і, якія вядуць да нездаровых роляў і стэрэатыпаў, — сузалежнасць. Сюды ж можна аднесці выпадкі, калі і ўнутры сямейнай пары няма дастаткова адзінства, узаемапаразумення, беражлівасці.

Спынюся яшчэ на аспектах «мець» і «быць». Бясплоднасць можа апынуцца задачай на сталенне, навучанне сапраўднай любові, якая аддае, дорыць, а не жадае валодаць. А колькі ў нашай краіне дзяцей, якія па-сапраўднаму пакутуюць ад бацькоўскай любові, не ачышчанай ад бацькоўскага ж эгаізму? Чаму так часта мамам патрэбны не дарослыя самастойныя асобы, а маленькія дзеці, якія маюць патрэбу ў апецы? Іначай — адзінота. Гэтыя мамы глядзяць не ў Вечнасць, а жывуць мінулым.

Чаго жадаем, тое і атрымліваем.

Пакаянне адкрыта кожнаму. І я асабіста ведаю шэсць выпадкаў пазбаўлення ад бясплоднасці дзякуючы малітве мужа і жонкі перад Жыровіцкім абразом Божай Маці. Цалкам дапускаецца і зварот да медыцыны — добра, калі з малітвай, у тым ліку і за ўрачоў. Прывяду тут вытрымку з сацыяльнай Канцэпцыі Рускай Царквы.



«...В молитвах чина венчания Православная Церковь выражает веру в то, что чадородие есть желанный плод законного супружества, но вместе с тем не единственная его цель. Наряду с "плодом чрева на пользу" супругам испрашиваются дары непреходящей взаимной любви, целомудрия, "единомыслия душ и телес". Поэтому пути к деторождению, не согласные с замыслом Творца жизни, Церковь не может считать нравственно оправданными. Если муж или жена неспособны к зачатию ребенка, а терапевтические и хирургические методы лечения бесплодия не помогают супругам, им следует со смирением принять свое бесчадие как особое жизненное призвание. Пастырские рекомендации в подобных случаях должны учитывать возможность усыновления ребенка по обоюдному согласию супругов. К допустимым средствам медицинской помощи может быть отнесено искусственное оплодотворение половыми клетками мужа, поскольку оно не нарушает целостности брачного союза, не отличается принципиальным образом от естественного зачатия и происходит в контексте супружеских отношений».

Як відаць з гэтага ўрыўка, дапускаецца інтракарпаральнае апладненне ў межаж «муж — жонка». А вось ЭКА — адназначна не.

Вынік вышэйнапісанага просты. Трэба вучыцца не быць спажыўцом у адносінах да Бога, адно аднаго і сябе.



Часопіс «МАЛАДОСЦЬ»
лепш за ўсё набываць
праз падпіску —
гэта не толькі беражэ час,
але і эканоміць грошы.
Пасрэдніцтвам «Белпошты»
або пры дапамозе паслугі
«да запатрабавання»
ў крамах «Белсаюздрук»
можна падпісацца
нават на адзін нумар часопіса,
прычым, у якой заўгодна колькасці
экзэмпляраў.

*Яшчэ сустрэнемся?!*



АДРАС РЭДАКЦЫІ
Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а. info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: 220005, Мінск, пр. Незалежнасці, 39.
Тэл.: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72. maladost@zviazda.by

*ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:*

*00592 — індывідуальны льготны для настаўнікаў*

*74957 — індывідуальны*

*749572 — ведамасны*

*00731 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 16 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка: *С. І. СТАРАВЕРАВА*

Стыльрэдактар *К. С. ГОЛУБ*

Падпісана ў друк 10.08.2015. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 15,15. Тыраж 1759 экз. Заказ
Кошт нумара ў розніцу 21 000 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск

*Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.*
*Пры перадруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.*

© Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, 2015
© Грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», 2015
© Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда», 2015